

# УЛАДЗІМІР ДУБОЎКА

## ВЫБРАНЫЯ ТВОРЫ

### ТОМ ДРУГІ

### ПАЭМЫ, БАЛАДЫ, КАЗКІ

ВЫДАВЕЦТВА «БЕЛАРУСЬ»
МІНСК 1965

# КРЫЧАЎСКАЯ СПАКУСА

*Гістарычная хроніка*

(1740—1744 гг.)

1

Колькі разоў цябе нішчылі, Крычаў,
не пакідалі на камені камень.
Вораг на тое ніяк не разлічваў,
што ты стаяў і стаяцьмеш вякамі.
Біў неаднойчы ты панскую зграю,
не памаглі ёй ні крыж, ні гарматы.
Сіла працоўная не памірае,
а памірае драпежнік пракляты.
Слаўныя дзеі твае не забыты,
як і сыны твае, горад-паўстанец.
Магілак іх не адзначылі пліты,
але шануе народная памяць.

2

Цяжка было гарацешнаму люду:
многа паноў і падпанкаў нямала.

Дралі і бралі з народа усюды,
тая драніна паноў і трымала.
Ждалі-чакалі якойсьці палёгкі,
ждалі-чакалі ратунку ад бога.
Бог для народа заўсёды далёкі,
толькі багатым дае дапамогу.
Добра пазнаўшы і тое і тое,
сталі без бога, уласнай рукою,
браць і маёнткі, і землі, і гуты
ўсе, хто галодны, раздзеты, разуты.

3

Людзі жылі, як гарох пры дарозе,
людзі жылі у штодзённай трывозе.
Людскага хлеба не бачылі людзі,
гора пілі у страшэннай пакуце.
Польныя зёлкі, лясное карэнне
мелі яны для свайго спажыўлення.
Хлеб учынялі з трухлявага дуба,
абы як-небудзь пазбыцца ад згубы.
І напіліся тым горам дап'яна,
і закусілі тым хлебам трухляным.
Дуб, хоць трухляны, і даў, мабыць, сілу
зброю падняць на князёў Радзівілаў.

4

Сож ты, мой Сож, паўнаводны які ты!
Колькі вады перагнаў ты да мора!
Бачыш ты ў небе высокім блакіты,
бачыш ты неба блакітнага зоры.

Крышыш ты камень магутнаю хваляй,
топіш на дно і пяском замываеш,
каб і не ведалі, каб і не зналі,
дзе яго сіла схавана цяжкая.
Што ж не скрышыў ты і панскую ўладу,
што не ўтапіў ты на дно, як каменне,
гору цяжкому не даў ты прынаду
там, пад каменнем, пад самым струменнем?

5

Сож ты, мой Сож, паўнаводны які ты!
Колькі ты бачыў гадоў незлічоных!
Твой жа народ быў пакутай ускрыты
і падпяразаны жальбаю чорнай.
Ён працярпеў немаведама колькі,
ды не хапіла яму цярплівосці.
Крычаўскі край і узняўся на бойку,
на Радзівіла, на ўсіх ягамосцяў.
А на чале тых, што помста злучыла,
сталіся Вецер, Карпач і Вашчыла.

6

Кінулі гуты рабочыя людзі,
рудні пакінулі, каменяломні.
Добра пазналі — палёгкі не будзе, —
ўсе яны роўна пакутай накормлены.
Кінулі цеслі і лайбы і чоўны:
хай дарабляе іх Гдалій шаноўны.
Ён адкупшчык, і яму ўся трывога,
хай спавяшчае хоць князя самога...

Кінуў рабочы варштаты і жорны,
выйшлі сяляне, бо ўсе непакорны!
Толькі у кузнях агонь не згасае:
зброю рыхтуюць, а час не чакае...

7

Несамавітая зброя, як быццам,—
косы, сякеры з гартаванай сталі.
Цяжка сякерам з гарматамі біцца,
але сякеры за праўду сталі.
Іменем круля ды іменем бога
коса і крыва стралялі гарматы.
Іменем шчасця народа самога
білі сякеры усіх прыганятых.
Многа маёнткаў было каля Сожа,
многа засценкаў і розных фальваркаў.
Спалены тыя, забралі з тых збожжа,
знішчылі князеву ўсю гаспадарку.

8

Гнёзды гандлярскія разам палалі,
борзда праводзіў агонь падрахункі.
А для жывых і няспаленых Гдалій
у Радзівіла прасіў паратунку:
«Князю, мой князю! Каб ведалі, ясны,
што у нас робіцца, дзеецца што ў нас!
Добразычлівец ваш, Гдалій няшчасны,
страху і клопату цяжкага поўны!
Тое, што мелі мы з князем калісьці,
ўсё затапталі, забралі дазвання.

Хлопы праклятыя, бога забыўшыся,
паляць маё, ды і ваша, васпане...»

9

Біскупу плебан пісаў тэрмінова:
«Благаславёны! Насланне якое!
З боскай няміласці люд наш вясковы
творыць рабункі блюзнерскай рукою.
Ён да касцёла зусім не прыходзіць,
ні на малітву святую ці споведзь,
зброю пабраўшы, паноў вынішчае,
паліць, рабуе усе дабрабыты.
Дайце параду, парады чакаем,
покуль і самі мы ўсе не пабіты.
Схізма мяцежнікаў благаславіла,
водзяць іх Вецер, Карпач і Вашчыла...»

10

Год пачынаўся семсот саракова,
дымам пажараў той год быў праняты.
Не ратавалі ніякія сховы
ўсіх радзівілавых дапамагатых.
Плебану біскуп не піша адказу,
Гдалію князь не адказваў ні разу,
пан жа староста, шкадуючы замак,
больш гайдукоў не пушчае за браму.
Князя урэшце ўзяло як належыць,
піша у Крычаў з Нясвіжскай ён вежы,
піша загаднай і цвёрдай рукою:
«Знішчыць мяцеж! Што за глупства такое?..»

11

Замак стаіць па-над Сожам высока,
з вежы відаць наваколле далёка.
З вежы відаць вечаровай парою:
вогнішчы ходзяць, як самі сабою...
Пана старосту навучаць бы не трэба,
мала і ён спадзяецца на неба,
але бяда — гайдукоў малавата,
хочаш не хочаш — пільнуй сваю хату.
Князь усяго не прадбачыць з Нясвіжа,
князю староста ў адказе і піша:
«Мала парадку, бо ўвесь край узняты.
Пораху шліце і шліце гарматы...»

12

Сіла сялянская выйшла пад Крычаў,
з крамы апошняй, скрывіўшы аблічча,
Гдалій глядзеў, як збянтэжаны злодзей,
што да апошняга справа падходзіць.
Плебан маліўся да пана Езуса,
каб супыніў ён урэшце спакусы.
Сам жа староста ад ранку да ранку
свой непакой супімаў пагулянкай.
Мур — не праломіць ніхто галавою,
а гайдукоў — іх жа чортава плойма!
«Вып'ем па чарцы, каханы, са мною!
Вып'ем па чарцы, каханы, з табой мы!..»

Першы гайдук

Пане Стаху! Пане Ежы!
Гвалт, ды які!
Каля нашай белай вежы
грамадой стаяць
мужыкі!

Пан Стах

Мужыкі стаяць ля вежы?
Грамадой?
Мабыць, просяць, пане Ежы,
пачастунку,
ды з лазой.

Староста

Запражыце пару коні.
Хай лазы
прывязуць, найлепшай, смачнай,
два вазы.
Каб усім хапіла ўдосыць
мужыкам.
Каб мужык той быў удзячны
нам, панам.

Першы гайдук

Ваш загад, яснейшы пане,
немагчыма здзейсніць,
бо яны стаяць ля брамы
і стаяць ля весніц.

Староста

Што за ліха? Як ты смееш,
хам,
супярэчыць?
А навошта ж бізуны вам,
а навошта ж мечы?
Прэч! Каб духу іх не стала,
гэных псоў.
Хіба вас на зборні мала,
гультаёў?

Ксёндз

Пане староста! Дазвольце на ласку!
Я уважаю сваім абавязкам
вас папярэдзіць, што справа — не жарты:
вораг падходзіць і вораг упарты.
Вы не звярталі увагі на тое,
як ён пустошыць староства разбоем.
Ён падышоў і да замка урэшце,
каб да канца сваю справу давесці.
Трэба, каб самі паднялі вы зброю,
зброю паднялі трывалай рукою.
Да абароны прастола святога
благаславенне даю вам ад бога...

Староста

Бог — ён магутны, сябе абароніць.
Мы з панам Стахам балюем сягоння...

Другі гайдук

Вяльможны! Ля замка са зброяй
народ зграмадзіўся мяцежны.

Чакаем мы ўзброеным строем,
каб далі загад свой належны.

Староста

Зброю мне!
І меч дамаскі!
Пазнаёмім з панскай ласкай!

14

Чоўны сялянскія сталі на Сожы,
чоўны прайшлі і ў раку Крычаватку.
А з сухадолу ўвесь замак абложан
строем узброеным — ціха і гладка.
З вежы на дол пагля дае староста:
справа на жарты зусім не падобна.
Так, як жылі, і ваююць — папросту:
косы, сякеры і кутыя доўбні...
«Трэба пастрашыць!
Ану там, гарматы!
На пачастунак —
сыпніце гранкулек!..»
І сыпанулі гарматы з раскатам,
ды не настрашыў гасцей пачастунак...

15

Сыпалі больш і яшчэ падсыпалі,
стрэлы трывожылі сінія хвалі,
і рассыпалі гранкулек нямала,
але народнае войска трывала
і не пабегла, як мысліў на вежы

пане староста, яснейшы пан Ежы.
Ксёндз узнасіў крыж святарны аберуч
і заклікаў, каб не ганьбілі веру.
Страшыў іх богам і страшыў іх чортам,
страх жа самога яго і агортваў...
Стаў цверазейшы староста намнога,
сцюжай за сэрца кранула трывога...

16

Дзень прамінуў, а другі на вытоцы,
ды перад замкам не журацца хлопцы.
Б'юць самастрэлы і лётаюць кулі,
але і ў замку багата адчулі:
пазагараліся панскія дахі,
дыхалі ў замку і дымам і страхам.
А заліваць іх — вады не хапіла,
бо на рацэ скрозь паўстанцкая сіла.
Покуль агню ратаваліся ў замку,
хлопцы да сцен падагналі фурманку.
Бочку скацілі пад самую браму,
пораху бочка — гасцінец для пана.

17

«Хлопцы! Трымайцеся моцна, браточкі!
Кнот запалілі, паклалі мы ў бочку!..»
Высака выбух ускінуў вароты,
брама адкрыта для вольнай галоты!
І узняліся са зброяй сяляне:
«Як сень годуеш, староста васпане?!»
Біліся доўга, крышылі сякеры.

Больш не трымалі ні вокны, ні дзверы.
Пана знайшлі на капліцы:
у бога
ён ратаваўся ад лёсу благога.
Вывелі ўсіх на замковую плошчу:
«Дай адпушчэнне грахоў іх, прабошча!..»

18

Суд адбываўся кароткі і борзды:
«Тое табе, што для нас ты настроіў...»
І апусцелі шляхецкія гнёзды
з гэных прысудаў народных герояў.

19

Так ваявалі рабочыя людзі,
кінуўшы панскія гуты, варштаты.
Вольна ўздыхнулі збалелыя грудзі,
рукі ўзнімаліся смела на катаў.
Так ваявалі сяляне у той час,
панскія ёрмы скрышыўшы на порах.
Лепей загінуць за шчасце аднойчы,
чым да магілы пакутаваць з горам.
Крычаў чатыры гады без паноў жыў,
з прагнаю верай у волю і шчасце.
Ён каралеўства усё устрывожыў:
выпала костка з ваўчынае пасці...

20

Князь Радзівіл не вылазіць з Варшавы:
ходзіць да круля, да яснавяльможных.

Просіць на крычаўскіх хлопаў управу,
далей марудзіць, ён кажа, няможна.
«Землі мае падзялілі дашчэнту,
самі сабе даравалі свабоду.
Гэта ж — спакуса для цэлага свету,
гэта ж — спакуса для іншых народаў...»
Ён ублагаў каралеўскую міласць:
конніцу далі, а з ёю гарматы.
Войска ідзе ратаваць Радзівілаў
і сіраціць беларускія хаты...

21

Біліся крычаўцы доўга за волю,
боем ручным на гарматы хадзілі.
Многа лягло крулявякаў на полі,
ўсё ж ткі паўстанцкую сілу скрышылі.
Пір быў вялікі у панскага войска,
пір быў вялікі і вельмі крывавы:
за Радзівілаў, «крулеўскую Польску»
секлі галовы налева, направа...
Секлі за тое, што ўзялі свабоду,
ўзялі уладу над дзедаўскім полем...
Секлі, каб знішчыць «спакусу народаў»,
каб на паноў не паўсталі ніколі...

22

Ветра схапілі, Карпач у жалеззі,
толькі Вашчылу паны «не знаелзлі»:
борзды Вашчыла уцёк на Украіну,
Мглін прытуліў гарацешнага сына...

Вецер, Карпач перазналі пакуты:
сам іх Пястрыцкі і катаваў люта.
Пане палкоўнік кароннага войска
катаваў іх за крулеўскую Польску:
жылы цягнулі, агнём прыпякалі,
косці крышылі і косці ламалі.
І абвясцілі народу жывому,
кара якая і будзе якому:

«...З ласкі крулеўскай і пана Езуса...
Ветра, што сеяў паўстання спакусу,
выкінуць з вежы на вострае колле,
каб на спакусу не клікаў ніколі...»

Вынеслі Ветра і скінулі каты,
як і прызначыў Пястрыцкі пракляты...

«...З ласкі крулеўскай і пана Езуса...
На Карпача, што пасеяў спакусу,
у медзвядзіную скуру зашыўшы,
выпусціць зграю някормленых выжлаў...»

Скурай абшыты, Карпач быў узняты,
як і прызначыў Пястрыцкі пракляты.
Пан пачынаў, а дакончылі выжлы:
што засталося — ўсё зграя дагрызла...

23

Але дарэмна, дарэмна, панове!
Тая спакуса ў агні не згарае.
Не перамог каралеўскі вайсковец,
і не змагла каралеўская зграя!

Колькі разоў цябе нішчылі, Крычаў,
не пакідалі на камені камень...
Вораг на тое ніяк не разлічваў,
што ты стаяў і стаяцьмеш вякамі...
Гэта ж НАРОД узнімаўся навалай,
а не Карпач, не Вашчыла ці Вецер.
Гэта ж народная сіла ўставала;
вечна яна існавацьме на свеце.
Слаўныя дзеі твае не забыты,
як і сыны твае, горад-паўстанец.
Могілак іх не адзначылі пліты,
але шануе народная памяць.

*1925*

## БРАНІСЛАВА

### 1

Я ведаю, што не ў краіне справа,
«без бацькаўшыны пралетарыят».
Жыццё ад хаты адарвала,
не будзе ўласніцтву спрыяць.

Я ведаю, што комінам фабрычным
з'іначацца палі, лясы і свет.
Зубцы жняяркі электрычнай
заляскаюць і у аўсе.

Вітаю гэты час і заклікаю:
прыйдзі да нас,
парупся,
не марудзь!
Нясеш кашулі нам з паркалю,
каб пачаскаў змяніць кару.

І песні мілагучныя з сабою,
пабудаваныя на новы лад,

ты прынясі:
хай дух напояць,
каб воля моцнаю была.

Калі ж далёкае паўз нашы вочы
з экрана памяці праводзіць час,
душа успомніць тое хоча,
як шалясцелі клёны ў нас.

Таполі з клёнам, ля азёр далёкіх,
на Віленшчыне, дзе пачаў гарот-
нае жыццё. Ці ж песні змоўклі,
як пошчак часам за гарой?

Яны вучылі ненавідзець пана,
яшчэ — кахаць хаўрус сям'і працоў-
ных і працы. І ў абшарпана-
га пастушка будзілі кроў:

замацавацца і загартавацца
трэ, каб пайсці на новы шлях сталё-
ваю хадой...
Мой родны браце!
З табой мы чулі рытм палёў

і водгулле нелюдскага уціску.
Адно тады, калі жывеш, паку-
туеш без хлеба. Горш, як пыркі
здзеку зліюцца у раку,

і топяць у сабе жыцця праявы
і права чалавекам быць. Як во-

сенню алешнік кучаравы
матаў лісцём душу навой

пакуты. Смутак той вясковай песні
імклівасць гадаваў да лепшых дзён.
Яны з сабой цяпер прынеслі
прыгнётам трошчаным праклён.

2

Імкненні тчэш спрадвеку, памяць,
даеш жыццё, даеш імпэт.
Тады, як летуценні паляць
грудзі, як вобразы снуе паэт,—

даеш ты Слова. Раскажы мне,
мінулае узварухні:
азёрныя легенды ў гімне,
надземныя ў вадзе агні...

Азёры... Ці забыцца можна
на вашы спевы, прыгажосць?
Цяпер успамінаю кожны
дзень вас... На бацькаўшчыне скрозь

азёры... Толькі сонца нанач,
за Мядзела, за Гатавіцкі лес,—
шумлівазвонны волат Нарач
калышацца ў сівой імгле...

Не возера, а быццам мора...
А ў той, у навальнічны час,

калі вада да хмар гаворыць
і вагаркі пачне качаць

на жвір, на мяккі, залацісты,
да каранёў сасновых дрэў,—
прастор змаўкаў і калаціўся,
а волат пеніўся, дурэў...

А цёмна-сіняе прадонне
вучыла разумець жыццё:
ўладарнікі яшчэ сягоння,
а заўтра — ніцае смяццё.

Нас вабіў і палохаў спеў
разлютаванага прастора.
Як быццам каля гэных дрэў
былі нядаўна мы,
учора...

3

Цяпер трымаемся мы стала,
цяпер хадой паважнай ходзім.
А памятаеш, як бывала,
ну, скажам, на дзевятым годзе
або дванаццатым, напрыклад?
Згадаць прыемна і не прыкра
той час, як кажуць, падрыхтоўчы
да гэтай сталасці паважнай,
калі мы так салідна крочым
у час наступны, праз сучасны...
Міналі дні, міналі ночы,

знікалі ў далі недасяжнай.
Усім цікавіліся вочы
маленькай грамады сярмяжнай.
Усё хацелася пабачыць,
пазнаць, чаму вось так, не гэтак.
І сёе-тое перайначыць,
і абысці увесь палетак,
у пушчу трапіць што б ні стала,
на возеры пабыць на кожным...
І дня на ўсё нам не хапала,
і спалі збольшага, трывожна:
каб не праспаць грыбы на ранку,
каб не праспаць у млын фурманку.
У тыя дні навукі ранняй
дзядуля быў аўтарытэтам.
На сотні нашых запытанняў
і нават пра стварэнне свету
даваў грунтоўныя адказы,
не супыніўшыся ні разу...
Ён ведаў, дзе зімуюць ракі,
птушыныя ён ведаў сховы
і кветкі кожнай знаў адзнакі,
да кожнай зоркі меў ён слова...
А больш за ўсё яго любілі
за байкі розныя і былі.
Слязой туманіла нам вочы,
калі ён баяў неаднойчы,
як за панамі людцаў білі,
як за панамі гора мелі,
як хлеб з кары сасновай елі...
Апавядаў ён, як дзяўчыну
замуравалі ў слуп каменны,

на нашу бедную айчыну
якія прыпадалі змены...
Хадзілі да слупа таго мы,
ў падножжа кветкі сціпла клалі.
А возера няспынны гоман
ішоў і рассыпаўся ў далях...

4

Над Нарачам, усім вядомым,
над самым берагам крутым,
стаяў палац на месцы добрым,
пабудаваны беднатою,
ды толькі не для беднаты.
Ён быў прыгожы, быў прасторны,
не меў ніякіх ён заган.
Адзінай плямай, вельмі чорнай,
у тым палацы быў сам пан.
Вялікі, цёмны і маўклівы,
палац з пагардай пазіраў
на хаты бедныя, на нівы,
на той прыпынак нешчаслівы,
дзе гаспадарыла бяда...
Калі ж парою вечаровай
на захад сонца верне шлях,
калі ў праменні пурпуровым
ідзе за возера на схновы
і адлюструецца ў мурах,—
ён выглядаў тады, як дзіва,
палац вялікі і маўклівы...
Пярэстыя зіхцелі вокны,
адценні слаліся на мур.

Пасля — туману вэлюм вохкі
ўсё спавіваў. І аднаму
было б несамавіта пану:
маркотна, цяжка... Дываном
персідскім, мяккім, дабратканым
глушыўся крок... Мёд і віно
прыпонцістае ў срэбны келіх
ён наліваў. Да сына піў.
Сівыя вусы раскудзеліць,
рагоча сыта... Ночы, дні
праходзілі разоў нямала.
Шукаў вясёлага ўсё пан.
Ужо не цешылі цымбалы,
не цешыў і дзявочы стан.
Паехалі на паляванне.
Гасцінцам надараў хлапцоў.
Яны на дрэвах кукавалі.
Пасля — паны па іх стралялі,
хлапцы валіліся далоў.
Уцех было багата ў пана,
было панам усё паддана...
Ды толькі пан ніяк не здолеў
душу закуць у кайданы:
заўсёды марылі пра волю
загнанай старany сыны.
Хоць жыў мужык у бедным целе
і пад дзіравым армяком,
хоць ланцугі не раз звінелі
над абадраным мужыком,—
ён не скараўся тым уціскам:
у прыску тлеў заўсёды жар.
А з першым ветрам з таго прыску

пажар узносіўся да хмар.
І залівалі, і гасілі
пажар сялянскаю крывёй.
Свабоды дух лунаў на крыллі
над пад'ярэмнаю зямлёй.

5

Паны з'язджаюцца у госці,
агнямі мітусіцца парк.
І банкетуюць ягамосці,
красуе іхняя пара.
Празрыста звоняць вадамёты,
між елак высяць вохкі пыл.
З віном і старасвецкім мёдам
у пырсках панскі побыт плыў.
А вёска... Вёска сном замоўкла:
работа сёння, заўтра зноў.
Туману распаўзліся столкі
ад хат у поле, на загон.
Праходзіць час у хвалях плыні,
адзін радзіўся, той сканаў.
І, як заўсёды, безупынна
праз возера каціўся вал.
Даўно схавалі ў склепе пана,
паніч стаў за гаспадара.
Калейка ўся упланавана —
жаніўся, як прыйшла пара.
Пасада, гонар і жанчына
жыццё з'іначылі зусім.
Злічыць банкеты немагчыма —
адзін і ходзіць за другім...

Да смерці так прыйшлі б памалу,
але з'явіўся непакой —
дзіцёнка пані зажадала,
бацян не йшоў з ім у пакой.
Пайшлі нарады, саймаванні,
кіпела, быццам у віры.
Пакуль шукала лекаў пані —
гешэфт рабілі дактары.
А ўсё няма й няма ратунку.
У палац з'явіліся ксяндзы.
Багата ў словах іхніх трунку,
па новых бегалі ганцы...
Пачуўшы добрую здабычу,
прыехаў біскуп сам у двор.

### Біскуп

Мой сын! Дабра табе я зычу,
благаславення ясных зор.
Будзь верным заўжды пану-богу
і ўсім святым ягоным ты,—
пакажа ён табе дарогу
да хараства, да яснаты.
Мой сын! Вялікі грэх якісьці
ўвайшоў у гэтыя муры.
Не можа ён з палаца выйсці,
пакуль не прыме бог дары.
Маліцца трэба ў кожнай хвілі,
надзею ў сэрцы мець сваім.
Анёлы прынясуць на крыллі
тады збавенне вам усім.

Пан

Малюся вострабрамскай матцы,
даю ахвяры да малення.
Дакуль жа будзе грэх трымацца,
калі знайду сабе збавенне?

Біскуп

Каму вялікае цярпенне —
вялікі будзе і спакой.
Табе наканаваны церні
святарнай боскаю рукой.
Ідзі, мой сын, у Вечны горад,
там выканай святы абрад.
Тады тваё мінецца гора
і дачакаеш ты дабра.

Пан

Каханы мой айцец духоўны,
благаславі на дальні шлях.
Жадання палкага я поўны,
ў збавенне просіцца душа...

6

У Рыме любяць грошы вельмі,
за іх і зробяць вельмі шмат.
Грахі адпусцяць, а «патэльню»
паліжа хай бяднейшы брат.
І ўсё залежыць не ад бога,
а ад дуката залатога.
Спаткалі вельмі ветла пана,

праслухаў кардынал яго.
Наладжана у Ватыкане
і кансультацыя грахоў.

Кардынал

Напэўна грэх вялікі нейкі
правіс над панскай галавой.
Яго адпусцім мы навекі
добразычлівасцю сваёй.
Але завезці толькі трэба
святога пана ў свой касцёл.
Злітуецца найсвентшы з неба,
як на імшу яму дасцё...
У нас адзін святы ў запасе,
здаецца, ёсць?..

Капуцын

Святы Юстын!

Кардынал

Святы Юстын у добрым часе
з няплоддзем справіцца адзін.
Святы Юстын паехаць можа
у ваш далёкі гэны край.
Няхай ён пані дапаможа,
паможа й пану ён няхай.
Ідзі, мой сын, благаславёны,
хай і яна благаславіцца...

. . . . . . . . . . . .

Дукаты падалі са звонам
у кардынальскую скарбніцу.

У Рыме добрая майстэрня!
Дасталі косці з сутарэння,
злажылі ў скрынку акуратна,
дабавілі дзе трэба ваты,
намалявалі і абраз:
плыві, Юстынка, ў добры час!
Узяўшы з Рыма тую скрынку,
накіраваўся пан дамоў.
Юстынка то ці не Юстынка —
паехаў апладжаць паноў.

### 7

У двор цяжэй заўсёды ехаць —
марудным выдаецца час.
Але з надзеяй і уцехай
апошні блізіцца папас.
Тым часам праляцела дзейка
на ўсю акругу: едзе пан,
вязе святога дабрадзейку,
які майструе дзеці сам.
Ксяндзоў наехала, як ліха,
прыехаў біскуп не адзін.
Народу хоць ніхто не клікаў,—
зышлося богу дагадзіць.
Прайшлі з пратэсамі настрэчу,
у вочы дым кадзільны лез.
А спеў дзявочы і кабечы
аж разлягаўся ў шчыры лес.
Якраз і пан з Юстынам едзе,
народ абняў увесь прастор.
Стаеннікі ступаюць ледзьве,

здзіўлёна гледзячы з-за шор.
У гэткім тлуме і спякоце
цяжарных некалькі было.
Ім пры спатканні дзесь пры плоце
радзіць без часу надышло.
— Жывое цуда! Бачце, людзі!
Юстын работу распачаў.
Касцёл ад гэтага набудзе,
напэўна, добры капітал...—
З такімі цудамі прывезлі
Юстына ў мядзельскі касцёл.
Набожныя гучалі песні
каля Юстына навакол.
Пасля — абед, пасля — вячэра,
пасля — віно і моцны мёд.
Святы дык толькі зубы шчэрыць,—
за ўсё пакутуе народ.
На адмысловым саймаванні
быў распрацованы ўвесь план:
Павінна у касцёле пані
ўсю ноч маліцца, да відна.

## Біскуп

Як толькі сёння скончым нешпар
і пойдуць верныя да спраў,—
адзін няхай для ўдачы лепшай
там застанецца...
Станіслаў!
Ты застанешся, сын каханы:
маліцца нам не навіна...
Для славы боскае абраны,
і ты маліся да відна...

8

Арганы гралі урачыста,
віліся спевы ў вышыні.
Нарыхтавана справа чыста, —
заслону, біскуп, захіні.
Пайшлі усе. Замок на дзверы
павесіў сёння біскуп сам.
Каб узмацніць у косці веру,
узята панская краса.
У белым, як да шлюбу, стала
красуня пані на дыван.
Яна не бачыць Станіслава,
над ёю з водараў туман.
Агні ледзь дыхаюць у высі,
кадзільны дым ласкочыць нос.
Кагал святы згары дзівіўся:
ў ахвяру пані хто прынёс?..
Сціскаўся пошчак у скляпенні,
муры маўклівасць абышла.
І толькі сцені, летуценні
дзесь мітусіліся ля шкла.
Памалу млявасць агарнула,
звіваўся з грэшных дум вянок.
Малітваў сэрца больш не чула,
гарэла іншасцю яно.
Жанчыну захлынулі чары:
не ў храме, ў садзе адпачын.
І вось чакае: прыйдзе зараз
каханы радасны Юстын...
Ён малады, такі прыгожы...
Такая палкасць разам з ім...

Спатканне гэтае трывожыць
ніхто не смее на зямлі...

Пані

Пакінь свае святыя рамы,
прыйдзі ў зіхценні пекнаты,
ў страі нябесныя убраны,—
ці ты святы, ці не святы...

9

Маўчыць народнае паданне
аб тым, што там было далей.
Малілася ж так моцна пані
ля абразоў і ля касцей...
Святы Юстын так і не ўстаў...
А ці не ўстаў... ксёндз Станіслаў?

10

Над светам сонца узышло,
праменне разліло наўкол.
Затрапятала цераз шкло,
як на працягу ўсіх вякоў.
На ганку пані. Б'юць чалом,
вітае пан і клер за ім.
А што на думцы у каго,—
ніхто не ведае аб тым...
Павіншавалі, як адзін,
і пажадалі аднаго.
Маўчаў высокі капуцын,
у вочах тоячы агонь...

А возера кунегай б'е
на жвірыстыя берагі...
Няспынна й час ідзе сабе:
мінае дзень адзін, другі...

11

Магчыма ў сне, а можа ў яве
«Юстын» прыходзіў у палац.
Ушанавана ў гэткай славе,
цяжарнай пані ўжо была.
У тэрмін нарадзіла сына,
на тыдзень свята ў гэты раз.
І, пахваляючы Юстына,
ксяндзы хвалілі добры час.
У гонар новага патрона
Юстынам стаў хлапчук малы.
З банкетным гоманам і звонам
аж угіналіся сталы...
Банкет цяпер той памінаюць —
прыкметны, даўся ў знакі ім.
Падпіўшы, быў у добрым раю
і біскуп: кланяўся усім.
Злавіўшы брата Станіслава,
сказаў на вуха: «Маладзец!»

Станіслаў

Усё зраблю для вышняй славы,
яна на подзвігі вядзе...
Я, сціплы боскі чалядзінец,
граў на арганах...
Мой айцец!

Калі я заслужыў гасцінец, —
хай будзе богу на вянец...

Біскуп

Ну, ну! Не скрыўджаным застаўся
і ты, мой сын, здаецца мне.
За гэтыя б арганы ўзяўся
і я, каб скронь не ў сівізне...

12

Паны гуляюць, вёска стогне,
банкеты п'яўкай смокчуць кроў.
Глядзіш — ужо вядуць сягоння
ў разніцу панскую кароў.
Падвойны ціск сціскае горла,
хоць у зямельку ты палазь.
І крыўда цяжкая, і гора
на ногі чэпяцца, як гразь.
А тут яшчэ харчуй Юстына
і ўсіх ягоных слугачоў.
Хоць ты жывым у дамавіну:
з ярма не вылезе плячо.
Гамоніць вёска глуха, грозна,
збірае помсту ў адзін раз.
Падаткаў вызначана розных
ксяндзу і пану на папас.
Праз вёскі вецер жальбы носіць:
тых збіў, тых скрыўдзіў сёння пан.
...Шумела спелае калоссе,
цяпер здратованы курган...
Ідуць дзяўчаты адвячоркам,

дажалі жыта ўсё, бадай.
Ды нахапіліся і зоркі
і месяц стаў на небакрай...
Ідзе дахаты Браніслава,
спявае разам працы спеў.
У хвалях песня нарастала
і разлівалася між дрэў.
Забыта поле, серп гарбаты,
бо праца ёй не навіна.
Яна працуе да цямна,
затое, мабыць, носіць латы.
Зірні у вочы: цвёрда, смела
адкажа зірк, крыштальны зірк.
Што ёй паны, што ёй князі!
Таемна жыта шалясцела
ёй казку вечную жыцця.
— Жывуць паны з сялянскай працы,
жывуць паны з рабочай працы, —
вось каласы як шалясцяць.

13

Знайшлі Бранісю ў беднай хаце:
паклікаў лёкай у палац.
Узнепакоілася маці,
вучыць дачушку пачала.

Маці

Малога добра калышы ты,
набожнае яму спявай.
Бо панскасць ім у скуру ўшыта —
не угняві, а дагаджай.

Карыся, дочухна, карыся,
прызначана бо нам з вякоў:
сабе не дбаючы карысці,
яе збіраці для паноў... .

Браніслава

Чаго ўстрывожана ты, маці,—
навуку чула я даўно.
Але дакуль мы будзем слацца,
качацца каля панскіх ног?
Няўжо на іх не будзе зводу?
Няўжо іх не паберыць смерць?
Дакуль жа нашаму народу
пакуту горкую цярпець?

Маці

У імя ойца, сына, духа!..
Бранiська, любая, маўчы!
Хто да акна прыставіць вуха,
не пабаяўшыся начы...
Баюся: ты занадта смелай
выгадавалася ў мяне.
Пільнуйся там, дачушка, дзела,
ніхто не пажалее, не...
Які там звод... у сына, духа!..
Ўсіх не паберыш, ды й народ...
Не ўмее ён сумлення слухаць,
гніе ў балоце, як чарот.
Паслухай, скажуць: «Пса павесяць,—
хадзі і кланяйся яму
не менш, чымся якіх дзён дзесяць,
бо адарвецца на бяду»...

Адзін памрэ — другі на карак
садзіцца пан — дуга адна...
Паны з салодкіх локчуць чарак,
нам трэба гора піць да дна...
Карыся, дочухна, карыся,
адна ты, любая, ў мяне...

Браніслава

Не прыйдзе з ганьбаю Браніся,
твая трывога хай міне...

14

Расце малы, растуць выдаткі:
на кляштар фундуш, на ксяндзоў.
Сялянскія усе манаткі
ператрасаюць для паноў...
Галосіць вёска ў немы голас,
у бокі розныя ідзе.
А цераз вёскі, цераз сёлы
бяда ідзе, бяду вядзе...
Адны пайшлі на жабраніну,
дзе-хто сякеры навайстрыў.
А вецер вее над краінай,
каб разгараліся кастры...
І маці перайшла ці мала,
але не шэнціла старой:
так у дарозе і сканала,
не развітаўшыся з дачкой.
З бярозы лісцінка зляцела
на ублаганне, на ўспамін.
Ніхто не плакаў каля цела,—

і так слязьмі прасяклі дні...
Суседзі ладзілі хаўтуры,
са столі златалі труну...
Ці чуе дочухна за мурам,
што мацер небыт агарнуў?
Браніся слухае гамонку,
Браніся чуе пра бяду —
пустошаць бедную старонку,
усіх да торбы давядуць...

Браніслава

Матуля, родная матуля,
адна цяпер я, сіратой.
Мяне да сэрца не прытуліш
сваёй ласкаваю рукой.
Не выйдзеш спатыкаць ля весніц,
мінула радасці пара.
Жалобай поўняцца ўсе песні,
і нас ёй будуць надараць...

### 15

А надаралі вельмі проста:
панам багацце, весялосць,
а селяніну «патар ностар»
і ўсё, што толькі ў небе ёсць...
Давалі радасць з карыфашкай
ва ўласнасць пану ад радзін,
а мужыку для працы цяжкай
як можна больш гадзін, гадзін...
І так жылі вякамі побач
тварэнні бога аднаго.
Поп — у царкве, ў касцёле — пробашч

благаслаўлялі на прыгон...
Малілі бога, каб не крыўдзіў
таго, хто змогся пад ярмом,
калі бядак на неба прыйдзе,—
хай будзе там гаспадаром...
Пасля — бязлітаснай рукою
піхалі ў «вечнасць» мужыка...
Але прыйшла чарга ў пакоі,
ніхто чаргі тут не чакаў.
Сама вяльможнаяваспані,
бог знае, ці з пасцелі ўстане...
Хоць даглядалі і лячылі,—
заснула пані ўсё ж навек...
Не гляне больш на свет вачыма,
на свет не гляне з-пад павек...
І ўсе жаданні, ўсе імкненні,
якім і краю не было,
адным-адзіным вакамгненнем
разбіты, скрышаны на тло.
Да столі віўся дым кадзільны,
гарэлі свечы ля труны.
Ксяндзы вакол стаялі шчыльна,
на фундуш прагнулі яны.
Жыцця не вернуць і літанні,
як ты арганы ні надзьмі.
І стала роўнай з тымі пані,
якіх не звала і людзьмі.
Палац убраны чорным крэпам,
на люстрах вэлюмы з тугі.
Засыпан хвойкай шлях да склепа,
замок адомкнуты тугі.
Прыйшлі з пратэсамі, з вянкамі,

труну паставілі у склеп...
Ізноў замкнулі склеп замкамі,
пасля — з палаца знялі крэп...

## 16

Да ўсіх падзей на свеце звыклі,
мінае самы цяжкі жаль.
Пасля угодак — зноў музыка,
ізноў у замку пышны баль.
Прыйшла прыгонная капэла,
на хорах грае для паноў.
Ды вось жалобы чорны вэлюм
не адышоў ад берагоў.
Гамоніць Нарач несціхана,
шпурляе пену ў камяні...
Не закранае гоман пана:
пакаштаваў пан розных він...
На шпацыр вынесла малога
Браніся: на руках дзіця...
Ляціць над возерам трывога,
аж чутна — крылы шалясцяць...
На скалы хваля гоніць хвалю,
і плач, і смех у камянёх
то завіецца у аддалі,
то узляціць да самых ног.
Малога вабяць плёскі, рокат,
ён ручкай цягнецца — «ма-ма!» —
да белапеннай і шырокай,
што не спыніць і не стрымаць...
Ды сунімае ўсё дзяўчына:
— Няможна... нельга... не сваволь...—

І возера не для Юстына?
І хвалі, што пяюць «буль-боль»?
Пачаў злаваць малы вяльможны
і няню — ручкай па руках.
— Туды? — Туды ніяк няможна...
— Туды? — А там вялікі жах...
І вось малы маленькай сілай
рвануў хусцінку за ражок —
яна ім вочы і закрыла.
Бранісія цягне хустку ўбок,
а ён к сабе... А бераг блізка,
а пад нагамі камень слізкі —
і ўсё... Нядоўга быць бядзе:
абое ў віравой вадзе...
На паратунак беглі людзі,—
ды паратунак бедны будзе:
Бранісю вір на жвір адкінуў,
забраў жа аднаго Юстына...
Бранісія крыху ачуняла,
але карысці ў гэтым мала:
няма вяльможнага малога...
Расце на беразе трывога.

Браніслава

О божа, што я натварыла?
Не бачыць мне самой жыцця...
Лепш пана прыняла б магіла,
чым гэта горкае дзіця...
А зараз прыйдуць каты, каты,
пакрышаць костачкі мае...
Ад гэтай нечуванай страты
ніхто ратунку не дае...

Людзі

У імя ойца! Хто адважны
пайсці да пана з навіной?..

У гэты час пан ксёндз паважны
з'явіўся перад грамадой.

Станіслаў

Благаславенне ўсяму сходу!
Якое ж дзіва вы знайшлі?

Людзі

Такога дзіва, пане пробашч,
яшчэ не зналі на зямлі.
Тапіліся тут разам двое,
бо ў вір зваліліся яны.
Знайшлі Бранісю, ды затое
паніч маленькі...

Станіслаў

Што? Юстын?
Няпраўда!.. Не!!!
А дзе ж ён? Людзі!
Хто знойдзе — рай сабе здабудзе!..
Шукайце!
Імя ойца, сына...

Людзі

Адкінуў бог адну дзяўчыну,
а паніча забраў навек.
Шуканне тут не дапаможа:
што проці бога чалавек?!

Святыя ціха спяць у нішах,
уся капліца ціха спіць.
Ніхто з іх і не сніць пра ліха,
што безупынна цягне ніць,
каб гэнай тонкай хіжай ніццю
звязаць, скруціць і заблытаць,
спыніць лёт думак, сэрца біцце,
як злы палуначнік, як таць...
Грыміць замок, бразгочуць штабы,
прыбеглі служкі, паляць кнот:
усе запалены лампады
і ўсё чакае на прыход...
Ідзе сутанная калона:
манахі і манашкі ў рад.
Навіслі змрочна капюшоны,
каб быў страшней страшны пагляд.
Між імі ксёндз, за ім і дзева
адна... І на такой самоце,
як адарваны ліст ад дрэва,
што ўпрочкі вецер гоніць, коціць...

С т а н і с л а ў

Табе як імя?

Б р а н і с л а в а

Браніслава...

С т а н і с л а ў

Была на споведзі?

Браніслава

Была.

Станіслаў

А ўсе касцёльныя адправы
ці адбывала?

Браніслава

Адбыла.

Станіслаў

Цалуй святарны крыж, нябога,
(з Хрыстом распятым крыж дае)
і знай, што мы, абодва з богам,
чакаем праўдыаднае.
Скажы: дзе, хто, калі з табою
пра тую справу гаварыў,
каб знішчыць паніча вадою,
каб утапіць яго ў віры?

Браніслава

Ніхто, нідзе пра ўсё пра тое
ніколі мне не гаварыў.
Мы з ім тапіліся абое,
і я сама была ў віры.

Станіслаў

Адна была у вас дарога,
яго — няма, жывая ты.
Ды як жа так?

Браніслава

Я з ласкі бога
жывой вярнулася з вады.

Станіслаў

Без боскай ласкі быў Юстын,
адзіны, гжэчны панскі сын?
Табе ж, якіх на свеце многа,
быў дадзены ратунак богам?
Ты мысліш, што ў высокім небе
больш любяць гэткае атрэб'е,
як ты? Кажу апошні раз:
праўдзівы дай на ўсё адказ.

Браніслава

Адказ дала. Вам не хапае,
вам трэба праўда не такая.
Спытаць вам пана бога трэба,
пан ксёндз бліжэй, чым я, да неба...

## 18

Ці жоўць парвалася у ката,
ці праўда завяла ў адчай.
Схапіўшы крыж з хрыстом распятым,
ён біў дзяўчыну з-за пляча.
Ён біў, той кат, ад злосці п'яны,
ён біў і косці ёй крышыў.
І крыж і ўсе хрыстовы раны
ізноў крывёю напаіў.
Яна не плакала, цярпела,

у страшных хоць руках была.
Пакутавала цяжка цела,—
душа магутнасць набыла.
Наўкол стаялі ў рад сутаны,
над імі капюшонаў рад.
Пад імі — нелюдзь розных станаў,
якая ганьбіць слова «брат»,—
як совы, жудасна са шчылін
маўкліва зіркалі вачыма.
І толькі пацеркі шурчэлі
у гэтай д'яблавай капэлі...

Станіслаў

Ты праўду скажаш мне, праклёнства,
бо выдзьму я з касцей душу.

Баніслава

Праўдзівай я жыву з маленства
і праўду ў сэрцы я нашу.
Благаслаўляе дзетак Езус
на пазлацоных абразох.
Стаіць ён, з дрэва і з жалеза,
ля крыжавых усіх дарог.
Галодных корміць і благае
на абразох, каб знаў народ.
І быць братамі ўсіх навучае,
не крыўдзіць бедных і сірот.
І ты, слуга такога бога,
яго аберучкі ўздымаў
і разам з ім мяне, нябогу,
крывёй нявіннай абліваў?
Чаму ж не вырваў крыж у ката

ён, добры, літасцівы бог?
Чаму не шыбануў, як гада,
цябе ў прадонне, праз парог?
Чаму ж ён не памог нябозе,
не знішчыў ката перуном,
на гэтай крыжавой дарозе
не спапяліў цябе агнём?
Ён не прыйшоў на дапамогу,
схаваўшыся за ўсіх святых.
Зракаюся такога бога
і слугачоў яго такіх!

Станіслаў

Цябе зямля глыне!..

Манахі

Навекі...

Станіслаў

Твае я выдзеру павекі!
Па смерці воч ты не заплюшчыш!

Браніслава

Дарма! Я буду неўміручай!

19

Пан
*(да Браніславы)*

Дзе сын мой?!.

Браніслава

Запытайся ў бога,
хоць ён з крыві нявіннай п'яны.
Ён — пан. Я ж — сірата, нябога,
а пан — ён знаецца з панамі.

Пан

Ах, так!..

Манахі
*(з кайданамі ў руках)*

Паночку, з вашай ласкі
мы ёй пакажам шлях да раю...

Пан

Прэч, псы! І вашы ўсе жалязкі...
Ах, божухна, душа згарае...

. . . . . . . . . . . . .

На бераг пан ідзе з капліцы,
за ім і чорная ўся світа.
Вартуюць псы сваю здабычу,
крывёю вочы іх наліты...

20

Пан
*(да людзей на беразе)*

Знайшлі мне сына?

Людзі

Ясны пане!
Такая ноч, такая ноч!
Каб пачакаць нам да світання,
напэўна ён пайшоў у дно...

Пан

Шукайце, д'яблы вам у вочы,—
каб больш святла у іх было.
Не ведаю ніякай ночы:
загад мой — ваша ўсё святло!
Я сёння выпіў столькі гора,
што больш няма яго нідзе...
Яно маё сціскае горла,
яно ў труну мяне вядзе.
Я вас прымушу выпіць Нарач
і выпіць да самога дна.
Ці панясуць усіх на марах,
ці будзе сын тут да відна!
*(Да Браніславы)*
А! Гэта самая... апека...
Ідзі бліжэй ты, ведзьма з пекла!

Браніслава

Мяне вадзіў ваш клер да раю,
хоць, праўда, пан больш пекла знае...

Манах

Паночку! Вось вяроўка й камень,
дазволь — мы месца ёй дадзём...

## Пан

Прэч, псы! Не кратайце рукамі
пачатак маіх чорных дзён...
Збірайце камень дзікі ў полі,
пасад каменны будзе ёй.
Ах, божухна,— забраў патолю
і ўцеху старасці маёй...
Паклічце, ўсіх ксяндзоў паклічце,
няхай званы праз ноч гудзяць.
Не пісана у іх кантычцы,
як трэба дзеўчыну ўслаўляць...
Збірайце камень дзікі з поля,
пасад каменны будзе ёй.
Ах, божухна! А дзе ж патоля
і ўцеха старасці маёй...
Паклічце муляраў з начыннем,
паходні запаліце ўсе.
Для гэтай проклятай дзяўчыны
падзяку не прыдумаў свет...
Цябе пастаўлю я на ўзгорку,
над самым берагам крутым.
Ты будзеш піць свой келіх горкі
ў праменні сонца залатым.
Ты будзеш помнікам навекі,
як бацька сына мілаваў...
З хаўтурным посвістам і дзвенькам
твая спятрэе галава.
Вятры табе хай песню зложаць,
па свеце разнясуць няхай.
Няхай... Ды як жа гэта можна...
Забойца... Помнік... Ха-ха-ха...

Збірайце камень дзікі з поля,
пасад каменны дайце ёй.
Ах, божухна, а дзе ж патоля
і ўцеха старасці маёй...

21

Званы, як на пажар, званілі,
трывога агарнула ўсіх.
На многія ў акрузе мілі
каціўся водгук дзеяў злых.
Збіраліся навокал людзі,
пыталіся:
— А дзе ж той бог?
Дакуль жа гэта поскудзь будзе
тыраніць нас і гнуць да ног?..
— Навошта катуеце Броню?
— Яна ж сіротка!
Эх, паны! —
А гайдукі на сытых конях
і ўзялі іх у бізуны...
Ізноў сабраліся сцяною,
ізноў пыталіся ў паноў:
— Што творыце над сіратою?
— А дзе ж той бог?
Куды зышоў? —
Каменне пападала катам.
Як вышчараліся яны!
Ды налятаў заслон пракляты,
ізноў свісталі бізуны...
Паходні жудасна ўзляталі,
хадзілі, лынулі ў прастор.

На возеры стагналі хвалі,
калышучы адценні зор.
На ўзгорку муляры складалі
для Браніславы слуп-пасад.
Ксяндзы маўчалі у аддалі.
І Станіслаў стаў з імі ў рад.
Страшэнны час... Згадаў ён паню,
згадаў і ночы ўсе, і дні...
І вось дайшло да адпяванняў...
О памяць, дзеі захіні...
Дзяўчына вось. Стаіць у муры,
па грудзі мур ужо узрос.
Ці не пара пачаць хаўтуры?
Ах, ксёнжа, не пабачыў слёз?..

Станіслаў

Быў дадзены табе ў апеку
нявінны хлопец, панскі сын.
Ты ж прыстарала сабе пекла,—
туды цяпер твой шлях адзін.
Цябе й асудзяць вельмі строга,
твой нечуваны грэх цяжкі.
Скарыся, грэшніца, прад богам,
прызнай злачын сваёй рукі!
Стаіш ты на парозе ў небыт,
узваж учынкі ўсе свае.
Пакайся тут людзям і небу,
апошні час твой настае...

Браніслава

Я ўсё сказала, панскі лёкай,
і ведаю, ты добра чуў.

Не псярня ваша, свет шырокі
стаіць прывабай увачч у.
Мне шкода сцежак і дарожак
на роднай, любай старане.
Мне шкода квет — нагой варожай
затопчуць іх, як і мяне.
На тыя сцежкі, на дарожкі
я толькі, толькі узышла.
А з квет духмяных і прыгожых
сабе вяночак не звіла.
Вяночак мой з пакуты звіты
і перавязаны тугой.
І кветкі ў ім усе абліты
маёй нявіннаю крывёй.
Муруйце, муляры, найлепей —
гасцінцам вас надорыць пан.
Мой заклік вапнай не залепяць,
ён скалыхне яшчэ курган...
Вы нашу радасць адабралі,
замуравалі ў камяні,
вы шчасце наша ў гразь стапталі,
ператварылі ў ночы дні...
Замест вясёлае бяседы
у хатах бедных — слёзы, стогн,
сусед не ходзіць да суседа.
За ўсё за гэта вам праклён...
Муруйце вышай слуп каменны, —
не гэта будзе вам самім.
Яшчэ на свеце будуць змены,
сусвет з'іначыцца зусім...
На вашы могілкі не гляне
ніхто з спагадаю, ніхто.

Адпомсцяць вам за ўсё сяляне,
аж здрыганецца сам прастор...
За ўсе крывавыя банкеты,
за здзірствы з бедных і сірот —
цераз абшары ўсяго свету
вас праклінае мой народ!

Людзі

На вас праклён!
На вашы дзеці!
На вас, праклятыя паны!
Хай вам і сонейка не свеціць!
Па смерці вам не знаць труны!

А гайдукі лcraталі вокал,
таптталі, білі з-за пляча.
А пан здзічэла ўсё галёкаў,
манах напуджаны крычаў.

Манах

Паночку! Сцісніце яе ў камень,
няхай пазнае там праклён...

Пан

Прэч, псы! Не кратайце рукамі
пачатак маіх чорных дзён...
Муруйце вышай слуп каменны,
каб ён і неба дасягнуў...
Ах, божухна, куды ж я дзену
маю пякельную тугу...
Спявайце ёй, ксяндзы, спявайце,
хай загалосіць там яна...

Не люба мне усё багацце —
уцеху прынясе труна...

Станіслаў

Заслона ў небыццё раздзёрта,
пакайся, грэшніца, прад богам...

Хор

На веч-ны ад-па-чын...

Пан

Спявайце ёй: і цераз камень
я супакою ёй не дам...
Прэч, псы! Не кратайце рукамі...
Яшчэ вышэй расце бяда...

Людзі

На вас праклён...
На вашы дзеці...
На вас, праклятыя паны...
Хай вам і сонейка не свеціць!
Па смерці вам не знаць труны...

*1929*

## ЭПІЛОГ

Казаў паэт вялікай славы:
«Іх вораг знішчыў, ды не змог».
Замардавалі Браніславу,
замуравалі ў камянёх.

А вобраз чысты і яскравы
замураваць ніхто не змог.
У нашы дні прыйшлі дзяўчаты,
якіх не замуруе пан,
якія нішчылі гранатай
і не адзін варожы стан.
А дні мінуўшчыны праклятай
навекі пахаваў дзірван.
На вольных гонях, вольным роем
праходзіць моладзь наша ў свет
і, адмятаючы старое,
да шчасця пракладае след.
Адпомсцілі даўно герої
за гаркату адвечных бед...

*1958*

# КРУГІ

Адаму Бабарэку

## ПРЫСВЯЧЭННЕ

Пасылаў свае думкі не раз,
як дэпешы без адраса, ў далі.
У прасторах іх след не загас,
яны пошчак заўжды выклікалі.

Я цяпер пераглездзеў свой шлях:
вось памылкі,
а вось —
дасягненні.
Хоць і добра быў вышыты шляк —
для будзённага ўсё ж ткі адзення.

Урачыстыя нашы гады,
пераможнае нашае заўтра
заклікаюць:
— Гартуйце рады
і гартуйце вы дух свой упарты!

Не зракаючыся хараства,
не пад слова біблейскіх прарокаў,
я кажу:
— Не працуе хто сам,
зневажае той працу наогул.

Творчы шлях мой нязменна адзін,
я шукаю для сіл сваіх выйсці.
Ты, Адаме, мне кажаш:
— Ідзі,
з пераломнага часу каб выйсці!

За натхненне табе прысвяціў
гэты твор пераходны, ламаны.
У жыцці давялося ісці
да яснот
праз імглу і туманы.

Калі сцісне дачасна імглой,
ты скажы:
— Хоць пагаслі зарніцы,
ды над нашай савецкай зямлёй
будзе вечна зіхцець Мілавіца...

. . . . . . . . . . . . . .

Надышла і восень непрыкметна,
гаспадарыць на маскоўскіх скверах.
На курорты выехала лета,
на далёкі чарнаморскі бераг.

Дрэвы ў канфеці гуляюць з ветрам
на нястрыжаных з вясны бульварах.

Часам сонца усміхнецца ветла
засмучоным, малакроўным тварам.

Пагуляць не выйдзеш адвячоркам,
бо надвор'е дрэнна сплanавана.
І на небе — хоць бы табе зорка,
і на небе — дываны з туману.

Месяц вельмі хоча асвятліць нас,
ды, відаць, не соладка самому:
вецер хмару на яго націснуў
і
— Не рыпайся, — крычыць, — ягомасць!

Журавы на поўдзень мілі мераць,
ад прастуды кашляюць аддалі.
Ах вы, люмпен-крылыя стварэнні!
Аспірыну, мабыць, і не зналі?!

Гусі шэрыя спяшаюцца, гавораць:
— У далёкі край з свайго мы краю...
А гудок, так ласкава, над горад:
— Пачакайце!
Я вас запытаю...

Не спыняюцца яны ў прасторы,
развітальнае пяюць сталіцы.
З ліквідатарскім такім настроем
не магу ніяк я пагадзіцца.

Лепш за ўсё,
дамоў прыйшоўшы з працы,

у развазе з кнігамі сябрую.
Творцаў даўніх музыка пульсацый
паўстае,
праносіцца,
чаруе.

Галасы вякоў да нас прыходзяць
і знікаюць зноў за небакраем.
Нас хвалюе шчырая іх споведзь,
але мэту мы сваю шукаем...

Раптам —
стук у дзверы.
Падыходжу.
Госць жаданы,
лістаносец.
— Ліст вам!..
Незнаёмы почырк і жаночы.
Я чытаю,
ўспёршыся на ліштву.

## ЛІСТ

*«За вашай творчасцю даўно сачу*
*(наколькі падыходзіць слова «даўнасць»).*
*Пішу цяпер, жадаючы пачуць*
*адказ на некаторыя пытанні.*

*Адказу гэтага бадай няма*
*у крытыцы, у кругабежнай прэсе.*
*Канкрэтнага не кажучы,*
*яна*
*нагадвае туман у цёмным лесе.*

*Напішуць:*
*«Добра ўсё, у самы раз!» —*
*а заўтра:*
*«Брак настрояў пралетарскіх!»*
*Не крытыка, а нейкі самавар:*
*усё залежыць ад старонняй ласкі.*

*І ўражанне ствараецца само:*
*гуляе крытыка у «лішку-цотку»,*
*замкнула аб'ектыўнасць на замок*
*і задаволена на «сто адсоткаў».*

*Пра здавальненне нешта не чутно*
*у чытачоў, ды, пэўна, ў вас самога.*
*Мяне у вас цікавіла даўно*
*ідэалогія, кірунак, мова.*

*Чаму у песнях вашых нестае*
*адной маленькай справы —*
*чалавека?*
*Хіба пачуцці ўсе яго,*
*мае*
*не закранаюць вашыя павекі?*

*Знаходжу ў песнях кветкі, палыны,*
*рассыпаныя скрозь пялёсткі...*
*Любоў да нашай роднай стараны,*
*да саламяных стрэх і вёскі...*

*І так далей,*
*і так далей — адно,*
*або штодзённая прысяга Беларусі.*

*Ей прысягалі шмат разоў, даўно.*
*Навошта зноў?*
*Дзіўлюся я, дзіўлюся!*

*Калі чытаеш песні вашы ўсе,*
*здаецца, што бязлюддзе у краіне,*
*што ветры буйныя паэта наш пасе*
*або на выспе у самоце гіне.*

*Калі ж людзіна ў песні мільгане,*
*дык так пададзена, што проста дзіва.*
*От, не раўнуючы, маўляў, даўней*
*моладзь на каляды «казу» вадзіла.*

*Не то жыве, не то рыпіць «каза»,*
*гаворыць тое, што крычаць над вухам...*
*І хочацца такое вам сказаць,*
*што нават сорамна самой мне слухаць...*

*Спытаюся, ці думалі калі*
*вы пра вагу узятых абавязкаў?*
*Ці бачыце, куды цяпер зайшлі,*
*ці бачыце, скажыце, калі ласка?*

*Чаму ўсё так? Ці доўга будзе так?*
*Жабрацтва духу — не вялікі гонар.*
*Аджа ж літаратура — не тартак,*
*не пагулянка з клёцкамі за горад...*

*А покуль што — на гэтым і канец.*
*Ад вас не вымагаю абяцанкі,*
*што будзеце пісаць адказ вы мне.*
*Бывайце!*

*Наста Нарутавічанка*

P. S.

*У кожным разе — адрас у лісце.*
*За ваш адказ — удзячна буду вельмі.*
*Увосень, можа веры не дасце,*
*такі настрой, як у якой пустэльні...»*

. . . . . . . . . . . . . . . .

Даць адказ? — Перамажы ж віхуру!
А пакрыўдзіцца — няма прычыны.
Шмат гавораць пра літаратуру,
але гэта, гэтая дзяўчына...

Я пакінуў кнігі ў гэны вечар,
і спакой мяне зусім пакінуў.
Толькі крыўда захавана шэпча
і расце няўцямна, штохвілінна.

На каго? — Ды на сябе самога!
«Ці ж паэзія вам пагулянка?!»
Ах, сказалі праўды вельмі многа
вы, таварыш Нарутавічанка!

Адказаць вам думаў пра кірунак,
напісаць амаль трактат пра гэта.
Але ж час такі гаючы трунак,
усцішае палкасць і ў паэтаў.

Ліст паклаў у кніжку запісную,
дзень, другі — і гутарка старая.
Вашы словы, як праз сон, я чую,
а часіна вострасць іх сцірае...

. . . . . . . . . . . . . . . .

Да вакзала пехатой прастую,—
так прыемна ў рокаце няспынным.
Ад Грузін праходжу на Цвярскую:
скрозь — жыццё, электрыка, машыны.

Заўтра Мінск... Расце ён разам з намі.
Хутка будзе горадам сапраўдным.
Упрыгожаць фабрыкі мурамі
яго выгляд, крыху старадаўні.

Па Савецкай прабягуць трамваі
у прадмесці, аж да вёсак бліжніх.
Гэта будзе памятка жывая
ўпартасці прыгнечаных калішніх...

Так іду і разважаю ў думках,
а навокала — Масква-красуня.
Ноч пяройдзе цераз горад хутка,
вуліцы ж нямоўчныя пульсуюць...

. . . . . . . . . . . . . . .

Шмат гадоў паветра п'е маскоўскае,
маладосць кунежана Масквой.
Нават пліты, пасля дожджу коўзкія,
ласкава нітуюцца з хадой.

Шум ліецца кволаю атрутаю,
кліча-вабіць ён на свой пасад.
Зачаруе, скорыць і ахутае...
Сэрца, ты не глянеш больш назад!

Сотні тысяч, з вуснамі гарачымі,
з зыркай палкасцю сваіх вачэй,

камяніцы нават перайначылі,—
неяк дыхаецца ў іх лягчэй.

Рух расце, мацнее, пашыраецца,
зоры дзівяцца з сваіх вышынь.
Ах, якое шчасце гэта раніца
і размах для творчае душы!

Дзедзічы няўдзячнай самай спадчыны
і удзельнікі вось гэтых дзён,—
мы эпоху хараством адзначылі,
мы адзначылі эпоху хараством.

Сотні тысяч, з вуснамі гарачымі,
з зыркай палкасцю сваіх вачэй,—
мы жыццё дашчэнту перайначваем,
перайначым жа яго хутчэй!

. . . . . . . . . . . . . . .

За кіламетрам ідзе кіламетр,
грукат хвалюе, ў абоймы бярэ.

З пільнай увагай гляджу праз акно,
бачу знаёмыя месцы ізноў,—

Вязьма пахмурна глядзіць праз туман,
руху чамусьці у Вязьме няма...

Бачыш — праносіцца Дарагабуж,
горда трымае лясы на гарбу...

Вось яно, Ярцава — дугі святла,
фабрыкі ткальныя быццам са шкла.

Чорную ноч даканалі агні,
ператвараюць на светлыя дні.

Будучнасць наша з варштатаў і кол
кліча загадна: зірні навакол!

Свету старому мы вытчам дары:
саван магільны, каб шчыльна закрыў.

За кіламетрам ідзе кіламетр,
грукат хвалюе, ў абоймы бярэ.

З гор паглядае прыгожы Смаленск
цераз прысады і вежы свае.

Замак і цэрквы ў даліны глядзяць,
новыя дні ім прыйшлося зазнаць.

Тут адбываліся бойкі не раз,
тут задрамаў, затрымаўшыся, час.

Сённяшняй бойкі не чулі вякі,
гэтакай моцнай не зналі рукі.

Грознай паводкай прайшлі па зямлі,
новы тастамант сусвету далі...

Сціх і скарыўся магутны Дняпро...
Вось Беларусі савецкай парог.

За кіламетрам ідзе кіламетр,
грукат хвалюе, ў абоймы бярэ.

Я прыгадаў сваю вёску, лясы,
родныя песні і галасы.

Час захаваў мне размову адну,
я ўспамінаю, пакуль не засну.

. . . . . . . . . . . . . .

«Ідуць гады, лятуць яны,
кладуць адбітак свой навокал.
Няўцямна прыйдзеш да труны,
здавалася б, яна далёка...

Лятуць гады над намі ўдаль,
як птушкі ў вырай, у прасторы.
І, непрыкметныя амаль,
крыламі шастаюць, гавораць.

За імі музыку чуваць,
у ёй і радасць, і самота.
У ёй і людзі, і трава,
і багуністае балота...

Сягоння ты жыццё пачаў,
маё ж усё — было учора,
адлюстравалася ў вачах
і знікне у нябыце скора...

А сонца будзе зіхацець,
як і раней, над белым светам,
правёўшы сёлетніх гасцей,
чакаючы другіх на лета.

Вось мы пытаемся калі:
чаму не так, а накш бывае?
Заўжды цікаўныя былі,
той і не блудзіць, хто пытае.

Казалі мне калісь даўней —
любіў адзін вось так пытацца.
Не дапытаўшыся ў людзей,
хадзіў да сонца у палацы...»

. . . . . . . . . . . . . . . . .

За кіламетрам ідзе кіламетр,
грукат хвалюе, ў абоймы бярэ.

Час даганяем ці шчасце сваё?
Новую песню складаем-снуём...
Быццам пад сцягам іскрыстым, праз ноч
мкнецца цягнік і грукоча адно:

«Славу спявайце працоўнай сям'і —
перамагла яна цяжкасці міль...»

Колы ляскочуць, грыміць паравік,
зноў успамін нарадзіўся, узнік.

Байка разгортваецца ў цягніку,
думкі, як хвалі, няспынна бягуць.

. . . . . . . . . . . . . . . . .

«...Жыў чалавек адзін у нас,
цікаўны вельмі і дапытны.
Ён гэтым у зубах навяз,
пытаннямі усім апрыкраў.

— Чаму вось так, чаму не так? —
пытаецца ў людзей вясковых.
Не задаволіцца, дзівак,
на два ці тры якія словы.

Казалі людзі, хто што знаў,
а ўрэшце — дзе ж пра ўсё і ведаць?

— Чаго ты, кажуць, зажадаў?
Каб разумней быць за суседа?

Як ні старайся, а памрэш
ты дурнем, браце, гэта пэўна.
Няможна раскусіць арэх,
не сашчыкнуўшы яго з дрэва...

Аднойчы гэты дзендзівір
пачуў, а мо і сніў, знянацку,
што студню князь адну зрабіў,
ды вельмі ж неяк па-дзівацку.

І зруб звычайны — моцны дуб,
а дны — аж тры, на ліха тое:
мядзяным ён замкнуў ваду,
ніжэй — са срэбра, залатое...

Не спіць, не есць Цікаўны той,
пытае у людзей парады.
А тыя круцяць галавой:
былі б і самі ведаць рады.

Пасля адзін старэнькі дзед
парадзіў запытацца ў сонца:
яно над светам шлях вядзе
і многа ведае бясконца.

Дзяцюк усцешыўся тады,
паслухаў розуму старога.
Куды не дойдзе малады? —
Збіраецца ісці ў дарогу.

Акраец хлеба ў торбу ўзяў,
кавалак сала ўзяў для смаку.
Праводзіла уся радня
вярсту ці дзве, а можа з гакам.

Далёка адышоўся ён,
няма цікавага нічога.

Аж чуе нейкі дзікі стогн
за хвоямі, каля дарогі.

Бліжэй падходзіць — чалавек
сядзіць на камені, галосіць:
— Няўжо сядзець мне цэлы век,
няўжо цяпер ужо не досыць?

Падходзіць наш дзяцюк яшчэ,
пытаецца ў яго той самы:
— Куды ты, родненькі, ідзеш?
А мо ратунку мне дастанеш?

Сказаў дзяцюк, куды, чаго,
дакляраваў, як будзе змога,
спытацца ў сонца для яго,
ці доўга пасядзіць нябога.

Ідзе далей, аж бачыць зноў
яшчэ дзіўнейшую прыгоду:
стаіць, падпершы тын плячом,
якісьці дзядзя ля гароду.

Паслухаў скаргу і яго,
паабяцаў зрабіць што трэба.
А сонца смаліць, як агонь,
бо недалёка і да неба.

Ідзе далей і бачыць там
яшчэ дзіўнейшую падзею:
сядзіць якісьці важны пан
і піша, мабыць, эпапею.

Засопся ўвесь той небарак,
з ілба ад поту проста рагі.
Атрамант з бочкі набіраў,
быў гэты «каламар» з-пад брагі...

Перад сабой паставіў пан
люстэрка у жалезнай раме.

Ён піша, хваліць сябе сам...
Відаць, таксама пакараны...

Наўкол паперы той гара,
і, пэўна, цымусу ў ёй многа:
уважліва ў яе баран
глядзеў, задраўшы ўгору рогі.

Каля яго, на галаве,
стаіць яшчэ другі няздара.
— Усё на свеце,— ён раве,—
не параўнаць вось з гэтым дарам..

Не вытрываў Цікаўны наш:
— Скажыце, што гэта такое?
— Прашу мяне не турбаваць
і без дакладу не ўваходзіць...

Ну што парадзіш? — Гей авэк!
Ідзе Цікаўны «з'еўшы мыла».
Відаць, той пісар-чалавек
гарбатым пойдзе і ў магілу.

Ажно далей яшчэ дзіўней:
ў рацэ глыбокай дзве жанчыны
стаяць адна каля аднэй,
ваду ліюць, ліюць няспынна.

Зірнуў на іх і нацянькі
да сонца прэцца наш Цікаўны.
За лесам, вокам дзе ні кінь,
праменне, мур стаіць яскравы.

Ужо лічы, што тут як тут.
Аж на табе, яшчэ здарэнне!
Сядзіць якісьці баламут,
пераграбае смецце жменяй.

Няма калі займацца з ім,—
дайшоў да самага да месца.

Падзел тут неба і зямлі,
адсюль да нас і час ліецца...

Дарога — як і не была,
усё бліжэй ідзе Цікаўны.
Глядзіць на сонейкаў палац:
такі прыгожы ён і спраўны!

Ад бляску зіхаціць, гарыць,
на вежах стромкіх днююць зоры,
каб, дачакаўшыся пары,
плысці на сінія азёры...

Усё са свету хараство,
што адышло і што ў наступным, —
у гэты гмах чароўны свой
на схоў сабрала сонца рупна.

Адсюль да нас у добры час
паволі пасылае, дорыць,
каб аквячаць маглі не раз
мы дні і радасці і гора...

Час не спыняе бегу хваль,
глядзіць Цікаўны — ўжо не рана:
пара палуднаваць амаль.
Ідзе на перламутны ганак.

У дзверы стукнуў ён кійком.
Адтуль чуваць жаночы голас:
— Каго там ліха прынясло?
Не бразгай так, бо клямку зломіш!

Цікаўны наш і не чапаў
той клямкі, залатой і гладкай.
Аж тут, як пава да курчат,
выходзіць сонейкава матка.

— Чаго ж прыйшоў ты аж сюды? —
Цікаўны кажа:
— За патрэбай.

Дажыўся да такой бяды,
што хочацца пра ўсё мне ведаць.

Хачу я ў сонейка спытаць
пра некаторыя падзеі.
Не мог я сэнсу сам дабраць,
схадзіць парадзілі суседзі.

Яна падумала.
— Чакай!
Бо зараз сонца двору будзе.
Пайшло яно за небакрай,
каб не маркоціліся людзі.

Вось, ты тут крыху пахадзі,
сад паглядзі ды падсілкуйся.
А мне дыхнуць няма калі:
каровы зараз прыйдуць, гусі...—

Тут маці сонейкава прэч
пайшла ды толькі уздыхнула.
Цікаўны наш дастаў з-за плеч
з прыпасам свойскім поўны клунак...»

. . . . . . . . . . . . . . .

За кіламетрам ідзе кіламетр,
грукат хвалюе, ў абоймы бярэ.
Хвоі пахмурныя бачу праз шкло,
колькі гадоў каля іх перайшло...

Шастаюць, шастаюць і шалясцяць,
колькі ля іх адбылося жыцця...
Чую, здаецца, няспынны іх шум,
ён абуджае, хвалюе душу...

Думка сягае ў юнацкую даль:
хвоі, азёры, каменне і сталь...

Толькі з туману ільсняцца агні,
мкнецца нястрымна наперад цягнік...

. . . . . . . . . . . . . . .

«Пакуль абед, пакуль яда, —
сядзібу трэба ўсю агледзець,
каб мог пасля апавядаць,
як і наказвалі суседзі.

Граніц не мае сонцаў сад,
не мае ён канца ці краю,
куды ні кінеш свой пагляд,
душа ад дзіва замірае.

Такая ў дрэвах вышыня,
у дрэвах шырыня такая,
што іх абмераць ці абняць
і вока ледзьве змогу мае...

Лісты растуць, растуць лісты
па сажні тры або чатыры.
А хараства, а пекнаты —
не асягнеш і думкай шчырай.

Яна даходзіць і да нас —
ад сонцавых садоў высокіх,
ды толькі у зімовы час
яе пабачыць можна вокам.

І дзе пабачыць? — На акне!
На шыбінах закуржавелых,
калі мароз за пяты тне,
дыван пасцеле снежна-белы...

Дзяўчаты слуцкія тады,
ды ўсе дзяўчаты у краіне,
узораў дзіўныя рады
кладуць на белыя тканіны,

на ручнікі, на паясы,
на дарунковыя кашулі,
каб не зракаліся красы,
да самай глыбіні адчулі...

Узоры знак даюць людзям,
што згіне сцюжа ўсё ж на свеце,
бо і зімой красуюць нам
лісточкі сонцавы і кведце...

Ідзе далей ён цераз сад,
ды колькі ж дрэваў там дзівосных!
Урэшце напаткаў пагляд
і нашы вербы, вольхі, сосны...

На вербах бэры там раслі,
на соснах — гарбузы з асьміну.
На вольхах столькі смачных сліў,
што выстарчыць на ўсю краіну.

Ядловец крыху не такі,
які бывае ў лесе нашым.
На ім вялізныя сукі
і грэцкая ў жбаночках каша.

Да кашы птушкі па чарзе
лятуць і жвава, і вясёла.
Аж скачуць на аднойназе,
ды так цікава, адмыслова...

Парадак сочыць сыч-глушак
і клопату багата мае.
Адзін, дарэчы, наскі шпак
які гармідар уздымае!

Удод, наставіўшы свой дзюб,
такія задае рулады,
што, хоць удодаў не люблю,
двух салаўёў за ўдода даў бы...

Варону нашу не пазнаць,—
у крэпдэшынавым убранні.
А як пачне яна спяваць,—
дык так і спаў бы да світання...

А вераб'і — як гусакі,
паважна ходзяць і памалу.
А бусел наш — каля ракі
цудоўна грае у цымбалы...

Такая ў садзе пекната,
што цэлы век сядзеў бы, слухаў,
каб каля кожнага куста
была б хаця палова вуха...

Пра кветкі — што там і казаць!
І харавство, і выгляд стройны.
Красуе ніцая лаза,
а краскі — быццам парасоны.

Мядуніц нашых не пазнаць:
вялікія, па кубку добрым.
А пад пялёсткамі, ля дна,
нарыхтавана рэдзька з мёдам.

На папараці ясны цвет,
аж іскры пырскаюць навокал.
Вось каб адну данёс у свет!
Але, няхай яго, далёка...

Ці мала часу так прайшло,
пакуль Цікаўны ўсё агледзеў.
Пакаштаваў таго-сяго,
як і наказвалі суседзі.

Пад'есці дык і не пад'еў.
Які з садовіны наедак?
Хоць малака дастань ты з дрэў,
а хлеба трэба напаследак.

Спрадвеку так ужо ідзе:
пры хлебе ласка і патоля...
Але ж пара і на абед:
адклад не йдзе на лад ніколі.

Цікаўны наш набраў галля,
за садам разлажыў агеньчык.
Сядзіць на камені аддаль,
стругае з кляніны ражэнчык.

Дзівак ты! Сеў бы ў добры час
бліжэй к агню, як шмат хто ў свеце:
хоць ім і цёпла ў самы раз,
ніколі не мінуць пагрэцца...

Агеньчык весела палаў,
часамі вугалькамі пстрыкаў
(відаць, яловы сук папаў).
Глядзіш — аж на табе і прысак.

Цікаўны прысак той згарнуў,
ражэнчык ёсць — напёк ім сала.
Пад'еў, хоць пояс за спіну:
і не занадта і не мала.

Тым часам, як ты ні кажы,
а піць засмагла — дыхаць цяжка.
У сонца ж, бач, такі рэжым:
гарэлкі — ані воднай пляшкі.

Хацеў і там адзін карчмар
атаўбавацца ды шынкарыць.
Адтуль каціўся ён старчма,
у буталь сеўшы дзеля кары...

Пайшоў Цікаўны па ваду:
за локці тры рака бруіцца.
Паклаў на беразе хатуль,
зачэрпнуў шапкаю вадзіцы.

І толькі сербануць хацеў,
каб смагу ўтаймаваць дашчэнту,
як вокамгненна у вадзе
з'явілася паненка знекуль.

Зірнула толькі на яго,
дык дзе там піць! — забыўся дыхаць.
А ўзрок, як неякі агонь,
выпламяняе сэрца сціху.

Здаецца б, так жыццё глядзеў
на гэта хараство здзіўлёна.
Устрапянулася ў вадзе
яна за лісцейкам зялёным.

Праменем ласкавым такім
душу вымаюць тыя вочы.
— Ваду не трэба піць з ракі,
бо спаліць сонца цябе, хлопча...—

Ад слоў дзяўчыніных ідзе
аж водар чараўнічы нейкі.
Устрапянулася ў вадзе,
прыплюснула пяшчотна вейкі.

— Я сцежку пакажу табе
да чыстае вады, сцюдзёнай.
Не давядзецца аслабець:
яна узмоцніць, абароніць...

Дзяўчына выйшла на пясок,
лісцё пад ногі вецер сцеле.
Звілі лілеі паясок
на мармурова-белым целе.

Дзяцюк упадабаўся ёй,
затым яго высцерагае.
Ідзе ўспаветранай хадой,
цвітуць фіялкі пад нагамі.

Паглядам светлым апрануў
Цікаўны гэтую дзяўчыну.
Ледзьве ўсміхнулася яму:
— А рэчы ты каму пакінуў?

Узяў свой клунак на руку,
здэтанаваўся за нагадку.
Цераз маўклівасці раку
гарачы погляд кінуў кладку...

Прыйшлі. Стаіць вялізны дуб,
з-пад каранёў бяжыць крыніца.
Успаў Цікаўны на ваду:
а ні спыніцца, ні напіцца...

Дзяўчына кажа:
— Годзе піць!
Усё у меру толькі добра.
Ты хочаш розумам схапіць,
пра што зара з зарой гаворыць,

а знаеш ты, што шмат лягчэй
усю ваду вось гэту выпіць,
чым ведаць, як жыццё цячэ,
чым незвычайны здзейсніць выпыт?

Напіўся крыху — будзеш жыў,
пабачыў свету на патрэбу...
Глядзяць, аж сонейка з вышынь
дадолу коціцца па небу.

Не ведае, куды ісці:
да сонца ці за ёю следам.
Яна ж, як песня у трысці:
— Ідзі да сонца, мусіш ведаць...

Нічога не кажы яму,
што сёння ты пазнаў і бачыў...—
Прастор ліловасць апрануў
і смуткам гэты час адзначыў...

Відаць, ужо ці дачакаць
дзяўчыну, як ваду з крыніцы:
на неба сонцава дачка
ўзнялася зоркай Мілавіцай»...

. . . . . . . . . . . . . . .

За кіламетрам ідзе кіламетр,
грукат хвалюе, ў абоймы бярэ.

Дзень залаты, як цябе я люблю!
Зоры з блакітаў прыйшлі на зямлю!

З дум і надзей завіваем вянкі,
часу такога не знаЛі вякі...

Зрушана ўсё ад нізоў да вярхоў,
лёс гарацешны ў нябыт адышоў...

Шчасце ствараем уласнай рукой,
праца яго і вядзе за сабой...

Знішчым пакуту, нядолю ушчэнт...
За кіламетрам ідзі, кіламетр!

. . . . . . . . . . . . . . .

«...Прыйшоў, прайшоў над светам змрок.
Як чэрап, месяц зубы шчэрыць.
Дзень... ён замкнёны на замок.
У сонца... сонцава вячэра...

Праменнем зіхаціць прывён,
бо сонца ў пазлацістай шаце
адпачывае за сталом.
На стол даўно накрыла маці.

Ідзе Цікаўны у пакой,
вітае сонца словам ветлым.
А за парушаны спакой
прабачыць просіць ён пры гэтым.

Здзівіўся ўладар Святла:
— Адкуль ты тут з'явіўся, хлопча?
Якая сцежка прывяла
цябе сюды, чаго ты хочаш?

Пачаў Цікаўны:
— Уладар!
Ты над зямелькай роўна свеціш.
На ўсіх даеш ты шчодры дар,
ды дзеляць дар няроўна ў свеце.

Над намі скрозь князі, паны,
для іх — закон, яны — ўлада.
Дакульмуць панаваць яны?
Ты толькі даць і можаш раду.

Я да цябе затым прыйшоў,
каб ты шляхі нам асвятліла.
Каб на ўсю нелюдзь, на паноў
з'явілася ў народзе сіла.

Сонца

Дарэмна ты ішоў сюды,
Цікаўны мой, з зямлі далёкай.
Пазбыцца хочаш ты бяды
і хочаш праўду бачыць вокам?

Табе яна не прынясе
ні дабрабыту, ні пашаны,
павыпякае пакрысе
няўгойныя на сэрцы раны.

Ты з ёй пазнаеш горкі сум,
цябе абвесцяць там вар'ятам,
а за нябесную красу
дастанеш ты зямныя краты...

Пакуль не позна, ў самы раз,—
табе адну параду даў бы:
ідзі, мой хлопча, ў добры час,—
згарыш на попел ты ад праўды...

Цікаўны

Не страш мяне! Найгоршы страх —
уціск раз'юшанае сілы.
Парадзь нам, на якіх кастрах,
якім агнём яе спаліла б?

Сонца

Няскорны сыне мой, трымай!
(Бліснула Сонца ўсім праменнем.)
Збірай і радасць, і адчай,
і здзеку жорсткае каменне.

Ты будзеш праўду знаць цяпер:
заўжды яна, як соль у вочы.
Яна закатуе цябе,
атруціць дні твае і ночы...

Цікаўны

Я сёння атрымаў ключы,
каб адамкнуць зару для свету.
І не загіну ідучы,
і не затопчуць майго следу...

...Ідзе Цікаўны, а вагонь
у галаве яго палае.
У сэрцы ж зімна да таго,
як быцам лёду там кавалак.

Трывога нейкая расце,
а не было ж яе спачатку...
І вось ля кладак пры рацэ
спаткаў ён сонейкаву матку.

— Ой, чалавеча, ты памрэш,
калі не адагрэеш сэрца.

Бо, будзе галава гарэць,
згарыць яна праз сцюжу сэрца...

Цікаўны ўцяміў, як яму
прыгоды цяжкай той пазбыцца:
на сэрцы лёд і ў сэрцы сум
паможа знішчыць Мілавіца.

Між ясных зор, у вышыні,
яна зіхціць над светам смутным.
Ільсніцца ў сіняй вышыні,
ў праменні мяккім, перламутным.

Навокала гарадь агні:
дзяўчыніны гараць каралі.
Узварухнецца ў вышыні,
а прамяністасць — у аддалі...

Здаецца, кажа: не смуткуй,—
туга на радасць у наступным...
Плыве на сінюю раку
ў праменні мяккім, перламутным.

Ён вочы узняў да блакітных палёў,
ён вочы узняў да найсіньшых нябёс.
І між незлічоных адну ён знайшоў,
адной, наймілейшай, ён хвалу узнёс.

— Цяжары не страшаць мяне, Мілавіца!
Бо сцюжа на сэрцы міне, Мілавіца!

З вышынь сваіх сініх, з далёкага краю
нагадваеш сны аб вясне, Мілавіца!

З табою адзінай у далі-аддалі
пайду я ў сваёй старане, Мілавіца!

Зайграюць музыкі: хвіліны і дзеі,
як песня, жыццё мільгане, Мілавіца!

Надзею нядужым, натхненне для моцных
з табой пранясём, бы у сне, Мілавіца!

З прасцягаў, дзе зоры і сінія хвалі,
на радасць прыйдзі да мяне, Мілавіца!

Жыццё дам краіне, аддам табе сэрца...
як сцюжа на сэрцы міне, Мілавіца!

Пачула песню, дачакаў
ён сваю радасць — Мілавіцу.
Прыйшла з хмар сонцава дачка,
каб з ім навекі адружыцца.

У снежнасці кужэльных шат,
у харастве ўсіх наскіх песень
яна, чаканая, прыйшла,
каб наканаванае здзейсніць.

Да ног яе ляглі дары:
вянок з каліны пурпуровай.
І чуе ён — агонь гарыць,
ад сэрца згінуў цяжкі холад.

І чуе ён — гарыць агонь,
а сцюжа згінула ад сэрца,
бо Мілавіца ля яго
і будзе з ім яна да смерці»...

. . . . . . . . . . . . . . .

За кіламетрам ідзе кіламетр,
грукат хвалюе, ў абоймы бярэ.

Ноч атуліла краіну крылом,
шастае ў вокны пахмурным крылом.

Спяць у ваґоне, імчыцца цягнік.
Радасць — грыміць, даганяй, дагані...

Радасць і шчасце дагонім сваё,
шторм рэвалюцыі шлях нам размёў!

Чорных стагоддзяў, маўляў, не было,
след іх знішчае краіна балот.

Там, дзе прадонныя «вокны» глядзяць,
скора ўраджайная будзе ралля.

Там, дзе балота скалечаных душ,
меліяратары духу ідуць...

«Здзейснім мы, здзейснім мы,— кажа
цягнік,—
росквіт аздобіць наступныя дні...»

Радасць мая,— Рэвалюцыі час!
Я ж не магу ў гэты час не сказаць:
шчасце маё ужо нават у тым,
што я удзельнік вялікіх часін.

Радасць і гора дзяліў папалам:
радасць усю на змаганне аддам!

За кіламетрам ідзе кіламетр,
грукат хвалюе, ў абоймы бярэ.

Ноч за акном шалясціць, шалясціць,
шастае вецер таксама ў трысці.

Узварухнуў ён у сэрцы ўспамін,
казкі, легенды мінулых часін.

Казка разгортваецца ў цягніку,
думы ідуць, набягаюць, бягуць...

. . . . . . . . . . . . . . . . .

...«Ідуць яны у родны кут,
ізноў здарэнне за здарэннем.
Сядзіць той самы баламут,
перагрэбае смецце жменяй.

Цікаўны кажа:
— Час дарма
ты траціш, кожны пасмяецца.
У парахне няма дабра,
заўсёды смецце будзе смеццем.

С т в а р а ю ч ы,— дабро шукай,
задавальненне знойдзеш з працы.
Прыдбае рупная рука
сабе і нашчадкам багацце...

Ідуць далей — яшчэ дзіўней:
ў рацэ глыбокай дзве жанчыны
стаяць адна каля аднэй,
ваду ліюць, ліюць няспынна.

Цікаўны кажа:
— Годзе вам,
вада і будзе век вадою!
У вашай справе галава
павінна б кіраваць рукою...

Ідуць далей і бачаць там
яшчэ дзіўнейшую падзею:
усё сядзіць той важны пан,
усё не скончыў эпапею.

Люстэрка так жа ўсё стаіць
каля яго ў жалезнай раме.
Баран адзін у дол глядзіць,
другі ўсё дагары нагамі.

— На правялікі, браце, жаль,
не многа заховапа ў ліку.
Адзнакі велічы ляжаць
У змесце добрым і вялікім.

Ад шкла жалеззе ты адкінь,
пастаў люстэрак ты звычайны:
ад вынікаў тваёй рукі
парвецца з енкам ён адчайным.

На месца гэтых бараноў
пастаў ты шчырае сумленне...—
У час Цікаўны адышоў,
бо пазнаёміўся б з каменнем...

Ідуць далей і бачаць зноў
не менш цікавую прыгоду:
стаіць, падпершы тын плячом,
якісьці дзядзя ля гароду.

— Гнілое ты не падпірай,
яно заваліцца ўсё роўна.
Ідзі здаровае ствара́й,
дапамагай тварыць здаровым...

Ідуць, ідуць. З усіх старон
ім кветкі сцелюцца пад ногі.
Аж чуюць нейкі дзікі стогн
за хвоямі, каля дарогі.

Бліжэй падходзяць — чалавек
сядзіць на камені, галосіць:
— Няўжо сядзець мне цэлы век,
няўжо цяпер ужо не досыць?..

— Сядзець табе да тых часін,
пакуль ты не палюбіш працу.
Гультай ты ў свеце не адзін,
за розум трэба ўсім вам брацца.

Ідуць, ідуць. З усіх старон
пад ногі сцелюцца ім краскі.
І нават вецер уздагон —
з замілаванасцю і ласкай.

А вось і вёска. Ўвесь народ
вітае іх і дзень прыгожы.
— Што значыць студня? Дно і дно?
— Што скажаш нам пра падарожжа?

— Які парадак там ідзе?
— Не чуў, зямлі нам не прырэжуць?
...Адзін пытае пра людзей,
другі цікавіцца пра ежу...

Спярша яны віталі ўсіх,—
і Мілавіца, і Цікаўны.
Народ, чакаючы, заціх,
спыніўся гоман прывітальны.

Цікаўны стаў апавядаць
пра падарожжа і падзеі,
у чым дабро, у чым бяда
і як ажыццявіць надзеі:

— Жывуць у сонца, як і ў нас,
будынак вельмі стройны толькі.
Здаецца, ці не лепшы квас,
усе каровы — перадойкі.
Гарэлкі там зусім няма,
вады, бадай, як і усюды.

У дарозе хлеб не пазычаў,
яшчэ тут хопіць на палудзень.
Пабачыў шмат цікавых з'яў,
якіх, прызнацца, не чакаў.

Перад усім скажу я вам
пра студню і ваду жывую.

Каб нас не выпусціць з ярма,
ён абамкнуў і студню тую.

Праб'ём мядзянае мы дно —
вада жывая край напоіць.
Пазбудземся мы ад паноў,
прабіўшы срэбнае, другое.

Калі прыдасца збіць ушчэнт
дно залатое,— згіне крыўда.
Увесь народ, увесь сусвет
да панавання самі прыйдуць.

Паноў не будзе над людзьмі,
не будзе здзеку над народам.
Ніколі хмара не зацьміць,
як сонца яснага, свабоду.

Па праўдзе будуць людзі ўсе
не панаваць, а гаспадарыць.
І свет шырокі, вольны свет
найлепшыя ўсе здзейсніць мары...

Пайшоў Цікаўны па зямлі,
апавядаючы пра тое.
Натхненне ў сэрцы людцам ліў,
каб знішчылі дно залатое.

А з ім ідзе рука ў руку,
дачка з ім Сонца — Мілавіца.
І будуць так ісці,— пакуль
іх Слова не ажыццявіцца».

. . . . . . . . . . . . . .

За кіламетрам ідзе кіламетр,
грукат хвалюе, ў абоймы бярэ.

Думка імклівіць з мінулых надзей
да пераможных сучасных падзей.

Медзі і срэбра у студні няма,
дно залатое мы будзем ламаць.

Дно залатое мы знішчым ушчэнт,—
згіне паноў ненавісных і след.

Казкі ў мінулым — сапраўднасць цяпер,
грукат хвалюе, ў абоймы бярэ.

За кіламетрам ідзі, кіламетр!
Дно залатое мы знішчым ушчэнт!

. . . . . . . . . . . . . . . .

Струны! Рыдайце у ладзе мінорным,
памяць зайграйце далёкім, далёкім.
Вобмацкам сцежку шукалі учора,
сцежку шукалі да шчасця навокал...

Струны! Рыдайце, цымбальныя струны,
сэрца заходзіцца з цяжкага жалю.
Выпілі продкі свой воцатны трунак,
шчасця не бачылі, не дачакалі...

Струны! Рыдайце ў размахах магутных,
сэрца сціскайце і катуйце жорстка.
Выплакаць трэба аднойчы ўвесь смутак,
ветрам развеяць жалобы пялёсткі.

Струны! Ўзвівайце акорды шырока,
як навальніца над пушчаю, полем,

каб у рыданнях паветрыўся рокат
непераможнае нашае волі.

Струны! Рыдайце у ладзе мінорным...
Струны! Рыдайце ў размахах магутных...
Струны! Нагадвайце нам пра учора...
Струны! Знішчайце бадзёрасцю смутак!

. . . . . . . . . . . . . . .

Раніца. Цудоўныя прасторы...
Паабапал поле і лясы...

Павяваюць сілай супакойнай
успаветраныя галасы.

Хвоі ў цьмяных, нез'іначных шатах,
у барвовасці бярозы ўсе.
Быццам сёння неякае свята:
гэта восень свята нам нясе.

Новыя і новыя прасторы...
Паабапал поле і лясы...
Павяваюць сілай супакойнай
успаветраныя галасы.

Смалявічы вось прагрукаталі,
а Калодзішчы ўжо на чарзе.
Наш цягнік па пругкай, гонкай сталі,
калыхаючыся, ўсё ідзе...

Зараз Мінск з-за лесу прывітае,
горда ўстроміўшы свае муры...
А чаго ж ты, сэрца, заміраеш,
а чаго ж ты, сэрцайка, гарыш?

Калі ўзяць каханне з маіх вершаў
і найлепшае ўсё з іх узяць, —
гэта будзе толькі крок мой першы
пра цябе жаданае сказаць.

Летуценні многіх міліёнаў
і змаганне ўпартае вякоў —
Мінск акрэсліў і краінай вольнай
Беларусь да росквіту павёў.

А жыццё, жыццё закрасавала,
закрасуе больш яшчэ вакол.
Здзейснена прадвесненне Купалы,
акавіта Коласавых слоў!

Рві паветра, наш цягнік імпэтны,
заміраннем сэрца скалыхні:
за бясконцым гэтым кіламетрам —
Мінск!

. . . . . . . . . . . . . .

Кінеш камень, знікне у вадзе,
а кругі ідуць і заміраюць...
Думка, ты куды ідзеш,
да якога краю?

Ты шукаеш берагоў
у бязмежным моры...
Ты вядзеш мяне ізноў
праз лясы і горы...

Яны будуць, берагі,
як і ўсім на свеце...

Ўзнімуць новыя кругі
над вадою дзеці...

. . . . . . . . . . . . .

Кінеш камень — знікне у вадзе,
а кругі ідуць: малы, найменшы...
Дзе —
горшы, лепшы?

Раніца прыйшла...
Кругі...
Кругі...
Набягаюць, прабягаюць, нікнуць...
Першы... другі...
Ці малы ў вялікім,
ці ў малым вялікі?

Раніца прыйшла...
Кругі...
Кругі...
У жыцці, у думках, на вадзе...
Стромкія берагі...

. . . . . . . . . . . . .

— Добры дзень!

. . . . . . . . . . . . .

Вуліцы шумам спавіты,
нервовасцю й вецер затканы.
Пырснула сонца праменнем
на пліты,
пырснула на брукаваны світак...
І на сонцы ёсць такжа плямы...

Родзіцца ў муках новы дзень.
Шчэрыцца хіжа мінулага сцень,
корчыцца ў муках таксама:
і на Нямізе,
і на Траецкай,
і каля кожнай брамы...

Імкненні, імкненні...
Аўто —
і тое памалу.
Нямізе ж мала камення:
сцены патынкавала.
І памаленьку,
паволі —
на концы.
Імкненне яе малое —
далары,
чырвонцы...

Як пыл падкалёсны
у шчыліне кожнай,
з усмешкаю злоснай
нам зычыць варожасць:

— Вы пашырайце культуру,
стварайце паэмы,
пішыце карціны...
Мы вам з музыкай справім хаўтуры,
мы вам вянкі узложым
на дамавіны...

Як пыл падкалёсны
у шчыліне кожнай,

з усмешкаю злоснай
нам зычыць варожасць:

— Вы разбівайце галовы
ў жалю і крыўдзе за мільёны.
Дурань заўсёды ходзіць голы,
а разумнага ногі кормяць...

Мінск, Мінск!
Твае заводы —
больш на карыкатуры падобны.
Але ты расцвіцеш,
але ты станеш
сапраўдным горадам!

Мінск, Мінск!
Тады будуць заводы другія,
не для сельтэрскай вады
ці піва.
Мы, можа, раней загінем,
але будзем імкнуцца да мэты
напорна,
цярпліва.

Вуліцы шумам спавіты,
нервовасцю й вецер затканы.
Дзень стары ляжа на пліты,
неба нам будзе палітрай,
стагоддзі цяпер экранам!

. . . . . . . . . . . . . . . . .

Перагрупоўка настрояў,
стыляў:

самалёты...
лапці...
галіфэ...
Новае ўсё шырыцца няспынна,
ля касцёла ж —
фэст...

Каля самага ўніверсітэта
адцень:
прыпынілася кабета
і другой варожыць
па руцэ...

Рытмы, вобразы:
канец...
пачатак...
Адышоў адзін,
другі прыйшоў...
Песні класікаў прымалі так жа,
як нервовасць
ломаных
радкоў...

. . . . . . . . . . . . .

Цераз даліны і палі ішоў
ад бору ў Мінск паволі вечар.
І калыхаўся за плячыма шоўк,
ліловасцю аздобіў плечы.

Хваёвая смала ў руках і кмін
і папараці ліст пажоўклы.
Узвеяў лісцінай — і пацяклі
над вуліцамі мроі зёлак.

Ішоў за імі сон і супакой
для струджаных у шуме бруку.
Ў задуме вечар глянуў навакол,
над горадам узнёсшы рукі.

Расла напорнасць, павадка расла,
у хвалях разліваўся рокат.
Здавалася, ад рокату раса
ільсніцца з-над званіц барока.

І самацветы, дыяменты слёз,
і сэрцаў радасць і трывогі,—
ляжалі скрозь, рассыпаліся скрозь:
над галавой і паўз дарогі.

Ў задуме вечар перайшоў далей:
на Замчышча цераз Нямігу.
Ў слядах яго ўсё водарыў алей
смалы хваёвае і кміну.

Над Мінскам лёг на стрэхі каменіц,
успёршы галаву на локаць.
А Мінск шуміць, а Мінск шуміць,
пакуль не прыйдзе ноч здалёку...

. . . . . . . . . . . . . . . . .

Ноч прыйшла. Змаўкаюць камяніцы.
Ноч прыйшла. Не моўкнуць думак плыні.
Будзе вечар да зямлі туліцца
ў сваёй вопратцы лілова-сіняй.

Мінск, абуджаны нервовай хваляй,
зварухнецца раптам на хвіліну.

Зноў яго хвіліны ўкалыхалі,
ноч над горадам свой стан схіліла...

. . . . . . . . . . . . .

Такая ноч... Прастор заціх...
Такая ноч...
А верасень —
лісцё тугой пазалаціў
і жменяю — па верасе...

Ды выйду ж я...
Такая ноч!
Ды гляну ж я...
Жыццё маё!
Хвілін такіх не меў даўно...
Прадонне шыза-цёмнае...

Туга тузе... Ды выйду ж я!
Туга ў тузе...
Ды й лёгка так!
Маўчы, душа... Засні, душа...
А восень ходзіць з лёскатам.

Ідзе яна... Туга тузе...
Ідзе яна...
Узрочыста...
А смутак з хмар на дол паўзе,
ў ліловых сценях корчыцца.

Такая ноч... Ідзе яна...
Такая ноч...
А верасень —

лісцё тугой пазалаціў
і жменяю — па верасе...

. . . . . . . . . . . . . . . . . .

Я успомніў пра дзяўчыну тую —
што мне ліст прыслала з запытаннем.
Зноў дзяўчыніну размову чую,
думкі зноў калішнія паўсталі:

«Чаму у песнях вашых нестае
адной маленькай справы, чалавека?
Хіба пачуцці ўсе яго, мае
Не закранаюць вашыя павекі?..»

Запытанні, вобразы, трывогу
памяць замыкае ў сваё кола.
У адказ скажу зусім нямнога
гэтай жорсткай, ласкавай і кволай.

## ЛІСТ

*Таварыш Наругавічанка!*
*Вам*
*удзячны вельмі я за спогад мілы.*
*Прыйшоў ваш ліст тады, калі Масква*
*на адпачынак лета правадзіла.*

*Настрой, вы кажаце, у вас благі?*
*Прызнацца, мой ад вашага не лепшы.*
*Пісаў паэму новую — «Кругі»*
*і крэсліў раз па дваццаць вершы.*

Чаму? — Усё ад вашага ліста,
ад вашай праўды шчырай, але горкай.
Ен, як былiначку, мяне хістаў
сваёй дасціпнаю гаворкай...

Не ведаю, як толькі перамог
сябе самога ў гэтай справе...
Калі радок апошні лёг,
я з радасцю і кропку ля яго паставіў.

У звязку з тэмай казкі праглядаў.
І, ведаеце, вельмі задаволен.
Такія перлы ёсць між іх!
Бяда,
што новыя друкуюцца паволі...

Адну знайшоў, дык проста смех забраў.
Музыка ў ёй героем быў цэнтральным.
Прайграў жыццё, не бачыўшы дабра,
пасля — сканаў акордам развітальным.

Па смерці пачапіў цымбалы ён,
ды на той свет пайшоў сабе памалу.
(Адзін пясняр, не так яшчэ даўно,
авансам пляцу там узяў кавалак.)

Прыйшоў.
Іграў, іграў,
пакуль
не ўквяліў галоўнага там «чына».
І вось яго —
за карак, за руку:
— Ідзі, адкуль прыйшоў, хлапчына!

*Ляцеў з цымбаламі музыка ўніз,*
*пашэнціла за хмару зачапіцца.*
*З тае пары між неба і зямлі*
*вісіць і грае ў часе навальніцы.*

*Ды шмат яшчэ!*
*Бяда вось толькі ў чым:*
*я не люблю «туманных алегорый».*
*За сімваламі рознымі сачыць —*
*ды гэта, трэба ведаць,*
*проста гора.*

*Цяпер, як роднай, абяцаю вам:*
*ніякіх сімвалаў, ніякіх алегорый.*
*Калі я новае у друк што дам,—*
*сапраўдны чалавек там загаворыць.*

*Каб слова добрае і вам дапамагло*
*і ўсім у працы шчырай і адданай.*
*Каб, як на хвалі гонкае вясло,*
*вяло наш човен праз туманы.*

*Павінна быць і будзе так якраз.*
*Заўвагі вашы трапныя — да толку.*
*Жадае шчасця светлага для вас,*
*вітаючы сардэчна вас,*

*Дубоўка.*

. . . . . . . . . . . . . . . . .

Дрэвы ў канфеці гуляюць з ветрам,
ля Нямігі дзесь рыдае лера.

Надыходзіць восень непрыкметна,
з ёю верасень за кавалера.

Журавы на поўдзень мілі мераць,
ледзьве чутна кашляюць з аддалі.
Ах вы, люмпен-крылыя стварэнні,
можа, вы хварэеце ад жалю?

Вечар ціхі. Гусі у прасторы
развітальнае пяюць сталіцы.
З ліквідатарскім такім настроем
не магу ніяк я пагадзіцца.

Затрымаўся ля паштовай скрынкі:
нехта свой спяшаўся ліст укінуць.
Да паспешнасці мы нек прывыклі,
ашчаджаем кожную хвіліну.

А як пройдзем цераз гэта поле,
што жыццём усе мы з вамі клічам,
як паглянем стала, супакойна
ды нязробленае ўсё падлічым,—

дык і выйдзе: марная трывога,
ні да чога быў увесь наш клопат.
Будзе вечна гэта торная дарога
слухаць новы, новы рокат...

А патомкі хай нас не асудзяць:
што маглі і як мага рабілі.
Уздыхалі для Айчыны грудзі
ці у песні, ці ў надрыўным сквіле.

Здзейсняцца ўсе нашы летуценні,
знішчыць чалавек прыгоны ў свеце.
Ідучы па шчасце пакаленням,
вы кажыце ўсім:
— Далей ідзеце!

*12—27. X. 1927*

## І ПУРПУРОВЫХ ВЕТРАЗЕЙ УЗВІВЫ...

Ідзі часінай добраю у людзі
ты, вынік дум і творчага гарэння.
Адзін усцешыцца, другі асудзіць,
і той і той з цікавасцю сустрэне.

Табе не даў я рыфмы мілагучнай,—
ідзі, мой твор, кунегай апавіты.
Цябе без рыфмы думка добра лучыць,
шукаючы для духа акавіты.

Клапоцяцца на свеце больш аб шлунку,
яго капрызы — дыктатура проста.
І стравы разнастайнага гатунку
мы на спатканне маем і на ростань.

А дух трымаем на галоднай норме,
а дух скарынкай эпігоннай сыты.
Яго суседзі, мабыць, не накормяць,
затым патрэбна духу акавіта.

Не знойдзе містыкі у гэтым крытык,
хоць дзе-які і будзе клапаціцца.

Калі чамусьці выйсце і закрыта,—
шукае выйсця творчая крыніца.

Будзі шуканні новага у стылі,
пакліч на спрэчкі думнае грамадства,
каб на здабытках даўніх не застылі,
каб не засцюжылі у іх мастацтва.

Занадта ціха стала на Парнасе
у сэнсе творчасці і дасягненняў.
Сядзяць у эпігоннай апранасе
прадстаўнікі абодвух пакаленняў.

Пакуль дайшлі — прытупаліся крышку.
Няхай у добры час адпачываюць!
Не трэба нам спыняцца у зацішку,
бо ў далі думка нас вядзе жывая.

Мае сябры, супольнікі у працы,
штурмуйце будучыні аванпосты!
Мы звыклі перашкодаў не баяцца,—
яны спрыяюць нашаму узросту.

У час нялёгкі выйшлі мы ў дарогу,
кагорту нашу ксцілі навальніцы.
Байкушы розныя ўздымалі скогат,—
імкнуліся прымусіць нас спыніцца.

А мы ішлі з імпэтам віратлівым,
а мы ішлі няспынна і упарта.
І пурпуровых ветразей узвівы
трымалі курс на сонечнае заўтра.

З нас кожны рэвалюцыяй праняты,
кладзём шляхі да новых дасягненняў.
Узвышшы высім з пралетарыятам,
здзяйсняючы квяцістыя імкненні.

. . . . . . . . . . . . . . . .

Ідзі часінай добраю у людзі
ты, вынік дум і творчага гарэння.
Магчыма, хто цябе там і асудзіць
ці вывіх адшукае ў летуценнях...

Ад вывіхаў цябе я застрахую
замовай добрай, можа дапаможа...
У інтрадукцыі замову надрукую,
каб беспячней было у падарожжы.

Замова ад суставных звіхаў
і ад несуставных вывіхаў
(каб памагла напэўна —
трэба прачытаць адным духам)

На моры, на лука-моры,
на моры, на акіяне
ёсць выспа, на выспе горы,
на горах вялікі камень.
Каралі на бераг прыносілі хвалі,
ў каралі і звіхі і гора хавалі,
каб гора ляжала,
пятрэла на скалах,
у свет не хадзіла,
людзей не звадзіла,
ляжала б высока,
сохла.
На выспе стаіць святліца,
ў святліцы жыве Дзявіца.

Хадзіла яна ў дубровы
ірваці травы шаўковай.
На звіх прыкладала, памогі давала,
каб звіх адкаснуўся на стромкія скалы,
каб гора ляжала,
пятрэла на скалах,
у свет не хадзіла,
людзей не звадзіла,
ляжала б высока,
сохла.
Скаціўся той звіх на камень,
няхай ён адтуль не ўстане,
няхай ён далёка едзе,
няхай ён загразне недзе.
Як вёз яго жук па калінавым мосце,
той мост праламіўся, пад мост ягамосці.
І жук утапіўся,
і звіх той заліўся,
у свет больш не пойдзе
ні ў якай прыгодзе,
ляжыць дзесь глыбока,
мокне.
Травіцаю звіх каралі,
ўвагналі яго ў каралі.
На месца суставы сталі,
а звіх пакаціўся ў хвалі.
Каралі на бераг прыносілі хвалі,
ў каралі і звіхі і гора хавалі,
каб гора ляжала,
пятрэла на скалах,
у свет не хадзіла,
людзей не звадзіла,
ляжала б высока,
сохла.

. . . . . . . . . . . . . . . .

Цяпер ніякіх вывіхаў да скону.
Замоўкні, аўтар, хай ідуць героі.

. . . . . . . . . . . . . . . .

Ліловая ссуваецца заслона,
на сцэне нашых дзён гавораць двое.

Лірык

У нашы дні і радасці і гора,
у нашы дні руін і будаўніцтва
часінай хочацца мне адпачынку
для сэрца струджанага і для нерваў.
На думку прыйдзе: кінуць хоць на тыдзень
і гарады і ўвесь штодзённы клопат,
узяць пайсці вандроўным бесхацінцам
па тых шляхах і крыжавых дарогах.
Паслухаць гоманы людскога мора,
разгневанага мора-акіяну...
Пазнаць тугу бяскрайнюю ў дарозе,
пабачыць шчасце без парфумы хцівай...
У нашы дні...

Матэматык

Дзівак ты ці рамантык,
мой дружа любы, гэта вельмі ясна.
У нашы дні руін і будаўніцтва
ты руйнаваць і будаваць павінен,
а не бадзяцца нейкім дзеньдзівірам.

Лірык

У нашы дні і радасці і гора
патрэбны дойліды і дзеньдзівіры.
Аднолькава іх права на паветра
ды і на сонца такжа...

Матэматык

Ты .разводзіш
крамолу нейкую і два ухілы!
Змагацца трэба з вамі... Ты не чуеш?!
Чаго глядзіш так пільна ты на Захад?
Ці сонца вокам думаеш спыніць?
Яно з-за лесу водбліскам крывавым
варожыць новы дзень, дзівосны дзень,
такі ж трывожны для цябе, як сёння.

Лірык

Угледзься, браце мой, у след яго!
Навокал глянь... Што дзеецца навокал!
Здаецца мне, над лесам праплываюць
у край нязнаны ціха караблі.
І пурпуровых ветразей узвівы —
то дух тужлівы ўкрыжаваны мой,
тужлівы дух і жальба...

Матэматык

Годзе, годзе!
Жані тугу на шчырыя бары,
а калі ў ветразі ўвайшла — дык добра:
не вернуцца ніколі караблі.
Ды гэта лірыка мне не да смаку:
у нашы дні руін і будаўніцтва,
і дыктатуры пралетарыяту
патрэбны нам паэты-змагары,—
не ліквідатары, не смутнагляды.

Л і р ы к

...Я запалю агнём свае імкненні,
я запалю жаданні і надзеі,
і пурпуровых ветразей узвівы
мяне над краем любым пранясуць.
Натхняючы прыдушаных пакутай,
бальзам на вусны смаглыя паклаўшы,
ад твараў стружданых тугу і смутак
я аджану і на палёх рассыплю,
пра радасць новыя навею песні,
а сам...

М а т э м а т ы к

А сам?

Л і р ы к

...З тугою і загіну,
бо мне прыемна з ёй, хоць дзіка-страшна...
І караблі праходзяць па-над лесам,
каб зноў вярнуцца заўтра раніцою,
каб зноў пабачыў я цяжар дзівосны
і пурпуровых ветразей узвівы...

М а т э м а т ы к

Дзівосна так... І ты дзівак, мой браце!
Якое ліха дзеецца з табою?
У сэрцы у тваім і непакою
і панікёрства нейкага занадта...
Ты адыходзіш ад жыцця, змагання,
ты хутка станеш ворагам працоўных
і дыктатуры пралетарыяту.

Ты — шкодны тып! Наколькі я кахаю —
цябе настолькі скора зненавіджу!

### Лірык

У кожным сэрцы рознае бывае,
бывае дрэннае у ім таксама.
Заўжды шукаем хібы мы ў суседзяў.
А як паглянем на свае учынкі,
а як прагледзім зробленае намі,
дык і не вельмі радасці багата...
Затым мяне і не трывожаць дужа
тваё упікі і твае асуды.
Народ наш ведае даўно пра гэта,
і свайго сына ён не занядбае.
Вось ты паслухай толькі, што гавораць
дзяды сівыя пра вянец прыроды.

### Народнае апавяданне пра тое, як бог тварыў людзіну і як чорт сапсаваў усю гэтую работу

Бог, калі тварыў Палессе,
з гліны вылепіў людзіну
і на сонейку павесіў,
каб ямчэй падсохла гліна.

Не паспеў ён адысціся,
адпачыць, ці што якое,
як аднекуль чорт-нячысцік
тут з'явіўся ў непакоі.

Абышоў навокал твора,
і памацаў, і панюхаў:
не смяецца, не гаворыць,
не шманае цаца вухам.

Форма голая пятрэе,
як мастацтва для мастацтва.
— Бог, няйначай, тут дурэе.
Трэба з крытыкаю ўзяцца!

Сапраўды, ядроны шышкі,
а дзе змест у форме гэтай?
Хіба мала мае жыжкі
наша любая планета?!

— Мне не трэба,— хай нікому
гэта цаца не прыдасца! —
Напляваў і так старому
апаскудзіў тую працу.

Ён пасля пайшоў у пекла,
ганарар здзіраць за ўчынак.
Бог, тым часам меўшы пекны
і прыемны адпачынак,

з лесу сунецца памалу,
напявае «Баядэрку».
Каму што, а богу хвала,
на яе ж не зробяць мерку...

Бачыць — чорт хвастом накрыўся
і падаўся у балота.
— От, сварыся не сварыся —
не адвучыш шкодзіць чорта.

Пэўна нешта зблоціў недзе,
вось праклятая байкуша!
Лепш глядзеў бы, як смоўж едзе,
ці на вербе рваў ігрушы.

Падыходзіць да людзіны.
— А, каб ты затануў лепей!
Памясіў бы, ўража, гліны,
паляпіў бы, як вось лепяць!..

Але дзе ты зловіш чорта;
пэўна, недзе жлукціць піва...
Так не кінуў бог работы,
пачынае зноў цярпліва.

Хоць вазьмі ляпі нанова:
дрэнь з усіх бакоў абліпла.
Шкода! Зроблена ж аснова
і на сонцы сохне сціпла.

Не спыняцца ў полі богу.
А было перад нядзеляй.
Каб не думаць вельмі доўга,
каб суседзі не гудзелі,—

ён узяў свой тонкі выраб
і, перавярнуўшы наніц,
захаваў у людскай глыбі
тую чортаву ўсю памяць.

Выгляд звонку стаў нядрэнны.
Што ж ля сэрца — ліха знае...
У жыцці мы больш дарэмна
сэрца чыстага шукаем...

## Матэматык

Не ведаю, ці больш цябе шкадую,
ці больш сярдзіты на цябе, мой дружа.
Ты не шукаеш вобразаў рэальных,
даступных і карысных у змаганні.
Замест таго забраўся ў чартаўшчыну
і выцягаеш барахло старое.
У нашы дні руін і будаўніцтва
паэт на фронце антырэлігійным
павінен быць, а не бадзяцца недзе
па балатах Палескіх і выгарах.

Лірык

Цудоўны скарб у творчасці народнай
для нас сабраны мудрымі дзядамі.
Яго адкінуць — значыць без пашаны
паставіцца да продкаў працавітых.

Матэматык

Пара адмовіцца табе ад баек,
ад гэтай дробнабуржуазнай твані.
Павінны мы тварыць на грунце новым
сучаснае мастацтва для працоўных.

Лірык

Тварыць зусім нанова, ці узяўшы
што-кольвек і ад даўніх дасягненняў?

Матэматык

Няма памылкі у маім сцвярджэнні!
Пра спадчыну культуры буржуазнай
даволі сказана і зразумела.
Але якое маюць дачыненне
да гэтай спадчыны твае ўсе казкі,—
не ведаю і, больш таго, не разумею...

Лірык

Усё, што створана вяльможным панствам,
што створана культурай буржуазнай,
ты дазваляеш карыстаць паэту?
А тое, што тварыў народ пакутны,
тварыў у полі пры цяжкой рабоце,
калі на гэных творцаў буржуазных

ён ліў свой пот і сваю кроў, народ наш,—
ты адкідаеш словам рызыкоўным?!
Які страшэнны нонсэнс і абраза!

Матэматык

Дарэмна ты пакрыўдзіўся на праўду.
Табе даволі поркацца ў старызне!
У нашы дні руін і будаўніцтва,
і электрычнасці, і фізкультуры
ты мусіш ведаць гэтыя законы,
няўхільныя, як заўтра і сягоння.

Лірык

Ты можаш лаяцца усім, чым хочаш,
але майго не зменіш пракanання.
Не веру я, што панская выгадка
перад сярмяжнай мае перавагу.
Пакуль не маем мы уласных скарбаў,
павінны выбраць вартае увагі.
Мая увага выбірае тое,
што створана працоўнаю сям'ёю.

Матэматык

З тваёй упартасці смяяцца трэба.
У гэтым бачу вынік шавінізму
і бачу тормаз развіцця культуры.

Лірык

Ты уважаеш, што культура ходзіць
у портках ката слаўнае Камуны
Парыжскае, у портках Галіфэ?
Або у марынарцы ходзіць Фрэнча,

другога ката, ката нашых дзён?
Не веру я у гэткія акрасы:
я ненавіджу іх, змагацца буду!
І у імя змагання з рознай тванню
вось гэтае шляхетнае культуры —
я лепш вазьму акрасы Беларусі...

Матэматык

Пакінем лепш! А то далёка вельмі
закоцімся мы з гутаркаю гэтай!
Не згодзен я з табой, а ты са мной,
заўсёды супраць буду я...

Лірык

А шкода!
Каб ты не пырскаў так на нашу творчасць,
сказаў бы шмат прыгожага табе.
На стромкую гару цябе узвёў бы,
адтуль ты ўбачыў бы зіхценне перлаў,
праменне самацветаў незлічоных
і глыбіню народнае душы.
Ты паглядзеў бы на зіхценне гэна,
ты, як Тамаш няверны, дакрануўся б
да гэных скарбаў — так яны рэальны.
Але дарэмна гавару з табою...
Пазнаў ты «двойчы два» і тым здаволен.
Вітаю вас!

Матэматык

Чаго ты расхадзіўся?
Хіба пазбаўлен я правоў звычайных
і выказаць не волен думкі смелай?

Як птушка вольная, я узлятаю
у будучыню крозаю сваёю!
Сядзі з сваім браснелым барахлом,
з сваімі скарбамі тых самацветаў;
ад іх не горача, не зімна мне.
Ты разумееш? Я без іх шчаслівы!
Карысці з іх не бачу. Вось як!

Лірык

Вось як?
Хацеў бы расказаць табе я казку,
але і сам не ведаю, як лепей...
Бо вельмі добрую згадаў я казку,
яна якраз да гэтага выпадку.

Матэматык

Усё ў цябе будуецца з выпадкаў.
Выпадкі — проста нейкая хвароба.
Імкніся лепш канкрэтнае суладзіць,
бо на выпадках будучыня вяне...

Лірык

Ды ты паслухай лепш, пасля сварыся!
Магчыма так, але усё ж вастрыся
я расказаць пра дзіўнае здарэнне.
Калі зусім не да спадобы будзе —
прашу спыніць тады сваёй развагай.

## Народнае апавяданне пра тое, як адзін Крыкса скардзіўся на крыўду

Залатая апаяска,
ў апаясцы перлы, лалы...

У страях прыгожых казка
ходзіць, грае у цымбалы.

Хто вясёлы — смуткам дорыць,
хто ў тузе — надорыць ласкай.
І смяецца, і гаворыць
у страях прыгожых казка.

Самацветы ўночы свецяць,
сцежка выткана праменнем.
Нехта сочыць праўду ў свеце,
каб увіць у летуценні...

Ён прайшоў краін нямала,
ён, Цікаўны, [redacted] сонцу крочыць.
Казка грае у цымбалы,
разганяе цемру ночы.

Вось ідзе праз лес Цікаўны,
чуе знекуль немы лямант.
Ці то злева, ці то справа
хата высіцца за брамай.

Падыходзіць. Тая хата,
як стадола ці казарма.
Нехта ў ёй крычыць заўзята,
па усім відаць, што дарма.

— Ой, ратуйце, людцы, цесна!
Ой, ратуйце, гвалт, загіну! —
Узышоў Цікаўны з весніц,
глянуў скоса на хаціну.

Што за ліха! Гэткі скогат
адзін Крыкса толькі справіў.
Мабыць вые з-за нічога.
Дай жа раду ў гэткай справе!

Цікаўны

Слухай, Крыкса! Хто парушыў
твой спакой і тваё права?

Ці якія, скажам, душы,
ці які прывід крывавы?

Крыкса

Ой, ратуйце! Цесна вельмі!
Дайце ўзлёту і прасторы!

Цікаўны

Як язык твой толькі меліць?!
«Бедны» Крыкса! Вось дык гора!

Ты братоў усіх распудзіў
гартаваным скавытаннем.
На цябе смяюцца людзі.
Што рабіцьмеш, вось пытанне!

Зарасце травой дварышча
і дарога баравая.
Хочаш — плачаш, хочаш — свішчаш,
табе й хату даравалі.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Неспыняная зявайла
усё скардзіцца, што цесна.
Плюнуў і пайшоў памалу
наш Цікаўны з гэных весніц.

— Ліха ведае,— гаворыць,—
свет такі шырокі здэцца,
а вось на — няма прасторы,
і няма дзе Крыксам дзецца...

Зноў праз лес ідзе Цікаўны,
шчэ лунае немы лямант.
Ці то злева, ці то справа
замест гэнай хаты — пляма.

Наш Цікаўны к сонцу крочыць,
яшчэ трэ ісці нямала...
Разганяе цемру ночы
казка, граючы ў цымбалы.

Самацветы ўночы свецяць,
сцежка выткана праменнем.
Ён шукае праўды ў свеце,
каб увіць у летуценні...

Хто шукае — той знаходзіць,
хто пытае — той не блудзіць,—
так суладжана ў народзе,
навучаюцца так людзі.

І пра гэта ўсё гаворыць
у страях прыгожых казка.
Хто вясёлы — смуткам дорыць,
хто ў тузе — надорыць ласкай.

У страях прыгожых казка
ходзіць, грае у цымбалы.
Залатая апаяска,
ў апаясцы перлы, лалы...

## Матэматык

Каго і што ты маеш на увазе
у гэтай казцы? Можа мне адкажаш?
Занадта рызыкоўна ты узяўся
каля мяне са скарбамі сваімі!
Ці не стварыў ты, часам, сам яе,
пасля каб спекульнуць «народнай» назвай?!

## Лірык

Вазьмі, на ласку, зборнік нашых казак,
сабраны слаўным дзедам Сержпутоўскім,
і ў гэтым зборніку адразу знойдзеш
ты гэту казку, ясную, як зоры.
Каго народ у казцы той выводзіць,—
не ведаю, бадай усіх патроху.

Калі ўдасца быць мне на Палессі,
я запытаюся і напішу.

Матэматык

Якую цноту ты тут прадстаўляеш!
Знайшоў сабе і абарону нават:
«У Сержпутоўскага чытай!» І Шэйна
за хвост прыцягнеш... Кінь такія жарты!
Яны, напэўна, шкодзіць неяк могуць.

Лірык

І сам не ўцяміў добра, а гаворыш.
«Яны нам шкодзіць могуць»! Чым жа шкодзіць?
Якая шкода можа з іх адбыцца?
Узяў ты моду гаварыць насупраць,
як той казаў: «Дуду ты як надзьмеш,
яна іграе гэтак»...

Матэматык

На табе!
Ужо дуда якаясь выплывае!
А зараз ракам пойдуць дударцы...
Няма чаго казаць,— удаўся лірык!

Лірык

Табе бяда вялікая! Хай ходзяць!
А, зрэшты, чым жа дрэнна, што ў народзе
ёсць прыказкі на розныя здарэнні?
Вазьмі дай запытанне мне на спробу,
і я знайду ў адказ апавяданне.

Матэматык

Ты хочаш ухіліцца ад адказу,
схаваўшыся за прыказкі і байкі?
Замест таго, каб высветліць пытанне,
ты нейкую заводзіш «віктарыну»?!
Ну што ж... Падобна гэта на задачу —
«плюс — мінус, ігрэк — ікс» і ўсё такое...
Магу табе прапанаваць пытанне:
няхай сабе жыве і «віктарына»...

Лірык

Калі не «віктарына», дык «віктося».
У кожным разе — клічнік з запытаннем.

Матэматык

Скажы ты мне... Пра што б тут запытацца?
Пра смешнае не варта, мабыць, сёння.
Ізноў ты пусціш нешта з падкавыркай.
Скажы ты лепш пра слёзы. Плакаць можна
і смеючыся нават...

Лірык

Слёзы, слёзы...
Ліецца многа вас на свеце нашым,
і днём, і ўночы, і у шэрым змроку.
Ліецца з воч і чорных, і блакітных...
Вы глыбінёй мінулі акіяны,
вы палкасцю мінулі сонца косы,
цяжэй саміх сябе вы незраўнана...
Каб вас з'яднаць калі, сусвету слёзы,
дык на зямлі патоп другі пачаўся б.

У глыбіні і горкай і празрыстай
вы утапілі б, слёзы, назаўсёды
усіх прахвостаў, здзірцаў, ашуканцаў,
накрыўшы іх і горам і нядоляй...
Сваёю палкасцю, сваёй нялюдскай
вы растапілі б лёд на канцавоссях,
лядоўню гэту нашага сусвету...
Каменныя вы сэрцы растапілі б
у катаў прошлых, ёсцьных і наступных
сваёю палкасцю, сваёй нялюдскай...
Каб вас з'яднаць калі... О слёзы, слёзы...
Ліецца многа вас на свеце нашым
і днём, і ўночы, і у шэрым змроку.
Сабраць у акіяны вас не ўдасца,
не ўдасца змыць усю брыду ад сэрцаў,
якая ў сэрцы пала на Палессі...
Дык ты прасіў сказаць табе пра слёзы?
Табе пра слёзы зараз раскажу я!

### Народнае апавяданне пра слёзы

У адной на свеце маці
узяла дачка памерла.
Слёз у маці — не стрымаці,
слёзы буйныя, як перлы.

Гора матчына цяжкое,
не ўтаймуецца спагадай.
Не знаходзіць супакою,
пахаваўшы сваю радасць.

Прабавалі ўсцішыць людзі:
«Хіба плачам вернеш страту?»
Жаль вялікі сцісне грудзі,
сцісне сэрца ён, пракляты...

Несціхана плача маці
па сваёй дачцэ памерлай.
Слёз у маці — не стрымаці,
слёзы буйныя, як перлы.

Так было, пакуль аднойчы
сон не сніла маці тая.
І у змроку, і уночы
сны ў павекі прылятаюць.

Нешта думаў, нешта сніцца, —
застаецца праўды зерне.
Зашуміць крылом Дзянніца,
да сапраўднасці нас верне...

Сніцца сон старой, што быццам
у царкве на «Ўсе святыя»
давялося ёй маліцца
перад вобразам Марыі.

І маліла і прасіла
маляваныя фігуры,
каб жывым давалі сілы,
а халтуршчыкам — хаўтуры.

Покуль так складала хвалы,
ноч прасцерлася над светам.
У царкве заначавала
гарацешная кабета.

Апаўночы давялося
бачыць розныя дзівосы.
Сталі б кратацца валосы,
каб не скручаныя косы.

Здань ідзе, за ёй другая,
не злічыць і не агледзець...
Тут прыблудная, чужая,
тут і блізкія, суседзі.

Вось ідзе адкрыты чэрап,
ён мазгі нясе ў партфелі.
Свае іклы злосна шчэрыць,
каб яму «асанну» пелі...

Петушок бачком кульгае
на высокіх на абцасах.
Вельмі подленька спявае,
кішкі ззаду, быццам пасак...

Далей — п'яная капэла
едзе, смаліць нешта ў гуслі.
На сабе вязе, аж млее,
іх таркан, надзьмуўшы вусы.

Колькі ўсіх яшчэ было там,
дык дакладна і не ўспомніш:
зварушылася балота,
выплюнула твань сягоння.

Гарацешная старая
нат забылася пра гора:
на пачвар тых пазірае,
не сурочыў бы каторы!

Але вось пайшлі і душы
больш знаёмыя, суседзі...
Не відаць усё дачушкі,
затрымалі, мабыць, недзе...

А тым часам безупынна
праз царкву шнуруюць душы.
Ўрэшце — вось яна, дзяўчына,
белы кужаль апрануўшы.

Маці стала нерухома.
Вусны сцяты. Што ж не клічуць?
Вочы кволяць стан знаёмы
і знаёмае аблічча.

А дачка, маўляў, нямая,
і прымружаны павекі.
На спіне яна трымае
велічэзны цэбар нейкі.

Маці

За чые грахі цяжкія
ты пакутуеш па смерці?
Ці знайшлі іх людзі злыя
ў тваім шчырым, чыстым сэрцы?

А ці ж я слязьмі не мыла
на зямлі твае слядочкі?
Ці ж я бога не маліла,
цябе выправіўшы ўпрочкі?

Хто, не маючы сумлення,
даў табе цяжар вялікі,
аж дрыжаць твае калені...
Як яго, злачынца, клікаць?

Дачка

Гэта, маці мая, маці,—
слёзы ўсе твае сабраны.
Іх вартую, як багацце.
Плач яшчэ...
Бывай...
Дабранач...

. . . . . . . . . . .

Сон як перуном спаліла,
толькі крылле завілося.
Па сваёй дачушцы мілай
маці болей не галосіць.

Матэматык

Дык вось табе і слёзы! Дружа любы!
Каб ты узяў другую форму толькі,—
пацалаваў бы я цябе за тэму...

Якая думка!
Ах, якая думка!
І як жа сапсавана чартаўшчынай!
Вазьмі прыдумай ты для гэтай думкі
сучасную і блізкую нам форму...

Лірык

Прыдумаю, як буду мець магчымасць.
Цяпер мне сумна стала, вельмі сумна,
як быццам сам навекі нешта страціў...

Матэматык

Адкінь ты сум, якую маеш страту!
Глядзі, каб некаму, як слёзы ў сне,
твой сум не стаў прызначанай пакутай.
Падумай толькі добра... Ты не чуеш?
Чаго глядзіш так пільна ты на Захад?
Ці сонца вокам думаеш спыніць?
Яно з-за лесу водбліскам крывавым
варожыць новы дзень, дзівосны дзень,
такі ж трывожны для цябе, як сёння.

Лірык

Угледзься, браце мой, у след яго,
навокал глянь... Што дзеецца навокал!..
Здаецца мне — над лесам праплываюць
у край нязнаны ціха караблі.
І пурпуровых ветразей узвівы —
то дух тужлівы ўкрыжаваны мой,
тужлівы дух і жальба...

Матэматык

Годзе, годзе!
Жані тугу на шчырыя бары,
а калі ў ветразі ўвайшла — дык добра:
не вернуцца ніколі караблі.
Бяры ты прыклад з аўтара, з Дубоўкі,
паслухай, што казаў ён перад намі:
які запал, які настрой бадзёры!
Адкуль ты толькі смутак свой збіраеш?

Лірык

Я слухаў аўтараву ўсю прадмову:
з табою разам выйшлі мы на сцэну.
Прадмовай гэтай аўтар даў настрой мне.
Чаго ж яшчэ ты хочаш?

Матэматык

Ты жартуеш?
Узяў ты, кажаш, свой настрой з прадмовы?
Ну, гэта свінства, так хлусіць нахабна!

Лірык

Давай да аўтара мы пойдзем лепш
і спрэчку нашу вырашым супольна.

Матэматык

А пурпуровых ветразей узвівы
ці прынясуць нас да яго ізноў?

. . . . . . . . . . . . . . . . .

## Дубоўка

Пайшлі шукаць мяне мае героі...
Хіба пра іх я дрэнна клапаціўся? —
Злажыў для іх ад вывіхаў замову,
за ўзор народную замову ўзяўшы...
Яны адзін другога вінавацяць,
прычыны нейкія з'явіліся адразу...
І кожны з іх сябе праўдзівым лічыць
у гэтай спрэчцы, можа і цікавай.
Чакаць?
Мірыць?
Не буду лепш займацца,
а то мае уласныя героі
мяне самога ў нечым звінавацяць.
Няхай ідуць да чытачоў гаварыць,
супольна з імі вырашаюць крыўды...
Няхай нясе іх творчае гарэнне
і пурпуровых ветразей узвівы...

*1929*

# ШТУРМУЙЦЕ БУДУЧЫНІ АВАНПОСТЫ!

*Камбайн*[1]

## ПРАДМОВА

### 1

Яшчэ ў 1926 годзе я задумаў напісаць тры паэмы, у якіх, паводле магчымага, адлюстраваць пераход нашае, пераважна сялянскае краіны да вышэйшых форм жыцця — да калектывізацыі, да індустрыялізацыі.

---

[1] Няспынна шуканне вяло
мяне і вядзе ўсё няспынна.
Не лаўраў шукае чало,
бо больш палыну у краіне...
Не хцівы металевы звон
у далі празрыстыя кліча.
Не тне фіміям уздагон
і дым не хавае аблічча...
А вецер шалёна імкне
ка мне, праз імжу, непагоду
і з сэрца і з думак жане
мяшчанскую слодыч — лагоду.
Дыктуе ў парывах сваіх,
натуе ў шляху дыспаноўку:

У паэме «Кругі» («Узвышша», 1927 г.) дадзена была агульная ўстаноўка на падставе народнае творчасці, што і з'яўляецца самым цікавым. «Знішчыўшы ўладу золата, зруйнаваўшы залатое дно ў студні з жывою вадою, сусвет прыйдзе да шчаслівага жыцця». У паэме «І пурпуровых ветразей узвівы» («Узвышша»,

---

«Каб творчы імпэт не прыціх,
наперад, Ладзімер Дубоўка!
На поўныя грудзі ўдыхай
паветра і свежы мацунак,
кунежацца рытмы няхай,
вянкі завіваюцца з думак!»
Спрадвечную смагу і пал,
імкненне да творчае працы,—
ўсё гэта ў аснову паклаў
лірычных маіх інкрустацый.
Ці добра, ці дрэнна, але
прыйшла ўжо такая часіна,
што з формай старою далей
ісці мне ніяк немагчыма.
Як камень у ціхай вадзе,—
кругі час правёў на паверхні.
І сам ён у далі ідзе,
у начах у цёмных не меркне...
Адзін не чакаў і маўчаў,
а той другараднае ўбачыў.
Наклюнуўся нават скандал,
ды час той ізноў перайначыў.
А сонца ўсё вышай ішло,
над самым было небакраем.
І вось, як вясна цераз шкло,
зальснела паэма другая:
у подыху ветру жывым
узвіў ветразей пурпуровых.
Пайшлі тут адны за адным
упікі, прамовы і словы...
Чаго толькі ў гэтай сяўбе

1929 г.) я даў працяг: як, паводле майго пераканання, павінен адбывацца працэс стварэння нацыянальнай формы да пралетарскага зместу: узяўшы лепшае з народнае творчасці, перапрацаваўшы яго, адкінуўшы непатрэбнае і шкоднае. Фактычна я ў гэтай паэме выступіў супраць сляпога захаплення старой спад-

---

кірунак зайздросны не шырыў!
Адзін сімпатычны суб'ект
і контррэвалюцыю вырыў.
Галоўнае ў ёй мала хто
да гэтага часу і ўбачыў.
Пайшоў я далей пехатой,
пакрыўджаны гэткай удачай...
У гэтай няспыннай хадзе
гартуецца новая форма.
Не рэгістравана нідзе —
яна не пасуецца з нормай.
Паўстала пытанне цяпер
пра назву для новага жанру:
ці назвы старыя цярпець,
ці што-небудзь новае жарнуць?
Паэма, саната, санет —
асадкі мінулага часу!
У новыя ўправіць паэт
сучаснасці нашай акрасу.
У гэтым кірунку далей
пайду праз падзеі, прыгоды.
Не назвы ствараюць людзей,
а людзі іх твораць заўсёды.
«Combine» падыходзіць якраз,
«камбайн» у англійскай вымове.
Зацвердзіць ці выкіне час,
ці створыць яшчэ адмысловей, —
хай будзе, як будзе ямчэй,
раскрыта дакладная мапа.
І покуль мы жывы яшчэ,
наперад да новых этапаў!

чынай у імя спадчыны, супраць безрахубнага скарыстання яе, запрапанаваўшы замест гэтага крытычную пераацэнку каштоўнасцей.

На вялікі жаль, усё гэта было вытлумачана крыва, вытлумачана так, як гэтага хацелася некаторым крытыкам, што і выклікала мой пратэст у друку.

Новы твор — «Штурмуйце будучыні аванпосты!» — дае паасобныя моманты з нашага пераходнага кругабегу, пераходнага да гэтых вышэйшых форм — да калектывізацыі. І, як сказана вышэй, завяршае задуманы мною цыкл.

Жанравае азначэнне — «камбайн» — узята для гэтага твора таксама невыпадкова: старыя назвы для ягонае кампазіцыі не падыходзяць. «Не назвы ствараюць людзей, а людзі іх твораць заўсёды».

2

Некаторыя пачнуць шукаць: «А хто такі пасажыр? А хто такі чорт? А хто такі...» Будуць прышпіляць мне тое, пра што я не думаў, зробяць мяне вінаватым за пасажыра, за чорта, за д'ябла. Павінен папярэдзіць затым, што ў кожным творы можа быць не пара, а сотня і больш герояў. Паэт адказвае за тое, ці па-мастацку яны пададзены, і адказвае за агульную ўстаноўку,— ці ўвязана яна з задачамі нашага жыцця. Агульная ўстаноўка вельмі трапна дадзена вуснамі аўтара:

...Мае сябры! Вітайце гэту рату!
Мінулае зайздросціць нам, сучасным.
Узвышшы высім з пралетарыятам,
і наша мэта ў даляглядзе ясным.

Сячэце ў камені трывалыя усходы,
да яснай мэты шлях кладзеце просты.
Нягледзячы на хібы, перашкоды,—
Штурмуйце будучыні аванпосты!

Зусім зразумела, што аўтар не мог застацца нейтральным у такой адказнай частцы, як пытанне пра калектывізацыю. Было б страшна наіўна, каб я напісаў, што гэтае пытанне праходзіць без спрэчак, без супрацьдзей. Яшчэ больш наіўна было б, каб хто вымагаў ад мяне такога «благадзенствія і благараствварэнія вааздухаў».

Пасажыр і супярэчыць, пасажыр падае розныя доводы, а галоўныя з іх — што людзі не роўныя, будзе заўсёды калатніна. Кандуктар адказвае на гэта рэплікай, якая выразна і красамоўна гаворыць пра ўсю ўстаноўку (...«ты спутаны ў межах бясконца, і свет яны твой завязалі» і г. д.).

Іхняя гутарка пададзена не ў стэнаграфічным запісу: ёй нададзена пэўная стылізацыя, на што аўтар мае бясспрэчнае права. Зразумела, што з усёй многасці выказванняў «за» і «супраць» я выбраў толькі тое, што на мой погляд здавалася больш тыповым, у іншым разе трэ было б выдрукаваць цэлыя тамы, бо жыццё надзвычайна разнастайнае. Нельга вінаваціць мяне, у звязку з гэтым, у пэўнай схематызаванасці рэплік пасажыра і кандуктара; гэтая схематызаванасць вынікае са сказанага мною вышэй.

3

Не можна абмінуць і скарыстаных мною народных казак, хоць яны займаюць зусім другараднае, так бы сказаць, петытнае значэнне.

Беларуская народная творчасць надзвычайна багатая. Гэта адзначылі галоўным чынам староннія даследчыкі. Як на прыклад пакажу на Л. Н. Вайталоўскага. У сваёй кнізе «По следам войны» ён піша так пра нашы народныя казкі.

...«И я в смущении спасовал со всей нашей хваленой ученостью и большими познаниями. В самом деле, по сравнению с нами, усталыми интеллигентами, в хаосе ночных отступлений и галицийских побед растерявшими добрую половину своего культурного багажа, какой гармонией, какой неукротимой продуманностью дышала эта грубая, крепко сколоченная полесская правда. И кто назовет эту стройную цельную систему, обнимающую все царство человеческой мысли, суеверием или вздором. Разве не больше в ней и широты понимания, мудрости и ясности духа и чуткой восприимчивости к красоте, чем в натурфилософии Шеллинга или в мифологии греков».

Грэшна і смешна было б плюнуць на гэта ўсё багацце, пакінуць яго гібець дзе-небудзь у палескіх балотах ці ў архіўных сутарэннях. Тых людзей, якія б гэта рабілі самі і радзілі рабіць другім, трэ было б проста вывешваць на чорныя дошкі цалкам. Сапраўды, — якая глыбіня, якая матэрыялістычная аснова закладзена ў большасці беларускіх народных казак. Наколькі, значыцца, грунтоўны светагляд у самога працоўнага народа. Узяць хоць бы казку пра Салімонаву дачку. Салімон, які, між іншым, мае вельмі мала агульнага з біблійным персанажам, а пераселены народнай фантазіяй на Палессе, — пажадаў знішчыць усё ліха адным махам. Народная мудрасць адказвае, што гэта

немагчыма зрабіць, бо, як вядома, трэба раней знішчыць умовы, якімі ліха выклікаецца. Згадайце пры гэтым хоць бы словы Г. В. Пляханава пра знішчэнне кулакоў, скупшчыкаў і г. д., калі ён выступаў супраць народніцкіх разважанняў: «Если бы какой-нибудь общественный катаклизм удалил всех скупщиков, то они вновь народились бы в самое короткое время по той простой причине, что предполагаемый катаклизм не устранил бы экономической причины их появления» (Соч., т. X, стр. 122).

Казка, як і прымаўка, рэч тыповая. Я не здзіўлюся, калі, следам за пасажырам, яшчэ якія «музыканты» знойдуць у казцы элементы свайго «я». Ніякага дзіва няма: альбо грай, альбо кацiся ў буржуазны «рай». Пакрыўдзіцца можа хіба адзін «музыка»: не ўсе так таленавіта гралі працоўнаму народу раней. Але няхай іх! Ёсць яшчэ казка «Музыка і чэрці» (зборнік А. К. Сержпутоўскага, 1911 г., яна ж пера-друкавана ў «Выпісах», ч. I), якая як быццам завяршае гэтую. У ёй апавядаецца, як чэрці (што сімвалізуюць буржуазію) заваладклі музыку ў пекла, каб ён там весяліў іх. Але музыка зайграў так, што ўсё пекла рассыпалася на кавалкі і чэрці паразляталіся куды каторы.

Казкі, бадай цалкам падобныя скарыстаным мною, выключаючы часткова казку пра музыку, знаходзяцца ў зборніку А. К. Сержпутоўскага, выдрукаваным Інстытутам Беларускае Культуры ў 1926 г.

Верш А. С. Пушкіна «Я пережил свои желанья» — у любым ягоным зборы твораў. Таксама і творы Байрана.

4

Форма гэтага твора, як ужо казаў і адзначаю ў адмысловай заўвазе,— не з'яўляецца якой-небудзь нечаканай ці асабліва складанай. Яна падначалена пэўнаму кампазіцыйнаму адзінству, яна суладжана ва ўсіх сваіх частках, але яна выбіваецца з вядомых жанравых рамак. З прычыны гэтага я ўзяў для яе і новую назву — «Камбайн». Гэта замежнае слова, узятае мною ў англійскай вымове, азначае ў дакладным перакладзе «камбінаваць, суладжваць, спалучаць, змешваць».

Сапраўды, у творы ёсць і пераклады, і нататкі, дыялаг, казкі,— прадумана суладжаныя. Дзеля гэтага ўзята адпаведная назва. Што ж такога, што яна скарыстана раней у тэхнічнай ці яшчэ якой галіне!

Бадай што ўсе словы, ужытыя ў камбайне, ёсць у слоўніках. Павінен толькі растлумачыць, што «квітушчы, відушчы» не з'яўляюцца русіфікаванымі паводле формы, а ўжываюцца ў гэткіх выпадках скрозь на Беларусі ў жывой мове. Слова «жду» таксама законнае, у роўнай меры са словам «чакаю». Слова «закат» узята для каларыту.

5

У заключэнне, пра змест і форму скажу вось што. На нашых вачах адбываюцца працэсы найвялікшага гістарычнага значэння. Паэты, пісьменнікі не могуць, не павінны заставацца пасіўнымі сузіральнікамі,— яны павінны быць актыўнымі ўдзельнікамі нашага будаўніцтва. Не плакаць і рыдаць «на рэках Вавілон-

скіх» па нейкіх няздзейсненых ідэалах нашаніўскага кругабегу, а тварыць, дапамагаць тварыць здаровым.

Няхай у гэтай працы будуць памылкі, няхай у ёй будуць «зрывы», але няхай яна не будзе цалкам шкодная, варожая, няхай скрыпка не будзе прададзена чорту, як кажа народная казка.

Згадаю пры гэтым зусім выразныя і недвухсэнсавыя словы Г. В. Пляханава, сказаныя бадай пры такіх самых акалічнасцях.

...«Плохи люди, сидящие сложа руки и возлагающие все свое упование на естественный ход событий. Это трутни истории. От них никому ни жарко, ни холодно. Но немногим лучше их и те, которые упорно смотрят назад, не переставая говорить о поступательном движении народа. Эти люди осуждены на неудачи и разочарования, потому что они добровольно поворачиваются спиною к истории. Полезным деятелем может быть только тот, кто, не боясь борьбы, умеет направлять свои усилия сообразно с ходом общественного развития» (Соч., т. X, стр. 109).

*1929*

Ідзі, мой твор, ідзі, камбайн, у людзі,
ізноў не здронцві розум крытыканам.
Яшчэ гаручку з іх які набудзе,—
а ты за гэта будзеш упіканы.
Даю табе і рыфмы для акрасы,
і думкі папулярныя ў аснове.
Пра казкі ці якія перагасы
не дазваляю жаднае размовы.

Не кліч на спрэчкі думнае грамадства,
бо спакайней ты пражывеш на свеце.
Для справаздач хапае ў нас мастацтва,
і вершы ў выпісах чытаюць дзеці.
І не шукай ты новага у стылі,
даволі ўсыпалі мне за шуканні.
Глядзі, каб вусны палкія не стылі,
як будзеш мець з паэзіяй спатканні.
І не кажы, што ціха на Парнасе,
«трашчыць і парашчыць, без скуры лезе»,
што быццам у нязнанай апранасе
сядзяць там гомо, быццам люпусы дзе
ў лесе...

А скажаш — прыбягуць галавацяпы,
спрасуюць жарт у чыстую манету,
і гэткі вэрхал справяць ультраляпы,
што на свайго забудзешся паэта...

. . . . . . . . . . . . . . .

Даволі, твор, даволі гэтых жартаў:
наіўны возьме і за праўду прыме.
На свеце жыць іначай і не варта,
як толькі ў творчым мклівячы уздыме.
Мае сябры! Вітайце гэту рату!
Мінулае зайздросціць нам, сучасным!
Узвышшы высім з пралетарыятам,
і наша мэта ў даляглядзе ясным.
Сячэце ў камені трывалыя усходы,
да яснай мэты шлях кладзеце просты.
Нягледзячы на хібы, перашкоды,—
штурмуйце будучыні аванпосты!

Цягнік ідзе ад Оршы да Унечы,
вязе людскія клопаты і рэчы.
Грукочуць колы, лязгаюць рэсоры.
І так цераз даліны, цераз горы —

цягнік даганяе ўсё дзень,
а ноч паабапал дзяжурыць.
Здрыгаючыся, ён ідзе,
цыгару вялізную курыць.
І дым, і агонь, і туман,
і лёскат, настырлівы лёскат.
Жыцця тут, здаецца, няма,
шарэюць маўклівыя вёскі.
Затое не моўкне вагон,
у розныя гукі убраны,
ўсю ноч пракалышацца ён,
не чуўшы, не даўшы «дабранач».
І дым, і туман, і агонь
пярэстую склалі заслону.
Калышацца ў далі вагон,
гаворыць вагон да вагона.
У столь узнімаецца дым
ад моцнай сялянскай махоркі.
Як з морскім прыбоем, у ім
віюцца абрыўкі гаворкі.
Дарога яднае людзей,
хоць, праўда, на тэрмін кароткі.
Ў дарозе, як болей нідзе,
паўсюдзяцца былі і плёткі.
І важны укормлены твар,
і нэпман віхлявы, нервовы, —
пакінуўшы справы, тавар,

футболяць парожнія словы.
Кандуктар не ўцерпіць калі,
уставіць, як кажуць, тры грошы;
пачуе, дзе людзі былі,
пачуе, хто лепшы, хто горшы.
Рабочы з вяскоўцам сваім
пра новыя формы, пра хутар...
Суседзяць пад дахам адным
сярмяга, жакетка і футра.
А заўтра — як быццам не быў
ніколі ў дарозе, ў гаворках,
і дым, можа, віўся і плыў
у думках, маркотных і горкіх...
Імкнецца наперад цягнік,
у ноч і туманы убраны.
Наступныя й даўнія дні
разгортваюцца, як з экрана.
У шэрагу розных падзей,
прыгожых і непрыгожых, —
на гэтым экране ідзе
сусвет у сваё падарожжа.
Пярэста паходні гараць,
вартуюць іх пільна, заўзята.
Шыкуецца кожная рацъ,
і зброя ў паветры узнята.
Мінаюць, ізноў паўстаюць
падзеі павольнай хадою,
вярнуўшы паходню сваю,
трымаюць яе нада мною.
Святло рассявае з-за плеч
паходня на белым экране.
І змрок адсуваецца прэч,

звівае маўкліва убранне.
Ля рэчкі, з ліповых прысад,
лягуткі праносіцца вецер.
Прыгожы расейскі з а к а т
залоціць асенняе вецце.
На жвір аблятаюць лісты,
наземяцца з ціхай малітвай.
Над рэчкаю Пушкін застыў,
лятункамі ўсімі спавіты.
Усмешка на вусны лягла,
на цьмянага лёсу разоры.
Усё больш насуваецца мгла.
З прасцягам паэта гаворыць.

П у ш к і н

*...Я перабыў свае жаданні,*
*Лятункі знелюбіў свае,*
*І плён сардэчнага згасання*
*Адны пакуты мне дае.*

*І лёс, у жорсткім сваім лёце,*
*Квяцісты зблоціў мне вянец.*
*Жыву ў самоце, у сумоце,*
*Чакаючы: калі канец...*

*Так, позняю прыбіты сцюжай,*
*Калі зімовы чуцен свіст,*
*Адзін на галіне нядужай*
*Трапечацца спазнёны ліст...*

І не адгукнуўся прасцяг:
ці радасць, ці новая страта?

У змроку лясы шалясцяць,—
то шастае восені шата.
Паэта прайшоў у туман
у сіні, у цёмна-ліловы.
Нікога навокал няма,
рыдаюць у пошчаку словы...
Ніколі не прыйдзе назад:
аднойчы згараюць на свеце...
Ля рэчкі, з ліповых прысад
лягуткі праносіцца вецер.
Мінаюць, ізноў паўстаюць
падзеі павольнай хадою,
вярнуўшы паходню сваю,
трымаюць яе нада мною.
Святло рассявае з-за плеч
паходня на белым экране.
І змрок адсуваецца прэч,
звівае маўкліва убранне.
Разгортваецца ў вышыні
фантазіі творчае крылле,
паўсталі і людзі, і дні
у небылі дзіўнай і былі.
Да скал распасцёрся туман,
узвышшы ускрыў Альбіёна.
Грыміць ужо сам акіян
і пенай шпурляе салёнай.
На ўсіх ветразях карабель
імкліваць на поўдзень яскравы.
Ці шчоглы віхор пераб'е,
ці збольшыць паэтаву славу? —
Джордж Байран! Вы йшлі бараніць
не грэкаў, а грэцкія міты.

Вяла вас антычнасці ніць
на поўдзень, у лаўры спавіты...
Джордж Байран! Мінула даўно
ўся гэна рамантыка ваша,
а з грэкамі туркі ўадно
для кухань лаўровы ліст важаць...
Джордж Байран! Каб ведалі вы
пра нашай краіны нядолю,
здратованыя паплавы
і ў корань стаптанае поле.
Нядоля і слёзы сабой
краіны чало аквячалі...

. . . . . . . . . . . . . .

Развеяў пытанне прыбой,
павеяў кунегаю ў далі.

Байран

*...Ты плакала... Буйной слязой*
*Сінь воч ускрылася ў той час.*
*Здалося мне, што пад расой*
*З'явіліся фіялкі ўраз.*

*Ты усміхнулася... Сапфір*
*Спыніў свой бляск перад табой.*
*Твой прамяністы ясны зірк*
*Згасіў яго сваёй красой.*

*Як сонца на брыжы аблок*
*Адценні кволыя нясе,*
*Якіх згасіць не можа змрок*
*Пакуль не стаюць пакрысе,—*

*Таксама ўсмешкаю вачэй*
*Шлеш водзіркі ты ў сэрца мне.*
*І стане ў ім святлей, лягчэй,*
*А найгарчэйшы жаль міне...*

Да скал распасцёрся туман,
узвышшы ускрыў Альбіёна.
Няспынна грыміць акіян
і пенай шпурляе салёнай.
Знікаюць павольна ў імгле
паэта, і хвалі, і неба.
На ўсіх ветразях карабель
пранёсся у далі, у небыт.
Пачуў я... Ды гэта ж ізноў
грукочуць настырліва колы.
Ці з дому, ці еду дамоў,
ці, можа, і ёсць ён наўкола?
Няўжо зіхацяць паўз акон
не хвалі, а ўзгоркі, даліны?
Няўжо наш зялёны вагон
вёз тыя са мною карціны?
І страх агарнуў мяне ўсцяж:
ці можна вазіць іх з сабою?
Мо трэба здаваць у багаж,
заштампаляваўшы ад бою?
А што, калі прыйдзе цяпер
кандуктар,
спытае:
«А гэта?!
Білецік адзін на цябе,
а дзе вось на г э т ы х білеты?»
Што я адкажу?

— Не чапай!
Адзін з іх пайшоў пехатою,
другі,
свой пакінуўшы край,—
на ўсіх ветразях над вадою...

**Цягнік ідзе ад Оршы да Унечы,**
**вязе людскія клопаты і рэчы.**
**Грукочуць колы, лязгаюць рэсоры.**
**І так цераз даліны, цераз горы —**

цягнік даганяе ўсё дзень,
а ноч паабапал дзяжурыць.
Здрыгаючыся, ён ідзе,
цыгару вялізную курыць.
І дым, і туман, і агонь
пярэстую склалі заслону.
Калышацца ў далі вагон,
гаворыць вагон да вагона.
І думкі за імі ўздагон
пра лёсы краіны, пра долю.
Не скоціць іх час пад адхон
ніколі, ніколі, ніколі...
У столь узнімаецца дым
ад моцнай сялянскай махоркі.
Як з морскім прыбоем, у ім
віюцца абрыўкі гаворкі.

Кандуктар

Ізноў пад'язджаем паволі
да новае станцыі зараз.
Падмецена восенню поле,

ускоўдраны мглою абшары.
Люблю падарожжа такое:
наперад, наперад, у далі!
Ці звык за жыццё маладое,
ці колы прывабаю ўзялі...
Гляджу ўсё на новыя месцы,
людзей спатыкаю ўсё новых.
Жартуе адзін ці смяецца,
другі — дык з паважнай размовай.
За вокнамі восень скавыча
і ветру шалёныя свісты.
Там золь і туман у аблічча,
пякельны канцэрт урачысты...

## Пасажыр

Праз вокны ты пекла пабачыў
і свіст ад падвойнай нагрузкі?
Ты выпіў у Оршы, няйначай,
ды мала хапіла закускі.
То вецер — не вецер, сумленне,
то свісты — не свісты, пакута,
ідзе, высяваючы жменяй
насенне праклятай атруты.
І ў сэрцы яна угняздзіцца,
і ў думкі нахрапна улезе.
Аб мур галавой будзеш біцца,
завыеш, як воўк дзе у лесе...
А можа, яна там галосіць
і рукі ламае ў праклёнах?
Машына ўсё далей адносіць
зялёныя нашы вагоны...

## Кандуктар

Мяне ты нястрымана лаеш,
а сам яшчэ больш наварочаў.
Прамова твая немалая,
паслухаць — не выстарчыць ночы.
Што б там ні было, пакідаем
гармідар увесь за сабою.
Мясцовасць надыдзе другая,
ў настроі ўнясе перабоі.
Тут відна, тут весела, файна,
у буксах даволі мазуту,
і посвіст гудка трыумфальны
усю пераможа атруту.
Люблю падарожжа такое,—
мяняюцца думкі, настроі...

## Пасажыр

Табе што — як цюцька, ў дарозе,
не маеш ні блізкіх, ні хаты.
Не плача малы на парозе,
чакаючы з горада тату.
І ніва твая, і загоны,
і бацькаўшчына у дадатак
у шэра-зялёных вагонах,
у іх адначасна і хата...
Малы, адпаведна, і клопат:
хадзі і лаві безбілетных.
Прыемная, мабыць, работа,
тым больш, што і выгляд адметны.

Ка́ндуктар

Ну, як не падняць мне пратэсту
супроць упрашчэнства такога?
Ты спечаны з дрэннага цеста,
што дыхае злосцю прамова.
Адзін ты — асэсар на свеце,
пільнуеш вялікую справу.
Скажу табе проста, суседзе,—
што й слухаць цябе нецікава.

Пасажыр

Не трэба пакуль што і слухаць,
бо я не кажу ні пра вошта.
А тое, што ўразіла вуха,—
трымаюся ўласным я коштам.
Сяджу на сваёй гаспадарцы,
працую ад цёмна да цёмна.
Не быў ні ў адседцы, ні ў сварцы,
і зараз, як бачыш, прытомны.
Дык што табе не даспадобы?
Прынізіў твае клапатоны?
Магчыма, кандуктар ты добры
і тормазы круціш з адхону.
Але ж твая праца — не праца:
р а з г о н ад цябе не залежыць.
Табе каля плуга б узяцца,
пазнаў бы, дзе трунак, дзе ежа.

Кандуктар

І тормаз пакруціць не ўсякі;
на ўсё, браце, трэба навука.

Каму — дык ніякага знаку,
каму — гарацешная мука.
Ад цёмна да цёмна мадзееш?
А я, калі бачыш, і ўночы.
Дык вось яно так, дабрадзею,—
не толькі адзін ты рабочы.

### Пасажыр

За гэта і грошы вам плоцяць,
за гэта і ездзіш без грошай.
А мы — што крапіва пры плоце,
чакаем часіны шчэ горшай.
Пасееш у час, акуратна,
а жаць невядома што будзеш.
Пакуль адпакутуеш рату,—
аж паліць збалелыя грудзі.
Аб'ездзіш, абходзіш шнуры ўсе,—
не прыйдзецца сноп мой да снопу.
У пекла б тады занурыўся,
як з'еўшы жалезнага бобу...
Ні выпіць па-людску, ні з'есці;
вось так і мінаюць часіны;
а ў сэрцы пытаецца дзесьці:
за што калаціўся і стынуў?

### Кандуктар

Адразу кажы: нездаволен
сваім гарапашным ты станам,
сваім ты няўродлівым полем,
дык будзе й другая пашана.
А нечага пырскаць на іншых
і крыўду складаць на чыгунцы.

Хто, можа, не еўшы, не піўшы,—
дык я прывязу ім у сумцы?!
Шукай, паляпшай сваю долю,
імкніся да лепшага ладу.
І будзе дагледжана поле,
і будзе буйнейшае стада.

П а с а ж ы р

Адразу відаць, што разумны:
і завязкі к слову не трэба.
Вазі толькі збожжа на гумны,
шуфлюй для бялейшага хлеба.
Каб так і было, як гаворыш,
дык я бараду пагаліў бы.

К а н д у к т а р

Ты накш і не выбудзеш гора
з свае гарацешнай сядзібы.
Ш у к а ю ч ы, людзі знаходзяць,
і р о б я ч ы, бачаць удачу.
Скажы, браце, годзе ды годзе
няўроды, бясхлебіцы, плачу.

П а с а ж ы р

Дык хто гэта кажа, што мала,
дык хто не шукае ратунку?
Хвілінамі так назаляла,
што пальцамі б вымацаў думку.
А ўсё цераз пень ды калоду
ўсе збыткі і ўся насалода...

Кандуктар

Ну, ведаеш, клопат дарэмны
дык толькі пашкодзіць і можа.

Пасажыр

Гаворыш ты, праўда, нядрэнна,
ды толькі на стол не паложыш.

Кандуктар

Здаецца, і ясна і кемна
кажу, што не будзеш мець плёну
і збытак дастанеш ты дрэнны
з пашарпаных гэтых загонаў.
Не тое зусім з калектывам.
Ці чуў ты...

Пасажыр

Даволі, даволі!
Кандуктар ты, бачу, куслівы,—
якраз і патрапіў у поле.
Пра іх я ўжо чуў неаднойчы
і ведаю, што там за шчасце.
Не хочуць глядзець мае вочы,
і сэрца парвецца на часці...
Парадзіш ты добра з вагона,
ды як толькі ў справе агораць.
Цяпер — гаспадар я загона,
хоць іншае людзі гавораць.
А ў тым калектыве хвалёным
хто будзе за нас гаспадарыць?
Дажджэшся там, думаеш, плёну?

Падберыш кабылку да па́ры?
Даволі, даволі!

Кандуктар

Ці чуў ты,
ці бачыў разумных падобных?
Хто ўліў табе ў ляпу атруты,
што столькі насыпаў слоў дробных?
Ты скардзіўся?!
Скардзіўся толькі:
«Пагана, пагана жывецца!»
Дык здольны ты плакаць і войкаць,
не ведаеш, дзе табе дзецца?
Не ведаеш, дзе ўсё карэнне
жыцця гарацешнага, нэндзы?
Ўсяго твайго хопіць імкнення
у дыме тут смутак свой вэндзіць?!
Даволі, даволі пакуты!
І нэндзы даволі урэшце!
Да меж вашы душы прыкуты,—
знішчайце памежкі і рэжце!

Пасажыр

Цябе салавей не здагоніць,
калі нават лапці уздзене.
Паслухаць — ідзі хоць сягоння,
высейвай нанова насенне.
А што загаворыш ты заўтра,
калі асмакуеш грунтоўна?
Адзін аднаго і не варты,
адзін аднаму і не роўны.
Працуеш ты «столькі і гэтак»,

другі — дык вось «гэтак і столькі».
Ты клічаш ісці на палетак,
а ён будзе дзьмухаць на болькі...
А бабы як возьмуцца ў косы!
Ты ведаеш, што гэта значыць?!
І чорт паскідае атосы,
як вырвешся — будзеш гарачы...

Кандуктар

Ўсё гэта — дзіцячыя казкі.
У гэтым хіба і прычына?
Не хочаш ісці — калі ласка,
не цягне ніхто за чупрыну.
А тое, што «ты на палетак»,
а ён — дык «да чорта ў капэлю»,—
ўсё гэта для дзетак, для дзетак,
вось так вечарком, у нядзелю...

Пасажыр

Яно б гэта ўсё і нічога,
ды шчырасці ў працы не будзе.
Адзін будзе тыкаць другога,—
і выб'юцца з працы ўсе людзі.
Гавораць і людзі старыя,
а іх не паслухаць няёмка,—
з пахібамі нас сатварылі:
дуплястая, бачыш, саломка...

Кандуктар

Іграеш ты добра на вуснах,
табе непатрэбна і скрыпка...

## Пасажыр

Гаворыш і ты, брат, спакусна,
віешся, як слізкая рыбка.
Ды скрыпка да скрыпкі — не ў пару,
не вытанчыш — добра упару...

## Кандуктар

Пабачыў я скрыпак багата,
і чуў іх таксама даволі.
Пакуль не прыехаў дахаты,
табе раскажу я паволі.
І скрыпка ўжо не даспадобы?!
Усякі — як можа, суседзе.
Ёсць казка. Пачну я для спробы.
Калісьці чуў змоладу недзе.

## Народнае апавяданне пра музыку і пра тое, як ён прадаваў чорту сваю скрыпку

Жывучы ўсяго пабачыш:
і даліны, і узвышшы.
Той жыве — як сын сабачы,
тым — і дзеці чорт калыша.
Неаднолькавыя дзеці,—
неаднолькава і шчасце.
Так спрадвеку ўсё на свеце
падзяляецца на часці.
Людзі ведаюць нядрэнна
пра усе такія змены
і гавораць нібы жартам:
варты вартага і варты.
Вырас так і наш музыка,
калыханы роднай маткай.

Абуваўся ён у лыкі,
гора мераў поўнай шапкай:
Хоць і жыў, як сын сабачы,
талент песціў сакаліны.
Жывучы ўсяго пабачыш:
і узвышшы, і даліны.
Казка хутка робіць справу,
пра музыку ходзіць слава.
Толькі смыкам струн даткнецца,—
прыціхае ўсё навокал:
Песня плача і смяецца,
аж, здаецца, бачыш вокам.
Тая скрыпка так іграе,
так выразна вымаўляе,
што аж чуецца вясковым,
як са струн злятаюць словы.
Дзе дастаў яе хлапчына,—
не хваліўся анікому.
Ці дала яму айчына
нерухомае ў рухомым?
Можа, дзед старой рукою
настругаў яловых планак,
кляніну па-над ракою
высек скрыпцы на рабраны?
І душу паставіў такжа,
зачасаўшы з дубу колік?
Струны хлопец сам навяжа,
каб не здрадзілі ніколі...
Можа, ветры наспявалі
песень глыбіні бясконцай?
Мілагучнасці крышталі
чаравалі ўсіх пад сонцам.
Весялосць была у смутку,
смутак быў у весялосці.
Хоць дзянёк іграй цалюткі,—
запрашаюць людзі ў госці.
І хадзіў у свет шырокі,
весяліў ён добрых людцаў.
Добра ведалі навокал,
як і плачуць, і смяюцца...

Можа б сам калі заплакаў,
можа ў сэрцы жаль вялікі,
але кажуць небараку:
«Весялей іграй, музыка!»
А вядома, што ў дарозе
не заснеш у каляіне:
«На чыім ты едзеш возе,
дык таму і граць павінен».
Граў за грошы, граў без грошай,
піў «нарзан» ён з агуркамі.
Талент з часам не пагоршаў,
паляпшаўся ўсё з часамі.
Без нажа ліхіх ён рэзаў,
ён ім сэрцы кроіў смыкам...
Вось такі ён быў гарэза,
чарадзейнік наш музыка.
І даваў, даваў патолі,
што не чуў і свет ніколі.
Тая скрыпка так іграе,
так выразна вымаўляе,
што аж чуецца вясковым,
як са струн злятаюць словы.
Уздыхалі лёгка грудзі,
супынялі працу людзі,
танцавалі, дзе прыйшлося:
на пакосе — на пакосе.
На аржышчы нават жнеі
босых ножак не жалелі.
Зайцы выбягалі з лесу
і такую куламесу
ушчыналі ў полі чыстым,
што дзівіўся дуб вячысты.
На бярозках нават вецце
узнімалася да ладу.
Вось што робіцца на свеце:
не музыка, а прынада!
Але часам сумна стане
у яго вандроўным стане.
Сумна стане, як згадае:
дзе юнацкае каханне,

дзе дзяўчына маладая?
Злётаў бы на самалёце
цераз неба, над балотам,
ды разгон малы ў балоце,
ў ім загразнеш з самалётам...
Месца ўзяў бы ў аўтабусе
на сто дваццаць кіламетраў,
паказаў бы сцежку бусел,
ператкаў бы сцежку ветрам.
Ды далёка, ды калыша,
сэрца вытрасе ў пячонкі...
Ён шукае лепш зацішша,
дзе бярозы, дзе сасонкі
каля рэчкі, каля броду
нахілілі вецце ў воду.
Там пільнуе прахалоду
дуб разложысты, вячысты.
Там згадаецца ўсё чыста:
і спатканні, і разлукі,
галасоў любімых гукі...
Маці родная і вёска...
Бацяноў на хаце лёскат...
І усё, што сэрцу міла,
што яно даўно згубіла...
Дуб галлём сваім калыша,
павявае у зацішша
у спагадлівай лагодзе...
Ён па струнах смыкам водзіць.
Грае скрыпка ціха-ціха,
аж спалохалася ліха,
жабы крумкаць перасталі,
дрэвы шапацець лістамі.
Струны плакалі і пелі...
Дзе вы, струны, радасць дзелі?
Ці яна ляжыць пад жвірам,
ці замыта цёмным вірам?
Надрываліся ад болю
ў цёмным лесе, ў чыстым полі,
дзе музыка сваю долю
супакойваў непакоем.

Засмуціўся свет шырокі,
і заплакалі на свеце.
Сум праняў людское вока,
сумна нават сонца свеціць.
Хмары ў небе узняліся,
неаглядныя аблокі,
і ліліся слёзы з высі
на прастор увесь шырокі.
Узнялося пекла роем,
пранялося непакоем:
непакоіць іх музыка
сваёй скрыпкай, свáім смыкам.
Ім музыка вельмі шкодзіць:
ад грахоў людзей адводзіць.
Доўга думалі ўсе чэрці,
як яму прыстроіць смерці.
І прыдумалі нядрэнна,
але ўсё, бадай, дарэмна.
На музыку ў цёмным лесе
нацкавалі зграю воўчу.
Ён, запрошаны на песні,
цераз лес ішоў аднойчы.
Супакойна лесам крочыць,
каб да вёскі як дастацца.
На дарозе ж зграя воўча,
а ваўкоў усіх — дванаццаць.
Заступілі ўсю дарогу,
абступілі, як на згубу.
І з зубоў злятае скрогат,
вышчараюць хіжа зубы.
Набліжаюцца ўсё бліжай,
уваччу палае жыжа.
Што рабіць? Няма нічога
ні ў руцэ, ні пад нагамі.
Застаецца жыць нядоўга,
бо заляскалі зубамі.
Раз канец такі прыходзіць,
развітацца трэ са скрыпкай.
У апошняй хоць прыгодзе,
ды палохацца нам брыдка!

Скрыпку з торбы ўзяў музыка,
смык дастаў і стаў ля дрэва.
А пасля правёў тым смыкам,
і са струн пабеглі спевы.
Скрыпка тая, як жывая,
як жывая вымаўляе.
Аж да неба высіць пошчак.
З неба ён, як ціхі дожджык,
высяваецца па лесе,
па дуброве, па зямельцы.
Голас той дзівоснай песні
ў небе плача і смяецца...
Скамянелі ўсе дванаццаць,
слёзы з воўчых воч ліюцца.
Слёзы ў мох бягуць схавацца,
каб не бачылі іх людцы.
І хаваюцца пад мохам,
каб не бачылі іх вокам.
Мох зялёны, бурштыновы
слёзы тыя ўзяў на сховы...
Стаў пасля музыка моўчкі
і глядзіць на тое дзіва:
адышлі ваўкі упрочкі
засмучона і маўкліва.
На амшары ж, з гэнай ночы,
засталіся слёзы воўчы.
А калі вясна надыдзе
і павее вецер волкі,
на ваўчынай гэнай крыўдзе
парастуць у лесе зёлкі,
а на шэранькіх сцяблочках
быццам дробненькія вочкі.
Невялічкія, як голкі,
але ўсё ж ідзе адмалку.
Людзі кажуць нам пра зёлкі,—
гэта «воўчыя запалкі»...
Ад няўдачы той, няйначай,
чэрці ў пекле проста плачуць.
— Мабыць нельга ўзяць музыку,
покі ён кіруе смыкам?

І надумаліся —
трэба
ашукаць яго як-небудзь:
скрыпку ўзяць, купіць, украсці, —
як прыдасца ім на шчасце...
А музыка той часінай,
абмінуўшы след ваўчыны,
сеў ля рэчкі, сеў ля броду,
сеў пад дуб, у прахалоду.
Раптам хвалі зашумелі,
чорт балотны ўзнепакоіў
і, падплыўшы да адмелі,
ўшчаў гамонку над ракою.

Чорт

Добры вечар, ягамосцю!

Музыка

Не хапала толькі чорта!
Як здаецца мне, не ў госці
вылез ты з свайго балота?

Чорт
*(ухіляючыся)*

І у госці, і не ў госці,
штосьці трэба, трэба штосьці...

Музыка
*(перадражнівае)*

«Разумець — не разумею,
зразумнеўшы — зразумею...»
Гаварыць так доўга можам,
але справе не паможам.
Чым удзячны, што спатканне
давялося мець з табою?

Чорт

Я пачуў іскрыпкі гранне
ў сваім пекле, пад вадою.
Спадабаў яго я вельмі

ў гэтым зацішку пустэльным.
Не на скрыпцы, на патэльні
граю свой напеў пякельны.
Можа б скрыпку ты прадаў мне? —
Будзеш мець тады дукаты...

Музыка

Падарунак гэта даўні,
з ім без грошы я багаты.
А дукаты, хай ім ліха,
зладзяёў яшчэ прывабяць.
Буду лепш сядзець паціху,
казкі без дукатаў баяць.

. . . . . . . . . . . . .

Чорт людскі характар знае:
паўлітроўку ўзяў, закусак.
Неўзабаве і другая,—
на гарэлку рот не вузак.
Выпівалі, гаварылі,
смакавалі кількі, шпроты.
У музыкі змокла крылле,
але досць хапіла й чорту.
Памаленьку, паступова
чорт свайго усё даходзіў.
Расцягнулася размова,
каб закончыцца на згодзе.
Перад тым, як чорту ў рукі
скрыпку даць, зайграў музыка.
Павадкай ліліся гукі,
нечуванай і нязвыклай.
Грае скрыпка ціха-ціха,
аж спалохалася ліха.
Жабы крумкаць перасталі,
дрэвы — шапацець лістамі.
Струны плакалі і пелі,
аж, здаецца, на адмелі
радасць яснела з-пад жвіру,
што намыты цёмным вірам.
Надрываліся ад болю

ў цёмным лесе, ў чыстым полі,
дзе музыка сваю долю
супакойваў непакоем.
Чорт пачаў збірацца ў пекла,
страціў часу й так багата.

Чорт

Граеш надзвычайна пекна,
але мне пара дахаты.
Дай мне скрыпку, калі ласка!..

. . . . . . . . . . . . . . . . . .

Быццам зняў з вачэй павязку
у музыкі чорт рагаты.
Глянуў ён на тыя шпроты
і парожнія бутэлькі.
Не з вялікай піў ахвоты
з гэтым самым хтоцкім нейкім.
А цяпер аддай скрыпулю!
Ці вы бачылі, ці чулі?
Паказаў ён чорту фігу
за частунак і фатыгу.
Чорт за скрыпку — чорту поўху,
чорт за смык — яму па лапах.
Павалтузіліся доўга,
абодвум хапіла страху.
Пры падобнай тузаніне
струны плакалі сапраўды.
Каб яшчэ са тры хвіліны,—
ўсё панодаў бы, парваў бы.
Але ўрэшце чорт наверсе:
ўзяў не сілай, дык на хітрасць,
не заўважыўшы, што ў лесе
ён душу са скрыпкі вытрас.
Невялічкая і штука,
дзед стругаў з дубовай планкі,
ды не будзе добрых гукаў,
грай хоць год бесперастанку.
Чорт, падціснуўшы падпахі
гэны свой цяжкі здабытак,

даў такога алалаху,
што аж дым пайшоў з-пад лытак.
А музыка — без музыкі,
а ў музыкі — жаль вялікі.
«Адабраў, прахвост рагаты,
проста з ласкі на пацеху...»
Глянуў хлопец на дукаты:
колькі ў іх сабрана грэху!
І узяў дарунак чортаў,
размахнуўся з поўнай сілы,
ды як кінуў у балота,
аж яно загаласіла.
Ад тае пары ў балоце,
што дарунак чортаў зблоціў,
вырастаюць летам кветкі:
з іх ні паху, ні наедку.
Не з'ядае іх жывёла,
не чапае звер ніякі,
не крануць рукою голай,
назву ж далі ім — «чарцякі»...
Апусціўшы вочы долу,
крочыць хлопец невясёла.
Раптам бачыць: што за дзіва? —
Каля рэчкі, каля броду,
дзе пільнуе прахалоду
дуб разложысты, вячысты,
на пясочку жоўтым, чыстым,
прытуліўшыся да ліпкі,
і ляжыць душа са скрыпкі.
Чорт яе тады і вытрас,
як музыку браў на хітрасць...
І падняў душу музыка,
той малюсенечкі колік,
што рукой, да працы звыклай,
дзед зрабіў яму на долю.
І абліў душу слязою,
прытуліў душу да сэрца.
«Не разлучышся са мною
ты, душа, да самай смерці!
Не аддам цябе нікому,

за ніякае багацце.
Ты ля сэрца будзь, як помнік,
больш не дай мне ашукацца...»
Скрыпка ж чорту не здабытак,
без душы — багата скрыпак.
Скрыпка тая — нежывая,
бо душы яна не мае...
Чорт у пекле гэным часам
задае канцэрт вялікі.
Замяніўшы порткі пасам,
удае з сябе музыку.
Для чарцей усіх пакута.
Трэба слухаць, бо няёмка.
І кульгавы вылез з кута,
з ім спірытусу даёнка.
Шчанючкі сядзелі блізу,
барановы быццам рожкі.
Утапырыўшы ўверх мызу,
тупацелі спрытна ножкі.
Два бамбесы, стаўшы ракам,
на спіне трымалі ноты.
Аж пішчалі, небаракі,
ад такога пераплёту.
Дам хапала там таксама —
ўсе пад масць, якраз да пары,
рознай шаці накідана,
быццам гною на папары.
Нейкі гадзіч хударлявы
поўзаў, віўся ля абцасаў,
ляскаў вухам па халявах,
языком брыду ўсё мацаў.
Бруха ён сваё адпоўзаў,—
падкавалі бруха цынам.
Стаў падлейшым ён ад поўзаў,
хоць хваліла афіцыйна.
Рознай іншай швэнды-брэнды,
як гразі ў балоце гразкім.
Дурням даўшыся ў арэнду,
добра выпасвілі маскі...
А Глухі прыйшоў сам-насам,—

не дабраў сабе да пары.
Палівае розум квасам
і падлічвае далары.
Іншай не цаніў валюты,
бо ў Глухога курс узяты:
меркаваў, як будзе крута,
алалаху даць у Штаты.
Хоць не чуе, ўзносіць хвалу:
«Мілагучна! Пачуццёва!»
Але чорту мала ўцехі,
бо вушастыя ні слова.
Грае, грае, смыкам водзіць,
вянуць вушы ад бязладдзя.
Трэба рэкнуць, мабыць, «Годзе!»,
покуль доўбняй не пагладзяць.
Так і вымавіў нячысты:
«Сам я чую, што пагана!»
Ухваліла пекла свістам
той канец, даўно чаканы.
Загадалі: «Што б ні стала
зацягнуць сюды музыку».
Гэта скрыпка добра грала,
бо да людскіх рук прывыкла.
Як сказалі, так зрабілі:
адшукалі і злавілі.
Прывалок музыку ў нетры
сам пякельны канцэртмайстар.
Далі скрыпку ў рукі:
— Грай, на!
Грай і весела і файна!
Усміхнуўся:
«Грай-на? Файна?!»
Скрыпку ўзяў рукою дбайнай.
Пераверыў струны спрытна,
каніфоляй смык напытраў,
і душу у скрыпку ўставіў,
дзе ёй век і быць у славе.
І узнёс ён смык рукою,
і павёў яго па струнах...
І разліўся спеў ракою,

закіпеў, як на бурунах.
Скрыпка тая — як жывая,
бо душу ля сэрца мае.
І на свеце чулі людзі,
што музыка неба будзіць,
неба будзіць-абуджае
ён ад краю і да краю.
Скрыпка тая — як жывая,
ўсё гаворыць, размаўляе.
Чэрці просяць:
«Годзе, годзе!»
На карачках чэрці ходзяць.
А музыка грае, грае,
перуны усе склікае.
І пярун ударыў першы,
а за ім другі і трэці.
Здох адразу чорт старэйшы,
залямантавалі чэрці.
А музыка грае, грае,
перуны усе склікае.
А яны — бесперастання
б'юць пякельнае шайтанне.
І грымелі так грымоты
і па пекле, і па чорту.
Пекла ўсё ушчэнт разбіта,
знікла чортава ўся світа.
І няма, і век не будзе
больш людзям яна паскудзіць.
Толькі куча — развал самы
застаецца гнуснай плямай...
І пайшоў музыка ў людзі,
і цяпер па свету ходзіць.
Ён людзей да шчасця будзіць,
ён заўсёды у народзе.
Грае скрыпка ціха-ціха,
аж палохаецца ліха.
Тая скрыпка так іграе,
так выразна вымаўляе,
што аж чуе люд вясковы,
як са струн злятаюць словы.

Калі схочаш ты паслухаць,
як іграе скрыпка тая,
калі хочаш знішчыць скруху,
што на сэрца набягае,—
падыдзі з душою шчырай,
дзе рака шуміць над жвірам.
Каля рэчкі, каля броду,
дзе пільнуе прахалоду
дуб разложысты, вячысты,
там пачуеш ты ўсё чыста:
гэта скрыпка там іграе,
скрыпка грае, як жывая...

Пасажыр

Пра казку нічога не скажаш,
бо ў ёй можна бачыць, што згодна:
благой не бывае паклажы,
бывае пакладчык нягодны.
Ды толькі навошта тут чэрці,—
не ўцямлю да самае смерці.

Кандуктар

Хоць я у чарцей і не веру,
але, мне здаецца, суседзе,
што з гэнаю самаю хеўрай
у пекла якраз ты заедзеш.
Пра казку падумаеш двору,
цяпер жа вярнуся да справы:
Чаму ты на нэндзу, на гора
не выйдзеш са зброяй яскравай?

Пасажыр

Нялёгка змагацца з нядоляй,—
мне цяжка глядзець гаспадаркі.

Пакуль акірпаешся ў полі,—
аж соль выступае на карку.
Адзін я. Сыны падрастаюць.
Калі дачакаеш памогі?

Кандуктар

І ўсё ж яна, гутарка тая,
бадай што устала на ногі.
Цяпер ты мадзееш з кабылкай
і ззаду яе падпіхаеш.
Ну што ж, падпіхай, дабрадзею,
калі асалоду ў тым маеш...
А бачыў ты, ведаеш тое,
як трактар дзірван падымае?
З кабылкай вас, гэтакіх, двое,
куды і заткнуць ён не мае...
А бачыў ты, ведаеш тое,
як дзівы ствараюць супольна?!
З кабылкай вас, гэтакіх, двое
і ў сне не пабачыце тое...

Пасажыр

Цябе салавей не дагоніць,
калі нават возьме лакотку.
І ночы не хопіць сягоння,
і ноч можа здацца кароткай.
Ды ўсё яно добра ў дарозе,
калі ты ляжыш на паліцы,
калі не падданы трывозе,
ніякай няма навальніцы.
А вось, калі ўвойдзеш у хату,
як глянеш на шэрыя сцены,—

згадаеш і дзеда, і тату,
радню да дзесятых каленаў,—
дык надта і не паскачаш,
дык вельмі і не падскочыш,
і горка калі заплачаш,
хоць хочаш ты сам ці не хочаш.
Здалёку даваць парады,
бадай, і не дужа цяжка.
І праўда здаецца, як казка,
і казка здаецца, як праўда.
Бліжэй падыдзі, чалавеча,
да гэтай вясковай сядзібы,
калі насуваецца вечар
і кроіцца смутак на скібы...

### Кандуктар

Чаму гэта конча здалёку?
Скажу я такое і зблізку:
няўжо ў вас не выстарчыць клёку
разбурыць пакуты калыску?

### Пасажыр

Знайшлі б усяго мы для справы,
ды неяк шукаем не вельмі.
Абы з кім шукаць не цікава,—
паліжаш гарачай патэльні.
Няроўныя людзі на свеце.
Чаму ж ты не возьмеш на гэта?
Пачну я што-небудзь з сялецця,
а ён сапсуе ўсё налета.
Каб гэта як знішчыць благое,
лягчэй бы тады ў будаванні.

## Кандуктар

Не тое, дык маеш другое,
хоць ты разбурай рыштаванне!
Не робіцца гэта адразу.
Я казку скажу табе такжа.
У памяці, здэцца, не спрахла;
магчыма, што добра адкажа
на ўсе запытанні і страхі.

## Народнае апавяданне пра тое, як Салімонава дачка памерла ды ізноў аджыла

Жыў калісьці, кажуць людзі,
Салімон прамудры ў свеце.
Больш такіх, бадай, не будзе,
дачакаюць хіба дзеці.
Ён суды судзіў і радзіў,
ён даваў свае памогі;
калі хто ішоў у звадзе,
адыходзіў без трывогі.
Па навуку прыхадзілі
з вёсак, бліжніх і далёкіх.
Шырылася, як на крыллі,
слава пра яго навокал.
Разглядаючы ўсе справы,
дбаў ён пра такія рэчы,
што для нас і нецікава,
і без іх згінае плечы.
Думаў неяк, што нягладка
свет суладжаны наогул,
што ў ім досыць непарадку,—
разам з добрым шмат благога,
і зладзейства ў гэным ліку.
Колькі робіць яно шкоды!
Склаў ён запавет вялікі,

да ўсяго паслаў народа:
«Калі дзе каго хто зловіць
на зладзействе абы-якім,—
трэ, не кажучы ні слова,
вешаць спосабам аднакім».
Шыбельніц было даволі,
ды і шыбельнікаў такжа.
Толькі што́ — гайда у поле,
там інакшы свет пакажуць.
Салімон сядзіць і лічыць,
звесткі адусюль прыходзяць.
Радасць на яго абліччы:
ліха сцішыцца ў народзе.
Можа б так яно і стала,
пачакаўшы колькі часу,—
суцішацца пачынала
паступова, не адразу.
Але вось адно здарэнне
збунтавала ўсе загады.
Так, бывае, з рознай дрэні
пачынаюцца нялады.
Ці сляпы ты, ці відушчы,—
не прадбачыш свайго кону...
Нехта з тураўскае пушчы
завядоміў Салімона,
што ў ёй ходзяць стадам сарны,
што дабро гібее марна.
Гэта значыць, паляванне
Салімону трэба справіць.
Без ніякіх мудраванняў
рыхтаваўся ён да справы.
У вялікую дарогу
трэ збірацца як належыць:
не настроены памогі
ні ў начлегах, ані ў ежы.
Тыя падшываюць збрую,
а другія харч складаюць.
Хлопцы стрэльбы ўсё шаруюць
ды набоі набіваюць.
Зрэшты — ўсё сабрана гладка.

Узняліся цэлым родам,
нават з дочкамі і матка
едзе ў пушчу на прыгоды.
Паляваць было нядрэнна,—
сарны ў рулю самі лезлі.
Паляўнічым недарэмна
давялося быць у лесе.
Нацягнулі на паляну
настраляную здабычу.
І палуднаваць не рана:
шлунак час найлепей лічыць...
Напяклі, да сыці елі,
каля цёмнай сеўшы елі,
тых і сарнаў, і цяцерак
без ніякіх нормаў-мерак...
Прыляцела гора птушкай,
нечаканым нейкім чынам:
Салімонава дачушка
удавілася дзічынай.
Ад лясных усіх настрояў
узяла кавалак ладны.
Хто на добрае настроіў,
павярнулася ж няскладна:
той кавалак сеў у горле,
комам стаў, гавораць людзі.
Хоць у лесе, хоць у полі,
а дабра з таго не будзе.
Моцна стукалі у плечы,
даставаць хацелі з роту.
Мала сілы чалавечай
на падобную работу[1]...

---

[1] Гэта ўсё было калісьці,
у даўнейшыя часіны.
А цяпер, каб і давіўся,
сумаваць не так павінен:
трэба толькі зразу, з піру
клікаць доктара Шапіру.
Кажуць, добра памагае...
Сцеражы нас, божа, раю!

Толькі рукі сашчапіла
і сканала на паляне.
Салімону ўсё не міла —
тыя сарны, паляванне...
Колькі слёз было праліта,
цяжка здумаць нам пра тое.
Найсумнейшаю малітвай
Салімон дачку пакоіў.
Адвязлі пасля у Тураў,
там труну зрабілі з дубу.
Галасілі на хаўтурах,
не вярнулі тую згубу...
Як да шлюбу выпраўлялі,
залатыя ўздзелі шаты.
З дыяментаў даў каралі
бацька, засмучоны стратай.
Да труны народ прыходзіў.
Гэта звычай старабытны.
Спрадвякоў ён у народзе
і дагэтуль не забыты.
Адвітаюць і даруюць
крыўду самую цяжкую
нават тым, хто сам ніколі
не даваў людзям патолі.
Пра бязлітаснага ката,
што душыў людзей бязвінных,
скажуць:
«Лепш бы памагатых
палажыць у дамавіны...»
Салімонава ж дзяўчына —
чым яна каму павінна?!
Ля труны каціўся смутак
у апошнюю мінуту,
а народ ішоў няспынна
ля нябожчыцы — дзяўчыны...
Цяжкі ён, абрад хаўтурны!
І музыка грае сумна,
аж заходзіцца ад жалю
кожнай струначкай цымбальнай.
У такую вось хвіліну,

у такую вось часіну
падышоў і злодзей хіжы
да труны як можна бліжай.
Ён не спогад нёс для маці
або бацькаваму жалю,—
ён сачыў, ці шмат багацця
у труну дачцэ паклалі.
І надумаў дзею злую
злодзей у хвіліну тую:
абакрасці склеп магільны
ён наважыўся няўхільна...
Адбылося пахаванне,
разышліся ўсе дазвання,
засталіся вартавыя
ды пагурачкі нямыя...
Моцным сном заснула варта,
хоць зусім ёй спаць не варта.
Месяц з хмары ў хмару ходзіць,
сабе месца не знаходзіць —
і не свеціць, і не гасне...
У такім у змрочным часе
злодзей выйшаў на рабунак,
захапіўшы свой рыштунак.
А рыштунак нецікавы —
нейкі кол, рыдлёўка, лейцы.
Для зладзейскай гэнай справы
ўсё было якраз на месцы.
Змрокам могілкі спавіты
і спавіты задуменнем.
Калавурацъ добра пліты
ўсе трывогі, ўсе імкненні...
Злодзей зруйнаваў магілу,
вывалак і дамавіну.
Але века як прыстыла
над нябожчыцай дзяўчынай!
Ён знайшоў, урэшце, рады:
прывалок вялікі камень
ад магільнае аграды,
намагаючы рукамі,—
ды як гакнуў з усёй сілы,

аж здрыгнуліся магілы.
На ўсе бокі толькі трэскі
паляцелі з енкам, з трэскам.
Ад уздрыгу дамавіны
аджыла зусім дзяўчына:
нечаканым гэным часам
перайшло у шлунак мяса.
Стала змарлая на ногі
і давай гукаць памогі.
Усё было падобна цуду.
Злодзей меў такога пуду,
што нібы прырос на месцы,
зачапіўшыся за лейцы.
Каму слёзы, каму жарты...
Хутка збеглася ўся варта.
Абступілі дамавіну,
ўзялі злодзея, дзяўчыну
і да Салімона ў хату
на спатканне, на расплату...

. . . . . . . . . . . . .

Салімон ідзе ў пакоі,
прывітаўшыся з дачкою.
Нечуваным шчасцем поўны,
ён сумуе усё роўна:
злодзей вінен ці не вінен?
Ці была б жывой дзяўчына?
Салімон усю падзею
разабраў па парашынцы.
Хоць зладзеі ёсць зладзеі,—
дараваў жыццё злачынцу.
«Часам зробіць і ліхое
справу добрую на свеце»,—
казку з прыказкай такою
ад дзядоў мы чулі, дзеці...

## Пасажыр

На свеце усё памагае...
Падторкнуў і казку такую.

Ты ездзіш, ты шмат дзе бываеш,
а я дык нічога не чую.
Магчыма, што ўсё справядліва,
што лепш яно будзе ад раю.
А можа, што ў свеце не дзіва,
мяне гэтым хто ачмурае?!

### Кандуктар

Каму ж гэта клопат вялікі,
хто іншай не мае работы?

### Пасажыр

Абрыдлі і мне тыя лыкі,
з ахвотай змяняў бы на боты.
Ды цяжка асмеліцца вельмі...
Жыву не ў якой я пустэльні:
бліжэй падыдзі, чалавеча,
пабачыш на ўласныя вочы,
што гэтай нядолі адвечнай
ніхто і не хваліць, не хоча...
Ды цяжка адкінуць, пакінуць
усё, што ў стагоддзях збірана.
Не выганіш гэтага клінам,
бо будуць няўгойныя раны.
Мне кожны памежак знаёмы,
смяецца мне кожны лісточак.
Дык што ты мне радзіш для злому,
дык што ты мне радзіш, браточак?
Павінен я кінуць, зрачыся
ўсяго, што з маленства мне міла?

## Кандуктар

Паслухаць, дык проста нячысцік
цябе заганяе ў магілу.
Якую няпраўду гаворыш!
Як шкода цябе мне, як шкода!
І вас жа такіх —
яшчэ мора,
на вас жа падобных —
урода.
Ты спутаны ў межах бясконца,
і свет яны твой завязалі.
І свету,
што бачыш з аконца,
яны табе толькі і далі.
Ты рыеш,
як крот,
сваю норку,
яе называеш ты
светам.
Ідзі,
узыдзі
і з узгорку
пабачыш яснейшую мэту.
Ты звык,
што памежкі навокал,
ты лічыш за шчасце іх путы.
Стань вольны!
Будзь вольны,
як сокал,
зрачыся спрадвечнай пакуты!
Гавораць з табою лісточкі? —

З сусветам тады загаворыш!
Тут сэрца тваё —
на шматочкі,
там —
веліч,
узвышшы,
там зоры!
Даволі,
даволі пакуты!
Пара схамянуцца урэшце!
Да меж вашы душы прыкуты? —
Знішчайце памежкі
і рэжце!

. . . . . . . . . . . . . . .

У столь узнімаецца дым
ад моцнай сялянскай махоркі.
Як з морскім прыбоем, у ім
знікаюць абрыўкі гаворкі.
Праехалі і Цёмны Лес,
не скончылі гутарку гэту.
Адзін —
дык на станцыі злез,
другі —
дык: «Білеты! Білеты!»

**Цягнік ідзе ад Оршы да Унечы,**
**вязе людскія клопаты і рэчы.**
**Грукочуць колы, лязгаюць рэсоры.**
**І так — цераз даліны, цераз горы —**

цягнік даганяе ўсё дзень,
і ноч паабапал дзяжурыць.

Здрыгаючыся, ён ідзе,
цыгару вялізную курыць.
І дым, і туман, і агонь
пярэстую склалі заслону.
Калышацца ў далі вагон,
гаворыць вагон да вагона.
Дарога ўсё хіліць на сон,
бадай што праз сон і даносіць:
прыходзіць пачвара ў вагон,
брыдкая і звыклая досыць.
Няма галавы на плячах,
на сховах знаходзіцца ў пузе.
Пытаюся:
— Як жа не счах,
праклятты ты гордзіеў вузел?! —
Глядзіць адным вокам праз пуп,
праз пуп і гаворыць пачвара.
Здаецца, што некалькі труб
уладжана ў гэту бачару.
— А як цябе зваць? — гавару.
— Дон Пуза! — адказвае басам.
Я вочы узняў угару:
«Ды што ж гэта гэткае часам?!»
— Куды ты?
Чаго ты,
Кашчэй?
Чаму ты скампакціўся гэтак? —
Ён кажа:
— Каб думкам мякчэй.
Бліжэй да мазгоў і наедак...
— А хіба не шкодзіць табе,
Дон Пуза,

суседства такое?
Ці страўнасць яно пераб'е,
ці будзе мазгі непакоіць?
— Бывае.
Тады я ляжу,
каб лепш упраўлялася страва...
— Хто вытнуў такую дзяжу
на нашу агульную справу?
У шлунак управіў мазгі!
Няўжо яны з хлеба і сыты?
— Хапае ўсялякай мязгі,
і сала ад іх не закрыта...
— Не з сала і будзеш ты жыў,
Дон Пуза,
праклятае пуза!
— Варэння я шмат наварыў,
ды сёлета вадкае дужа...
— Ды чым ты ў змаганні памог,
для гэтай што ўнёс асалоды?
— Я больш на суніцы налёг,
яны ж гаркаваты заўсёды...
— Ты ўсё на прысмакі павёў.
Галоўнага бачу я мала!
— У-га!
Насаліў і грыбоў,
а рыжыкі —
проста міндалы...
— Ты здзеквацца хочаш, Кашчэй!
Ты думаеш ехаць на шлунку?
— Ды не!
Ёсць наліўкі яшчэ:
дванаццаць усякіх гатункаў...—

Глядзіць адным вокам праз пуп,
праз пуп і гаворыць пачвара.
Здаецца, што некалькі труб
усаджана ў гэту бачару.
Ды хваліцца:
— Добра якраз,—
не трэба капелюш ці шапка...—
Падаўся я долу
і ўраз
хапіў тое пуза ў ахапку,
шпульнуў на ўсю моц пад адхон,
не даўшы прахвосту ні слова.
У наспу урэзаўся ён
на поўнай хадзе цягніковай.
Чутно было:
ўслед галасіў
і лямантаваў пад адхонам,
аж ліст пассыпаўся з асін,
аж ліст узвіхрыўся над клёнам...
А я схамянуўся тады:
ці сплю я,
ці так прыдалося?
А што,
калі з гэтай хады
на суд крымінальны папросяць?
Не меў на увазе закон,
што ў пузе —
мазгі з галавою!
Ці ява,
ці праўджаны сон —
няхай больш не ходзіць за мною...
Імкнецца наперад цягнік,

у ноч і туманы убраны.
Наступныя й даўнія дні
разгортваюцца, як з экрана.
Мінаюць, ізноў паўстаюць
падзеі павольнай хадою.
Вярнуўшы паходню сваю,
трымаюць яе нада мною.
Святло рассявае з-за плеч
паходня на белым экране.
І змрок адхінаецца прэч,
звівае маўкліва убранне.
Да скал распасцерся туман,
узвышшы ускрыў Альбіёна.
Няспынна грыміць акіян
і пенай шпурляе салёнай.
На ўсіх ветразях карабель
імклівіць на поўдзень яскравы.
Ці шчоглы віхор пераб'е,
ці збольшыць паэтаву славу!
Паэта пакінуў свой край:
у свет, хоць да чорта на рогі!
Грыміць навальніцай няхай,
не верне паэта з дарогі.
У вецер, залеву, туман
праносіцца песня з узвышша.
На хвалях сваіх акіян
яе праз стагоддзі калыша.

Байран

*Бывай, бывай! Мой родны край,*
*Знікай за небасхіл.*
*Свіргочуць чайкі, вадаграй,*

*І ў ветры — сумны сквіл.*
*Садзіцца сонца ў сіні вод,*
*Плывём за ім услед.*
*Дабранач, сонечны заход*
*І ўвесь бязмежны свет!*

*З сабою сонца прынясе*
*У золку новы дзень.*
*Вітацьму неба, воды ўсе,*
*Айчыну толькі не.*
*Ачаг мой счах, а замак мой*
*Зазнаў самоты лёс.*
*Зрастае вал дзікой травой,*
*Ля брамы вые пёс.*

*Малютка паж, сюды, сюды!*
*Галосіш ты пра што?*
*Жуду калыша шал вады*
*І ўспенены прастор?!*
*Жані ты слёзы ад вачэй!*
*Наш карабель між хваль*
*Над лёты сокала шпарчэй*
*Праносіцца удаль.*

*Не страшны бура ці туман,*
*Хай вецер высіць вал!*
*Сэр Чайльд! І дзіва ў тым няма,*
*Што я засумаваў.*
*Пакінуў я маіх бацькоў,*
*Застаўся без сяброў.*
*Я аднаго ў табе знайшоў,*
*Другога — ў небе схоў.*

*Мой бацька благаславіў мяне,*
*Не ўдаў журбы пагляд.*
*Ды маці горкіх слёз глыне,*
*Пакуль прыйду назад...*
*— Даволі, годзе, хлопча мой!*
*Твой варт пашаны плач.*
*Калі б і я быў чыст душой,—*
*Заплакаў бы няйнач.*

*Ка мне, гайдук адданы мой!*
*Чаго ж ты спалатнеў?*
*З варожай сілай страшыць бой*
*Ці навальнічны спеў?*
*— Не за сваё жыццё дрыжу,*
*Сэр Чайльд! Любімых лёс*
*Журбой спавіў маю душу,*
*Усхваляваў да слёз.*

*Яны вось там, дзе ля далін*
*Стаіць твой гарадзец.*
*Што скажа жонка, калі сын*
*Спытае: «Дзе айцец?»*
*— Даволі, до, гайдуча мой!*
*Твой сум — цяжкая рэч.*
*Інакшы мой зусім настрой —*
*Са смехам еду прэч.*

*Паверыць хто ў хлуслівы ўздых*
*Любоўніцы, жаны?*
*Абсушаць сінь вачэй сваіх*
*З каханкамі яны.*
*Мінулых мне не шкода ўцех,*

*Не страшна бед і згроз.*
*Мой найгарчэйшы плач і смех —*
*Няма, хто б варт быў слёз.*

*Самотны я на свеце ўсім,*
*На морскі гон і даль.*
*Чаго ж мне сумаваць па кім,—*
*Па мне хто ўдасца ў жаль?*
*І пёс, павыўшы ля вуглоў,*
*Чужым служыць пачне.*
*Калі ж вярнуўся б я дамоў —*
*Парве ў шматкі мяне.*

*Мой карабель, імкні мяне*
*Праз пенны перакат.*
*Абы ў якой быць старане,*
*Каб толькі не назад.*
*Вітаю ўспенены прастор,*
*А змоўкне вадаграй,*
*Вітацьму пусткі, змрок пячор,—*
*Дабранач, родны край!*

. . . . . . . . . . . . . . .

Джордж Байран! Вы йшлі бараніць
не грэкаў, а грэцкія міфы.
Вяла вас антычнасці ніць
на поўдзень, у лаўры спавіты...
Джордж Байран! Мінула даўно
ўся гэна рамантыка ваша,
а з грэкамі туркі ўадно
для кухань лаўровы ліст важаць...
Джордж Байран! Каб ведалі вы

пра нашай краіны нядолю,
здратаваныя паплавы
і ў корань стаптанае поле...
Нядоля і слёзы сабой
краіны чало аквячалі,
пакуль рэвалюцый прыбой
развеяў жалобу ўсю ў далі.
Цяпер мы імкнемся далей,
руйнуючы, новае творым.
А з сініх і чорных вачэй
зганяем і слёзы, і гора.
Вітаючы радасны гон
і творчыя ўзлёты айчыны,
мы знішчым усякі прыгон —
над духам,
над сэрцам,
над чынам.
Хай думкі імкнуцца ўздагон
пра лёсы краіны, пра долю,—
не скоціць іх час пад адхон
ніколі,
ніколі,
ніколі!
Шумеце, грымеце няспынна
ў шляхах,
рэвалюцыі колы!
Уквечана ў дзейнасць айчына
і праца пануе наўкола.
Праходзім этап за этапам
да яснае,
пэўнае мэты.
Часіна разгортвае мапу

і ўсю разнастайнасць сусвету.
Там крыўда,
там вызыск,
там здрада,
уціскі раз'юшанай сілы.
Не вабіць працоўных прынада,
хлуслівая тая паліва.
Мы знаем,
мы ведаем добра
магчымасці і перспектывы.
Там —
куля й жабрацкая торба,
тут —
творчага духа узвівы.
Будуем жыццё на руінах
старога, апрыкрага свету.
Уквечана ў дзейнасць айчына,
бліжэе,
бліжэе ўсё
мэта.
Сячэце ў камені трывалыя усходы,
да яснай мэты шлях кладзеце просты.
Нягледзячы на хібы, перашкоды, —
Штурмуйце будучыні аванпосты!

*1929*

## ПЕРАД ІМЕНЕМ ЛЮБОВІ

### 1

На апошні сігнал зварухнуўся цягнік,
як нацятая туга спружына.
Семафоры зялёныя ўзнеслі агні
у карунках сталёвых пражылін.

Трапыхнуліся хустачкі, кветкі ў руках...
Засталіся яны на пероне...
А спружына, нацятая туга на шлях,
і пайшла — у магутным разгоне...

Цераз насыпы, масты, у няспыннай хадзе,
калыхаючыся на заваротах,
і людзей — ад людзей,
і людзей — да людзей,
і лагоду вязе, і турботы...

Наабапал вясна без ніякіх брыжоў,
зеляніна навокала, кветкі.

Гэта май праз зямлю праз усю перайшоў
і аздобіў красою палеткі.

Паміж кветак усіх адшукаў ён адну:
пазлацістыя ключыкі нашы.
Неба сіняе ключыкамі адамкнуў,
іх ля цёмнага лесу набраўшы.

І тады разліліся над нашай зямлёй
цеплыня, хараство і пяшчота.
Зазванілі крыніцы люстранай вадой
на каменні, карэнні, ў чаротах.

І тады заспяваў неаглядны прасцяг,
песня тая — сама навальніца!
А цягнік наш, набраўшы магутны размах, —
ён імклівіць, імкнецца, імчыцца...

2

Усміхнулася ветла суседка мая:
«Ўсё глядзела б... глядзела... глядзела...
Гэта ж нашы яны — і краса, і зямля,
гэта ж песня — для нас празвінела...

Гляньце толькі на гэны калінавы куст —
ён вяночкамі ўсцяжператканы.
Самы лепшы і самы патончаны густ
тут не знойдзе ніякай заганы.

Вы заўважце: паветра як водар нясе,
колькі ў ім асалоды дзівоснай —

і чабор, і душыца, і зёлкі усе,
што даюць нам цудоўныя вёсны!..

А сасонкі стаяць, а сасонкі шумяць,
шалясцяць, і гудуць, і гамоняць...
Толькі жыць, толькі жыць, не ўміраць,
хай было б яно вечным Сягоння...

Лепш пануе няхай на зямлі супакой
і лагода пануе на свеце,
каб прыдбанае нашай працоўнай рукой
спажывалі мы самі і дзеці...

Не падумайце, што выхваляюся я:
я пры смерці была неаднойчы.
І не толькі каб я, але наша сям'я
чорнай смерці глядзела у вочы.

Я ў блакадзе была, ў Ленінградзе была...
Вось чаму я — за вечныя вёсны!
Каб і песня звінела, над светам плыла,
рассыпала духмяныя росы»...

3

...«І тады, як цяпер, красавала зямля,
красавалі і ліпы ў тым часе.
Як навала якая, як пошасць, маўляў,
люты вораг з заходу прымчаўся.

Ён паліў, вынішчаў, біў без літасці ўсіх,
біў жывое і біў нежывое.

Ён пакорных шукаў, а знайшоў тут такіх,
ад якіх налажыў галавою...

Вось у час той цяжкі, незвычайна цяжкі,
я з сям'ёй і жыла ў Ленінградзе.
Спраў хапала для кожнай сумленнай рукі:
муж — на фронце, а я — ў санатрадзе...

Пра жыццё — не кажу, бо напісана шмат
і ў таўстых, і ў танюсенькіх кнігах:
на руінах змагаўся тады Ленінград
і змагаўся на ладажскіх крыгах.

Жалю многа на сэрцы, і быццам няма —
гэта толькі ўспамін пра былое.
Ці ж не так нам сігналіць з туману маяк,
каб не трапіць на гора другое?

Але ж я дакажу вам прыгоду сваю.
Муж — на фронце, а я — ў санатрадзе.
І лячу, і парады я хворым даю...
Хто ж самой мне ад сэрца парадзіць?

Я цяжарнай была; я чакала дзіця,
а цяжар мой не менш, чым падвойны.
Я павінна была даць жыццё для жыцця.
Вось адкуль ён і смутак няўгойны»...

4

...«У радзільны прытулак прыйшла я сама.
Гэты дзень не забуду ніколі.

Вораг біў і крышыў, камяніцы ламаў.
Тынк ссыпаўся на ложкі са столі.

І пад музыку тую гармат і сірэн
першы дзень свой спаткала дачушка.
Я тулілася з ёй на руках каля сцен:
тынк — ссыпаўся ён і на падушкі...

Парушаючы звычай дакторскі стары,
ўрач сказаў мне са шчырасцю горкай:
«Або вы — ці яна, хтось, напэўна, згарыць.
Што рабіць! Не паможаш гаворкай...»

«Мілы доктар! За спогад удзячна вам я,
памагае і добрае слова.
Не забудзьце:
Расія — Айчына мая,
а яна —
поўна сілы жыццёвай!

Я ў маленстве сама каштавала бяды,
ела хлеб і з аленяга моху.
Мне бываў малаком кубак зімнай вады,
а ўзрасла я —
без ахаў і охаў...

Будзе цяжка напэўна,
ды я і яна
пражывём, адшукаем і сілу!
Гэта ж ворага б'е наша ўся старана,
значыць — хутка ён ляжа ў магілу»...

5

...«Як жыла, як сваю гадавала дачку, —
я не буду казаць вам пра тое.
Дамагалася толькі пра мужа пачуць,
бо ля сэрца віло непакоем.

І аднойчы прынеслі жалобны пакет:
«Лёг навекі ў баі за Айчыну...»
Стаў мне цесны адразу шырокі сусвет,
стала цемра сцяной прад вачыма...

Пад нагамі зямля, быццам хвалі, плыве
і гайдае то долу, то ўгору...
Шум нялюдскі з'явіўся ў маёй галаве,
а ўваччу — прамяністыя зоры...

Вось, здаецца, хвіліна — і прыйдзе канец,
і на свеце няма мяне болей.
Сапраўды, я магла ад жуды скамянець,
скамянець ад жалобы і болю...

Ды дачушка мая ўратавала мяне:
падала яна голас у час той.
Уваччу неяк стала відней і відней,
пачала і рукамі я шастаць...

Падышла да калыскі, на рукі ўзяла,
да грудзей дзіцянё прытуліла...
І з'явілася ў іх, як калісьці была,
незвычайная, ўпартая сіла.

«Не! Мой любы жыве, ды і мы будзем жыць.
Гэта так і не будзе іначай!»
Хоць стаяла ў той хвілі на самым брыжы,
не было
ані слёз,
ані плачу»...

6

...«Самалёты ішлі з дапамогай да нас,
вывазілі слабейшых з блакады.
Давялося і нам у прызначаны час
курс на Волагду ўзяць з Ленінграда.

Там калісьці была і аселасць мая,
я і трапіла ў хату да маткі.
Тры жанчыны сышліся — адразу сям'я,
пачаліся другія парадкі.

А мой муж? Раскажу я цяпер пра яго:
з бітвы ён не прыйшоў на паверку,
бо крануцца не мог, бо падняцца не мог:
хоць не згасла жыццё, але змеркла»...

7

...«А было гэта так. Ён у бойку хадзіў,
як і ўся яго рота хадзіла.
Білі ўпарта яны, і праз колькі гадзін
вораг змогся, а страціўшы сілы,—

адышоў, дачакаўшыся ночы, назад,
дзе і стаў за агонь і за доты...

Палягло там нямала і нашых салдат,
быў паранены муж мой смяротна.

Хто астаўся жывы — заявіліся ў штаб,
расказалі пра бой, пра герояў.
І пра мужа ў тым ліку, як вёў ён атрад
і як біў да апошніх набояў...

І што бачылі самі, як болей не ўстаў,
як скасіла яго з аўтамата...
Гэта — праўда была. Ён і лёг ля куста,
ён і лёг там — салдат ля салдатаў...

Трапіў ліст мой да штаба у самы адбой,
а ў лісце ж я прасіла вядомку...
Мне і далі адказ, што мой муж, як герой,
лёг за шчасце жывых і патомкаў»...

8

...«Снег ішоў. Пачынаў засыпаць, закрываць,
засцілаць пеляной, абрусамі
поле бітвы і тых, што на полі ляжаць
і што больш не падымуцца самі...

Цераз поле ішоў у пакуце цяжкой
пакалечаны, ранены воін.
Падпіраўся ён стрэльбай слухмянай сваёй...
Зачапіўся за мужа майго ён...

Зваліўся праз цела, а муж — застагнаў...
«Ты жывы, брат? Чакай жа, чакай жа!
Нам з табою сцяжынка цяпер, брат, адна:
ці устанем абодва, ці ляжам...»

Перамучыўся той, абмятаючы снег:
быў дужэйшы і сам ненамнога.
А майму ўсё здавалася, быццам у сне,
што збіраецца ён у дарогу...

«Ну! Цяпер ты — салдат, хоць ідзі на парад!
Падымайся, пайшлі памаленьку!»
Ды не можа падняцца вось гэты салдат:
неслухмянымі сталі каленкі...

Просіць муж, просіць:
«Брацятка мой!
Не пакінь ты мяне тут на згубу!
Падымі ты мяне, можа, дойдзем з табой,
я ніколі цябе не забуду»...

Уздыхнуў той і цяжка:
«Не дойдзеш са мной,
ад мяне дапамога малая!
І нага сапсавана, і правай рукой
я, на ліха, бадай не ўладаю...

Ды нічога! Трымайся, цярпі яшчэ, брат!
Не пакіне жывы ды жывога!
Абы толькі як-небудзь дайсці мне ў санбат —
будзе зразу табе дапамога...

Я адну табе толькі параду даю:
варушыся, наколькі магчыма,
бо мароз пачынае работу сваю,
нерухомы — замерзнеш, хлапчына»...

І пайшоў цераз поле ў пакуце цяжкой
пакалечаны, ранены воін...
Падпіраўся ён стрэльбай слухмянай сваёй,
азірнуўся на мужа майго ён...

Муж астаўся чакаць, а на думцы адно:
«Калі прыйдуць, а як адшукаюць?
Гэта ж ноч, гэта ж нейкае чорнае дно...
І яна ж мяне недзе чакае»...

9

...«Снег ішоў ды ішоў. І засыпаў зусім
майго мужа, як коўдрай ватовай.
Куст адзін і гайдае галінкі над ім,
як пастаўлены кім для аховы...

Каб не снег, на марозе б, напэўна, застыў —
гэта ж ноч, а зямелька — як камень...
Перад ранкам пачулася:
«Вось і кусты,
недзе ён і ляжыць пад кустамі...

Эх ты, браце! Укрыўся ты коўдраю як!
Ад мяне не схаваешся — дзе там!
Я ж прыродны чалдон, я, браток, сібірак!
Я і ноччу патраплю на мэту»...

Аказалася што?
Адшукаўшы шпіталь,
дзе зрабілі яму перавязкі,
ён, знясілены сам, ды трывалы, як сталь,
санітараў павёў шчырай ласкай...

На насілкі паклаўшы, панеслі яны...
Як данеслі? І гэта ж — дзівосы:
грукаталі над імі, ля іх перуны,
не адзін па адным, але стосам...

Несучы, да зямлі прыпадалі не раз,
па дарозе — хапала выбоін...
І дайшлі, і данеслі...
Затым і не згас,
хоць і быў каля смерці самой ён»...

10

...Дзе ж ён, той сібірак? Да тайгі ён дайшоў?
Ён палюе там собаля, векшу?
Як хацелася б гэтых пабачыць сяброў:
самых сціплых і самых найлепшых!

Цераз Нёман, Дняпро, цераз Волгу і Дон —
праз усе найглыбейшыя воды —
хай ляціць мае слова за імі ўздагон,
прывітанне нясе ім з заходу.

Дарагія мае, залатыя мае!
Я пра вас не забуду ніколі.
Чалавек чалавека найлепш пазнае
у пакуце цяжкой і нядолі.

Як бы добра з такімі спаткацца ізноў!
Ды яны разышліся
па нашай Савецкай Айчыне...
Слава ёй! —
Меўшы гэткіх цудоўных сыноў,
аніколі яна не загіне!..

11

...«Не сабраць у адно чорных думак сваіх:
я — у Волагдзе з Таняй малою.
Муж, нядаўна закрэслены ў спісах жывых,
пачынае пытацца:
«А што там з сям'ёю?»

І ні я пра яго, і ні ён пра мяне
ў гэтым часе нічога не знаЛі...
Гэта ж морскія хвалі: адна праміне —
набягаюць інакшыя хвалі...

Адрасаты мяняліся ў нашых дамах
пасля кожнай штодзённай бамбёжкі.
Быў вось толькі нядаўна — і раптам няма,
а няма — да апошняе крошкі...

Вылятаючы ў Волагду, дваццаць мінут
на выборы я мела усе там.
І каму б я сказала, што там, а не тут
я з дачкой
і
з жалобным пакетам?..»

12

...«Доктар мужа пытае:
«Ну як, мой герой,
адчуваеце? Хутка на ногі!»
У адказ жа адно:
«Што з маёю сям'ёй?
А чаму ў маім сэрцы трывога?»

Памаленьку, а доктар і вышукаў ніць:
дапытаўся пра Волагду, маму.
А пасля — над прасторам бязмежным ляціць
запытальная радыёграма:
   «Муж шукае сваю залатую Любоў...
   Ён — жывы. Ці жывая яна дзе?»
І дайшла тэлеграма да нашых краёў,
не згубілася на апараце»...

13

...«Я — таксама ляжу. Я да сэрца тулю
і дачку, і ўспаміны, ўспаміны...
Я гарую за родную нашу зямлю,
але ж ён... Дзе мой любы, адзіны?..

Я і сплю, я і ем — для дачкі,
                                     каб яна
мела такжа і сон, і мацунак...
Добра знаю — ў Айчыне не буду адна,
але ж як ты пазбудзешся думак?

А яны — набягаюць, падходзяць, ідуць
і варушаць, кранаюць за сэрца...
А яны і ўначы не спыняюць хаду,
а за імі ж — і сэрца імкнецца»...

14

...«Пачынае здалёку матуля мая:
«Не гаруй ты, дачушка, дарэмна...
Колькі тут між людзей параслухала я...
Гэта ж час не звычайны — ваенны...

От, напішуць каму, што забіты ў баю,
а ён, бачыш, паранены цяжка:
ці ў палон пападзе, ці ў бальніцу сваю...
Гэта ж — лёс, гэта — лёсава ласка...»

«Ты не катуй мяне, ты мяне не трудзі,
бо і такператруджана ўся я...
Ты мне ясна скажы, дай адказ мне адзін:
ёсць вядомка? Вядомка якая?..»

Ну — у слёзы яна... Дастае з рукава,
падае мне паперы кавалак...
Свеце мілы мой! Хто ж бы тут толькі стрываў!
Вось тады — дык і я не стрывала...

Вы паверыце мне, дарагі мой сусед,—
я вас, можа, ў жыцці не пабачу —
я тады, атрымаўшы жалобны пакет,
чорны смутак піла свой без плачу...

А цяпер — не стрымалася я аніяк,
мае слёзы — прамылі б і камень...
І смяялася я, галасіла, ды як —
як над Нарачам чайка якая...

Цалавала дэпешу, матулю, дачку...
А пасля — цалавала... дэпешу...
Гэта ж радасць такая адна на вяку:
ён жывы, для мяне ж ён мілейшы»...

15

...«Што пасля? Я ізноў пабыла на вайне,
а дачка засталася з бабуляй.

Муж — ён, можна сказаць, толькі бачыў мяне —
і пайшоў, абмінаючы кулі...

Я — спынілася ў Празе, а муж мой — далей,
ён бываў і за самым Берлінам...
А спаткаліся... ў Мінску. Сям'ёй — весялей,
што балела — цяпер успаміны...

Вось дачушка, якой адмаўлялі ў жыцці...
Памятаеце, доктар прарочыў?
Ён ад шчырасці раду жадаў мне знайсці,
але ж матчыны — лепшыя вочы?..»

16

...«Вам цяпер зразумела, чаму праз акно
я так прагна гляджу на ваколле?
Як з найлепшай лазы вінаграднай віно —
водар гэты радзімага поля.

А у ім — і чабор, і душыца, і кмін,
і усе незлічоныя зёлкі.
Ён чаруе мяне незраўнаннем сваім,
як чаруе барвовасць вясёлкі.

А сасонкі стаяць, а сасонкі шумяць,
шалясцяць, і гудуць, і гамоняць...
Толькі б жыць, толькі жыць, не ўміраць...
Свеце мілы, дай вечнасць Сягонню!

Хай пануе на нашай зямлі супакой
і лагода пануе на свеце,
каб прыдбанае нашай працоўнай рукой
спажывалі мы самі і дзеці»...

17

Гераіня ты нашага часу і дзён,
без парфумы на слова ці справу...
І не дзіва, што з тысяч усякіх імён
табе далі — Любоў —
і
па праву.

І таму ты ў агні не згарэла, Любоў,
не загінула ў бойках, блакадзе —
бо найлепшае ўсё ад жанчын спрадвякоў
лёс сабраў,
даў табе
і
суладзіў.

Хараством —
не пакрыўджана ты аніяк,
дабраты —
сэрца шчырае поўна.
А на постаць —
мілей
ты
ўсялякіх крыўляк,
хоць на іх і прыгожая воўна...

Не зраклася ты друга свайго і тады,
калі лёс выкрасляў яго імя,
а ўзмацняла яго, бо лунала над ім
летуценнямі ўсімі сваімі...

Памагаеш, наколькі хапае памог,
калі любіш — дык любіш да рэшты.
І за модную сукню ці пару панчох
ні сябе, ні яго не грызеш ты...

Чэрствы хлеб запівала сцюдзёнай вадой,
на акрасу — знаходзіла жарты...
Калі што,
калі як
і было са слязой;
той слязы —
дыяменты не варты!..

Так і пойдзеш ты з другам —
рука
аб руку —
цераз радасць, пазбыўшыся гора.
Так і пойдзеш, Любоў залатая,
пакуль
з намі ясныя зоры гавораць.
І за мукі твае,
і за радасць тваю,
і за ўсіх тых —
сардэчных і ветлых —
я табе прысвячаю аповесць сваю,
кленчу я перад іменем светлым...

*1958*

## БЕЛАРУСКАЯ АРЫЯДНА

...Жыў калісьці на Крыце Мінос уладар.
У Міноса дачка Арыядна была.
Страхалюд Мінатаўр вынішчаў там людзей,
аж пакуль не з'явіўся асілак Тэзей.
Ды прайсці лабірынтам асілак не мог.
Арыяднін клубочак яму дапамог:
лабірынтам вяла Арыядніна ніць,
памагла Мінатаўра знайсці і забіць...
З даўніх дзён тых легенда жыве і цяпер:
Арыядна, Тэзей і раз'юшаны звер...

*Са старой легенды*

...Больш за ўсё я дзіцячыя ўсмешкі люблю!
Хай красуюць у дзетак на вуснах яны...

*Арыядна Казей*

## ПРЫСВЯЧЭННЕ

Вельмі многа на свеце ўсялякіх імён:
мілагучных,
звычайных,
нязвыклых зусім.
А за іменем кожным

людзей мiлiён,
што жылi цi жывуць,
як пад сцягам,
пад iм.
Не бывае мiж iмi нiколi такiх,
што прыносiлi б носьбiту
шчасце навек.
За жыццё
услаўляюць людзей мастакi,
калi гэтага варты
жыццём
чалавек.

Але ўсё ж ткi бывае,
што нейкая нiць
ад цудоўных iмён
легендарных людзей
пераходзiць вякi,
новай песняй звiнiць,
як тваё нам звiнiць,
Арыядна Казей.

Скаргi ў песнi няма
нi на долю тваю,
нi на слёзы тваёй
растаптанай вясны...
«Больш за ўсё я дзiцячыя ўсмешкi люблю!
Хай красуюць у дзетак на вуснах яны!»

Сцiплы вобраз звычайнай сялянскай дачкi,
што за шчасце людское
хадзiла на смерць,

як і многіх сардэчных,
бясстрашных такіх,—
будзе вечна ў народнай пашане зіхцець.

1

Беларуская казка
далёкіх вякоў
нам гаворыць, як Цмок
на народ наш прыйшоў.

Як людзей вынішчаў ён,
старых і малых,
як дзяцей забіраў
у няволю ад іх.

Вось адна гарацешная маці
тады,
ідучы ад крыніцы
з вядзерцам вады,

арасіла ўсю сцежку
сваімі слязьмі,
бо той Змей разлучыў гэту маці
з дзяцьмі.

І слязінка адна
з воч матулі старой
па́ла ў гэта вядзерца
з крынічнай вадой.

І застыла сляза,
як жамчужына, там.

А такая ж была ў ёй
краса-пекната,

што, з вядзерца дастаўшы,
матуля яе
палажыла на покуце
ў хаце свае.

Ад жамчужыны гэтай,
дзівоснай красы,
нарадзіўся ў яе
на тым покуце сын.

Узрастаў ён,
за кожнай хвілінай дужэў.
Ён на першым жа дні
ля стала ўжо сядзеў.

На другім
той сыночак-асілак хадзіў
і каня-летуна
ў павадочку вадзіў.

А на трэці ўжо дзень
ён у кузню пайшоў.
Зброю выкаваў там
для ратунку братоў.

Адшукаў ён да Змея
дарогу праз лес.
Знішчыў Змея самога
і лёх яго ўвесь.

Ён з пакуты прывёў
і братоў, і сясцёр.
Сам жа знік той асілак
ля сініх азёр...

Калі зноў прынясе
таго Цмока віхор,
дык устане асілак
ізноў ад азёр.

І ад кожнай нявіннай
слязінкі людской
стануць волаты новыя,
пойдуць у бой.

З гартаванаю зброяй
паўстануць сыны.
Не даруюць
за матчыны слёзы
яны.

Згіне зноў і навекі
той Цмок-ліхадзей,
і не будзе ніколі
яго анідзе...

Так пра матчыны слёзы,
сынову любоў
беларуская казка
гаворыць з вякоў.

2

Як пад сцягам пірацкім,
з заходу прыйшлі
ў чорным дыме пажараў
вайны караблі.

Вёў па нашай зямлі
гэты д'ябальскі флот
сорак першы,
нядобрае памяці,
год.

Мінамёты, гарматы
з усіх батарэй
смерць шыбалі у хаты,
да кожных дзвярэй.

Быццам казачны Змей
адрадзіўся, ўваскрос
і на кольцах сталёвых
звіваўся і поўз...

А ні сэрца, ні літасці
ў ім не было,
ён насіў,
ён і сеяў
суцэльнае зло.

І узняўся тады
ўвесь працоўны народ.
І пайшоў ён крышыць
гэны д'ябальскі флот.

3

Каты лютыя бралі
Ганулю Казей,
з хаты роднае бралі,
ад родных людзей.

А яна, перад смерцю,
з фашысцкай пятлі:
«Не давайце паганцам
Савецкай зямлі!»

Дзве слязінкі-жамчужыны
палі на дол,
пакаціліся сцежкай
ля вёсак, ля сёл.

Прыкаціліся ў хату,
да родных дзяцей,
дзве слязінкі-жамчужыны
Ганны Казей.

Арыядне у сэрца
запала адна,
каб за матчыну праўду
стаяла яна.

А другая Марату
на сэрца лягла,
каб рука яго цвёрдай
у помсце была...

4

Арыядна пайшла
ў партызанскі атрад.
Партызанскі атрад
адшукаў і Марат.

Ён,
і ў бронзе паўстаўшы,
па смерці сваёй,
зброю ўзняўшы,
імкнецца
на ворага ў бой...

5

Што магла —
ўсё ў атрадзе рабіла яна.
Калі трэба —
з людзьмі,
калі трэба —
адна.

Гартавалася добра
ў паходах лясных,
на парозе семнаццатай,
юнай вясны.

Не дзявочыя сны
і не кветак букет:
то на ворага ў бой,
то ў засаду, ў сакрэт.

Каля боку вінтоўка,
ў сумёце сама.
А праз боты дзіравыя
лезе зіма...

Паўкажушак дубее
і стыне карой,
вышчараецца люты мароз
па-над ёй...

Навучылася ўсё
Арыядна цярпець:
— Чым рабыняю жыць,
лепш геройская смерць!

6

На вайне небяспека
і ўночы, і ўдзень.
Ад разведкі
трывожная вестка ідзе:

«Вораг лес акружае
пякельнай пятлёй.
Артылерыю
вораг
прывёў за сабой...»

Баявая трывога:
— Прарвацца хутчэй!
Ды не спіць і аблога,
не плюшчыць вачэй.

Мінамётным агнём
сустракаюць атрад.
Ні наперад ісці,
ні вяртацца назад...

Закапаліся ў снег.
Ад начы да начы...
Праз варожы заслон
аніяк не ўцячы...

А мароз,
як раз'юшаны пёс з ланцуга,
ўсё гайсае ля рук,
па спіне,
па нагах...

7

Ноч прайшла так.
І дзень перабыты адзін.
А здаецца,
мінула
сто тысяч гадзін.

А здаецца,
мінула дванаццаць гадоў:
пасівелі галовы
у нашых братоў.

У разведку паслалі
спрытнейшых траіх,
каб прайшлі,
каб гукнулі падмогу да іх.

Арыядна
той трэцяй якраз і была.
Тры гадзіны
сто метраў
разведка паўзла...

Прапаўзлі.
Праслізнулі
ля псоў-чужаніц.
Ды не ведае гора
ніякіх граніц:

на засаду натрапілі
ў вёсцы глухой.
Двое выйшлі навекі
з сям'і баявой...

8

Арыядна адна засталася
зусім.
Праз ноч яна йдзе
з даручэннем сваім.

Памарожаны ногі.
На ранах ідзе,
каб ратунак
таварышам даць
у бядзе.

Праз цёмную ноч яна йдзе,
праз лясы.
На дарозе чутны
чужаніц галасы.

Так праходзіць яна
за вярстою вярсту,
сустракае яна
партызан на пасту.

Па трывозе —
на конях выходзіць атрад.
Праз гадзіну
падмога імчыцца назад:

зратавалі,
забралі з аблогі сяброў...
Арыядна
ў дарогу збіраецца зноў.

9

Трэба ў вёску,
для хворых па лекі,
хутчэй.
Арыядна ідзе
да знаёмых людзей...

Ці ішла, ці паўзла —
ўсё дастала яна
і прынесла ратунак сябрам
да відна.

А сама,
як падрэзаны колас,
на дол...
Не кладуць для бяды

ні дарог,
ні мастоў,—

падышла
і лягла ля дзяўчыніных ног.
З ёю смутак
істужкаю чорнаю
лёг...

У лясным лазарэце
хірург ля стала...
А бяда
ля дзяўчыніных ног залягла...

10

Быў калісьці на свеце
Сцэвола-герой.
За айчыну —
руку ён паклаў на агонь.

Як узор
несмяротнай адвагі такой,
у сталеццях праслаўлена
імя яго...

Як жа ўславіць нам тых,
што гарэлі ў агні,
што агонь залівалі
сваёю крывёй,

каб айчына пазнала
шчаслівыя дні,

каб свабода
заўжды
красавала на ёй?

На шпітальныя ложкі
прыходзіў агонь,
завіваўся пад скроні,
пад марлю,
бінты...

Дабяла выпякаў ён там
кожную скронь,
а на ўгоеных ранах
дасюль не астыў...

11

Самалёт
да Байкала
дзяўчыну адвёз.
Зноў хірургі.
Чацвёрты
і пяты наркоз...

Нерухомыя ногі...
Нібыта ўсё сон.
«Абмінуць...
Абысці ненавісны заслон»...

«Што ты, пушча,
трывожна шуміш нада мной?
Што ты сэрца мне

кроіш
настырнай тугой?

Я сяброў адратую!..
Не здамся!..
Прайду!..»

. . . . . . . . . . .

Ачуняла.
Пазнала сваю ўсю бяду...

12

Гэта сніцца ўсё быццам...
Не знаць бы вас,
сны!
Пачынала вучыцца хадзіць
ля сцяны...

Ад калыскі
ў маленстве —
матуля вяла.
Без матулі цяпер:
каля сцен,
ля стала...

Неслухмяныя ногі
адводзілі ўбок.
Арыядна
смялей накіроўвала крок.

А пратэзы
скрыпелі

на хворых нагах,
як праклёны для тых,
што пасеялі жах...

За калецтвы людскія,
за безліч магіл
гэты скрып
свае скаргі
над светам насіў...

Немагчымае стала
магчымым тады:
дамаглася юначка
павольнай хады...

13

І руіны, і попел,
і шэры пясок...
Толькі вецер гайсае
з кутка
у куток.

Засыпае сляды
ненажорнай вайны.
Каб навекі загінулі
ў свеце яны!

Распрастаў свае плечы
працоўны народ.
— Аднаўляць!
Будаваць! —
заклікае паход...

Як з усходкі на ўсходку,
вышэй і вышэй,
не шкадуючы сіл
і бяссонных начэй,

Арыядна ў паход
па навуку ідзе,
каб з навукаю жыць
і тварыць для людзей,

каб наяве пабачыць
шчаслівых дзяцей
і усмешак вясёлыя іскры
з вачэй...

А якая ж навука патрэбна
для тых,
што да працы вялікай
рыхтуюць малых,

навучаюць у школе ад малку
дзяцей
жыць для шчасця
працоўных людзей?

І ці многа такіх ёсць бяздушных у нас,
што не ўспомняць
з падзякай сардэчнаю час,

калі ў школе
настаўніка першы урок
узмацніў,
падтрымаў
наш няўпэўнены крок,

дапамог да вышынь нам узняцца ў жыцці
і да мэты
найлепшую сцежку
знайсці?

14

Толькі духам слабыя —
на лёгкі ўсё шлях.
Толькі моцныя духам
шукаюць размах

і для творчае працы,
на шчасце для ўсіх,
і для сіл нестрыманых
магутных сваіх.

Арыядна упарта ішла
праз гады,
не спыніла на хвілю
напорнай хады.

Як пачэсны за працу вянок на чало,
атрымала
настаўніцкі сціплы дыплом...

Лабірынтам нялёгкім
яна перайшла,
каб дарогу другім
паказаць
да святла,

памагчы не шукаць,
як шукалі калісь,
а стварацць
кветку шчасця
Савецкай зямлі.

15

Не за косы тугія,
што вісноуць да пят,
не за чорныя бровы
ці млосны пагляд,

не за тое,
завуць што жаночай красой,
хоць не горш ты другіх
прыгажосцю сваёй,—

за вялікую мужнасць
і ўпартасць тваю
я пашану сваю
ў сціплым творы
даю.

Паядынак вяла ты
са смерцю самой,
на пакуту гарчэйшую
выйшла ты ў бой,—

і адолела іх.
Нам усім
прыклад вечны дала
паядынкам сваім.

Нават камень
рассыпаўся б
дробнай жарствой,
каб прайшоў ён
па сцежцы жыццёвай
тваёй...

Арыядна, сястрыца!
Нязломны твой дух
перамог
найвялікшае гора,
бяду.

Памагла табе
матчына спадчына —
ніць,
што не тлее,
не тоне,
ў агні не гарыць,

што зіхціць
за зіхценне ўсіх зор
яскравей,
то —
любоў да айчыны,
працоўных людзей.

Лабірынтам нядолі,
пакуты,
трывог

з гэтай ніццю
да светлых ты выйшла дарог.

Дапаможа яна
ў лабірынтах усім,
хто трымаць будзе
ніць гэту
ў сэрцы сваім.

*1960*

## ЗАКЛАДАЛІ ПАДМУРАК ДЗЯРЖАВЫ СВАЁЙ...

*Прысвячаю А. Я. Пракапчуку*

Закладалі падмурак дзяржавы сваёй
мы нядаўна, ў семнаццатым годзе.
А здаецца, прайшлі, прашумелі над ёй
не гады, а сталецці, стагоддзі...
Перайначана ўсё ад нізоў да вярхоў,
і старыя парадкі забыты.
На камандныя вышкі рабочы ўзышоў,
не сярпы, а камбайны жнуць жыта.
І міністр, і прафесар, і маршал сівы —
гэта ж нашы:
з завода ці з вёскі.
Яны з намі хадзілі касіць паплавы
ці рыбачылі невадам морскім.
На заводзе Пуцілаўскім быў не адзін
ці змагаўся ў балотах, у пушчах —
за свабоду і шчасце савецкіх краін
і за Ленінскі сцяг неўміручы.
Наша гордасць і слава у іх сівізне,

і за нас прынялі яны раны,
каб свяціла і сонца над намі ясней,
каб не знालі ніколі мы пана.
І пра кожнага з іх, пра змаганне яго
трэба песні складаць ці паэмы.
Бо і ў кнізе, бывае, не знойдзеш таго,
што яны падымалі бярэмам.
Акадэмік стаіць... Беласнежны халат...
А тады, ў дзевятнаццатым годзе,—
на Палессі вадзіў партызанскі атрад,
з карабінам хадзіў у паходзе...

1

Дзевятнаццаты год быў нялёгкі для нас.
Кожны дзень у крывавых водблісках гас.
І зару на світанні дым засцілаў,
бо у кожным куточку вайна была.
Білі ворага дружна, як толькі хто мог,
не давалі прайсці цераз наш парог.
Спатыкалі штыхамі нязваных гасцей,
засталося нямала тут іхніх касцей.
І дзівіўся замежны збянтэжаны пан:
нечуваная сіла ў рабочых, сялян!
Біў паноў і Андрэй — камандзір, камісар,
вызваляў, бараніў паднявольны абшар.
Хутка вораг пазнаў пра яго і атрад,
за яго галаву даў бы вельмі ён шмат,
ды пасаджана добра на плечы яна,
вось у гэтым для іх перашкода адна...
Заставаўся Андрэй са сваёй галавой
і вадзіў, як вадзіў, сваю конніцу ў бой.

2

Напрадвесні прыйшоў да Андрэя загад
перадаць неадкладна другому атрад,
а самому прайсці цераз фронт, за кардон,
заснаваць там гурткі і паўстанцкі заслон.
Заняла перадача не многа мінут.
Мільгануў у паветры на шаблях салют.
— Развітальны салют прынімай, брат, Андрэй,
зноў вяртайся ў атрад, ды вяртайся хутчэй! —
Зняў ён шаблю з сябе, зняў сваёю рукой,
і узнёс ён яе над сваёй галавой:
— Бараніла мяне бездакорна ўсягды,
вызваляла мяне неаднойчы з бяды.
Будзь такой, як была, і ў маіх дружбакоў...—
Перадаў. Адвітаўся. На захад пайшоў...

3

Напрадвесні і ў пушчы не многа красы:
толькі вецер шуміць на усе галасы
ды сухая трава шалясціць каля ног,
пад нагамі амшарны ўгінаецца мох.
Зоры сціпла з вышынь пазіраюць на свет,
ноч укрыла прастор і сцяжынкі усе,
распасцерла над сцежкамі цьмяны пакроў
і прыцьміла ім вочы варожых стральцоў.
Перайшоў, праслізнуў ля варожых застаў.
Не заўважыў дазорац, а можа, і спаў...
Перайшоў аж да Пінска Андрэй цераз ноч,
а на золку пастукаў да сябра ў акно...
Там пачаў ён выконваць партыйны загад,
рыхтаваць да паўстання ў Палессі атрад...

4

Красавік на спатканне да мая ішоў.
Каля Пінска Андрэй пазнаходзіў сяброў.
Заснаваны і штаб, заснаваны гурткі:
запалае ўвесь край, толькі іскрынку кінь!
Хлопцы радзяць Андрэю:
— Ідзі на усход.

Нешта сталі таўчыся шпікі ля варот.
Зробім самі мы ўсё у прызначаны час...
— Не,— адказвае ён,— заначую у вас.
Заўтра ўсё я дакончу, а змрокам пайду...—
Не чакаюць бяду, не шукаюць бяду:
яна ходзіць сама ад акна да акна,
яна ходзіць сама — ад цямна да відна...

5

Прыбягае да пана паручніка шпік:
— Ходзіць, пане паручнік, у нас бальшавік.
Што, чаму і зачым — не дазнаўся ніяк.
А чаму бальшавік — бо падраны армяк
і такія палючыя вочы ў яго,
што, як толькі зірне, аж палае агонь.
А тым больш, я ніколі не бачыў такіх.
Ён завулкам пайшоў, каля самай ракі...—
Засмяяўся паручнік:
— Дурны ты, дурны!

Калі будзем збіраць мы усе лахманы,
дык не хопіць астрогаў ніякіх для іх...—
Але ўсё ж ткі паклікаў дазорцаў траіх
і аддаў ім кароткі і жорсткі загад:
— Забярыце таго і адразу назад.

6

Супакойна Андрэй цераз грэблю ішоў,
а яго абступілі адразу з бакоў.
І абапал — яны, і абапал — рака,
як прыдумаў хто пастку для бальшавіка...

7

Пан паручнік пытаўся, дапытваўся, кат:
— Адкажы, дзе стаіць бальшавіцкі атрад!
Я здзяру з цябе скуру ад пят да вушэй!..—
І сказаў яму праўду у вочы Андрэй:
— Бальшавіцкі атрад — гэта ўвесь наш народ.
Не хаваецца ён. Выступае ў паход.
Ён змяце вас усіх, расцярушыць ваш стан,
бо народ — не атрад, гэта —
сам ураган! —
Аж заскрыгаў паручнік зубамі, збялеў.
— Ты насмеліўся так мне адказваць, пся
крэў...—
Заматалі Андрэю вяроўку ля ног,
пацягнулі Андрэя праз панскі парог,
а шляхетны паручнік, сваёю рукой,
на суку і павесіў уніз галавой...
А пасля — пачалі...
пачалі...
пачалі...
Ды чаго не бывала на нашай зямлі!

8

Што далей адбылося — падобна на сон:
пан паручнік «да лясу», за ім — уздагон
наляцеў, як віхор, наш, чырвоны, атрад:
ён прыйшоў падмацоўваць партыйны загад.
І не стала адразу тых катаў усіх,
пан паручнік таксама навекі заціх.
А вяроўкі парэзаў таварыш хутчэй
той жа шабляй, з якой развітаўся Андрэй.
Падхапілі Андрэя на рукі сябры...

9

І жыве ён, Андрэй, аж да гэтай пары.
Толькі скажа, спаткаўшы сяброў баявых:
— Не забудзем ніколі мы сцежак лясных.

*1958*

## СЛЯПЫ БАЯНІСТ

1

Сын пакуты цяжкой
і пакутнай нядолі,
ён не бачыў
яснага сонца
ніколі.

Ён не бачыў
на матчыным твары
усмешкі.
Толькі вобмацкам мог ён
знайсці сваю сцежку.

Ён нічога наогул
не бачыў на свеце.
Не гуляў і не бегаў,
як іншыя дзеці.

Добра слухаць умеў ён,
і слухаў пра тое,

як вандруе па свеце
гора людское

і якая для радасці
сцежка малая
у жыцці нашым часта
на свеце бывае.

Кожны спеў кожнай птушкі
ён слухаў і ведаў,
як і рыпы асверу
ці брамы ў суседа.

Гоман пушчы
ці шэпты трысця над вадою
лепш, чым самы відушчы,
ён ведаў затое.

За калецтва яго,
за нядолю цяжкую
лёс яму даў на долю
здольнасць такую,

што музыкам ён стаў,
ды такім знакамітым,
над якога няма,
хоць да Мінска прайдзі ты.

А іграў на ўсялякай
музычнай прыладзе,
толькі возьме,
да сэрца прытуліць
ды сядзе.

Так іграў,
што струна са струной
размаўляла,
хоць на скрыпцы самой,
хоць на звонкіх цымбалах.

Быццам хвалі марскія,
ўзнімаліся гукі,
калі браў ён
баян галасісты у рукі.

Ад Сянна і да Лепеля
зналі музыку —
быў усюды ў людзей
у пашане вялікай.

На вяселлі гукалі,
ці з добрага раю.
Хто другі калі-небудзь
вось так заіграе?

2

Накацілася з захаду
чорная хмара,
а за чорнаю хмарай —
рабункі, пажары.

Распаўзліся навокал
фашысцкія орды,
каб зняволіць наш край,
вальналюбны і горды.

Падняліся
народныя мсціўцы
са зброяй,
падняліся усюды
на помсту героі.

Білі ў лесе,
на рэйках,
у чыстым полі,
каб не ўстаў той вораг
болей ніколі.

За калючым дротам
хаваўся вораг,
быццам хіжы звер,
панакопваў норак.

А музыка хадзіў
па вёсках забраных
са сваім дружбаком,
са сваім баянам.

Быццам хвалі марскія,
ўзнімаліся гукі,
калі браў ён
баян галасісты у рукі.

І насілі надзею
ад краю да краю,
што загіне напэўна
варожая зграя.

3

У фашысцкія лёхі
прыгналі музыку,
як пачулі пра талент ягоны
вялікі.

— Заіграй нам,—
гавораць,—
мелодыю тую,
за якую цябе
у народзе шануюць.

Падвялі, пасадзілі музыку
на лаве.
Як належыць баян свой
музыка паставіў

ды як даў
па усіх галасах-падгалосках,
каб пачулі яго
ў гарадах і па вёсках:

*«Паўстань, праклятцем катаваны,*
*Паўстань, хто з голаду век пух!»*

Дык, як гады,
зусім спруцянелі фашысты,
рты раскрыўшы, глядзелі
на таго баяніста.

Потым гойкнуў адзін,
што аж рэха наўцекі:

— Ты замоўкнеш, праклята,
сягоння — навекі!

Неадкладна павесіць
з мяцежным баянам!
На тым свеце
іграе няхай
партызанам...

4

Ухапілі музыку
адразу пад рукі,
пацягнулі музыку
на цяжкія мукі.

Дзве пятлі
на дубовым суку зрыхтаваны:
для музыкі адна,
а другая —
баяну.

Запыталіся ка́ты ў музыкі
пры гэтым,
што хацеў бы сказаць ён
на ростанцы з светам?

— Аніякіх не маю
вялікіх жаданняў,
заіграць мне дазвольце
разок
на баяне.

Прытуліў да грудзей ён баян гаманлівы.
Паплыло, быццам хвалі,
праз пушчы і нівы:

*Беларусь ты мая дарагая!*
*Край любімы ты, родны мой!*
*Хоць мяне з табой разлучаюць,—*
*не разлучаць ніколі з табой!*

*Твае ясныя вочы мне свецяць,*
*калі свету не маю ў вачах.*
*Не загіну ніколі на свеце,*
*узышоўшы на зорны твой шлях.*

*Беларусь ты мая дарагая!*
*Край любімы ты, родны мой!*
*Хоць мяне з табой разлучаюць,—*
*не разлучаць ніколі з табой!*

5

За высокім курганам ішлі партызаны
і пачулі той голас жалобны баянаў.
Паднялі яны зброю сваю баявую
на фашысцкую зграю праклятую тую.
І не стала на свеце
фашысцкай той зграі,
а музыка іграў
і цяпер нам іграе...

*1961*

# *Дж. Г. Байран*

## ШЫЛЬЁНСКІ ВЯЗЕНЬ

### САНЕТ ДА ШЫЛЬЁНА

Спрадвечны дух! Не знаючы акоў,
Зіхціш ты, Воля, найясней з-за крат.
У сэрцах там пачэсны твой пасад,
Там незгасальная к табе любоў.

І хоць тваіх зняволілі сыноў,
Забралі ў змрочны, падзямельны лёх,—
З іх мук Айчына йдзе да перамог,
Ты ўзнімеш крылы ў першым ветры зноў.

Шыльён! Святое месца твой астрог,
Твая падлога сумная — алтар.
Каменне пратаптаў тут, як мурог,

Сваёй хадой бясконцай Банівар.
Не выкрасліць ніхто слядоў тых дзён,
Яны тыранству вечны шлюць праклён.

I

Ссівеў я ўвесь не праз гады,
    Не ў ноч адну
    Ўзяў сівізну,
Як хто з раптоўнае жуды.
Не з працы выгнула мяне —
Ў бяздзейнасці ганебнай быў,
Бяздзейнасцю сябе скрышыў.
Здабычай дадзены турме,
Пакуту цяжкую пранёс.
Я лёсам меў тых людцаў лёс,
Забраны ад якіх былі
Акрасы неба і зямлі.
За праўду бацькаву цярпець
Мне кайданы і клікаць смерць...
Загінуў бацька на кастры,
Не зрокся праўды ён, стары.
У цьму нябыту па адным
Зышлі сыны услед за ім.
Шэсць юнакоў і сам айцец
(Адзін застаўся я з сямёх)
Спаткалі горда свой канец:
Іх вораг знішчыў, ды не змог!
За шчасце роднае зямлі
Яны на смерць усе пайшлі.
Засеклі двух братоў мячом,
Спалілі трэцяга агнём.
У вежу кінулі траіх,
І я — астатні зломак з іх.

II

Ёсць там гатычных сем слупоў,
Дзе мур Шыльёнскі ўглыб прайшоў.
Ёсць там пахмурых сем калон,
Дзе апавіўся змрокам ён,
Куды не дасягае дзень,
Хіба заблудзіцца прамень,
Як баючыся, ў гэты гмах
Праз шчыліны ў таўстых мурах,
Каб знікнуць зноў у шэры змрок,
Нібы балотны аганёк.
Пры кожным слупе колца ёсць,
Пры кожным колцы ёсць кайдан.
Жалеззе — люты ягамосць,
Яно нагрызла цяжкіх ран.
Ягоны след — няўгойны след.
Аж покуль кіну гэты свет
І гэту яснавейнасць дзён,
На целе застанецца ён.
Ад сонца ў цемры я адвык,
Гадоў цяжкіх я страціў лік,
Калі сканаў апошні брат,
А я, жывы, лёг з ім у рад...

III

Прыкулі нас траіх яны,
Былі мы разам і — адны:
Ні адысціся ні на крок,
Ні бачыць брата цераз змрок,
Бо пры святле астрожных крат

Чужым здаваўся нават брат.
Нас разлучыў, скаваў ланцуг,
Але злучала сэрца, дух.
Нам забаронены былі
Акрасы неба і зямлі,
Ды вораг мову ўзяць не мог,
Яна лунала праз астрог,
Уцеху несла, песню, сказ,
Надзеі песціла для нас.
Але правеяў сцюжай час,
І смутак стаў у галасах,
Як рэха ў клятых тых мурах,
І вольнасці не стала ў іх,
І самы гук прыглух, прыціх,
Аж нат здавалася калі,—
Не нашы галасы былі...

IV

Быў я старэйшым ад усіх,
Суцешваць іх павінен быў.
І што мага — я ўсё зрабіў,
І кожны так рабіў з траіх.
Больш суму з меншага было:
Ён пестуном у бацькі рос,
Бо, як у маці, меў чало
І вочы, што сіней нябёс.
Такому птушаню сядзець
У гэткім выклятым гняздзе!
Прыгожы, як палярны дзень
(А дзень нам прыгажэй з-за крат,
Чым вольны лёт для арлянят),

Дзе сонца йдзе на за́хад свой
Аднойчы ў год, перад зімой,
У зіхаценні снежных шат,—
Так ён ішоў на заняпад...
Юнак, са шчыраю душой,
Заўжды лагодны меў настрой.
Ён плакаць мог, ды па другіх,
Калі не мог суцешыць іх.
А слёзы, як з вышынь ручай,
Спагаду неслі праз адчай...

V

Другі быў такжа чыст душой.
З маленства ён імкнуўся ў бой.
На цэлы светісці быў рад
І згінуць, стаўшы ў першы рад,
Ды не пятрэць у кайданах!
Душу вымае іхні сквіл!
Цярпеў ён мужна, хоць і чах,
Але цярпець не стала сіл.
Змагаўся я з бядой цяжкой,
Як мог, бадзёрыў іх настрой,
Уцеху нёс дваім з сямі,
Той рэштцы любае сям'і...
Паляўнікам ён змалку быў,
Страляў ваўкоў, аленяў біў.
Цяпер жа — кайданы ля ног
І чорны вір над ім — астрог...

VI

І Леман воды разаслаў
Аж пад Шыльёнскі стромкі вал,

Каб там, нястрымныя, плылі б
На футаў тысячу углыб.
(Акрэсліў так глыбіні вод
Са снежна-белай вежы лот.)
Там за каменнем і вадой
Былі ў магіле мы жывой,
Бо цёмны лёх, што нас сцярог,
Ніжэй вады скляпеннем лёг.
Мы чулі, як шуміць прыбой
І дзень і ноч над галавой.
Калі ж віхор гудзеў зімой,
Да нас за краты пену нёс,
Паветрыў пырскі ў бляск нябёс,—
Муры ўздрыгаліся тады.
Я ўздрыгі слухаў без жуды.
З усмешкай мог я смерць сустрэць:
Была б вызвольніцай мне смерць.

VII

Спрамогся брат адзін спярша,
Згубіла гарт яго душа.
Не пераборлівы ў ядзе,
Ён на яду не мог глядзець,
Хоць кожны з нас, як паляўнік,
Да ежы простай змалку звык.
Заместа млека горных коз
Астрожны роў ваду нам нёс.
І хлеб наш, на пакутны смак,
Слязьмі нявольнікаў набрак
З тых пор, праз незлічоны век,
Як чалавека чалавек,

Нібы якую зверыну,
У жалеззе лютае замкнуў.
Каб толькі гэтай і бяды!
Не гэта нас гняло тады! —
Натуру меў такую брат,
Што, і ў палацы жыўшы нат,
Ён сумаваў бы, сумаваў
Без родных гор і стромкіх скал,
Дзе вольным ветрам дыхаў ён...
Ды што таіцца? Ён — сканаў.
Я відзеў брата свайго скон
І падтрымаць яго не мог,
Не мог крануць ні рук, ні ног.
Імкнуўся я (дарма, дарма!)
На момант вырвацца з ярма,
Скрышыць жалеззе гэта ўшчэнт,
Каб аж заенчыла ля сцен...
Сканаў...
Прыйшлі тады яны
І знялі з брата кайданы...
Капалі дол у прорве той
І пад зямлёй, і пад вадой...
Прасіў іх на прамілы бог
(Хоць мала б мёртваму памог),
Каб пахавалі ў месцы тым,
Куды б дасяг святлом сваім
Далёкі дзень. Здалося мне,
Што нат па смерці не спачне
Ён, вальналюб, у прорве той —
І пад вадой, і пад зямлёй...
Я іх прасіў... Дарма, дарма!
У ка́таў літасці няма:

Схаваны брат мой быў у цьме,
А мне ў адказ — халодны смех...
Зямлёй засыпалі сырой...
Ані былiначкі на ёй...
А зверху помнік — кайданы,
Забойству памятка яны...

## VIII

Другі быў кветкаю самой,
Каханы змалку ўсёй сям'ёй.
На ім, як вобраз хараства,
Адлюстраваўся матчын твар.
Для бацькі быў ён мо затым
Лятункам самым дарагім.
І я жыццё сваё сцярог
Дзеля яго, як толькі мог, —
Каб рады даць ад злых гадзін
І вольнасць, хоць на дзень адзін.
Бадзёры меўшы ўсё настрой,
Ці то сапраўдны, ці не свой,
Ён штодня, ўрэшце, на вачах,
Як тая кветка, вяў і чах.
О, божа! Жудасная рэч
Глядзець, як адлятае прэч
Душа ў пустыню небыцця
З грудзей, дзе згас агонь жыцця.
Я відзеў, як вайны пажар
Знішчаў бясконцы лік ахвяр.
Я відзеў, як гібеў народ
У багне акіянскіх вод,
Калі кідала карабель

Ад хмар на скальную адмель.
І відзеў хворых цяжкі скон:
З жудой пачварнаю быў ён...
Але тут быў інакшы жах —
Стаяла смерць угалавах
Над тым, хто подласцю людской
Зняволен тут, у цьме сырой,
За выдуманы катам грэх
Пазбаўлены усіх уцех...
Ён сустракаў свой цяжкі лёс
Пакорна, ціха і без слёз.
Ён сумаваў па тых, мой брат,
Хто заставаўся тут, ля крат.
І кпіў са смерці ён самой
Тады ружовасцю сваёй.
Ружовасць ад ягоных шчок
Знікала паступова ў змрок,
Нібы ў вясёлцы прамяні
На недасяжнай вышыні.
З святла празрыстага вачэй
Было ў турме бадай святлей.
Ні слова скаргі або стогн
Не ўдаў ён на дачасны скон.
Ён гаварыў пра лепшы час,
Надзею ўсё шукаў для нас,
Бо я замоўк, быў сам не свой
З утраты самай дарагой.
І ўздыхі, што таіў раней
Ён ад мяне, — цішэй, цішэй
Мне сталі чутны ў хвілі тэй.
Я прыслухоўваўся — не чуў,
Я клікаў — жах быў уваччу.

Я знаў, што ўжо надзей няма,
Што іх усе глынула цьма,
Але усё ж здалося мне,
Што гук пачуўся пры сцяне.
Я раптам крутануў кайдан,
Скрышыў жалеззе напалам,
Да брата рушыў — не застаў...
Я толькі ў гэтай цьме блукаў,
Я толькі жыў і дыхаў тым
Паветрам выклятай турмы.
У ёй скрышылася, у ёй
Тады апошняе звяно,
Найдаражэйшае...
Яно,
Адзінае, было між мной,
Маёй загінуўшай сям'ёй
І краем вечнасці самой...
Ляглі браты, навек ляглі,
Той зверху шчэ, той у зямлі...
Парушыў мёртвага спакой,
Крануў нябожчыка рукой —
І не зжахнуўся сцюжы я:
Была зімней рука мая...
Знябыўся я тады зусім
І толькі цяміў аб адным —
Што я жыву яшчэ.
А час
Даводзіць да вар'яцтва нас,
Калі мы знаем, што навек
Нас кінуў любы чалавек...
Не разумеў,
Чаму не ўмер?

Зямных надзей не меў цяпер.
Надзея кажа нам цярпець,
Не дазваляе клікнуць смерць...

## IX

У часе роспачнай жуды
Не знаю, што было са мной.
Згубіў пачуцце я тады
Святла, затым — і цьмы самой.
Стаяў, — ні думак, а ні слёз, —
Як камень у каменне ўрос,
І быў агорнуты ў няўцям,
Як скалы дзікія ў туман.
Скрозь цьмяна, проблiску нідзе,
    То ноч — не ноч,
    І дзень — не дзень,
І не астрожны кляты змрок,
Які мой зненавідзеў зрок, —
Пустапарожні скрозь прастор,
Без руху, часу і без зор,
Прымацаванасць без акрэс,
Сляпой маўклівасці навес
Без перамен дабра і зла;
Адна нязрушнасць тут была,
Замёршы акіян быцця,
І ў ім — ні смерці, ні жыцця...

## X

Святло ў душу маю прайшло:
Птушыны спеў прынёс святло.

Ен змоўк. І зноў дасяг вушэй.
Ці ёсць на свеце што мілей?
Удзячна здзіўлены я быў.
Вачыма навакол сачыў.
І на кароткі гэты міг
Мой неадлучнік — сум — прыціх.
Ды хутка зноў прыйшоў назад
Да рэчаіснасці пагляд.
І столь злучылася са мной
Каля мяне і нада мной.
І там, праз шчыліну ў сцяне,
Адкуль і сонечны прамень
Ледзь пранікаў на вохкі глей,
Я ўбачыў птушку. Весялей,
Бесклапатней, чым паміж дрэў,
Яна спявала мне свой спеў.
Прыгожая, з блакітам крыльц,
А спеў пра тысячу драбніц
І быццам для мяне ідзе.
Над гэту птушку прыгажэй
Нідзе не бачыў я даўней
І не пабачу мо нідзе...
Падобна мне — была яна
Без друга мілага, адна,
Хоць напалову менш, бадай,
Ей быў знаёмы мой адчай.
Прынесла ласку мне ў той час,
Калі апошні брат мой згас,
Не засталося ў свеце ўсім
Хто быў бы сэрцу дарагім...
Спяваючы на той сцяне,
Вярнула і прытомнасць мне.

Не знаю, ці была ўжо шмат
Пясняркай вольнаю яна,
Ці толькі вырвалася з крат,
Каб сесці тут, на край акна...
О птушачка мая! Цяпер,
Як давялося мне цярпець,
Пазнаць няволі горкі смак,—
Табе не зычу аніяк
Падобнай долі, мук цяжкіх,
Як і наогул для жывых...
А можа, гэта прыгажосць
Нябеснакрылы, райскі госць?
Даруй мне, божухна, мой грэх —
З той думкі брала ў слёзы, ў смех:
Мне ўсё здавалася спярша,
Што гэта — братава душа...
Урэшце, спеў яе заціх,
Зляцела птушка з воч маіх,
І гэтым самым знак дала,
Што несмяротнай не была.
Хіба пакінуў бы мой брат
Мяне самотнага ля крат?
Як мёртвы ў саване сваім,
Быў я — жывы пры нежывым —
Або як хмарка ў ясны дзень,
Калі яна плыве-ідзе
Адна блакітнай вышынёй
Над жыццярадаснай зямлёй...

XI

Змяніўся мой намнога лёс,
Хоць звык астрог да горкіх слёз,

Бо не турэмшчык і не кат
Пакуту церпяць каля крат.
Ды сапраўды якісьці цуд
Прыйшоў у гэты змрочны кут:
Яны не прыкавалі зноў
Мяне да зімных камянёў.
У перарваных ланцугах
Хадзіць цяпер я вольна мог
Праз гэны лёх, праз мой астрог.
Удоўж і ўперак, з краю ў край
Усё вадзіў мяне адчай.
Пасля прыводзіў зноў туды,
Адкуль пачатак быў хады...
Я так абходзіў пакрысе
Усе слупы, куточкі ўсе...
Сцярогся я, калі ішоў,
Каб не трывожыць братні схоў.
Калі ж неасцярожны рух
Іх закранаў, — сцінаўся дух,
І сэрца у грудзях маіх
Крышылася ад думак тых...

XII

Зрабіў прыступку я ў сцяне.
Не для таго, каб бегчы мне,
Бо ўсіх дарэшты пахаваў,
Каго любіў і шанаваў.
А свет шырокі за сцяной
Мне быў бы большаю турмой:
Ані радні, ні дружбакоў,
Як ні шукаў бы — не знайшоў...

І я шчаслівы быў амаль:
Мяне па іх спаліў бы жаль...
Але імкнуўся я з-за крат
Павольны кінуць свой пагляд
На чараўнічы ўвесь прастор,
На хараство высокіх гор.

## XIII

Як і ў даўнейшыя часы,
Былі яны ў вянку красы.
Не ведалі раптоўных змен,
Падобна мне, ў задусе сцен.
Тысячагоднія снягі
Пабачыў на хрыбтах вышынь,
І возера, як пас даўгі,
І Роны паўнаводнай сінь —
Ляглі ніжэй, былі бліжэй
Уцехай для маіх вачэй...
У скалах выкрышыўшы роў,
Струмень па ім зваргаўся, роў.
Каля далёкае гары
Бялелі горада муры.
Былі над іх яшчэ бялей
Узвівы стромкіх ветразей,
Яны ляцелі ўдалячынь
Па сіні вод у неба сінь...
Была там выспачка адна.
Нібы ўсміхалася яна
Мне ў самы твар тады.
Здалася мне такой малой,
Як бы падлога пада мной.

Было там дрэў высокіх тры.
Паўз іх шумелі з гор вятры,
І кветкі слалі далавах
Пялёсткі нежныя і пах —
Тады каля вады...
Гулялі рыбкі ў глыбіні,
У шчаслівай, жвавай мітусні.
Лунаў арол па-над зямлёй,
Па-над вадой, перада мной.
Калі бліжэў ён да мяне,
Здавалася, хутчэй імкне.
Ізноў на вочы сум прынёс
Мне многа новых горкіх слёз...
Такі адчай ка мне прыйшоў,
Аж стала шкода мне акоў...
Калі вярнуўся я назад,
Спакусны кінуў далягляд —
Глынула цьма мяне ізноў,
Цяжарам стала нада мной,
Як блізкага апошні схоў,
Як века над яго труной,
Якога ад бясконцай цьмы
Жадалі выратаваць мы.
Бязмежна ўзрушаны пагляд
Спачын знайсці ў турме быў рад...

XIV

Міналі дні, ішлі гады,
Не заўважаў я іх тады,
Не меў надзеі для вачэй,
З якой бы стала мне лягчэй.

Прыйшлі, нарэшце, людзі ў лёх,
Мне волю даць прыйшлі яны.
А я здзіўляцца ўжо не мог
І не пытаў: «Чаму? Куды?»
Былі уцехі мне адны —
Ці з кайданоў, ці ў кайданы:
Да безнадзейнай звык жуды.
І покуль гэты дзень прыйшоў,
Каб вызваліць мяне з акоў,
Прытулкам стаў мне мур цяжкі,
Дзе я ўладар быў ды які!
Прыйшлі, здавалася мне, ў лёх,
Забраць мой дом другі — астрог,
Дзе з павукамі дружбу вёў,
Глядзеў на іхні змрочны лоў,
Дзе за гульнёй мышэй сачыў
У бляску месячнай начы.
Чаму б трымацца мусіў накш?
Для нас, тубыльцаў, быў ён наш.
І я меў сілу, як манарх,
Слабейшым несці смерць і жах.
Але, мо здзівіць гэта вас,
Быў супакой заўжды у нас.
Да кайданоў я нават звык,
Настолькі часу ўплыў вялік.
Таму ўздыхнуў я па турме,
Калі вярнулі волю мне...

# *Дж. Г. Байран*

## БРОНЗАВЫ ВЕК

1

«Цудоўны даўні час»... Мінуў той час!
Ідзе сучасны — наш ён і для нас!
Было ў мінулым шмат вялікіх дзей?! —
Для большых стане здольнасці ў людзей!
Прасторы ёсць, размах вялікі ёсць
Для тых, хто гаспадар тут, а не госць.
Не знаю, плачуць ангелы ці не,
А чалавека гора не міне:
Не мала людзі плакалі даўней.
Нашто? — Каб плакаць зноў, яшчэ мацней.

2

Дабро і зло руйнуюцца на тло.
Чытач! А што ў юнацтве ў нас было?
Наш Піт усім быў, ці бадай усім, —
Яго працаўнік так казаў аб ім.
Асілкаў род мы бачылі з табой,
Тытанаў духа, як гару з гарой —
Афон ды Іду — з морам гучных слоў,

Што паміж іх выходзіла з краёў,
Як паміж грэцкіх і фрыгійскіх скал
У навальнічны час эгейскі вал.
Ды дзе ж тытаны, волаты? — Яны
Ляглі ў зямлі — труна каля труны.
Якая смерць магутная! Яна,
Уціхамірваючы ўсё адна,
Безнавальнічнай хваляю ідзе,
Не супыняючыся анідзе.
Глыбокі сэнс старых і новых слоў:
«Ты ёсць зямля, ў зямлю ты пойдзеш зноў».
Жуды не можа зменшыць час ніяк
Там, дзе паўзе бязлітасны чарвяк,
Дзе труны,— розныя такія над зямлёй,—
Зусім аднолькавыя ўсе пад ёй...
У зіхатлівай урне прысак згас.
З ёй Клеапатра прыплыла да нас
Праз мора тое, на якім яна
Антонія перамагла адна:
Прываблены дзівоснай пекнатой,
Ён ад імперыі паплыў за ёй...
І Аляксандра урна, сумны прах,
Цяпер стаіць на нашых берагах,
Якія, прагнуўшы чужой зямлі,
Імкнуўся ён заваяваць калісь.
Бяздумныя імкненні ўсе, няйнач,
Лятункі тыя, той зайздросны плач!
Усю зямлю забраць імкнуўся ён,
А што з таго дайшло да нашых дзён?
Забыты светам, Грэцыі сваёй
Пустэльны роспач кінуў, непакой.
Не знаў паўночнай выспы нашай ён,

Тут не стаяў яго ніколі трон,
Куды па смерці лёс яго прывёў,
Дзе прах яго знайшоў апошні схоў.

3

Ды дзе ж ён, могут нашых новых дзён,
Які манархаў пазбаўляў карон,
Не быўшы з нараджэння каралём,
Нібы Сезострыс, вёў іх пад ярмом?
Яны цяпер, распрэгшыся з ярма,
Калі таго, магутнага, няма,
Перад якім змяталі пузам пыл,
Спрабуюць моц сваіх дранцвелых крыл.
Дзе ж той мудрэц і дзіцянё ў адным,
Малы ў вялікім, волат у малым?
Сусвет яму карцёжным быў сталом,
Гульнёй — імперыі, а стаўкай — трон.
Людскія косці пешкамі былі
У той гульні, нячутай на зямлі.
Смяяцца, плакаць можам мы з табой:
Ітог увесь на выспачцы малой.
Як не ўздыхнуць над клеткаю арла —
Яго на здзек нядоля прывяла.
З усмешкай глянь, як гаспадар плямён
Штодзённа сварыцца за рацыён.
Заплач аб тым, як уладар краін
Сумуе пра наедкі, колькасць він.
Ці мала там было драбніц такіх —
Не палічыць нам і не зважыць іх.
Ці гэта той, што каралёў караў
Або іх літасціва надараў?

А хто ж над ім стаяў у гэных днях? —
Хірургаў рапарт, графа балбатня.
Бюст не дазволяць ці пазбавяць кніг —
І ўсё. І ён пакутаваў без іх.
Не знаў ні сну, ні адпачынку той,
Што рушыў свет увесь рукой сваёй.
Ён, што вялікіх мог скрышыць усіх,
Цяпер як раб між вартавых сваіх.
Астрожны вартаўнік, нахабны шпік
Да кніжкі запісной яго прынік...
Ды лепш турма б сапраўдная была,
Чым ні вязніца тая, ні палац...
І хто б калі яго тут зразумеў,
Якую муку ён на сэрцы меў?
На скаргі ўсе адказ адзін: «закон»!
Віно і ежу прадугледзеў «ён»...
«На выспе клімат не па ім?!» — Дарма!
«Такога ў свеце больш нідзе няма!..»
А доктар, што на скаргі ўважным быў,
За гэта ў клімат іншы сам паплыў...
Хоць свет і апладзіраваў яму,
Як не парвецца сэрца тут ад мук? —
Пагарда ў ім, хваробы боль у ім.
Усё ж дабро бывае пры благім:
Найдаражэйшае з усёй зямлі
Яму да ложка мроі прывялі. —
Сяброў і сына вобраз каля ног
Ён у апошняе пабачыць мог...
І хоць здранцвеў дзівосны розум, згас,
Што свет шырокі чараваў не раз,
Усё ж арол пазбыўся кайданоў
І лепшы свет — над наш — сабе знайшоў...

4

Калі б адтуль ён мог зірнуць на дол,—
Згасанне б царства там свайго знайшоў.
Як пасмяяўся б ён з драбніцы той,
Якою быць жадаў ці стаў якой!
Хоць большы ён заваяваў абшар,
Чым прагнула знайсці яго душа,—
Пазнаўшы ўзлёты велічы, аднак
Пазнаў і заняпаду горкі смак.
Хоць каралі, засеўшы зноў на трон,
Такімі пнуцца быць, якім быў ён,—
Ад смеху не стрымаўся б ён ніяк,
Бяссмертны той над хвалямі маяк.
І хоць турэмшчык жорсткаю рукой
Закрэсліў надпіс над яго труной,
Пакінуўшы імя і пару дат,—
Прайшло імя ў бязмежны далягляд.
Яно дасць сілу гэтым берагам,
Як таямнічай сілай талісман.
І караблі з усіх краёў зямлі,
Калі б яны ля выспы ні плылі,
З высокіх мачт у гэты змрочны кут
Пашлюць яму ўрачысты свой салют.
Як абеліск Пампея вышынёй,
Калона Гальскай славы над зямлёй.
А скалы выспы, дзе ягоны прах,
Атлантыку ўвянчалі у вяках.
Прыроды моц стварыла над труной
Больш, чым узята сквапнаю рукой.
Каго ўрачысты той вянец кране:
Ці вольны дух, ці вязня у труне?

Яму цяпер турботы мала ў тым:
Ці ён жыве, ці нежывы зусім.
І калі б цень ягоны бачыць мог —
Аднолькавым і гэты быў бы лёх
На скальнай выспе, ў шчыліне глухой,
І Пантэон са славаю сваёй.
Усё ж захоча Францыя калі
Для славы, гонару свае зямлі,—
І каб суцешыць тым сваіх сыноў,—
Прывезці прах з далёкіх берагоў.
Яна з труной падыме косці ўсе,
Над пірамідай тронаў узнясе,
Ператварыўшы ў талісман такі,
Як Дзюгеклена ў даўнія вякі.
Няхай і так. Ды прыйдзе ўсё ж ткі час,
Калі імя яго абудзіць нас;
Над светам пройдзе, як набат, яно
І з барабанам Жыжкі у адно.

5

О неба! Ён тваёй зіхцеў красой!
Зямля! Ён — дасканалы вобраз твой!
Ты, выспа! Славу мецьмеш ад людзей:
Арлёнкам рос ён у тваім гняздзе.
Вы, Альпы, першы бачылі уздым,—
Сто перамог прайшло пасля за ім!
Рым! Цэзараў тваіх слаўнейшы ён...
Навошта ж ён прайшоў за Рубікон,
За Рубікон людскіх святых правоў —
У зграю чужаедаў-каралёў?
Егіпет! Між тваіх забытых пліт

У глыбіні вячыстых пірамід,
Пачуўшы новага Камбіза гром,
Аж здрыгануўся фараонаў сонм.
А ў гэты час ад Нільскіх берагоў
Сівыя здані сарака вякоў,
На пірамідах стаўшы ў шчыльны рад,
Спалохана глядзелі ў далягляд.
Гігантаў змрочных абняла жуда,
Калі ў пустэльні за ардой арда
У шаленстве дзікім бегала ўздагон.
Грымела зброя там з усіх старон.
Пясок бясплодны палівала кроў,
Каб нівай плённай мог ён стаць ізноў...
Іспанія, чый Сід на міг забыт
І чый схіліўся перад ім Мадрыд!
Ты, Аўстрыя, чый здрадніцкі пасад
Ён двойчы браў і двойчы даў назад,
Пачуўшы пра ягоны заняпад,
Дала яшчэ адну з падлейшых здрад...
Род Фрыдрыха наскрозь хлуснёй прасяк,
З ім не сябруе слава аніяк.
Разбіты пад Іенай, свой Берлін
Аддаў ён пераможцу. А затым,
Як раб пакорны, поўзаў перад ім,
Пакуль не дачакаў сваіх часін...
Насельнікі Касцюшкавай зямлі,
Якую скрозь крывёю залілі
Сатрапы Кацярынінскіх часоў...
Вы не забыліся на тую кроў!
Як быццам ангел помсты, над табой
Ён, Польшча, быў і вёў цябе на бой,
Каб, як была, такой пакінуць зноў,

З пустэльняю здратованых палёў,
Забыўшыся на жальбу ўсю тваю,
Распарцаваную тваю зямлю,
Пра волю страчаную ўздых,
Патокі слёз і лямант скарг тваіх,
Што над тыранам — за набат гучней...
Касцюшка! Прагнеш ты, каб найхутчэй
Прыйшла вайны адплатнае пара
З крывёй рабоў і самаго цара.

Высока сонца ходзіць над Масквой,
Зіхцяць званіцы ў небе па-над ёй.
Масква! Ты ўсім захопнікам рубеж!
Суворы Карл сюды імкнуўся перш,
Ды не дайшоў, хоць і паплакаў шмат.
Усё ж цябе пабачыў Банапарт!
Ды як! — Званіцы, цэрквы, кожны дом
Былі адным ахоплены агнём.
Паліў сваю хаціну селянін,
Купец — запасы ўсіх сваіх тканін,
Кнаты падпальныя даваў салдат,
Палац свой падпаліў арыстакрат...
Масква! Масква! Ты — як вулкан сама,
Якому роўнага — нідзе няма...
Везувій, Этна, знаныя з вякоў,
Памерклі ў водблісках тваіх агнёў.
Ты незраўнанай будзеш заўсягды,
Стаяць, Масква, ты будзеш і тады,
Калі агонь інакшы прыйдзе.
Ў ім —
Усе імперыі згараць на дым!

А сцюжа лютая! Урок які
Дала ты ўсім захопнікам цяжкі!
Ты ільдзяным павеяла крылом
І стан варожы ахінула сном.
Заснуў навек пад коўдрай снегавой,
Пад кожнаю сняжыначкай герой...
Які жахлівы дзюб твой, кіпцюры!
Яны душу вымаюць без пары...
Гукаеш, Сена, марна ты дамоў
З зямлі чужой вясёлых юнакоў.
Не лі у кубкі, Францыя, віно:
Не будзе імі выпіта яно.
Сваёй крыві ў халоднай той зямлі
Больш, чым віна ты маеш, разлілі...
Ляглі, як муміі, твае сыны,
Ў сумётах снегавых ляглі яны.
Праменнем зыркім перамог усіх
Не адагрэеш ты сыноў сваіх.

А зава́ёўнік вёз трафей — вазок.
Падбіты ён, як і яго сядок...
Раландаў рог гучыць з далін ізноў,
І нездарма — ізноў ліецца кроў.
Пры Люцыне, дзе швед калісьці лёг,
Ён, на нядолю мо, жывым застацца мог.
Пры Дрэздэне гнаў дэспатаў траіх.
Чацвёртым сам нядаўна быў для іх.
Хадзіла шчасце доўга разам з ім,
Цяпер, прыстаўшы, кінула зусім.
Тут ад ільва шакал саксонскі ўцёк
Да медзвядзя́, ваўка, лісы ў куток.
І вось цяпер магутны цар лясоў

У роспачы сабе шукае схоў.
З бяды адной ён да другой ідзе.
Няма яму прытулку анідзе.
Вы, ўсе!
І кожны!
Францыя, зважай!
Нібы чужынскі плуг арэ твой край!
На кожным кроку быў упарты бой,
А здрада ўсё закрэсліла сабой:
Яна прыйшла з Манмартраўскіх узвышш,
Прыйшла у твой зганьбаваны Парыж.
Ты, выспачка! З цвярдынь тваіх відна
Этрурыя і мора ўсё да дна.
Дала ты гордасці яго пакой,
Каб дачакаўся раты ён сваёй,
Каб зноў прыйшоў да родных берагоў,
Нявесту сумную пабачыў зноў.
О Францыя! Як спатыкаў народ
Яго ў незабываны той прыход!
Крывавае, дурное Ватэрлоо!
Яно людзям і свету давяло,
Што недарэкі плён збіраюць свой
Ці здрадай, ці памылкаю чужой...
Святой Гэлены засмучоны край,
З бязлітасным турэмшчыкам! Зважай!
Тут Праметэй гукае у прастор
Да мора, сонца, да зямлі, да зор.
І да ўсяго, што ў славе, поўны сіл
Схіляе ён ці ўжо раней схіліў;
Чыё імя пярэйдзе з роду ў род
З хадой бясконцай незлічоных год
І будзе ўсім гучаць, як запавет,

Пакуль існуе наш бязмежны свет;
Яго істота ўсім урок дала,
Урок адзін: «Не сатварыце зла!»
Адзін бы крок да добрага, і ён
Зачараваў бы ўсіх, як Вашынгтон.
Ды ён зрабіў той крок адзін — да зла,
І ганьба вечная яго апавіла.
Здабыў ён шчасце, а спажыць не мог,
Той, што на троне быў амаль як бог:
Айчыне — Цэзар, свету — Ганібал.
А лёс які ён сумны напаткаў!
Не цяміў ён, не думаў ён аб тым,
Як перад славай многа марнаты.
Што заваёўнікі! Ці мала кніг
Напісана пра дзесяць тысяч іх!
А пераважыў іх мудрэц адзін.
Да бліскавіцы ключ знайшоў Франклін,
І слава вечная жыве яму.
Жыве яна і волату таму,
Які здабыў свабоду і спакой
Свайму народу і зямлі сваёй:
Пра Вашынгтона водгалас такі
Ішоў, ідзе і пойдзе праз вякі.
І Балівару славу узнясе
Свабодны свет за подзвігі усе,
А для Пізара, ўсіх рабаўнікоў
Не знойдзе ён ніколі добрых слоў.
А ты, Атлантыка свабодная,
Каго ахоўвае ўся моц твая?
Прах дэспата, яго апошні схоў,
Цара цароў, раба паміж рабоў,
Што міліёны вызваліў людзей,

Каб закаваць ізноў, яшчэ мацней,
Стаптаўшы ў прах закон людскі і свой —
Ён блытаўся між тронам і турмой...

6

Вы гляньце! Іскра пыхнула ізноў!
Хвалюецца ў іспанскім сэрцы кроў!
Той горды дух, што маўраў выгнаў прэч,
Праз восемсот гадоў узняў свой меч.
На той зямлі, дзе сонца жар вялік,
Гучыць здаўна: «Іспанец — рабаўнік!»
Дзе йшоў захопнік люты па касцях,
Дзе Кортэса, Пізара веяў сцяг,
Там Новы Свет сапраўдны, поўны сіл,
Патомак вальналюбны ўстанавіў.
Прыйшоў юнацтва дух зноў у народ,
З якім ён гнаў калісь персідскі флот
Ад берагоў, дзе Грэцыя была...
Не! Не была, а ёсць, бо аджыла!
За справу ўсеагульную на бой
Злучаюцца мільённай грамадой
Рабы Усходу, Захаду рабы.
Адзіны сцяг адзінай барацьбы
Ўзнімаюць Анды і узняў Афон.
Так светы два ў адзін яднае ён.
Грэк меч Гармодаў падымае зноў.
Чыліец прэч прагнаў чужых паноў.
Спартанец зразумеў, што ён — ёсць грэк
Стаў мексіканец — вольны чалавек.
На Атлантычным акіяне вал
Перад сабою дэспатаў пагнаў,

Каля мяцежнай Францыі прайшоў,
Пабыў ля Геркулесавых слупоў,
Крануў Кастылію, нібы набат,
Дапамагчы Аўзоніі быў рад,
Віры Эгейскія узняў сабой,
Ды змоўк, згадаўшы Саламінскі бой:
Стыхія вод слабей людзей жывых,
Тыран не здолее суцішыць іх.
Народ жа гэты покуль што ў бядзе,
Яму памогі не даюць нідзе.
А праз яго прыняў шырокі свет
Свайго веравызнання запавет!
Спустошана усё на астравах,
За ворагам — разня, батурствы, жах.
Далёкія і блізкія сябры
Чакаюць прыдатнейшае пары,
Калі пабольшае прыбытак ім,—
Дапамагаюць языком сваім...
Лепш люты вораг, чым фальшывы друг!
Мацнее хай вольналюбівы дух!
Айчыну вызваліць ад кайданоў
Змаганне толькі ўпартае сыноў!
Не! Варвар з маскай міру — цар рабоў —
Не можа зняць з народаў кайданоў!
Лепш, мабыць, ёрмы гордых мусульман,
Чым танец пад чужацкі барабан!
Лепш праца вольная і вольны стан,
Чым у ярме стаяць каля варот
Рабом рабоў. Дзе, больш таго, народ,
Нібы жывёла, мерыцца гуртом
І раздаецца па панах царом.
А тым панам салодкі сніцца сон,

Як у Сібір людзей вывозіць ён...
Лепш у пустэльні дзе з вярблюдам жыць,
Чым у мядзведзя чалядзінцам быць!

7

Не толькі ў старадаўняй той зямлі,
Дзе Час і Воля разам расцвілі,
Дзе змрочнай хмарай інкаў даўні род
Ідзе, нібы дзівосны карагод,
Зарэе,— не! Іспанец стаў на бой,
Пагнаў захопнікаў з зямлі сваёй.
Не Карфаген або магутны Рым
Прыйшлі ў зямлю яго з мячом сваім.
Не злы вандал, раз'ятраны вестгот
Ідуць навалай на яго народ;
І не Пелагій з глыбіні вякоў
На бой склікае ўсіх сваіх сяброў:
Жніво ўсё зжата тое. Хіба маўр
Пра тыя дні, ўздыхнуўшы, ўспамінаў.
З вясковай песні прагучыць калі
Пра тых, другіх, што тут калісь былі:
Абенсерагі, зэгры — ўсе яны
Былі і адышлі шляхом адным.
Улады, веры іх, мяча — няма.
Але цяпер прыйшла жуда сама:
Кароль-ханжа. З ім люты кат-манах,
Шпік інквізіцыі. Яны ў кастрах
Людзей палілі, каб нажрацца мог
Каталікоў бязлітасны Малох.
Ён і глядзеў на гэны дзікі фэст,
Разгул крывавага аўтадафэ,

Упяліўшы халодны свой пагляд
На тых ахвяр, што сек і нішчыў кат...
Кароль бываў ці жорсткім, ці слабым,
А найчасцей — і першым і другім;
Гультайства гонарам было ў вяльмож.
Іх занапад радзіўся ад яго ж.
Зусім прыніжан быў звычайны пан.
Нікога не было ніжэй сялян.
Ды не было бяднейшых, чым яны.
І беглі людзі з роднай стараны.
Бязлюдзеў край. Грамады караблёў
Без ветразей стаялі, без рулёў.
Звялася ў войску сіла ўся амаль,
Як і таледская звялася сталь...
Заморскі край не шле дарункаў Той,
Што за яго — сыноў вадзіла ў бой.
А мова тая, што была гучней,
Чым родная, для шмат якіх людзей
І што цудоўным хараством сваім
Была раўня тваёй, вялікі Рым, —
Цяпер забыта, як і ты сама.
Іспанія! Шляхоў табе няма?!
Такой была ты — стань цяпер другой!
Сцяг нумансійскі кліча ўсіх на бой!
Тарэадор! Паўстань хутчэй ізноў!
Тарэадор! Фаларскі бык зароў!
Паўстань, гідальга! Меч сціскай дужэй!
Імкніся кліч: «Іспанія — дружней!»
Дружней, шчыльней жывы замкніце круг
Сцяной нязломнай баявых кальчуг.
Несакрушальны дайце зноў заслон,
Які не мог прабіць Напалеон.

Вайна! Адвага і пякельны жах...
Бязлюддзе на здратованых палях...
Нябожчыкі на вуліцах пустых,
Крывёй залітая зямля ля іх...
У Сьеры дзікай партызанскі стан.
Не пройдзе вораг там, дзе партызан!
Праславілі навекі змагары
Сябе і сарагоскія муры...
Геройства векапомнае дзяўчат
Вышэй геройства амазонак нат,—
За чэсць і славу роднае зямлі
Яны дарогай баявой ішлі...
Славутыя Таледскія клінкі,
Славутыя іспанскія стралкі,—
Арлінавокі у стралкоў пагляд,
Несакрушальны ў іхняй зброі гарт!
А коні андалузскай стараны —
Найлепшыя на свеце скакуны...
Агнём Масквы ахоплены Мадрыд,
У кожным сэрцы ўваскрасае Сід!
Была ты, ёсць, павінна быць такой!
Паўстань жа, Францыя, ты разам з ёй!
Калі яна пазбудзецца ярма,
Дык станеш вольнаю і ты сама!

8

У-га! Кангрэс! Па назве — самы ён,
Што ў Новым Свеце скасаваў прыгон!
Ці, можа, гэтага чакаць і нам,
Еўропы спарахнелае сынам?!
На гэты кліч ідуць, як Самуіл

Супроць Савула, ў росквіце ўсіх сіл
Тыранам пагражаючы бядой,
Вяшчальнікі свабоды маладой:
І Патрык Генры, Дэмасфен лясоў,—
Закляты вораг турмаў, кайданоў;
Ідзе упарты, мужны Бенджамін,
Які маланку сунімаў адзін;
І Вашынгтон, саромячы усіх,
Што церпім дэспатаў дасюль сваіх.
Даўно ён радзіў павыкідваць вон
І кайданы, а разам з імі — трон.
Ды ўсё ж ткі хто ўвайшоў у той Савет,
Каб ратаваць ад смуты цэлы свет?
Святую назву хто згадаў ізноў,
З якою вызвалялі там рабоў
І абвяшчалі вольным род людскі
На свеце ўсім і на усе вякі?
Ды хто усё ж ткі ў ліку тых траіх,
Хто тыя суддзі праведныя ў іх?
Як малпа чалавеку не раўня,—
Далёка ад святога іх трайня!
Як ні круці, не выйдзе і на жарт
З трох дурняў тых адзін хоць Банапарт.
Былі багі ў Егіпце разумней,—
А ў іх жывёла ўся была цішэй:
Закуты добра ведала свае,
Дзе гаспадар-бог есці-піць дае.
А нашай мала ежы і пітва.
Быкі, сабакі пруцца ад хлява:
Сабака — гаўкаць, бык — басці ідзе.
Няма спакою цераз іх нідзе.
У жаб Эзопавых быў лепшы стан:

Стаяў над імі нежывы цурбан.
А наш гайдаецца туды-сюды,
Зацятай злосці повен заўсягды.
Ён глушыць тупасцю сваёй народ,
Каб буслу менш было пасля турбот.

9

Верона! Бляск трох велічных свяціл
Патройнай сілай над табой свяціў.
Вось гэта слава! Што там перад ёй
Джульеты прах з Джульецінай труной!
Чаго «Кан Грандэ» — «Пёс Вялікі» — варт, —
Асмелюся я даць і пераклад, —
Каля такіх вяльможных мапсюкоў,
Завод якіх ад царскага пайшоў?
І твой Катул, паэт сапраўдны твой,
Хоць лаўры ўжо на галаве другой?
І твой тэатр, што зачароўваў Рым?
Твой мур стары, прыпынак у якім
Знайшоў выгнанец Дант на схіле год,
Так і не выйшаўшы з тваіх варот?
Шырокі свет яму тут стаў турмой,
Замкнуўшыся тады ў табе адной...
О, каб замкнула ты ў мурах сваіх —
Навекі! — гэтых дэспатаў траіх!
Пастаў і помнік ганьбе, крыўдзе ўсёй,
Што спавіла зямлю ўсю гаркатой...
Нашто тэатр? — Ды вось ён — з'езд паноў!
Дзе лепшую б камедыю знайшоў?!
Зіхціць тут зорак на істужках шмат,
Глядзіць народ на іх з астрожных крат...

Італія! Бі ў далані мацней!
З ланцужным звонам — воплескі званчэй!

10

Якая пышнасць! Вось ён — цар і хлюст,
Аматар вальсаў і жаночых змуст.
Ён самаўладца ў войнах і жыцці.
Такога дэспата другога не знайсці.
Калмык на выгляд, з розуму казак,
Яшчэ ў адлігу ён і так і сяк,
А як мароз усходзіцца мацней,
Тады і ён цвярдзее для людзей.
Пагаварыць ён пра свабоду рад,
Ды толькі так, каб больш паставіць крат.
Не ганіць, хваліць ён і мір-спакой,
А сам радзіўся і памрэ з вайной.
Свабоду грэкам дакляруе ён,
Іх заклікаючы пад свой прыгон.
Палякам сойм дазволіў. А затым
Ім загадаў маўчаць у сойме тым.
Як бы сардэчна ён хацеў паслаць
З Украйны сціплай, задуменнай раць,
Яе сыноў, вясёлых парубкоў,
Аж да іспанскіх дальніх берагоў,
Каб там іспанцаў правучыць маглі.
Зазіхацеў бы як ён сам, калі б
Мог у Мадрыдзе пабываць тады!
На поўдзень ён імкнуўся заўсягды...
Каго пытанне гэта не кране:
З Масквою лепей сябраваць ці не?
Далей! Цябе натхняе цёзка твой,

Ды і Лагарф, настаўнік твой, з табой.
Знайдзі ж ты, Скіфе, ля Іберскіх скал,
Што ў Скіфіі твой цёзка адшукаў!
Згадай прытым, юнак немалады,
Як продак твой на Пруце лез з бяды.
Пакліч на раду ты кабет старых.
Ды Кацярыны больш няма між іх!
Іспанія багата мае скал.
Як бы мядзведзя леў там не задраў!
Пры Херасе ушчэнт быў знішчан гот,
І Банапарта перамог народ!
І для цябе там пачастунак ёсць,
Аж паляціць твая па ветру поўсць.
Лепш меч на плуг табе перакаваць,
Лепш цаліну пустэльную ўзараць,
Ад рабства вызваліць народ лепш свой,
Чым кідацца туды сторч галавой.
Табе маленькі гонар з бізуна.
Дзе гвалт і ўціск — няслава там адна.
Іспанскі край багат сваёй зямлёй,
Ёй непатрэбен твой смярдзючы гной.
Хапае хлеба для сябе ў яе.
Для ворагаў яна не засяе!
Там сытыя, між іншым, каршуны.
А можа, ты нясеш ім свежыны?
Ты трупаў пастаўшчык, а не салдат!
Не ўстанавіць табе там новых крат!
Я — Дыяген. Царам не брат, не сват.
Ты засланіў мне сонца, далягляд!
Я — Дыяген — лепш стаў бы чарвяком,
Чым стаць такім, як Аляксандр, царом.
Хто хоча быць рабом, — хай будзе ім,

А Дыяген не быў, не хоча быць такім!
Яму і бочка — трывалейшы схоў,
Чым пышныя палацы для цароў.
Шукаючы і днём з агнём людзей,
Ён на цароў ліхтар не навядзе.

11

Што ж Галія, ўсіх «ne plus ultra» рай,
Іх гадавальнік, іх радзімы край?
Там ладу мала, а бязладдзя шмат.
У шуме, вэрхале яе палат
Прамоўцаў заглушаюць галасы,
Па зале рэхам носіцца: «Хлусы!»
У нашых брытаў схопіш сэнс хутчэй.
Тут языкоў больш, мабыць, чым вушэй.
Тут сам Канстан з трыбуны лезе ў бой,
Каб сэнс давесці шпагаю сваёй.
Француз, чым слухаць, лепш паб'ецца з кім,
Хоць бацька родны будзе перад ім.
Ён разважае, што не языком,
А лепш тлумачыць справу кулаком!
Трымаўся думкі адваротнай Рым:
Прамовай Тулій мур кранаў у ім.
А Дэмасфен — той іншы прыклад даў:
Са «словам» «дзею» ён і аб'яднаў.

12

А дзе ж манарх? Абедаў? Ці жывот
Яго нястраўнасцю кідае ў пот?
Ці з асяродку здрадніцкі пірог

Яго вялікасці пашкодзіць мог?
Пачаўся рух мяцежны ў войску дзе,
Ці ў кішках рух спыніўся пры ядзе?
Ці кухар-карбанары вінават —
Сумысля не дасмажыў карбанат?
Або дыэту доктар загадаў?
Відаць, што ў Францыі уся бяда
Была заўжды і ёсць для каралёў
Ад кухні здрадніцкай, ад кухароў.
Класічны Людвік! Справа ўся ясней:
«Жаданым» быць жадаеш для людзей!
Нашто ты кінуў Гартвел ціхі свой
З паэзіяй, са смачнаю ядой?
Народу ад цябе карысць адна:
Твая улада горш ад бізуна.
Ты па сваёй натуры гастраном.
Сядзеў бы за абедзенным сталом!
Наогул ты прыемны ягамосць,
Нядрэнны гаспадар, жаданы госць.
Ты і паэтаў ведаеш так-сяк,
Ты і ў закусках разумееш смак,
А што дзяржавай кіраваць — ніяк!
Табе падагра клопату дае
Больш, чым трымаюць сілы ўсе твае.

13

Ці можа быць, каб я хвалу не ўзнёс
Сваёй айчыне гордай — да нябёс?
«Мастацтва... слава... наш магутны флот...
Георг... дзяржава... горды наш народ...
На выспах скалы, аж за далягляд...

Падаткам трэба падтрымаць урад...
І Велінгтон, сівы герой вайны,
На востры нос павесіў шар зямны...
І Ватэрлоо... і гандаль... шмат дарог...
(Маўчы лепш пра падаткі і пра доўг!)
Не задрыжала ў Кэстлеры рука...
Сябе сцізорыкам, як гусака...
А маракам — не страшны гром і шторм!
(Для рыфмы не краніце як рэформ!)»
Такія тэмы. Пісана пра іх
Багата самых разнастайных кніг.
Перапяваць не буду іх ізноў.
Для новых тэм нам хопіць новых слоў.
І рыфмы знойдуцца для іх званчэй,
І сэнс іх будзе значна цікавей.
Твой геній, Канінг, ясны розум твой
Прыносяць столькі сілы маладой,
Што над парламенцкаю праснатой
Твае зіхцяць, як зоркі над зямлёй.
За ўсе прамовы — мудраму хвала!
А торы нашы прагнуць толькі зла.
Ты глянь на вочы іх — у іх вачах
Ты прачытаеш ненавісць і страх.
Склікае лоўчы ўсіх сваіх хартоў.
Яны бягуць на трубны гук рагоў
І да таго бягуць, хто ім трубіў.
Ды не з замілавання іхні сквіл!
Тым больш, двуногаму звяр'ю не вер:
Лягчэй мяняе шлях двуногі звер.
Твая падпінка можа ашукаць,
І царскі конь пачне на ўсе кульгаць.
Як ступіць дзе няспрытна капытом,

Дык сядзе ў гразь надоўга з седаком.
Вось так, з такіх здарэнняў і прыгод
Жывёлу пазнаюць, яе завод.

### 14

Мая айчына! Ці дасі мне сіл,
Каб зграю вырадкаў я закляйміў,
Якая горка плача аб вайне,
А шчасце наша — мірны час — кляне?
Нашто яны існуюць на зямлі?
Каб паляваць, галасаваць маглі?
На збожжа дачакаць вышэйшых цэн?
Ды збожжа, як і ўсё, што прах і тлен,—
Як лаўры, заваёўнікі, цары,—
Цану сваю трымае да пары.
Вы згінеце, як знізіцца цана!
Для вас жыццё шчаслівае — вайна.
Нашто пазбаўлен трона Банапарт,
Калі даваў ён вам прыбыткаў шмат?
Знішчаў ён царствы, а пасля ўсіх змен
Для вас ішло павелічэнне цэн.
Ад іх мілордам лепшы быў жывот.
Аграрная алхімія — даход!
Як паслізнуўся дэспат пад Масквой,
І вы заплакалі сваёй цаной.
Што вам дае ў выгнанні Банапарт?
На троне быў бы большага ён варт!
Знішчаў ён скарбы, свет заліў крывёй —
Вам адплаціла Францыя сваёй!
Было затое збожжа даражэй,
А вам цяклі прыбыткі ад людзей:

Прыносіў грошы ў тэрмін вам народ
За хлеб, арэнду з пустак і балот.
Дзе ж той плацельшчык з поўнай калітой?
Дзе моцны эль, які пілі з табой?
Чаму на пусткі попыту няма,
Ніхто балот не хоча больш займаць?
Дзе зыск на зыск, дзе з гроша сто грашоў?
Адкуль ён, гэты чортаў мір, прыйшоў?
Нашто і хто ў парламент цягне план,
Каб дапамогай падтрымаць сялян?
Ад думкі той вам галава баліць,
Што бедны стане лепш на свеце жыць.
Лягчэй людзям,— тлумачыце вы нам,—
Калі ўсе грошы аддадуць панам.
— Павысіць курс, падняць вышэй даход,—
Пра гэта марыць «чулы патрыёт».
А калі не, крычыць пагрозна ён,
Міністраў мы павыганяем вон.
І булкі стануць меншыя вагой,
Хоць не паменшаюць яны цаной.
Пагоршала «хлеб-рыба» на вачах:
Змяльчэла мора, жар у печах счах?
Ад усяго багацця тых часін
Застаўся толькі запавет адзін:
Цярпі, сціскайся, лепшага чакай
І на жыццё сваё не наракай,
Калі шчаслівага білета лёс
Да латарэі шчасця не прынёс.
Сябе ён будзе суцяшаць адным,
Што ён шчаслівы розумам сваім.
Хто Цынцынатаў бачыў, як яны,
Вось гэных гнусных сейбітаў вайны:

Наёмны меч араў перад сяўбой,
А паліваў зямлю — крывёй людской...
Калі стагнаў, пакутаваў народ,
Яны тады падлічвалі даход.
Піла іх зграя злая з году ў год
Людскую кроў, людскія слёзы, пот.
Навошта ўсё? — Даход, даход, даход!
Яны кляліся ўсе пайсці ў паход
За Англію сваю, за свой народ.
А засталіся жыць — лічыць даход!
Ім мір страшней, чым бедным недарод.
Вайна для іх — даход, даход, даход!
Яны айчыну любяць вельмі ўсе,
Пакуль у іх кішэні не трасе.
Як толькі грошы звыдаткуе ён,
Шукае, дзе б знайсці за гэта плён:
Ці нельга як падвысіць абарот.
НЕ?! — К д'яблу ўсё! Гані вышэй даход!
Іх зло, дабро, іх шчасце без турбот,
Жыццё і смерць — даход, даход, даход!
Ты першародства за абед прадаў,
Пасля хацеў вярнуць яго, Ісаў?
Ізраіль доўг спагоніць заўсягды!
Ты менш бы еў, больш думаў да яды!
Так і мілорд, нажэршыся крыві,
Цяпер свой твар на раны не крыві!
Няўжо за вас свае здабыткі ўсе
Народ, айчына ў банкі панясе?
За ўсе прыбыткі вашы, ўвесь даход
Плаціць павінен бедны наш народ?!
Яшчэ і цэрква: ўсё ў яе не так,
То верных мала, то на грошы брак.

Жагнаецца на боскі крыж прэлат,
А сам шукае цёпленькіх пасад.
Дзяржава з цэрквай ад пачатку дзён
Ніяк дагэтуль не падзеляць плён.
З часоў патопу сварка ў іх ідзе,
Як абабраць бы ім спрытней людзей.
З авечак воўны панастрыг біскуп,
А рэшту ўсю купец ці банк даскуб.
Яны будуюць новы Вавілон.
Твой сумны час прыходзіць, Альбіён!
Чаму ўсё так? Каб сыт быў і адзет
Аграрый, сквапны скнара-чужаед,
Што, як мурашка ці падземны крот,
Ніколі свой не задаволіць рот.
Да тых істот пачварных, абібок,
Ідзі хутчэй, вазьмі у іх урок,
Каб ты да сэнсу рэчаў сам дайшоў,
Пазнаў, чаму ліецца наша кроў,
Адкуль падаткі і дзяржаўны доўг,
Хто сатварыць яго і як памог.

15

Пара плысці між новых Сімплегад,
Пагрозных скал — фінансавых палат,
Дзе б Мідас шчасця больш пазнаў цяпер:
Сніў золата б, а меў бы — стос папер.
Быў у Альчыны багацейшы скарб,
Чым наша Англія ўся мець магла б,
Калі б у кожным атаме сваім
Яна была каменнем дарагім.
Банкуе Шчасце, Бізнес ход вядзе.

Аж свет дрыжыць, пакуль гульня ідзе.
Багат наш край! Не мірам ці вайной,
Не золатам, віном або рудой,
Не ханаанскім мёдам з малаком
І не грашыма (з вэксалёў жывём),—
Нідзе няма другіх такіх краёў,
Дзе больш было б прыблудных гандляроў.
Ім зубы Джон-кароль даўней лячыў,
Цяпер на царскі рот яны ўрачы.
Урады, рэчы, грошы ў іх руках.
«Ад полюса да Інда» іх размах.
Пяцёра іх баронаў-махляроў
Падтрымліваюць дэспатаў-цароў:
Пазыку мае ў іх банкрут-тыран
І дэспат кожны на свой скрутны стан.
Ці ж гэта ўсё? — Калумбія ў залог
Нясе ім плён нялёгкіх перамог.
Махлярская «спагадная» рука
Сок цісне і з іспанца-жабрака.
Без іхняй дудкі нават рускі цар
Пачаць не можа свой паходны марш.
Не меч, а моц, што ў золаце, вядзе
Да перамогі на вайне людзей.
Дзе хочаш адшукаюць без бяды
Біблейскую айчыну два «сябры».
Яны ўдваіх заціснулі і Рым:
Не горш, а лепш, чым гуны, селі ў ім.
Залежыць свет шырокі наш ад іх,
Ад гэтых несамарыцян дваіх.
Пра шчасце свету — гора мала ім:
Для іх кангрэс — «другі Ерусалім»,
Дзе тытул графа, чын і ардэны

Дастануць лёгка ад цароў яны.
Абрам! Ці бачыў ты сваіх сыноў
Паміж каранаваных парсюкоў?
Ты глянь! Не плюнуў нават ні адзін
На іх усім вядомы «габардзін»!
Наадварот, пашану ўзносяць ім,
Тваім сынам заслужаным такім.
(Ды дзе ж твой, Папа, вы́спятак такі,
Каб той махляр схапіўся за бакі?
Ці ты адбіць баішся свой абцас?)
І вось ізноў — жыў Шэйлак, жыў! — у нас
Яны з-пад сэрца нацыі жывой
Імкнуцца «мяса фунт» адрэзаць свой.

16

Дзіўны кангрэс! Павінен ён злучыць,
Што можа толькі паасобна жыць.
Не пра цароў тут гутарка зусім,—
Яны ялеем мазаны адным,—
Пра тых, што лялькі торгаюць за ніць:
Пярэстасць іх ніяк не узгадніць.
Паэт... ваяка... прайдзісвет... яўрэй...
Ты глянь, Еўропа! Дзе хаўрус хітрэй?!
Вось Метэрніх — улады паразіт,
Наш Велінгтон, якім паход забыт,
Шатабрыян, што піша пра святых,
І хітры грэк, слуга паноў дурных,
І Монтмарансі — вораг вольных праў,—
Запрошаны у хеўру тых дзяржаў,
Хоць дыпламат, праслаўлены там-сям,
Сваю адстаўку прамаргаў ён сам...

Выдатны розум здáлеку відаць...
Як можна мір вышэй міністра ўзняць?
Зышоў на нет, ды зноў падняцца мог:
«Як лёгка ён іспанцаў перамог!»

17

Далей ад іх! У іншы далягляд
Кідае муза сумны свой пагляд.
Як сцень, як здань, стаіць перада мной
Там вобраз той царыцы маладой,
Што з нараджэння да апошніх дзён
Ішла цераз кароны да карон.
Ахвярай царскай гордасці была,
Надзеі царскай сына прывяла.
Схіліўся свет бязмежны перад ёй,
Не бачыў свет магутнасці такой.
Цяпер яна пастаўлена на здзек,
Як самы меншы ў свеце чалавек.
Не можаш, Аўстрыя, дачкі пашкадаваць?
Дзе быць павінна Францыі ўдава?
Там, дзе святой Гэлены пенны вал,
Там, каля ўскрытых пенай дзікіх скал,
Дзе супачыў навек Напалеон,
Павінен там стаяць удовін трон.
Ды не! Знайшлі інакшы ёй пасад:
Аддалі Аргусу царыцу пад нагляд.
Хоць не ставокі гэта камергер,
Ды і яна інакшая цяпер.
Узяты ад яе такі абшар,
Якіх не сніў нідзе ніякі цар,
А Карл Вялікі дасягнуць не мог:

Абшар з Масквы да гор паўднёвых лёг.
Цяпер карону Пармскую далі
У беднай і спустошанай зямлі.
Палац паважнасці хоць мае шмат,
А ўсё ж усмешкаю кране пагляд...
Ды вось яна! У Вероне! Без вянка,
Якому роўных не было ў вяках...
Хоць прах яе супруга не астыў
У той зямлі, дзе ён выгнанцам быў.
(Ды не застыне ён ніколі, не! —
Маланкай возьмецца, як і раней!..)
Вось Андрамаха (ах! не пра яе
Сляпы Гамер нам і Расін пяе) —
І побач — Пір! Руку ён падае,
Якой скрышыў уладара яе,
Аблітую крывёю Ватэрлоо.
Што ж! Прыняла яна руку яго...
Што ў рабстве можа быць вышэй, ніжэй?
Яна схавала ў глыбіні вачэй
Ці ў сэрцы смутак захавала свой?
Так экс-царыца стала экс-жаной...
Калі такія сэрцам каралі,—
Ці варта нам іх шкадаваць калі?

18

Збянтэжаны вар'яцтвам спраў чужых,
Я йшоў дамоў, суладжваючы іх,
А муза плакала мая ў той час.
Якраз з'явіўся Кэртыс каля нас,
Апрануты спаднічкаю сваёй,
Перад усёй шатландскай грамадой.

Старшыні ўсе, пабачыўшы яго,
Віталі так, як роднага свайго.
Як рэха з гор, грымеў іх дружны хор
У ратушы, над ратушай: «Клэймор!»
Пабачыўшы, як зграбна іх тартан
Спавіў у Кэртыса таўшчэзны стан,
Адразу муза страх згубіла свой,
І смех такі узняўся над зямлёй,
Што і цяпер званочкам звоніць ён.
Прачнуўся я... Ды гэта ж быў не сон!
Цяпер, чытач, хадзем на супакой.
Пачуем, можа, і працяг з табой...

## ЗВАЖАЙ НА ЛЕТАПІСЫ ДАЎНІХ ДЗЕЙ...

*З Алішэра Наваі*

...Зважай на летапісы даўніх дзей,
зважай на гутаркі старых людзей.

Магчыма, ў іх ты адшукаеш скарб,
што папярэдні прапусціў пагляд.

Ты перадай народу гэты скарб,
каб быў яго замілавання варт.

Ці трэба створанае спрадвякоў
у тым жа выглядзе даваць ізноў?

Пасля чужых табе свайго каня
якая асалода ўслед ганяць?

Калі спустошаны сад да цябе,
якія кветкі знойдзеш ты цяпер?

У кветніку лужок хіба адзін?
Ты не жабрак у кветніку, мой сын!

У гэтай думцы — мудрасць, глыбіня.
Я ў сэрца думку мудрую прыняў.

Пачаў я здабываць з усіх бакоў
паданні даўнія старых часоў.

І ўзнагароджаны быў я зусім:
знайшоў жаданае ў шуканні тым.

Знайшоў багата ў ім жамчужын-слоў,
напоўніў чару думкі да краёў.

Я гэты жэмчуг свету перадам,
усім паселішчам і гарадам.

Былі тут папярэднікі раней,
але хапіла жэмчугу і мне.

Бяздонна мора слоў!
Ніхто у нас
не можа вычарпаць яго запас.

І нават я, лавец зусім слабы,
нырнуўўшы ў мора пасля ўсіх нібы,—

каштоўны скарб такі сабраць спрамог,
што гонар за яго мне ў сэрца лёг...

# АДАМ І ЕВА

*Інданезійская казка*

1

Творца свету, мудры Вішну,
працавіты вельмі, ўвішны,

намясіў аднойчы гліны,
з гліны вылепіў мужчыну,

і Адамам па найменню
стала Вішнава тварэнне.

2

Але мудры творца свету
ўцяміў хутка, што на гэтым

ён спыняцца не павінен:
трэба дбаць і аб жанчыне.

У вялікім задуменні
сеў прамудры на каменні.

3

На каменні свету творца
можа б так сядзеў бясконца,

ды на шчасце, ясным вокам
ён пабачыў недалёка

кветку лотаса ў зіхценні
месяцовага прамення.

4

Кветка тая — як жывая,
толькі што не размаўляе,

а красе яе цудоўнай
больш няма нідзе падобнай.

Захапіўшыся красою
незраўнанаю такою,

Вішну ўзяў яе узорам
і стварыў жанчыну скора.

5

Харáство зазіхацела
ад жанчынінага цела.

Вочы, вусны, ўся яна там
пекнатой такой абнята,

што схіліўся перад ёю
нават лотас над вадою.

Даў імя ёй Вішну — Ева.
Прывітаў ён Еву спевам.

А яна ў адказ сказала:
— Мне, прамудры, спеваў мала!

Мне жылплошчу дай, мой божа,
з ёй ачаг і мяккі ложак.

6

Вішну кажа:
— Над зямлёю,
над высокаю гарою

я табе палац пастаўлю,
пекнату тваю праслаўлю.

Карагодзіць будуць зоркі
у цябе на панадворку,

прыйдзе Месяц у пакоі
вечароваю парою...

Адказала Ева богу:
— Мне не трэ дабра такога!

Будзе холадна на горах,
будзе зімна мне пры зорах...

7

Вішну кажа:
— Ў сінім моры,
дзе бязмежныя прасторы,

я табе палац пастаўлю,
харaство тваё праслаўлю.

Будуць хвалі ля палаца
калыхацца і гайдацца,

будуць барвамі усімі
зіхацець пад небам сінім...

Адказала Ева богу:
— Мне не трэ дабра такога!

Супакой там будзе дрэнны,
будуць грукаць хвалі ў сцены...

8

Вішну кажа:
— У пустыні,
пад цудоўным небам сінім

я палац табе пастаўлю,
прыгажосць тваю праслаўлю.

Залаты пясок навокал
будзе цешыць тваё вока,

там вады зусім не будзе,
цябе хвалі не пабудзяць...

Адказала Ева богу:
— Мне не трэ дабра такога!

Будзе горача там вельмі,
моцны вецер дзьме ў пустэльні...

9

Каля іх, на тое ліха,
тут Адам прайшоў паціху.

На яго зірнуўшы, Ева
ўся, як кветка, зружавела

і сказала творцу-богу:
— Працаваў ты, божа, многа!

Адпачні цяпер ад працы,
кінь ты клопат пра палацы!

Мне палацам лепшым самым
будзе сэрца у Адама.

Ты дазволь зайсці ў яго мне —
покуль час яшчэ — сягоння...

10

Бог згадзіўся. З той часіны
Ева ў сэрцы у мужчыны

і жыве, як пажадала,
гора маючы нямала.

Як на горах, часам сцюжа;
як на моры, хвалі кружаць;

вецер подыхам гарачым,
як з пустыні, дзьме, няйначай;

набягаюць навальніцы,
ды такія — не спыніцца...

А яна ўсё церпіць, Ева,
бо сама таго хацела

і сама знайшла дарогу
да палаца вось такога.

## ЛІСІЦА, ЛЕЎ І ВОЎК

Лісіца, Леў і Воўк
пайшлі на паляванне.
Прастор увесь замоўк
ад страху і чакання.
Ідуць паляўнікі,
здабычу ловяць,
давяць.
Здабытак быў такі:
каза,
алень
і заяц.
Леў кажа да Ваўка:
— Дзялі на ўсіх здабычу!
Дзялі папраўдзе,
так,
як вучыць даўні звычай.
Воўк атрымаў загад,
не траціць часу марна.
Ідзе дзяльба на лад.
— Каза —
табе, ўладар наш.
Лісіцы —
зайца дам.

Аленя —
з'ем я сам...
Угневаўся наш Леў,
што Воўк яго зняславіў.
З Ваўка і скуру здзеў
і ад жыцця пазбавіў.
— Падзеліш ты цяпер,—
Лісіцы кажа ветла,—
чакаю ад цябе
я праўды самай светлай...
Лісіца па зямлі
хвастом матнула доўгім.
— Каб вы, ўладар, жылі
заўсёды без трывогі...
Я так і падзялю,
як вучыць звычай даўні:
казу тваю даю
табе я —
на сняданне.
А зайца —
на абед.
Аленя —
на вячэру...
— Ну, дзякую табе!
Тваёй дзяльбе я веру!
Скажы ты мне цяпер,
хто навучыў цябе
разумна падзяліць так?!
— О уладар вялікі!
Вось гэты самы воўк,
навекі што замоўк...

## ГАНАРЫСТЫ КОНЬ

1

Ваяка меў цудоўнага каня.
На тым кані ён вецер абганяў.

Сядло ўсё пазалочана на ім,
вуздэчка ўся ў зіхценні залатым.

Імкнецца ў далі той цудоўны конь,
з-пад капытоў аж пырскае агонь.

Віецца пыл за ім і па-над ім.
Конь ганарыцца вершнікам сваім.

Насустрач ледзьве цягнецца ішак.
Няма на ім ні залатых адзнак,

няма на ім багатага сядла,
адна падпінка з лямкай абвіла.

Худы, ў дадатак стомлены такі,
як і усе наогул ішакі,

ён на сабе вялікі цягне пак,
маленькі той, цярплівы той ішак.

Пагрозна конь вачыма заблішчэў:
— Дарогу мне загарадзіў яшчэ!

Ану, набок, а не — пазнаеш ты,
якія моцныя я маю капыты!

Намуляў плечы пакамі ішак,
з дарогі не паверне ён ніяк.

Ды што рабіць? Здратуе гэты конь,
бо ён жа крэсіць, бегучы, агонь.

І пацягнуўся ён з дарогі ўбок,
як толькі мог, і пак свой павалок,

худы ішак, натруджаны такі,
як і наогул пад цяжарам ішакі.

А конь прамчаўся у шырокі свет,
а пыл, узняты ім, закрыў і след...

2

У бойцы ранілі таго каня.
Не крэсіць капытамі ён агня.

Ад ветру ззаду застаецца ён,
за ветрам больш не бегае ўздагон.

Хоць гаспадар і уздыхнуў па ім,
ды зняў сядло з уборам залатым.

З насечкай залатой вуздэчку зняў,
аброць уздзеў ён на таго каня.

Пасля узяў яго за павадок
і на кірмаш павёў у гарадок.

Купіў яго там неякі фурман,
сядла ў яго, у фурмана, няма.

Цяжары возіць ён на тым кані.
Цяжкія для каня настялі дні.

3

І дзень за днём, і дня не праміне,—
вялікія два пакі на спіне

конь возіць. Адвязе — кладуць ізноў.
Так і калышуцца яны з бакоў...

Аднойчы так ён з пакамі ідзе,
ды адпачынку не відаць нідзе.

Насустрач і натрапіўся ішак,
які калісьці вёз таксама пак.

Ішак даўнейшага каня пазнаў
і гутарку такую распачаў:

— А, конь-сагіб! Салам алейкум вам!
Чаму твая панікла галава?

Нядаўна ты інакшы быў,— як леў.
Яшчэ мяне ты здратаваць хацеў.

Я і падумаў — п'яны ты. Дарма!
На свеце хмелю вечнага няма,

ад гордасці працверазішся ты!
А дзе ж, скажы, убор твой залаты?

4

Пашкадаваў каня усё ж ішак.
— Давай мне,— кажа,— твой вялікі пак.

Іду я ўлегцы. Памагу табе.
Я думаю, ён карак не саб'е...

Пайшлі яны да месца удваіх.
Адзін маўчыць, ды і другі заціх...

## ЧАМУ САВА ПЯЕ ЎНАЧЫ, А ЎДЗЕНЬ МАЎЧЫЦЬ

Ішла Сава дарожкаю лясной,
на плечы пачапіўшы клунак свой.

Здзіўлёны Дзяцел крыкнуў ёй:
— Кума!

Работы іншай у цябе няма?!

Куды ты пацягнула хатулі?
Нядрэнна па-суседству мы жылі,

хапае быццам харчавання тут,
няма між намі аніякіх смут.

А зараз — на табе! — ўзнялася ў свет!
А мо пакрыўдзіў чым які сусед?

Сава ўздыхнула цяжка у адказ.
— І добра, і нядобра,— кажа,— ў нас.

Балота блізка і нядрэнны бор,
для ўсіх, здаецца, радасць і прастор,

хапае ежы, але праз людзей
мне жыць становіцца усё цяжэй.

Ты ведаеш, што я спяваць люблю.
Не спадабалі песеньку маю!

Хоць песенька прыгожая мая,
як толькі заспяваю часам я,

хто камень кіне,
пашыбень які,
хто па гарбу дае,
хто пад бакі.

Адзін на дрэва нават з кіем лез!
Пайду шукаць сабе інакшы лес.

— Па шчырай праўдзе,—
Дзяцел кажа той,—
не чуў ніколі
песні я тваёй.

Ты заспявай, дазнаюся цяпер,
чаму няма спагады да цябе.

Сава і вухнула,
сабраўшы дух:
«Ку-га, ку-га,
вух-вух!»

Той бедны Дзяцел да сука прырос,
аж па спіне яго прайшоў мароз.

— Ну як,— пытаецца Сава,—
ці чуў?

— Ой,— кажа Дзяцел,—
крыўдзіць не хачу,

але не песня гэта — проста жах!
Аж сонца змеркла у маіх вачах!

Здаецца, што не толькі ад людзей,—
не знойдзеш ты прыхільнасці нідзе.

Параду дам табе, кума, адну:
ты не шукай другую старану,

бо тут хоць крыху звыклі да цябе,
на новым месцы хто зусім заб'е.

Цягні ты хатулі свае назад,
а песню павярні на новы лад.

Ці пры людзях зусім ты памаўчы,
ці лепш спявай, як спяць яны, ўначы...

Сава, паслухаўшыся тых парад,
вярнулася ў дупло сваё назад.

З тае пары, як Дзяцел навучыў,
яна і вухкае-пяе ўначы...

# ЧЫЕ РУКІ ПРЫГАЖЭЙШЫЯ

*Індыйская казка*

1

На беразе ракі індыйскай, Джамны,
жылі даўней прыгожыя тры дамы.

У кожнай муж быў, так сказаць, вяльможа,
затым пра хлеб іх клопат не трывожыў.

Не мелі клопату і пра уборы,
ім не хапала толькі з неба зораў.

Ніхто не прымушаў іх турбавацца
наконт якой бы ні было там працы.

Паспаўшы ўдосыць і на мяккім ложку,
яны і пачыналі дзень патрошку.

Спачатку падавалі ім снеданне,
пасля былі з суседкамі спатканні.

Яшчэ пасля — ішлі яны на Джамну,
вось гэтыя прыгожыя тры дамы.

2

З усмешкай на сваіх цудоўных тварах
яны з сябе свае здымалі сары.

Пасля залазілі ў ваду па пояс,
а над вадой імклівіў звонкі голас.

Як пырскі, узлятаў іх смех вясёлы,
каб хто увагі больш звярнуў на голых.

Яны сябе лічылі цудам свету,
і ўсе былі павінны ведаць гэта.

Гармідар той прыгожы і прыемны
даходзіў нават і да шахт падземных,

дзе людзі голыя крышылі камень
сваімі збітымі у кроў рукамі,

каб збудаваць цяжкой падземнай працай
надземным дамам добрыя палацы...

3

На беразе ракі індыйскай, Джамны,
не сумавалі гэтыя тры дамы.

Пра тое-сёе крыху размаўлялі,
а гутаркі і час плылі на хвалях.

Але дайшлі да рук сваіх урэшце.
Тут згода кончылася, хоць іх рэжце!

— Мае,— адна сказала,— цуда свету,
і вы павінны ўсе згадзіцца з гэтым!

— Ніякай згоды,— кажа ёй другая,—
мае такія рукі, добра знаю!

Такое самае пачулі і ад трэцяй:
— Мае найпрыгажэйшыя на свеце!

Няма ў іх згоды, бо яны і суддзі:
гарачых спрэчак і вада не студзіць.

4

Якраз на тое каля іх кульгае
бабуля нейкая — галодная, старая.

Спынілася і прывітала голых
у простых задушэўных словах.

Пасля сказала:
— Трэці дзень не ем я.
Гарачыня спустошыла нам землі...

А можа, хоць скарыначку дасцё вы? —
Бабуліны іх не кранулі словы.

Галодных сыты зразумець не можа,
пакуль самога лёс не патрывожыць.

Да гэтых дам, над Джамнаю індыйскай,
наконт скарынкі не хадзі і блізка.

А ўсё ж ткі трэба скарыстаць старую!
Адна яе пытаннем і частуе.

— Дапамажы нам скончыць нашы мукі:
ў якой з нас лепшыя красою рукі?

— Чакайце крыху,— кажа ім старая,—
прыйду, як толькі ежы адшукаю...

І пакульгала прэч ад іх з кіёчкам
па чыста вымытым вадой пясочку...

5

Праз гоні двое, ля ракі таксама,
жанчына простая сядзела пад кустамі.

Усё жыццё яна працуе ў полі,
сваім гарбом сваю стварае долю.

Вятрамі біта і дажджамі мыта,
яна нічым ад сонца не закрыта.

Ад сонца яснага яна ўся чорна
і лёсу горкаму яна пакорна.

Прыйшла, каб смагу ўтаймаваць вадою,
перадыхнуць хоць крыху над ракою.

6

З кійком старая да яе кульгае,
сардэчным словамі яе вітае.

— Даруй, дачушка, за маё пытанне:
ці засталася крошка ад снядання?

Сказала у адказ ёй маладзіца:
— Сядай, бабуля, ў засень, на травіцы.

Няхай збіраюць крошкі ліхадзеі!
З табой снядание папалам падзелім,

каб падужэла ты ў сваёй дарозе,
каб весялей было табе, нябозе...

Паснедалі яны тады абедзве,
хоць сонца і стаяла на абедзе.

Старой была вялікая падмога.
Падзякавала. Стала зноў на ногі.

Пасля ўзяла яе руку сваёю
і павяла ля Джамны, над ракою.

7

Прыйшлі да дам. Яны былі ля рэчкі,
свае ніяк не пакончалі спрэчкі.

Сказала ім старая, гэным дамам:
— Цяпер адказ на запытанне дам вам.

На рукі гэтай маладзіцы гляньце:
яны і чорныя, яны аж з глянцам.

Яны парэпаны, яны пабіты,
яны салёным потам перамыты.

Яны мяне, якую лёс знясіліў,
запрацаваным хлебам накармілі.

Няма на свеце ім красою роўных,
а прыгажэй над вашы — безумоўна!

Бо харАство усё ідзе ад працы,
пабудавала праца і палацы.

Хоць беленькія вашы, як лілеі,
дабра не твораць і тварыць не ўмелі!

8

Сказала так і адышла старая.
Пайшла ў свой бок і маладзіца тая.

На беразе ракі індыйскай, Джамны,
пазналі ўсё ж ткі сорам тыя дамы.

## ХТО ШУКАЕ — ТОЙ ЗНАХОДЗІЦЬ

1

Град пабіў усё на полі,
сонца рэшткі дапаліла.
Супраць гэткай горкай долі
не паможа нават сіла.

Вёскі ўсе асірацелі,
зарабляць пайшлі мужчыны.
Хто застаўся, тыя елі
хлеб бульбяны ды з мякінай.

Гэта казка больш на праўду,
хоць і горкую, падобна.
Век яе не памінаў бы
пры жыцці сучасным, добрым.

Але каб мы лепш цанілі
тое ўсё, што зараз маем,
мы аб той страшэннай хвілі
і цяпер успамінаем.

Тры сыны былі у мамы,
тры сыны былі у таты.
Разумелі ўжо і самі,
што пара шукаць занятак.

Бо адкуль бацькі старыя
будуць браць для іх спажытак?
І суседзі гаварылі
ім пра гэта ўсё адкрыта.

Вось аднойчы, нейкім святам,
пры сняданні тата кажа:
— Бедна, хлопцы, наша хата
і нясмачна наша каша.

Ад адной худой кароўкі
малака ўсім не хапае.
Не памогуць нам гаворкі,
трэба рада тут другая.

Трэба вам ісці у людзі,
пабываць вам у народзе.
«Хто пытае — той не блудзіць,
хто шукае — той знаходзіць».

Справа ясная, як сонца.
Спрэчак жадных быць не можа.
Падняліся зразу хлопцы
рыхтавацца ў падарожжа.

Сын старэйшы просіць тату:
— Дай пінжак ты мне ў дарогу.

Бачыш сам — халаднавата,
будзе ўсё ж мне дапамога...

Усміхнуўся тата сыну:
— На, сынок, хоць ён апошні.
Больш работай грэй ты спіну
ля варштата ці на пожні.

Сын сярэдні у матулі
на разжыву просіць так жа:
— Дай мядзяную каструлю,
есці ў ёй смачней насмажаць.

— Хоць адну каструлю маю,—
забяры яе з сабою.
Толькі ўсё ж табе параю:
спадзявайся не на тое.

Калі будзеш працавітым,
знойдуць людзі частаваць чым.
Будзе стол заўжды накрыты,
не спытаюць посуд матчын...

Сын малодшы не пытае
у сваіх бацькоў нічога.
— А табе, сынок, якая
трэба з хаты дапамога?

— Калі вы дазвол дасцё мне,
цвік адзін хацеў бы ўзяць я,
каб пра хату нашу помніць
і на вас не забывацца...

Задзівіўся крыху тата:
вельмі просьба ўжо малая!
А браты смяюцца з брата:
«Галава яго дурная!»

— Што ж, сынок,— бацькі гавораць,—
мы табе ў тым не адмовім.
Выбірай які-каторы,
нас не ўспомні дрэнным словам...

— Я вось той вазьму, што вешаў,
кладучыся спаць, адзежу.
Для мяне ён самы лепшы,
будзе памяткай мілейшай!

Абцугамі цвік ён вырваў
на ўспамін і дапамогу.
А браты з усмешкай хітрай
паглядзелі на малога...

Развітаўшыся з бацькамі,
ў свет пайшлі ад іх сыны ўсе.
А малодшы, меншы самы,
на пагорачку спыніўся.

Шапку зняў і глянуў моўчкі
на сваю старую хатку,
дзе хусцінкай церла вочы
па сынах-вандроўцах матка...

Падышлі да раздарожжа.
Там спыніліся ўсе трое.

Кажуць большыя варожа:
— Сцежкай ты ідзі другою!

Мы усё ж ткі маем нешта:
я — пінжак, а ён — каструлю.
Хоць прадаць іх можна, зрэшты,
калі будуць плечы муляць.

А з цвіком — які ты дольнік?
Ён нічым не дапаможа.
— Што ж, браточкі, ў наваколлі
многа сцежак і дарожак...

2

Меншы брат ідзе ад ранку.
Сонца стала на абедзе.
Бачыць — перад ім фурманка
па дарозе торнай едзе.

Раптам адляцела кола,
пакацілася з дарогі.
Вось схілілася дадолу,
чырканула, як нарогам.

Тут адразу коні сталі.
Злез фурман. А хто не злез бы?
Толькі крэкча: «Крыху б сталі
ці кавалачак жалеза!»

Ані лесу, ані вёскі —
толькі поле ды каменне.

«Вось загвоздка дык загвоздка!»
Стаў фурман у задуменні.

Падыходзіць хлопец:
— Дзядзя!

Не гаруйце. Цвік я маю.
Зараз з вамі ўсё наладзім! —
І з кішэні цвік вымае.

— Толькі вас папераджаю:
цвік мне дораг, з роднай хаты.
Вам яго я пазычаю,
будзе ён назад узяты.

Засмяяўся падарожны:
— Хлопец, бачу, ты — гарэза!
Цвік аддаць, бясспрэчна, можна,
ў кузні знойдзем мы жалеза...

Падкацілі хутка кола.
Тым цвіком замацавалі.
Стаў ізноў фурман вясёлы:
— Ну, сядай, паедзем, малец!

Мы у кузні ўсё падправім.
А табе, сынок, падзяка!
Вельмі добра выйшла справа!
І дадумаўся б не ўсякі!

Толькі ён крануў за лейцы,
коні зразу поўным ходам.
Так даехалі да месца
без ніякае прыгоды.

3

Кавалю маленькі клопат:
мерку зняў, адсек жалеза,
напаліў. У рукі молат —
і загвоздка ў вось палезла...

А малы ўсё разглядае.
Тут яму усё цікава.
Кажа:
— Музыка якая!
Эх, і добрая ў вас справа!

Засмяяўся майстар гучна:
— Гэта так табе здаецца!
Калі хочаш, стань падручным,
ёсць якраз пры мне і месца.

Сын ляжыць мой у бальніцы,
покуль выйдзе — ты пабудзеш.
А пачнеш пры мне вучыцца —
рамяство сабе набудзеш.

Будзе харч табе, кватэра,
дам і грошы за работу.—
Хлопец нават не паверыў.
Згоду даў з усёй ахвотай.

Ля мяхоў кавальскіх стаў ён,
ля кавадла памагае.
Працавіты хлопец, спраўны,
што пабачыць, што спытае.

Стаў каваць памалу дробязь.
А драбніц патрэбна многа.
Ён і вучыцца, і робіць,
на сваю ўзышоў дарогу.

Хоць не майстар, але можа
зарабіць кавалак хлеба.
А яму, у падарожжы,
большага пакуль не трэба.

Але скончылася рата,
трэба некуды падацца:
майстраў сын прыйшоў дахаты,
з бацькам стаў ізноў на працу.

Атрымаў хлапчына грошы,
даў падзяку за навуку.
Зноў пайшоў у падарожжа,
клунак свой узяўшы ў рукі.

4

Многа ён прайшоў ці мала,—
хто тут лічыць або мерыць?—
Сонца ўжо на захад стала,
адчыніла ночы дзверы.

Бачыць хлопец: ля дарогі
невялікі дом якісьці.
А пры доме, ля парога,
дзед стаіць і куртку чысціць.

Куртка з рук як паслізнецца
і — на мокрую травіцу.
— Трэба вам прыладзіць месца,—
кажа хлопец.
Дзед сварыцца:

— Ад зямлі ўсяго тры пядзі,
а мяне вучыць прыйшоў ты!
— Мы, дзядуля, ўсё наладзім,
будзе месца для работы!

Хлопец цвік дастаў з кішэні,
камень зручны ўзяў на доле.
Цвік убіў ён у прысценне,
дзеда зразу задаволіў.

Той аж засмяяўся нават,
як на цвік павесіў куртку,
бо сваю закончыў справу
за адну ўсяго мінутку.

— Вось дык хлопец! Скуль ты гэткі?
Ну, зайдзі ж да нас у хату,
будзеш нашым госцем, дзетка.
Ты — не дрэнны памагаты!

А у хаце гаспадыня
і вячэру згатавала.
Павячэраў хлопец з імі
не занадта і не мала...

Распытаў дзед падрабязна:
— Як, адкуль, куды, чаго ты? —

Быў адказ кароткі, ясны:
— Я іду шукаць работы...

— А рабіць што-небудзь можаш?
— Я каваль. Кую, што хочаш. —
Засмяяўся дзед:
— Ой, божа!
Насмяшыў мяне ты, хлопча!

Малады яшчэ ты дужа
падымаць у кузні молат.
Рамяство маё адужаць —
гэта іншая размова.

Я кравец. Вучыся шыць ты.
Заставайся жыць са мною.
Тут і цёпла, тут і чыста,
развітаешся з бядою...

Прапанове хлопец рады.
Працаваць пачаў на золку.
Не цяжкія ўсе прылады
у краўца: напарстак, голка.

Пры пачатку новай справы
не мінеш ніколі грэху:
то прышыў не так рукавы,
то няроўным швом праехаў...

Але ўсё ж даходзіць толку,
пазнае ўсё лепш работу.
Неслухмянай той іголкай
ён штаны ўжо шые з корту.

Сам кравец спачатку кроіў,
заглядаў на ўсе драбніцы.
А цяпер сваёй рукою
хлопец кроіць не баіцца...

Час мінуў так немаленькі,
ды бяда прыйшла аднекуль:
захварэў кравец старэнькі,
а пасля спачыў навекі...

Не паможаш тут слязою
і ніякім іншым чынам...
Развітаўся з удавою
і пайшоў у свет хлапчына.

Выдраў цвік ён свой з прысцення,
што прынёс сюды калісьці,
палажыў яго ў кішэню
перад тым, як з хаты выйсці...

5

Хлопец зноў прайшоў нямала,
трэба недзе і спыніцца.
Як на тое, набягала
з небакраю навальніца.

Бачыць ён такую справу:
з хаты выбегла бабуля
да сваёй бялізны жвава,
бо і ў хаце гром пачулі.

Ветрам цвік якраз зламала,
на якім канец вяроўкі.
Ухапіла, затрымала,
але мала ў гэтым толку!

Падбягае хлопец:
— Цёця!

Зараз будзе дапамога!
Каб бялізну вам не зблоціць,
цвік прыб'ю замест старога.

Борзда цвік дастаў з кішэні,
падхапіў на доле камень
і забіў у вокамгненне
цвік той спрытнымі рукамі.

А пасля канец вяроўкі
заматаў, на вузел сціснуў.
— Вось уся вам і гаворка.
Пачынайце браць бялізну.

Просіць юнака старая:
— Памажы насіць мне, хлопча.—
Хлопец добра справу знае:
замарудзіш — дождж намочыць...

Гаспадыня пачастунак
для памочніка рыхтуе.
Кажа:
— Вешай, хлопча, клунак,
бо у нас і заначуеш.

Гаспадар — шавец вясковы.
Пачалася ў іх бяседа.
А пасля і прапанова
за бяседай выйшла следам:

— Бачу, што ты хлопец здольны.
Заставайся жыць у нас ты.
Ёсць якраз варштацік вольны,
насукаем заўтра дратвы...

І пачнеш памалу латаць
на пачатку ўсё малое.
З рамяством не будзеш плакаць —
не насіць, як што цяжкое.

Павячэралі, паспалі,
раніцой за працу селі.
Усё было — і шыла ў палец,
і цвічкі у столь ляцелі...

Трэба толькі мець ахвоту
і упартую натуру.
Навучыўся шыць ён боты,
хоць псаваў спачатку скуру.

Пояць, кормяць, грошы плоцяць,
а яшчэ калі — пахваляць.
Стаў шаўцом някепскім хлопец,
стаў шаўцом нядрэнным малец.

Кажа майстру ён аднойчы:
— Мне пара дамоў вяртацца.—

Майстар хлопцу:
— Што ж, сыночак,
добра ў свеце, лепш пры матцы.

Накупіў юнак тавару
і пашыў сам чаравікі.
Чаравічак гэтых пару
панясе праз свет вялікі.

Прынясе, аддасць матулі:
— Шыў табе сваёй рукою! —
А яна яго прытуліць
і падзякуе за тое...

Развітаўся ён сардэчна
і з шаўцом, і з гаспадыняй.
Клунак свой узяў на плечы
і пайшоў з сям'і гасціннай...

Не забыўся цвік узяць ён,
захаваў яго ў кішэні —
успамін аб роднай хаце,
успамін пра ўсе здарэнні...

6

Ён ішоў дамоў паволі,
дзе далінай, дзе праз гору.
Начаваў і пад ялінай,
над якой зіхцелі зоры...

Вось і горад блізкі самы,
і да вёскі недалёка.

Уваходзіць ён у краму,
на тавары кінуў вокам.

Бачыць: там пінжак знаёмы,
той, што брат узяў у таты.
Брат прадаў яго, вядома,—
ён на тое быў узяты.

Адкупіў пінжак хлапчына,
перайшоў да новай крамы.
Перавёў разок вачыма:
рэч знаёмая таксама!

Там мядзяная каструля —
матчын дар другому брату.
Меншы сын сваёй матулі
прынясе яе у хату.

Закупіўшы падарункі,
ён пайшоў, урэшце, двору.
Хоць ісці нялёгка з клункам,
але ў добрым ён гуморы...

Падышоў да роднай вёскі.
Вось і хата выглядае.
Праз акно — святла палоска:
«на камінку корч палае».

Бо на газу не ўзабрацца...
Ля стала бацькі сядзяць там.
Каля іх два абадранцы:
брат сярэдні з большым братам.

— Не знайшлі нідзе работы,—
так яны бацькам гавораць,—
пазбівалі толькі боты,
каштавалі многа гора...

— Ах, мае вы галубочкі,—
каля іх бядуе маці,—
досталося вам, сыночкі,
не лягчэй і ў нашай хаце.

Гаравалі ў белым свеце
і разуты, і раздзеты...
Смалякамі ў хаце свецім,
дачакаць нам цяжка лета...

Суцяшаюць маму хлопцы:
— Мы вясной усё здабудзем!
Як прыгрэе добра сонца,
пойдзем зноў тады мы ў людзі.

Нам абы зіму прабіцца! —
Ды бацькі сынам не вераць...
Меншы сын, не чуўшы быццам,
адчыніў раптоўна дзверы.

З клункам ладным цераз плечы
ён ідзе адразу ў хату.
— Добры вечар, добры вечар,
дарагія мама, тата!

Я да вас прыйшоў урэшце,
прынімайце падарункі!

Цяжка іх было данесці,
натрудзіў я плечы клункам.

Вось вазьмі пінжак свой, тата!
І мядзяная каструля
зноў вярнулася у хату,—
прынімай яе, матуля.

Чаравічкі — дар мой, мама.
Іх пашыў сваёй рукою.
Грошы вам прынёс таксама,
каб не знацца вам з бядою.

Я — каваль, кравец, шавец я.
Звык да ўсякае работы.
Зараблю, як мне здаецца,
каб не знаць старым вам клопат...

Вось і цвік, што ўзяў ад вас я.
Ён памог мне, і нядрэнна!
З ім пра вас не забываўся,
з ім я згадваў нашы сцены...

Малаток узяўшы ў рукі,
цвік ізноў забіў на месца.

7

А якая тут навука,
кожны сам хай дабярэцца.

Гэта казка больш на праўду,
хоць і горкую, падобна.

Век яе не памінаў бы
пры жыцці сучасным, добрым.

Але каб мы лепш цанілі
тое ўсё, што зараз маем,
мы аб той нялёгкай хвілі
і цяпер успамінаем.

Вам адкрыты шлях вялікі
да навукі і да працы.
Вам не трэба нейкім цвікам,
як хлапцу таму, цягацца.

Рамяство даюць у школе,
каб лягчэй дайсці да мэты.
Але, дзеці, ўсё ж ніколі
не забудзьце казкі гэтай!

# АЙОГА

*Нанайская казка*

Каля сіняга мора, ў далёкай тайзе,
дзе Амур свае воды да мора нясе, —

асяліўся нанайскі народ-паляўнік.
Да тайгі і да мора з маленства ён звык.

У вялікай і дружнай савецкай сям'і
ўсім хапае прастору, хапае зямлі.

Не пакрыўджаны ў нас і нанайскі народ,
ён пазбыўся даўно векавечных нягод.

У нанайцаў няма ні палёў, ні садоў,
ловяць рыбу яны, б'юць таёжных звяроў.

На рацэ і на моры, на ўзгор'ях крутых
узрастае і ходзіць здабытак для іх.

У таёжных распадках, ля горных крыніц
б'юць і ловяць яны сабалёў і лісіц.

Не мінаюць аленяў яны і ласёў.
Для жыцця у тайзе і знаходзяць усё.

Многа песень яны наспявалі ў жыцці.
Можна радасць і гора у песнях знайсці.

Многа казак зладжылі яны праз вякі
у хацінках сваіх на ўзбярэжжы ракі.

Пра старых, пра малых, пра таёжных звяроў,
і пра птушак лясных, і пра звон ручаёў...

Пра дзяўчынку, Айогу, гаворыць адна,
як зрабілася гускай за неслух яна...

1

Жыў калісьці нанаец, па прозвішчу — Ла.
У яго і дачушка — Айога — была.

Прыгажэй за яе не пабачыш нідзе.
Як пачула пра тое яна ад людзей, —

стала так ганарыцца, што рады няма.
Пачалі ад яе ўсе люстэркі прымаць,

бо яна і сядзіць каля іх цэлы дзень,
да работы якой нават блізка не йдзе.

Пахавалі люстэркі — ёй мала бяды:
да крыніцы ідзе, да люстранай вады

і сядзіць цэлы дзень над крынічнай вадой,
надзівіцца не можа сваёй пекнатой...

Анічога у хаце не робіць зусім,
толькі цешыцца ўсё адлюстроўкам сваім.



Просіць маці аднойчы:
— Айога, схадзі
прынясі мне вадзіцы разочак адзін!

— Я ў ваду увалюся, бо бераг круты!
— Ты трымайся, дачушка, рукой за кусты!

— Можа куст адарвацца, а як жа тады?
— Ты за моцны трымайся, дастанеш вады!

— Ён мне рукі паколе...
— А ты на руку
рукавічку надзень, што вісіць на шастку.

— Рукавічка парвецца,— гаворыць дачка,—
бо калючак багата на гэтых сучках...

— Ты зашыеш тады рукавічку сваю,
я табе вось на гэта і голку даю...

— Паламаецца голка, набуду бяды:
ані голкі не будзе, ні ў хаце вады...

Бацька кажа:
— Вялікую голку вазьмі! —
Ды не можа Айога згадзіцца і [redacted] ім:

— А вялікая палец праколе якраз!
— А напарсткі навошта бываюць у нас?

— А каліператрэцца напарстак?
Тады
ні напарстка не будзе, ні ў хаце вады...

Ды калі ж, сапраўды, ёй вадзіцу насіць?
На сваю пекнату ўсё ў мядніцу глядзіць...

3

Падбягае дзяўчынка з суседняй сям'і.
Кажа:
— Дайце вядро, а я збегаю з ім...

Нанасіла яна, колькі трэба, вады,
не спаткаўшы пры гэтым ніякай бяды.

Маці цеста тады учыніла з вадой,
праснакоў нарабіла з чаромхай лясной.

І на вогнішчы ўсе запякла праснакі.
Пах салодкі дайшоў да гультайкі-дачкі.

Просіць матку Айога падаць ёй праснак,
бо сама зварухнуцца не можа ніяк.

4

Маці словам навучае гультайку дачку:
— Ён гарачы, Айога, ты спаліш руку!

— Я магу рукавічкі, матуля, надзець!
— Рукавічкі намоклі ў крынічнай вадзе!

— Пасушу іх, матуля, на сонейку я!
— Скарабаціць іх сонца, дачушка мая!

— Я іх мялкай, матуля, тады разамну.
Будуць зноў рукавічкі — адна у адну.

— Забаляць твае рукі ад працы такой.
Лепш сядзі і мілуйся сваёй пекнатой.

Я праснак-перапечку дзяўчынцы аддам,
што вады для сябе нанасіла і нам.

Не шкадуючы рук працавала яна,
дык няхай і падзяка ёй будзе ад нас.

І суседскай дзяўчынцы, найлепшы на смак,
аддала у аддзяку вялікі праснак.

5

Узлавалася вельмі Айога тады,
адышла ад матулі да самай вады.

Адлюстровак свой бачыць на ціхай вадзе,
ён прыгожы такі, як ніякі, нідзе...

Ля ракі і суседка сядзіць на траве,
свой гасцінец-праснак памаленечку жве.

Пачала азірацца Айога назад,
на суседку кідае нядобры пагляд.

Стала шыя цягнуцца яе ў даўжыню,
стала шыя ўзнімацца яе ў вышыню.

А дзяўчынка — суседка — і кажа тады:
— Ты вазьмі мой гасцінец, мне хопіць яды!

Пабялела ад злосці Айога.
«Як так?!
Каб яна узяла той ламаны праснак?»

Замахала рукамі ад сілы усёй
і зрабіліся рукі — як крылле на ёй.

Закрычала:
— Няхай тваё будзе табе!
Мне не трэба
нічога-га-га
ад цябе.

Паслізнулася з берагу і паплыла,
быццам век яна гускаю белай была.

Толькі чуем, крычыць ля ракі, ў берагах:
— Я красуня-га-га...
Я красуня-га-га...

Па-нанайску забылася ўсё гаварыць,
толькі ведае імя да гэтай пары.

І калі дзе заўважыць паблізу людзей,
пачынае крычаць над вадой, на вадзе:

— Я — Айога-га-га...
Я — Айога-га-га...

## РАЗУМНАЯ ДАЧКА

1

Гэта калісьці было, за прыгонам;
пан для сялян быў вышэйшым законам.

Мог і прадаць, і забіць селяніна,
хоць бы ён быў ані ў чым непавінен.

Той ненавіснай, прыгоннай парою
труцень вяльможны сядзеў у пакоі.

А селянін, паспяшаючы з працы,
шапку не зняўшы, прайшоў ля палаца.

Пан, узлаваўшыся, лёкаяў кліча:
— Ўзяць яго, хамскае тое аблічча!

Тут гайдукі наляцелі ў хвіліну,
рукі скруцілі таму селяніну.

Выйшаў на ганак з палаца вяльможны.
Сэрца сялянскае б'ецца трывожна.

2

Панскага слова чакаюць падпанкі.
Пан пачынае [illegible] высокага ганка:

— Як ты асмеліўся, галган пракляты,
каля палаца хадзіць панібратам?

Нават не зняў ля акна майго шапку!
Можа, не любіш такога парадку?

Хочаш, каб пан павітаўся з табою?
Шапку здыміце з дурной галавою!

Хоць не чакалі такога загаду,
але падпанкі ўсё выканаць рады.

Махам адным падкацілі калоду —
ім галавы гарацешнай не шкода...

3

Жалем зайшлося бязвіннае сэрца.
Як яно толькі само не парвецца!

— Яснавяльможны! Ды як жа? Завошта?
Шапку набыў я з уласнага кошту,

а галаву падарылі бацькі мне.
Што ж я рабіцьму, як пан яе здыме?

Мне галава памагае у працы,
мэблю не ўсю я зрабіў для палаца.

Хоць бы дакончыць вам стол-сакрытэру.
Я для яго і брускі ўжо намераў.

Дзе ж галаву я другую дастану? —
Так насмяшыў нечакана ён пана,

што аж за бокі узяўся вяльможны:
— Без галавы хіба жыць вам не можна?

Рукі патрэбны, патрэбны вам ногі,
а ў галаве тваёй клёку не многа...

4

Пан аж заходзіцца, ўзяўшыся ў бокі,
пану у тон заліваецца лёкай.

Ведаюць здаўна на свеце пра тое —
смех памагае знішчаць нам ліхое.

Так адбылося і тут нечакана:
смех закрануў нешта людскае ў пана.

Але падацца нядобра адразу:
будзе спакусай для іншых «абраза».

Слёзы сялянскія пану пацеха.
Пан, як для жарту, гаворыць са смехам:

— Добра. Віну я, напэўна, дарую,
калі ты зробіш работу такую:

заўтра, у гэту дакладна гадзіну,
ты да палаца прынесці павінен,

з попелу звіўшы ў тры пасмы, вяроўку.
Гэтым сваю ты ўратуеш галоўку.

І даўжынёй каб не абы-якая —
дваццаць пяць локцяў ад краю да краю...

— Добра! — адказвае майстар з паклонам.
Сам жа падумаў:
«Забі яго громам!»

5

Дома дачка свайго бацьку чакае.
«Што ж за работа у таты такая?»

Той засмучоны ўваходзіць у хату.
— Дзе ж ты так доўга забавіўся, тата?

Тата ачухацца нават не можа,
так яго панскі загад устрывожыў.

Ды памаленьку дачушцы каханай
ён расказаў пра здарэнне у пана:

— Мілая Настачка, любая дзетка!
Радасць трапляецца беднаму рэдка.

Гора трымаецца кожнага кроку,
смерць мая ходзіць зусім недалёка.

Гэта здарэнне такое цяжкое,
мабыць, разлучыць мяне з галавою...

Наста ўсміхаецца толькі, ды годзе:
— Татачка, пану з табой мы дагодзім.

Пану вяроўку звіём мы з табою,
будзе яна ў самы раз даўжынёю.

Ты павячэрай і спі без турботы.
Досвіткам наша пачнецца работа...

Бацька здзівіўся: тут слёзы, не жарты,
кажа дачка: турбавацца не варта!

Але на сэрцы лягчэй яму стала.
Смуткам бядзе дапаможаш ты мала.

Вось і махнуў ён на смутак рукою,
добрай вячэрай сябе супакоіў.

Потым заснуў, як прадаўшы пшаніцу.
З добрай вячэры і пан не прысніцца...

6

Сонца яшчэ не ўставала над вёскай,
а каля хаты пачаўся ўжо лёскат.

Крук ля крука аблятае, не моўкне,
Наста віе на ратунак вяроўку.

Толькі трубіць пачыналі на пасту,
тую работу дакончыла Наста.

Вынесла на панадворак вяроўку.
Соллю яе ўсю засыпала горкай

і запаліла на тым панадворку.
Так і згарэла пад соллю вяроўка.

Попел трымаецца соллю,
а пасмы
вельмі на ёй вызначаюцца ясна.

Майстар ад радасці свету не бачыць:
справіўся з гэткай цяжкою задачай!

І, не марудзячы часу дарэмна,
пану вяроўку прыносіць у тэрмін.

7

Пан абышоў ля яе неаднойчы:
дзіва такога не бачылі вочы!

Ён і памацаў вяроўку рукамі,
ён і панюхаў вяроўку таксама.

«З попелу звіта, ну проста дзівосы!
Хоць ты бяры і вяжы на атосы!»

І даўжыня ў ёй не абы-якая:
дваццаць пяць локцяў ад краю да краю!

Пан ад здзіўлення аж стаў заікацца:
— Б-бачу, што м-майстар ты, в-варты п-палаца!

Але на гэтым віну не дарую,
выраршы ты мне задачу другую.

Раз ты такі незвычайны умека,
бубен зрабі, каб ён без чалавека

граў і спяваў нам усім у палацы,
каб і мяне заахвоціў на танцы.

Зробіш — дарую табе я віну ўсю.
Толькі, глядзі, каб да заўтра вярнуўся!

— Добра! — адказвае майстар з паклонам.
Сам жа падумаў:
«Забі цябе громам!»

8

Майстар ідзе спахмурнелы дахаты.
Наста пытае:
— Як маешся, тата?

Што ж пра вяроўку не кажаш нічога?
— Аж аглушыў я ёй пана самога.

Але, пракляты, ніяк не адстане,
даў мне другое цяжкое заданне.

Бубен зрабіць я павінен да заўтра,
каб без музыкі ён пану іграў там.

Мала таго, каб і пана ў палацы
граннем сваім заахвоціў на танцы...

Зноў усміхаецца Наста вясёла:
— Бубнаў такіх колькі хочаш наўкола!

Зробім, татуля! Ён сам заіграе,
будзе пацеха з яго немалая.

9

Бацьку усцешыла Насціна слова.
Наста яго пасылае ў дуброву.

Бацьку усё растлумачыла Наста:
— Там, каля сцежкі, у дрэве дуплястым,

многа шарснёў напладзілася хіжых.
Лубку да дрэва прыставіш ты бліжай,

стукнеш па дрэву — палезуць адразу.
Ты, не марудзячы, лубку завязвай.

Вось на абвязку табе і тканіна,
ўсё як належыць зрабіць ты павінен.

10

Хто іх на свеце не знае, шарснёў тых,
з джалам вялікім, а з выгляду жоўтых.

Пакаштаваўшы шарснёвага «мёду»,
іх не забудзеш да сотага году!

Але, ў выпадку такім незвычайным,
хочаш не хочаш, а будзеш адчайным.

Майстар набраў іх у лубку даволі,
хоць і далі яны майстру патолі.

Лубку нясе ён дахаты пад пахай,
не-не, ды гляне на лубку са страхам:

як бы тканіна іх толькі стрымала,—
б'юць у тканіну шарснёвыя джалы.

11

Наста не бавіла часу дарэмна:
бубен дастала, ды нават нядрэнны.

Дзірку прабіла на бубне пры боку,
каб для шарснёў не занадта шырока.

Бацька, прынёсшы шарснёў, толькі крэкча,
правай рукой пацірае ўсё плечы.

Век не забудзе ён гэту прыгоду,
пакаштаваўшы шарснёвага «мёду».

Лубку паставіў стары ля парога.
Наста цалуе татулю старога.

— Татачка, міленькі! Хіба ж так можна?
Трэба хадзіць ля шарснёў асцярожна.

Але ад смеху не можа стрымацца:
«Вось гэта музыка будзе ў палацы!»

Поўны той бубен шарснёў насадзіла,
бубну дала яна новую сілу.

Затычкай дзірку заткнула адразу,
каб не ўцяклі «музыканты» без часу.

12

Бубен нясе у палац ён да пана.
Музыкі ў бубне — як з двух барабанаў.

Бубен на стол ён паклаў у пакоі.
Пан дакрануцца баіцца рукою.

Гэта не музыка, гэта віхура,
аж выпінаецца музыкай скура,

аж ад стала пачынае ўздымацца.
Дзіва такога не чулі ў палацы!

Бубен усіх задзівіў нечаканкай,
каля яго і паны і падпанкі.

Чэлядзь уся цераз дзверы, праз вокны
прагне зірнуць на яго хоць бы вокам.

Мабыць, ад самага свету стварэння
першае бачаць такое здарэнне!

13

Пан пачынае размову такую:
— Грэх твой цяжкі я на гэтым дарую.

Але не ўсё ты зрабіў. У палацы
і музыкі гэтай няма яшчэ танцаў...

Покуль размову вялі яны з панам,
блазан у бубен парнуў нечакана,

затычку выбіў нядбайнай рукою.
Тут пачалося адразу такое,

што, як казалі даўнейшыя людзі,
толькі пры гібелі свету так будзе.

Як паляцелі шарсні
з бубна,
роем,
як пачалі джгаць
усіх
у пакоі,

дык, сапраўды, анікалі ў палацы
гэткіх не бачыў ніхто яшчэ танцаў.

Яснавяльможны скакаў сам
да сталі.
Ён у жыцці не скакаў так
ніколі.

Мала таго,— «заспявалі» ўсе потым,
хоць, пеючы, абліваліся потам.

Толькі шарсні адгукаліся
хорам
ды шнуравалі
то долу,
то ўгору.

Людзі як рынулі
ў дзверы,
у вокны,

хто — галавой,
хто — нагамі,
хто — бокам,

не зразумееш —
куды,
хто,
каторы...
Танцы вясёлыя скончылі скора.

14

Тата дачцэ расказаў пра падзею:
— Вось,— кажа,— бубен, няхай прападзе ён!

Наста смяецца, ёй бубна не шкода:
— Пакаштавалі шарснёвага «мёду»!

Але на гэтым не скончыцца справа.
Пан на выгадкі заўсёды рухавы.

Толькі ачухаецца з пераляку,
дык падрыхтуе адразу падзяку.

Больш ён цябе не адпусціць на раду.
Ты і скажы яму шчырую праўду:

«Гэта дачка мне наладзіла бубен.
Сам я не ведаў, іграе чаму ён!»

Вось ён тады ад цябе і адстане,
запатрабуе са мною спаткання.

Можа, як-небудзь яго ашукаю.
Скончыцца ж, можа, нядоля такая!

Сядзем цяпер павячэраем, тата,
што будзе заўтра — дазнаемся заўтра.

15

Раніцай майстра пазвалі да пана.
Пан пасля «танцаў» выходзіць, як п'яны.

— Што ж, даравау я грахі твае, хаме,
ты ж мне аддзячыў за тое шаршнямі?

Сэрца сялянскае б'ецца трывожна.
Майстра гаворыць:
— Даруйце, вяльможны!

Гэта дачка мне наладзіла бубен,
сам я не ведаў, іграе чаму ён.

Пан задзівіўся:
— Якая дачка там?!
Гэта яна тут ва ўсім вінавата?

Добра! Скажы ёй, каб заўтра на ранку
тут вось стаяла, ля гэтага ганку!

Я і праверу, які ў яе розум.
Дзень ёй і ночка даюцца на роздум.

Папераджаю: задача цяжкая,
літасці хай ад мяне не чакае!

Каб і не конна, і не пехатою,
але была тут згаданай парою.

Ды не забудзься яшчэ і на гэта:
каб і не голай была, не адзетай.

Мне падарунак павінна прынесці,
каб я не мог яго ўзяць або з'есці.

16

Гора ідзе, а бяда даганяе.
Дзе ты радзілася, доля такая?

Слёзы пабеглі з вачэй у старога.
Як ён дахаты дастаўся, нябога?

— Гора, дачушка, і скача і плача!
Новую пан адшукаў нам задачу.

Вось што прыдумаў ліхой галавою:
заўтра не конна і не пехатою,

каб і не голая, каб не адзета,
але была ля палаца ты, дзетка.

І падарунак павінна прынесці,
каб скарыстаць ён не мог або з'есці...

Наста на гэта смяецца-жартуе:
— Што ты гаруеш-бядуеш, татуля?

Зробім усё мы па панскаму слову,
будзе у тэрмін яму ўсё гатова.

Толькі адразу ідзі ты да жыта,
зайцамі сцежка даўно там прабіта.

Ты забарсай там сіло ці са двое,
заяц і прыйдзе вячэрняй парою.

Будзе з яго падарунак цікавы...
Толькі, татуля, ты сам будзь рухавы.

Я ратавала цябе неаднойчы,
не пашкадуй для мяне гэтай ночы!

Зайца павінен прынесці на золку.
На табе, тата, сіло і вяроўку...

Можа тут быць хоць якая размова?
Тата пайшоў, не сказаўшы ні слова...

17

Раніцай тата вяртаецца з зайцам.
Наста ўстае, пачынае збірацца.

Сетку зладжыла удвое, утрое
і ахінулася сеткаю тою.

Потым дастала кіёчак з паркана:
ехаць на ім яна будзе да пана.

Зайца ад бацькі ўзяла і — пад паху.
Бацька стаіць, спалатнеўшы ад страху.

Кій той, як дзеці, яна ажыргала,
едзе да пана з дарункам памалу.

Пану сказалі:
— Ля ганка дзяўчына! —
Выйшаў, праверыў сваімі вачыма.

«І не апранута, і не раздзета,
не пехатой, а кіёк — не карэта».

— Дзе ж твой дарунак? — у Насты пытае.
Лёкаю шэпча:
«Пусціць выжлаў зграю...

Хай разарвуць на кавалкі такую.
Я ёй ніколі шарснёў не дарую!»

Наста вымае з-за пазухі зайца.
Псярня якраз пачынае з'яўляцца.
Выйшлі ўсе выжлы, якочуць ад злосці.

Першыя служкі яны ў ягамосця.
Пан ім: — А-ту! —

ў сваёй роспачы дзікай.
Псы да дзяўчыны,

ашчэрыўшы іклы.
Наста тады і пусціла ім зайца.

Заяц у браму, а псы...
Што пытацца?!

Псы ўсе за зайцам у браму таксама.
Толькі і бачыў іх пан злютаваны...

— Яснавяльможны! — гаворыць дзяўчына, —
бачылі ўсё вы сваімі вачыма.

Што загадалі, усё я зрабіла.
Панскае слова павінна мець сілу.

Пан аж заляскаў на гэта зубамі —
слова давалася перад панамі.

Так і вярнулася Наста дахаты,
дзе нецярпліва чакаў яе тата.

## ВЯЛЬМОЖНЫ ПЫХ

Калісьці, ў старадаўні час,
жыў ганарысты пан у нас.

Хоць ганарыстымі яны
былі тады усе паны,

але вось гэты — над усіх.
Яго празвалі — Васпан Пых.

Ён выхваляўся, што з людзей
ніхто, ніколі, анідзе

не зможа ашукаць яго.
А у дадатак да ўсяго

ён абвясціў людзям усім:
хто ўсё ж ткі возьме верх над ім,

таму ён без ніякіх слоў
дасць падарунак — сто рублёў.

Ну, без абвестак знаді ўсе,
што ім няўдача прынясе:

дадуць на стайні бізуноў,
каб не раўняўся да паноў.

А быў у нас хлапец адзін —
звычайны, сціплы селянін.

Ён, як і многія з сялян,
быў разумней, чым важны пан.

Яго ўсе знаді наваколл.
Але да пана ён не йшоў,

не квапіўся на грошы.
«Ат!
Я з працы ўласнае багат!»

Сказалі пану:
— Ёсць хлапец.
Хоць малады, але мудрэц.

Калі б да пана ён прыйшоў,
напэўна ўзяў бы сто рублёў.

Пан аж падскочыў:
— Так, так, так!
Чаму ж не йдзе па іх, дзівак?!

Ану, пакліччце да мяне!
Пабачым, хто з нас разумней!

У пана лёкай не адзін.
І вось праз некалькі хвілін

вядуць хлапца таго ў палац.
Ля пана госці ўсе стаяць.

Цікава ўсім дазнацца ім,
што будзе ў паядынку тым.

У хлопца торбачка ў руках
і дзве смяшыначкі ў вачах.

— Паночку!
Мне цяпер не час.
Я прыбягу пазней да вас.

На бераг рыба ўся ідзе,
аж возера шуміць-гудзе.

Вазамі возяць там яе.
Мне хопіць торбы аднае...

Сказаў —
і з торбачкай бягом.
Падняўся тут і шум і гром.

— Як так,—
грыміць вяльможны Пых,—
я рыбу гадаваў для іх?!

Вазамі мой цягаюць скарб,
гібее мой срабрысты карп?!

Я пакажу ім!
Гэй!
Каня!
За мной!
Усе вазы спыняць!

Паселі.
Капыты — цок, цок!
З-пад капытоў ляціць пясок.

Застаўся вецер ззаду дзесь,
як хмара, следам пыл ідзе.

На бераг выскачылі ўсе.
Там хвалі возера нясе.

Спакой, зацішша пры вадзе.
Вазоў ніякіх анідзе.

Адзін той хлопец ля вады.
Ён толькі што прыбег сюды.

У хлопца торбачка ў руках
і дзве смяшыначкі ў вачах.

— Дзе тая рыба?
Дзе вазы?
Я з іх вазьму у два разы!..

А хлопец пану ў гэты час:
— Дазвольце супакоіць вас,

паночку, рыба ўся ў вадзе!
А пан няхай мне пакладзе

у гэту торбу сто рублёў,
бо пана я сюды прывёў...

Аж спалатнеў вяльможны Пых.
А сто рублёў даў, залатых!

## КРОТ, МУРАШКА І ЛІСІЦА

1

Крот, Мурашка і Лісіца
сустрэліся ля крыніцы.

Піць прыходзілі яны ўсе.
Там струменьчык чысты ліўся

і джурчаў, як чмель над кветкай,
пад бярозавай паветкай.

Прывіталіся спачатку
і дзеньдобрым, і за лапку.

Пачалі пасля ўсе трое
гаманіць пра сёе-тое.

Потым Ліска кажа:
— Дома
нам усё даўно вядома.

Пойдзем лепш у свет шырокі,
паглядзім уласным вокам,

як жыццё ідзе другое,
як яно і дзе якое.

Ўсе згадзіліся на гэтым.
Вандраваць не дрэнна летам!

Крот сабраўся вельмі борзда,
ўзяў з сабою рыдаль востры,

а Мурашка ад кватэры
узяла сваю сякеру.

Ну, Лісіца кожным часам
ходзіць з баявым прыпасам:

востры зуб і хвост пушысты,
каб сляды замесці чыста...

2

Крот, Мурашка і Лісіца
маршыруюць па гасцінцы.

Крочаць весела і жвава.
У дарозе ўсё цікава:

дзе узгорак, дзе даліна,
дзе алешнік, дзе ляшчына,

дзе калінавы масточак,
дзе малінавы лісточак...

Птушкі з кожнага іх дрэва
сустракаюць гучным спевам.

Так прайшлі яны ці мала.
Ім прыгоды не трапляла.

Але вось на нейкай мілі
свой паход яны спынілі:

нехта, мабыць, ехаў з возам
і засыпаў сцежку просам.

Што рабіць?
Дабра ім шкода.
Як-ніяк —
пачатак года.

«Кінь вясной у глебу зерне,—
дык увосень жменю верне!»

Так Лісіца і сказала:
— Часу ёсць у нас нямала!

Мы, падзякаваўшы лёсу,
пазбіраем гэта проса.

Потым, выпаліўшы ляду,
і пасеем добрым ладам.

Як зародзіць проса наша —
будзем год мы есці кашу!

Утраіх рабіць не цяжка.—
Крот, Лісіца і Мурашка

пазбіралі ў кучу проса,
каб нідзе не засталося.

Ёсць насенне!
Зараз трэба
рыхтаваць для проса глебу!

3

Крот, Мурашка і Лісіца
пасядалі на травіцы.

Крот, як знаўца, вокам кінуў
на узгорак, на даліну

і сказаў:
— Каля гары той
можна сеяць нават жыта.

Проса ж будзе —
як трысцё там,
з вельмі добрым умалотам.

Хто з Кратом спрачацца можа?
У гэтай справе ўсіх ён зможа,—

колькі Крот зямлі капае,
мабыць, ён і сам не знае...

4

Крот, Мурашка і Лісіца,
каб з сяўбою не спазніцца,

падышлі хутчэй да мэты.
Не благі куточак гэты!

Пахадзілі па паляне:
добра скрозь, куды ні глянеш!

Што ж! Пачаць капаць ім трэба,—
языком не зрушыш глебу!

Узяліся ўсе з імпэтам
працаваць на полі гэтым.

І Крату капаць не цяжка,
працавіта і Мурашка.

А Лісіцу хто не знае?
Хлеба лёгкага шукае!

Капануўшы два разочкі,
Ліска села на пянёчку

ды сябрам сваім гаворыць:
— Нас, браткі, пільнуе гора!

Добра бачу ясным вокам,
што гара навісла бокам.

Як заваліцца на поле,
проса нам не мець ніколі.

Не спыняйце вы работу,
я ж пайду наладжу ўсё там.

За гару, ў кусты адразу
наша Ліска падалася.

Там на сонейку вясновым
і заснула у дуброве.

Ліска так гару трымае!
Як, гаротніца, трывае!..

Рые Крот зямлю тым часам,
а з Кратом Мурашка разам.

І да вечара іх двое
ускапалі поле тое.

Як на захад сонца стала,
дык Лісіца наша ўстала.

Падышла:
— Вось добра, хлопцы!
І пасеем, покуль сонца!

Не пашкадаваўшы сілы,
я гару так узмацніла,

каб ніякая навала
нам сяўбу не сапсавала.

Вам лягчэй было намнога,
я — дык ледзь цягаю ногі...

Што адкажаш? — Кожны, пэўна,
працаваў, як мог, сумленна...

Праз плячо узяўшы лубку,
Крот пасеяў проса хутка.

А пасля сяўбы такое
заспявалі разам трое:

«А мы проса сеялі
  утраіх.
Наша проса вырасце
  нам для ўсіх.
Намалоцім проса мы
  повен воз,
абы толькі просу быў
  добры лёс».

5

Крот, Мурашка і Лісіца
разышліся ў той хвілінцы,

каб ізноў пры гэтым просе
ім спаткацца ўсім пад восень.

Час ляціць. На сходзе лета.
Восень крочыць непрыкметна.

Проса жаць прыйшлі з сярпамі
толькі Крот з Мурашкай самі,

а Лісіца і не дбае,
што работа ёсць такая.

Крот з Мурашкай каля проса.
Жне адзін, другі адносіць.

А снапоў на іхнім полі
коп за дзесяць, пэўна, болей.

Як звязалі сноп апошні,
ў іх парадак стаў на пожні.

З лесу крочыць тут і Ліска,
да тарпы падходзіць блізка.

— Ай, ды хлопцы!
Ай, героі!
Як вам дзякаваць за тое?!

Н а м усім за працу нашу
ўзнагародай будзе каша!

Ўсё ж ткі проса малавата!
На траіх дзяліць не варта!

Аддамо таму ўсё збожжа,
хто дабегчы першым зможа

да тарпы праз нашы гоні.
Адным словам,— хто абгоніць!

Крот з Мурашкай кажуць:
— Згода!
Сталі ў рад.
Каманда:
— Ходу!

Ну, Лісіца хвост трубою,
аж ляціць па-над зямлёю.

А Мурашка, што ў карэце,
на хвасце ў Лісіцы едзе.

І не ведае Лісіца,
што Мурашка з ёй імчыцца!

Да тарпы прыбегшы, села
і вясёлы спеў запела:

«А мы проса сеялі
утраіх,
але проса вырасла
не для ўсіх!

Гэта проса вырасла
мне на лёс,
а Крату з Мурашкаю
дулю ў нос!»

А Мурашка ззаду кажа:
— Дастанецца мне ўся каша!

Ты марудніца якая!
Я даўно цябе чакаю!

Ушчынае гвалт Лісіца
ды з Мурашкаю сварыцца:

— Як, ды што яно такое...
Не згаджаюся з табою!

Хто табе паверыць можа,
што мяне ты пераможаш?

Але Крот прыйшоў да іх тут.
Ён і даў Лісіцы дыхту:

— Як сварыцца вам не сорам?
Спрэчку вырашым мы скора,

каб на добрае ўсім выйшла:
тут да нас бягуць два выжлы.

Мы сюды іх і запросім
рассудзіць аб нашым просе.

Як ускочыла Лісіца,—
не здагоніць бліскавіца.

Знікла ў момант за кустамі.
Крот з Мурашкай сталі самі

малаціць цапамі проса.
Ім яно ўсё дасталося.

А пасля таўчы на крупы
пачалі ў вялізнай ступе.

Як стаўкуць, згатуюць кашу,
дык і казку скончым нашу.

А пакуль таўкуць, мой братка,
пачынай ізноў спачатку:

«Гэй, гэй, таўкачыкі!
Гэй, гэй, дубовыя,
да работы гатовыя.

Сем год бадзяліся,
ў адну ступу сабраліся,
патаўкуць на крупы проса,
каб усім нам дасталося.
А Лісіцы гультаіне
аддамо адну мякіну!

Гэй, гэй, таўкачыкі!
Гэй, гэй, дубовыя,
да работы гатовыя!»

# ПУЗЫР, САЛОМІНКА І ЛАПАЦЬ

1

Пузыр, Саломінка і Лапаць
сабраліся ў адну дружыну.
Ніхто іх не прыходзіў сватаць,—
на ўсё ў жыцці свае прычыны.
У кожным разе, ў падарожжы
было іх безумоўна трое.
Меў асабісты выгляд кожны,
ды лёс аднолькавы затое.
Пра ўсе іх радасці і гора —
вось гэта казка і гаворыць.

2

Пузыр вісеў пад столлю ў хаце.
На ім і пыл, на ім і мухі.
А возьмуць дзеці забаўляцца —
ад цяжкай мукі ён аж вухкаў.
Калі ж падыдзе коцік шэры,—
падхопіць лапкамі сваімі,—

тут проста уцякай праз дзверы,
бо і жыццё загіне з імі.
Так і зрабіў Пузыр аднойчы,
не пабаяўшыся і ночы:
устаў і выйшаў на дарогу,
шукаць жыцця сабе другога.

3

Ідзе дарогаю шырокай,
абцасы ляскаюць па бруку.
Прыцішылася ўсё навокал,
бо напалохаў гэткі грукат.
І нават прытаіўся вожык,
пры гэтым упусціўшы мышку:
пакуль заціхне грук трывожны,—
лепш перасседзець у зацішку...

4

Ідзе Пузыр сваёй дарогай,
па бруку ляскаюць абцасы.
Ды нейкі смутак і ў самога
ўсё павялічваецца з часам.
І чуе ён,— пад самым плотам
галосіць нехта ў немы голас.
Пузыр пытаецца:
— А хто там? —
Адказ прыходзіць невясёлы,
гаворыць нехта:
— Хто ж я? Лапаць!

Стапталі, кінулі ў аддзяку...
— Хоць лапаць, дык чаго ж там плакаць?!
Няма і крыўды тут ніякай.
Мяне кідалі неаднойчы,
ды як — з кутка ў куток, аб сцены.
І то былі сухімі вочы,
не аднаму табе і дрэнна!
Вылазь! Пайшлі удвух памалу,
шукаць утульнага прыпынку,
пакуль цябе тут не сажвала,
шукаючы прысмакаў, свінка...

5

Падняўся памаленьку Лапаць,
з-пад плота на дарогу вылез.
І слёзы перасталі капаць,
зрабіўся весялейшым выраз.
Цяпер — удвух, цяпер — героі,
цяпер не страшны ім і заяц!
З такога добрага настрою
ідуць далей і неба хваляць.
Прайшлі з паўметра, можа болей,
ніякага не знаўшы страху.
І тут раптоўна так абое
і пакаціліся з размаху.
Пад імі:
— Гвалт! Ратуйце, людцы!
Ускочылі, працерлі вочы,
ніяк да сэнсу не даб'юцца:
чаго ад іх і хто тут хоча?

6

Ды ўсё ж праяснілася справа:
Саломінка ляжала перак!
Для нечаканай гэткай з'явы —
не знойдзеш ні вагі, ні мерак.
Пузыр надзьмуўся ад знявагі,
з ім натапырыўся і Лапаць.
— Тваёй і не хапае звягі!
Ану, ўставай! Даволі плакаць!
Табе і месца не хапіла,
як толькі легчы на дарозе? —
Саломінка ўстае праз сілу
і прабачэння сціпла просіць.
Пузыр да справы ўсё даходзіць,
ніяк не дабярэцца толку:
— Ляжыш на самым пераходзе!
Чаму ты тут, а не ля току? —
Саломінка і кажа шчыра:
— Даруйце мне за ўсю знявагу!
Хоць паляту я ў самы вырай,
а на дарозе больш не лягу...—
Тады уставіў слова Лапаць.
— Няхай ідзе Саломка з намі:
яна адна не будзе плакаць
і ў нас не будзе пад нагамі...—
Даў згоду і Пузыр на тое.
Былі удвух, цяпер іх трое.

7

Пузыр, аднак, глыбей кранае:
— Нас трое. Мы цяпер павінны,

калі ўпадзе бяда якая,
стаяць усе сцяною шчыльнай.—
Згадзіліся яны на гэта.
Пайшлі далей павольным крокам.
Было зусім на сходзе лета:
пахаладанне недалёка.
Вось Лапаць і падняў пытанне:
— Пакуль на небе месяц свеціць,
пакуль над намі сонца стане,—
мы з лесу нацягаем веццяя.
Агонь разложым. Хто — падрэмле.
А не — дык пагамонім крыху...—
Пузыр і кажа:
— Добра вельмі! —
Вось так яны ідуць паціху.

## 8

Прыйшлі якраз да самай рэчкі.
А лес — за рэчкай. Там і вецце.
Не абышлося ў іх без спрэчкі,
як і ў людзей на белым свеце.
Саломінка не дрэнна радзіць:
— Пузыр і на вадзе не тоне.
Мы з Лапцем на яго пасядзем
і пераедзем у сасоннік.
Пузыр не згодзен:
— Што ж я — конь вам?
Каб цераз вас намуляць карак?
За што ж гэта і за якое
такую мецьь павінен кару?
Няхай Саломка ляжа перак

цераз раку, а мы абое —
пярэйдзем, веццяя там наберым
і прынясем сюды з сабою...

9

Саломінка сказала проста:
— Не адмаўляюся быць мостам.
Калі такое ваша слова —
я і ў ваду ісці гатова.—
Спынілася адразу спрэчка.
Лягла Саломінка праз рэчку
і кажа ім:
— Ну, калі ласка!
Сваe трымаю абавязкі!

10

Пузыр да Лапця:
— Лапаць, кратай!
Трымай вышэй на мосце пяты!
А за табой і я ўздагонку! —
Падняўся Лапаць на Саломку,
прайшоў да самай палавіны
ды з ёю разам і загінуў,
бо не магла яна сабою
трымаць і Лапаць над вадою.

11

Пузыр сяброўству даў прысягу,
казаў:
— За вас касцямі лягу.—

Пузыр павінен даць ратунак.
Цяпер ён зрокся гэтых думак:
стаіць на беразе, рагоча,
дапамагчы сябрам не хоча.
А колькі здзеку ў гэтым смеху!
Каму бяда, каму пацеха.
— Трымайся, Лапаць, за Саломку!
Твая тут справа вельмі тонка!
Ды ты і сам, як добры човен,
бяда — вады вось толькі повен! —
I ўсё рагоча, ўсё рагоча,
дапамагчы ніяк не хоча.
Пасля — парваўся ён са смеху
і скончыў так усю пацеху...

12

Прыйшоў, панюхаў скуркі Вожык
і кажа:
— Хто тут дапаможа?
Як не было ў табе нічога,
так і няма цябе самога...

## ДЗІВОСНЫЯ ПРЫГОДЫ

*Народная казка*

Я пасеяў гарох
каля возера ў полі.
Пастараўся, як мог,
так, як можа ніколі.

У даглядзе такім
рос ён вельмі прыгожым.
А стручысты!
Стручкі —
па дванаццаць гарошын!

Неяк раз я прыйшоў
на гарох падзівіцца.
Калі глянуў —
слядоў,
як на бойным гасцінцы!

Ды якія сляды —
ўсё гусіныя лапкі.

Ад крылатай бяды
не паставіш аградкі...

Гэта ж ночкі за тры
ўвесь гарох пералушчаць.
І прыгналі ж вятры
іх у нашую пушчу!

Ваяваў я з бядой,
а такой не бывала.
Я сваёй галавой
перадумаў нямала.

А прыдумаў усё ж
неблагі паратунак.
Для крылатых вяльмож
я зраблю пачастунак.

Ім гарэлку і мёд
назліваю ў карыце,
каб у першы ж прылёт
тут маглі і напіцца.

Як уп'юцца усе
і салодкай, і горкай,
павяжу я гусей,
забарсаю вяроўкай.

Што прыдумаў, дык так
і зрабіў без адкладу:
ўліў і мёд, і пяршак
для гусінага стада.

Сам з вяроўкаю сеў
у ядловец калючы.
Там чакаю гусей,
зладзяёў тых лятучых.

Вось яны —
«Га-га-га!» —
наляцелі ад пушчы,
ды адразу цягаць,
ды стручкі мае лушчыць.

Я сяджу і цярплю,
хоць заходзіцца сэрца.
А гарох на зямлю
мой
лажыцца-кладзецца.

Чую зноў:
«Го-го-го!»
Гэта значыцца —
«Годзе!»
Да частунку майго
завадэвуш падходзіць.

А за ім чарадой
пакручастыя шыйкі.
П'юць салодкі напой,—
то ж не «квас-пераліўкі»!

Неўзабаве да дна
спаражнілі карытца.
Ну, цяпер да відна
могуць спаць, не журыцца!

Вычмуралі там так,
як сваты на вяселлі.
Змогся ўрэшце гусак,
ды і гускі прымлелі.

Я пачаў па адной
іх вязаць на вяроўку.
Усё ж работы сваёй
не зрабіў я да толку.

Іх за ножкі вязаў,
не падумаў аб крыльцах.
А канец заматаў
ля сваёй паясніцы.

Тут іх чэрці ўзнялі.
Як яны забубнілі!
І адразу з зямлі
узвіліся на крыллі.

А да іх жа і я
прывязаўся на гора!
Гляну —
ўнізе зямля,
а над шапкаю — зоры!

Тыя гускі — далей,
не спыняючы лёту.
Мільгаціць ля вачэй
наша пушча, балота.

Калі гляну ізноў —
гэта ж Нарач у доле!

Пра такіх летуноў
не забыцца ніколі.

Так насілі мяне
мае конікі-гусі
па усёй старане,
паўз усёй Беларусі.

Ты, гаросе-гарох,
пазлацістыя кіты!
Ці не ты мне памог
заляцець у блакіты?

О-ё-ёй, о-ё-ёй!
І спытацца ў каго там?
То ляцім над вадой,
то над пушчай, балотам.

Адвязаць калі мне
з паясніцы вяроўку,—
дык ці ў вір шыбане,
ці аб камень галоўкай.

Але,
дзе б ні былі,
павярнулі мы двору:
ўсё бліжэй да зямлі
і ўсё далей ад зорак.

Паляцелі пасля
над маленькім балотцам.
Са свайго чарасла
даў я волю вяроўцы.

Гусі зразу вышэй,
я —
з размаху у багну,
і ад тых ад гусей,
і ад неба — бабахнуў.

Толькі пырскі пайшлі,
паляцелі фантанам.
Зноў бяда:
на зямлі,
а з зямлі я не ўстану.

Аж пад пахі мяне
засмактала балота.
Усё ж ткі паразумнеў
я
пасля тых палётаў!

Па рыдлёўку схадзіў,
не марнуючы часу,
адкапаўся з гразі
ды і вылез адразу.

Памаленьку іду.
Не разгонішся босы!
Бачу —
збоку мне дуб,
а пад дубам — калёсы.

На аглоблях хамут
ды ў агуле ўся збруя.
Што,
нашто

і чаму —
гэта я не цікую.

Я заскочыў на воз,
разгарнуў там салому,
пераслаў, ператрос,
ды і лёг пакрыёма.

Толькі вочы закрыў,
каб заснуць з тых палётаў,—
чую,
гусі ўгары
зноў лятуць ад балота.

«Га-га-га!»
«Го-го-го!» —
зноў вазіць мяне хочуць.
Не!
Мне хопіць таго,
што палётаў аднойчы!

Я са збруі дастаў
павіваныя лейцы
і сябе прывязаў
так,
што не адарвецца...

Чую —
крэкча мой воз,
ад'язджае ад дуба.
Глянуў —
лёс мне прынёс
яшчэ горшую згубу.

Велізарны мядзведзь
сам запрогся ў калёсы
ды ўпрыскочку ідзе,
аж свіргочуць атосы.

Як ён ехаў тады,—
расказаць немагчыма:
то сюды, то туды,
дзе наставіць вачыма.

Іскры сыпяцца з воч.
Не язда гэта — гора:
то на пень, то на корч,
толькі скрыгае шворан.

Ён з мяне, пэўна б, так
выбіў сэрца і ныркі.
Ды на шчасце, аднак,
супыніўся, зафыркаў.

Борць ён знюхаў.
Палез
па высокай яліне.
Ехаў я цераз лес,
а цяпер — па лясіне...

Зацягнуў на сукі
ён мяне ў тых калёсах.
Зверху бачу блакіт,
знізу — елкі ды сосны...

З'еўшы мёд дачыста,
вылез Мішка са збруі,

раз —
і знік у кустах.
Я ж на дрэве кукую.

Пчолы джгаюць мяне,
быццам я тут нашкодзіў.
Адно ліха міне,
дык другое надходзіць.

Падышоў тут пчаляр
па гарачаму следу.
— Вось дык,— кажа,— штукар!
Я такіх і не ведаў!

Гляньце!
Красці мой мёд
на калёсах прыехаў!
Накармлю на сто год
за такую пацеху!

Ён узлез да калёс,
воз пусціў мой да долу,
а пасля ўзяў адвёз
да сябе у стадолу.

Дома ён адвязаў,
адляйцаў мяне з воза,
потым бочку узяў
і сказаў мне з пагрозай:

— Лезь у бочку хутчэй,
покуль ты яшчэ цэлы!..—

Што лягчэй, што цяжэй —
мне ўжо незразумела.

Што рабіць мне?
Маўчы!
Лезу.
Ён неўзабаве
дно ўвагнаў, абручы
і ў дварышчы паставіў.

— Ночку тут пажыві,
а на золку —
у воду.
Як патрапіш у вір,
наясіся там мёду!

Сам у хату пайшоў.
Мне чакаць трэба золку.
Лёс аднекуль прывёў,
як на шчасце мне, воўка.

Воўк абнюхаў, дзе мог.
Не знайшоўшы здабычы,
каля бочкі залёг
і ад злосці мармыча.

Потым хвост свой паднёс
да шпунтовае дзіркі.
Я аберуч за хвост
ды праз дзірку як гыркну!

Воўк ад страху аж сеў.
Потым скочыў на ногі

і не бег,
а ляцеў
без ніякай дарогі.

Вые ў роспачы воўк.
Бочка грукае следам.
Ён ад страху ўвесь змок,
не сухім і я еду...

Дзе аб камень штурхне,
дзе аб пень ці калоду.
Я не сніў нат у сне
пра такую прыгоду.

Воўк імкнецца ўцячы,
я хваста не пушчаю.
Ужо лятуць абручы,
бочка клёпкі губляе.

Потым клёпкі ўсе ўраз
паляцелі з узгорка.
Хвост пусціў я ў той час
і не бачыў больш воўка...

Сам дадому хутчэй,
лахі ўзяўшы пад пахі...
Колькі меў праз гусей
я
ўсялякага страху!..

## ТРЫ БРАТЫ

*Ненецкая казка*

I

Далёка-далёка,
ля зімнага мора
гібелі ўсе людзі
ў пакуце і горы.

Драпежны Нылек
адабраў у народа
ягонае шчасце,
багацце, свабоду.

Пакінуў народу ён
голад і слёзы,
бясконцыя зімы,
снягі і марозы.

Вялізны, да неба,
у футры марознай

блукаў у пrасторах
пачвара пагрозны.

Ён сеяў і веяў
па тундры сняжынкі,
каваў і кідаў ён
па рэчках ільдзінкі,

каб людзі не бачылі
ў тундры сцяжынак,
каб рыбы не мелі
з-пад гэтых ільдзінак.

Як дыхаў Нылек —
узнімалася бура,
жыцця пазбаўляла
ліхая віхура.

Змагаліся людзі,
як толькі магчыма,
Нылек жа ўсё бачыў
сваімі вачыма.

Пакуль толькі спаў ён
на скалах, ля неба,
маглі што здабыць
для сябе на патрэбу.

Цягнулася доўга
насланне такое,
цягнулася доўга з ім
гора людское.

2

Далёка-далёка,
ля зімнага мора
жыла удава
у пакуце і горы.

Адна толькі ўцеха:
сыноў мела трое.
Як вырастуць дзеці —
мінецца благое.

За днямі і тыдні
сплываюць, як хвалі.
Глядзіш — хлапчукі
дзецюкамі ўжо сталі.

Адзін у адзін
малайцы каля маці.
Павінна б з'явіцца
ўжо радасць у хаце.

Тым часам і старасць
прыйшла да парога.
Знайшлася для маці
другая трывога:

«Дзе шчасце людское?
Дзе светлая доля?
Нылека ліхога
хто зможа адолець?»

Сынам сваім матка
аднойчы сказала:
— Ад лежняў ніколі
дабра не бывала!

Хто дбае — той мае,
шукаўшы, знаходзіць,
такі не паддасца
ніякай нягодзе!

Пара вам выходзіць,
сыны, на змаганне.
Упартаю працай
знішчайце насланне!

Старэйшага сына
сабрала ў дарогу,
у торбу дала
праснакоў на падмогу.

3

Далёка-далёка,
ля зімнага мора
ішоў сын старэйшы
ў бязмежным прасторы.

Стаміўся. Спыніўся.
Дастаўшы з тарбінкі,
зірнуў на праснак ён:
— Такія скарынкі

малая зусім
для мяне дапамога! —
І сын матчын дар
шыбануў на дарогу...

Прайшоўшы далей,
можа, гоней са двое,
пабачыў ён чум —
бытаванне людское.

А ў чуме сустрэла
бабуля старая.
Яна малайца
адпачыць запрашае.

— Ты, пэўна, галодны?
Сілкуйся ад стомы!
Сябе пачувай тут,
як быццам ты дома!

Пасля падвячорку
гаворыць хлапчыне:
— Ты шчасце сваё
адшукаць тут павінен!

За чумам ёсць яма
глыбокая надта,
а ў яме той зорак
багата-багата.

Калі ты іх вычарпаць
зможаш да рання,

шчаслівая доля
пачне красаванне.

— Ну што ж,— адказаў
той дзяцюк зухавата,—
зраблю, хоць мне часу
даеш малавата!

4

Далёка-далёка,
ля зімнага мора
ноч стала ў бязмежным,
бясконцым прасторы.

Вандруе ў ім месяц,
як сейбіт з сяўнёю,
і зоркі раскідвае
шчодрай рукою.

Сузор'і на небе
гараць зіхатліва,
на сініх азёрах
люструецца дзіва.

Старэйшы сын выйшаў
з вядром і вяроўкай,
каб вычарпаць з ямы
дарэшты ўсе зоркі.

Ды колькі ні чэрпаў ён
з ямы прадоннай,

а зорак у яме —
як поўна, дык поўна.

Пачаў наракаць ён
на тую бабулю:
— Ды дзе ж гэта,
людцы, вы, добрыя, чулі,

каб з ямы ўсе чыста
павычарпаць зоркі?

Дурны я, каб слухаць
такія гаворкі?!

Ён кінуў вядро
і наўцёкі дадому.
Калейка прыходзіць
выходзіць другому.

Сярэдняму брату
чарговая рата
ісці ў падарожжа
ад роднае хаты.

Сярэдняга маці
збірае ў дарогу
і клунак рыхтуе
яму ў дапамогу.

5

Далёка-далёка,
ля зімнага мора

сярэдні хлапчына
вандруе ў прасторы.

І ён прытаміўся,
як больш, урэшце,
матулін дарунак
дастаў, каб пад'есці.

А гэты дарунак
размолаты ў жорны,
а гэты дарунак
і чэрствы, і чорны,

на попеле шэрым
качаны, у прыску...
Сярэдні хлапчына
ад злосці запырскаў:

— Знайшла вось матуля
гасцінец для сына!..—
Узяў ён праснак
на каменне закінуў.

Прайшоўшы далей,
напаткаў ён старую.
Яна запрашае,
вітае, частуе.

Пасля пачастунку,
сардэчнай гаворкі
сярэдні пачаў
вычарэпываць зоркі.

Ў рабоце нялёгкай
мінула за поўнач,
а зорак у яме —
як поўна, дык поўна.

— Не бачыў я ліха!
Няхай пашукае
на гэту работу
другога старая!

Сказаў і пакрочыў
дадому нябога.
Малодшага маці
збірае ў дарогу...

6

Далёка-далёка,
ля зімняга мора
малодшы хлапчына
вандруе ў прасторы.

Нясе за плячыма
дарожны свой клунак,
а ў ім праснакі —
ад матулі дарунак.

Яна гаварыла:
— Сынок, будзь упартым!
Братоў тваіх прыклад
нічога неварты!

Ішоў ён, ішоў ён —
стаміліся ногі.
На камені сеў
каля самай дарогі.

Дастаў ён праснак свой,
на прыску пячоны,
дарунак матулін —
і чэрствы, і чорны.

Пад'еў як належыць,
а потым з крыніцы
празрыстай, сцюдзёнай
напіўся вадзіцы.

Успомніў матулю
сардэчным ён словам
за ўвесь падмацунак,
такі адмысловы.

Забыўся адразу
на цяжкую стому,
як быццам зусім
не выходзіў ён з дому.

І так памаленьку,
без жаднай пахібы
дайшоў да бабулінай
ціхай сядзібы.

Сабака загаўкаў,
пачуўшы чужога:

сваёй гаспадыні
даваў спасцярогу.

7

Далёка-далёка,
ля зімнага мора
малодшаму сыну
бабуля гаворыць:

— Заходзь, калі ласка,
юнача мой слаўны!
Браты твае тут
гасцявалі нядаўна.

Заходзь, падсілкуйся —
чым хата багата.
Стаміўся, напэўна,
ў дарозе аж надта!

Юнак прывітаў
гаспадыню старую,
падзякаваў шчыра
за ласку такую

і кажа: — Мацунак я
маю ад маці.
Дазвольце мне сесці
і з'есці у хаце.

Дастаўшы праснак,
што матуля паклала,

са смакам ён з'еў
яшчэ ладны кавалак.

Як толькі спусцілася
ноч над зямлёю,
ля яміны стаў ён
з вяроўкай даўгою.

Вядро за вядром ён
выносіў рукамі,
багата разоў
пабыло яно ў яме.

Стаміліся рукі,
абліўся ён потам,
а ўсё ж не пакінуў
цяжкое работы.

Ударыла ўрэшце
вядро аб цвярдое:
ўсе вычарпаў зоркі
хлапчына з вадою.

8

Далёка-далёка,
ля зімнага мора
ўзыходзіла сонца
ў бязмежным прасторы.

Яно асвятліла
даліны, узгоркі,

дзе кветкамі сталі
разлітыя зоркі.

Прыйшла і бабуля
на тую падзею,
сказала: «Дасталі
нарэшце зладзея!

Пад яснымі зоркамі
сэрца тырана
ад помсты народнай
было тут схавана.

Цяпер яго сонца
ушчэнт спапяліла,
ад сонца загінула
гадава сіла.

Багацце Нылекава —
золата, статкі,
з людзей што нагроб ён,—
тваё без астатку!»

Усцешыўся вельмі
юнак з перамогі,
ўсіх бедных сабраў ён,
сірот і убогіх.

Аддаў ім і пашу,
і статкі аленяў,
каб вынішчыць беднасць
да самых карэнняў.

А маці з любоўю
глядзела на сына:
яна ўзгадавала
такога хлапчыну!

Прыняў ён ад маці
і любасць да працы,
з якою не будзе
нічога баяцца.

# ДЗЯЎЧЫНА І КІЛІМ

*Усходняя казка*

1

Ноч прыйшла — на барханы, на выдмы, у свет.
Ноч сабрала фіялкі са свету усе.

Неба сіняе стала самой сінявой,
бо красуюць фіялкі адна ля адной.

І саткала з іх вечнасць чароўны кілім,
і рассыпала перлы па ім і над ім.

А яны мільгацяць, зіхацяць над зямлёй,
а яны зіхацяць нада мной, над табой.

І на кожнай пярлінцы, на зорачцы той,
што паўсталі над намі адна ля адной,

і легенды, і казкі, і песні усе
над сусветам ідуць у цудоўнай красе.

Я вазьму табе казку такую адну,
над барханам сыпучым яе развіну.

Хоць у казках гавораць мінулага дні,
але ёсць і наступнага ў казках агні.

Саксаул разгарэўся на нашым кастры,
не пагасне касцёр наш да самай зары.

Хай пяе нам пра сіняе неба сурнай,
пра дачку пастырову спявае няхай.

2

У старыя часы, нават вельмі даўно,
што замыты на самае морскае дно,

што не вернуцца больш анікалі да нас,
бо не вычарпаць мора да самага дна,—

жыў пастыр на зямлі. Век ён стада ганяў,
не сваё — падышахава. Устаўшы да дня,

ён за дзень абыходзіў вялізны абшар.
Ён з дачкою сваёю і жыў ля кашар.

А дачка уладала такою красой,
што ніхто і не бачыў падобнай другой.

Падышаху сказалі: «На свеце — адна!
Хараство незраўнанае мае яна...»

Падышах пасылае сватоў да яе.
А яна тым сватам запытанне дае:

— А якім рамяствам уладае ўладар?
Ён жа нават не здольны хадзіць ля кашар.

За таго выйду замуж, хто ведае сам,
а не толькі з чужога жыве рамяства...

Агарнуў тых сватоў проста неякі жах:
як на гэткі адказ паглядзіць падышах?

Можа ён загадаць і павешаць сватоў!
Сапраўды, вось такой — не чутно спрадвякоў:

і на постаць яна — прыгажэй не знайсці,
а на розум — такіх і не зналі ў жыцці...

Падышах узлаваўся, пачуўшы адказ,
пра сватоў і забыўся, на шчасце, якраз.

— Што яна? Хто яна? Звар'яцела, ці што?
Мне падданы увесь неаглядны прастор!

Я — ўладар і жывых, і усіх нежывых,
я магу ўсё зрабіць, што надумаю, з іх.

Гаспадар я на скарбы ва ўсёй старане.
Дык на ліха яшчэ рамяство для мяне?

І на гэтым спыніліся сваты усе.
Не гаворыць ніхто больш аб гэтай красе...

3

Праз разложысты стэп ехаў сам падышах,
і якраз, як на тое, дзяўчына прайшла.

Прыпынілі і коні хаду ля яе,
ад здзіўлення застыў падышах на сядле.

А пасля уздыхнуў ён, узняўшы руку.
— Сапраўды, я не бачыў такой на вяку...

І маўчалі усе ля яго і за ім,
разважалі маўкліва усе аб адным,

разважалі маўкліва усе пра адну...
Ды нарэшце каня падышах і крануў.

А яна адышла — і няма анідзе...
Павярнуўся тады падышах да людзей:

— Сапраўды, я не бачыў такой на вяку...—
І схіліў галаву да сядла, на луку.

А пасля — як правёў бізуном па кані...
Як з-пад конскіх капыт заільснелі агні...

Паміж кветак стэповых дзяўчына прайшла,
да палацу са світай ляцеў падышах...

4

Заклікаюць візіраў на раду ў палац,
а нарада нялёгкая тая была:

— Вы скажыце, якое мне ўзяць рамяство?
Маё сэрца паранена тым харавством...

І сядзелі яны, разважалі яны,
перабралі рамёствы усёй стараны.

А пасля — пагадзіліся ўсе на адным:
навучыцца не шкодзіла б выткаць кілім.

Запрасілі настаўніка — майстра з майстроў.
Да яго падышах у навуку пайшоў.

Пахадзіў ён багата ля ткацкіх ставоў,
папсаваў ён нямала ўсялякіх нітоў.

Гэта ж добра вядома старым і малым:
на рабоце не возьмеш гарбом ты адным.

Часам хто і слабейшы, ды спрытнай рукой
зробіць больш за дужэйшых работы цяжкой.

Але як ні было б, а навуку прайшоў:
нездарма пахадзіў каля ткацкіх ставоў.

Навучыўся кілімы ён добрыя ткаць,
і выходзіў з работы кілім за дзён пяць.

5

Падышах, апрануўшыся як найбядней,
неаднойчы хадзіў паміж простых людзей.

Ён цікавіўся тым, як жывуць сапраўды
кішлакі і ягоныя ўсе гарады.

Ці здаволен ці не увесь просты народ,
ці не крыўдзяць дужэйшыя ўдоў і сірот.

Падышах апрануў на сябе лахманы,
каб яго непазнаным зрабілі яны.

І пайшоў цераз плошчы, завулкі, на баз:
у прыгоду цяжкую і трапіў якраз...

Так здараецца часам, што нават мудрэц
не прадбачыць, які яму будзе канец...

І багацце вялікае мае другі,
і далёка, здаецца, яшчэ берагі,—

а спынілася ўсё — і няма берагоў,
і самога няма, і сумоты яго...

Вось чаму і гавораць, што нават мудрэц
не прадбачыць, які яму будзе канец...

6

Падышах памаленьку праз горад ідзе,
на сады пазірае, на розных людзей.

Як працуюць яны, як гуляюць яны...
Так урэшце дайшоў да адной чайханы.

Заплаціўшы мядзяк, у куток адышоў
і чакае, пакуль пададуць яму плоў.

У чаканні у гэтым зірнуў навакол
і натрапіў паглядам на сапраўдных ваўкоў,—

поруч з ім, жабраком, у кутку, ля стала,
зладзяіная зграя на змове была.

Аднаго з гэтай зграі забралі ў турму,
вось яны і шукалі ратунак таму.

І надумалі: ўзяўшы з сабой жабрака,
памяняць у турме на свайго дружбака.

Ім вядома, на грошы пакваніцца кат,
а павесіць — ён кожнага бліжняга рад.

Як надумалі, так і зрабілі яны,—
падышаха забралі з тае чайханы.

Зацягнулі яго, як здабычу, у лёх.
Тут напэўна не будзе ніякіх памог.

Падышах ачуняў ад дарогі цяжкой
і дачуўся, з якою спаткаўся бядой.

Ні адзін не прадбачыў ягоны мудрэц,
што такі падышаху надыдзе канец.

І не сніў ён і сам анікалі аб тым,
што яго адратуе... звычайны кілім...

7

Падышах пачынае прасіць зладзяёў,
каб яго адпусцілі з няволі дамоў.

— Заплачу,— кажа ён,— дарагою цаной.—
А яны пачалі вызкаляцца:
— Якой?

Ты рыззя нацягаеш не мала з гразі,
ды не знойдзеш ты золата ў гэным рыззі...

Падышах ушчынае гаворку ізноў,
падышах пачынае прасіць зладзяёў:

— Я такое трымаю ў руках рамяство,
я такое магу вам стварыць хараство,

што і золата прыйдзе адразу за ім:
дайце волю — я вытку цудоўны кілім.

Зацікавілі словы разбойнікаў тых,
адшукалі яны панажы і ніты,

адвялі свайго вязня ў асобны пакой.
Там ён выткаў кілім сваёй спрытнай рукой.

Зладзяі задзівіліся вельмі тады:
на кіліме жывыя паўсталі сады...

Узялі на кірмаш і прадалі кілім,
за яго заплацілі дыргемамі ім.

Так, пазнаўшы, што вязень мастак не благі,
загадалі, каб выткаў адразу другі.

Ён адразу і выткаў ім новы кілім —
пекната, як жывая, паўстала на ім.

Падабраны і барвы — няма прыгажэй,
аж кранаюць узоры за сэрца людзей.

Выткаў гербы свае ён на самых брыжах,
каб пазналі, што ткаў яго сам падышах.

Ён парадзіў аднесці кілім у палац,
каб і вартая плата за працу была.

8

У палац да візіраў прыйшлі зладзяі,
а візіры — адзін аднаму:
— Паглядзі!

Свет не бачыў падобнай мастацкай рукі:
хай ацэняць цудоўны кілім мастакі...

Чалядзінцы паклікалі майстра майстроў.
Да кіліма цудоўнага той падышоў.

Паглядзеў, задзівіўся: галосіць душа,
бо сама пекната на кілім узышла.

Падабраны і барвы — няма прыгажэй,
аж кранаюць узоры за сэрца людзей.

А пасля, як заўважыў гербы на брыжах,
ён пазнаў, што мастак той быў — сам падышах...

Ухваліўшы кілім, ацаніўшы кілім,
заплацілі багата разбойнікам тым.

Далі многа дыргемаў ды следам пайшлі
і ў зладзейскім кубле падышаха знайшлі.

Зладзяіная зграя канец свой знайшла,
у палацы вярнуўся тады падышах.

9

Першым словам падзякаваў майстра майстроў
за мастацтва, якое праз майстра знайшоў.

Ён дарункам багатым яго надарыў,
каб не ведаў нядолі настаўнік стары.

А пасля так сказаў ён, узняўшы руку:
— Як яна, я не бачыў такой на вяку!

І не толькі красой, гэта мала яшчэ, —
можа нават і шкло перад сонцам блішчэць, —

але розум яе, незвычайны такі,
даў мне талент сапраўдны для гэтай рукі...

Забірайце кілімы з сабою, сваты,
гэта будзе дарунак мой для пекнаты!

Сам я выткаў іх, сам іх падам маладой,
і скажу ёй, дзяўчыне каханай маёй:

«Рамяством я сваю зратаваў галаву,
значыць, я са свайго рамяства і жыву...»

Павыводжаны коні, грымяць капыты,
а з палаца кілімы выносяць сваты.

Ён свайго асядлаў стэпавога каня,
асядлалі сваіх і сябры, і радня.

А пасля як правёў бізуном па кані...
Як з-пад конскіх капыт заільснелі агні...

Як над стэпам шырокім закурыўся пыл, —
ён далейшую дзею усю і закрыў...

Хай пяе нам пра сіняе неба сурнай,
пра дачку пастырову спявае няхай.

Дагарае на нашым кастры саксаул.
Ты, мой дружа, я думаю, добра ўсё чуў?

Гэта што падышах! Ты і сам падышах,
бо шчаслівая доля для ўсіх надышла.

Падышахавы нам не патрэбны гербы,
за якія дэхканам збівалі гарбы.

У Савецкай Айчыне пастаўлена ў герб
Праца наша:
і молат,
і серп.

Працу мы і шануем з табою затым,
што яна асалоду прыносіць усім.

Але талент патрэбен для моцнай рукі,—
так і казка гаворыць табе праз вякі.

Рамяства не цурайся ніколі ў жыцці,
бо яно дапаможа нам шчасце знайсці.

# ЗАЎВАГІ

## КРЫЧАЎСКАЯ СПАКУСА

Гдалій — адкупшчык, буйны гандляр, які выплачваў князю Радзівілу пэўную суму грошай, а сам фактычна і быў гаспадаром у Крычаўскім старостве, бязлітасна эксплуатуючы народ.

Вашчыла, Карпач, Вецер — сапраўдныя прозвішчы кіраўнікоў народнага паўстання.

## БРАНІСЛАВА

Напісана на падставе народных апавяданняў, якія перадаваліся з пакалення ў пакаленне на Мядзельшчыне. Прозвішча паноў Кошчыцаў — сапраўднае.

Яшчэ ў 1915 г. за Мядзелам, пры павароце на вёску Сабалеўшчыну, стаяў каменны слуп, у якім была замуравана, паводле панскага загаду, жывая дзяўчына.

Вагаркі — мясцовая назва, хвалі.

Мары — мясцовая назва паграбальных (хаўрусых) насілак, сугучна са словам «мары» — летуценні, але ўжываецца толькі ў форме множнага ліку.

Патар ностар (з лацінскай мовы) — пачатак малітвы «Ойча наш».

Прыпонцістае — заморскае (віно і г. д.); старое слова.

Фундуш, фундатар (параўнайце — фундзіць) — багаты ўклад на царкву або касцёл, або манастыр (кляштар).

## ШЫЛЬЁНСКІ ВЯЗЕНЬ

Цалкам падаецца прадмова да паэмы, напісаная ў свой час самім Байранам.

«Тады, калі я пісаў гэтую паэму, я не быў належна знаёмы з гісторыяй Банівара. Каб яна мне была вядома, я пастараўся б быць на ўзроўні свайго сюжэта, пастараўся б як мае быць ушанаваць мудрасць і дабраякаснасць Баніваравы.

Цяпер я атрымаў некаторыя звесткі пра Баніварава жыццё з ласкі аднаго грамадзяніна рэспублікі, якая да гэтага часу ганарыцца памяццю чалавека, вартага быць сынам лепшай пары старадаўняй свабоды.

«...Франсуа дэ Банівар сын Луі дэ Банівара з Сайселя і ўладар Люна нарадзіўся ў 1496 г. Ён вучыўся ў Турыне. У 1510 годзе Жан Эмэ дэ Банівар, ягоны дзядзя, перадаў яму прыярат Ван-Віктор, які межаваў з мурамі Жэневы і даваў буйны бенефіцыт.

Гэты вялікі чалавек (Банівар варты такога эпітэта сілай духу, шчырасцю, высакародствам, мудрасцю сваіх парад, адважнасцю ўчынкаў, шырынёй ведаў і дасціпнасцю розуму), гэты вялікі чалавек, перад якім схіляецца ўсе, каго хвалюе гераізм, будзе яшчэ больш узнімаць пачуццё ўдзячнасці ў сэрцах жэнеўцаў, якія любяць Жэневу.

Банівар быў адной з трывалейшых яе апор: каб узмацніць свабоду нашай рэспублікі, ён неаднойчы рызыкаваў сваёй асабістай свабодай, забываўся на свой уласны супакой, адмовіўся ад уласнага дабрабыту.

Ён зрабіў усё магчымае для таго, каб павялічыць шчасце краіны, якую ўшанаваў сваім выбарам. Ён вызнаваў яе за сваю радзіму, пакахаў яе, як самы шчыры і адданы з яе грамадзян, ён служыў радзіме з гераічнай адвагай і напісаў сваю «Гісторыю Жэневы» з наіўнасцю філасофа і з запалам патрыёта.

Ён кажа ў пачатку свае гісторыі, што «ад таго часу, як ён пачаў чытаць гісторыю народаў, ён адчуў замілаванне да рэспублік і станавіўся заўсёды на іх старану».

Гэтае замілаванне, бясспрэчна, і прымусіла яго выбраць Жэневу другой бацькаўшчынай.

Банівар быў яшчэ маладым, калі адкрыта стаў абаронцам супроць герцага Савойскага і біскупа. У 1519 г. Банівар прыняў вялікія пакуты за сваю айчыну: калі герцаг Савойскі прыйшоў

у Жэневу з пяццю сотнямі людзей, Банівар, пільнуючыся герцагавай помсты, хацеў схавацца ў Фрыбургу.

Але яго прадалі два здраднікі, якія нібыта спагадалі яму і былі праваднікамі.

Герцаг загадаў, каб Банівара адвезлі ў Гролэ, дзе ён і быў у астрозе два гады. Далейшае вандраванне не выратавала Банівара ад бяды. Справа ў тым, што перабытыя нягоды не паслабілі ягонае адданасці Жэневе. Ён заставаўся зацятым ворагам для ўсіх яе недругаў, а гэтыя ў сваю чаргу імкнуліся заўсёды помсціць яму.

У 1530 годзе на яго напалі ў Юрскіх гарах зладзеі, абрабавалі яго, а пасля адвялі да герцага Савойскага. Апошні загадаў пасадзіць яго ў Шыльёнскі замак. Там яго ніводнага разу не выклікалі на допыт, але ён прабыў да 1536 года. У гэтым годзе бернскае войска захапіла ўвесь кантон Ваад і вызваліла з астрога Банівара.

Вызваліўшыся з вязніцы, Банівар быў усцешаны тым, што пабачыў Жэневу вольнай і рэфармаванай. Рэспубліка неадкладна выказала яму сваю ўдзячнасць і ўзнагародзіла яго за перажытыя ім пакуты: у чэрвені месяцы 1536 года ён быў абвешчаны грамадзянінам Жэневы, рэспубліка падаравала яму дом, у якім жыў раней генеральны вікарый. Апрача ўсяго гэтага, Банівару была прызначана пажыццёвая пенсія ў дзвесце залатых экю. У 1537 годзе ён быў выбраны членам рады «двухсот».

Банівар не спыніў сваёй працы на карысць Жэневы і пазней. Дапамогшы Жэневе стаць вольнай, ён дапамог ёй стаць і талерантнай. Гэта ён пераканаў Раду даць духоўнікам і сялянам пэўны час на абмеркаванне запрапанаваных ім пытанняў. Ён дасягнуў мэты сваёй мяккасцю. Для таго каб прапаведаваць новае вучэнне, трэба ўплываць любоўю і сціпласцю.

Банівар быў вучоным. Ягоныя рукапісы, якія захоўваюцца ў Публічнай бібліятэцы, даводзяць, што ён добра ведаў лацінскіх класікаў, а таксама быў вельмі добра эрудзіраваным у тэалогіі і гісторыі.

Гэты вялікі чалавек любіў навуку і меркаваў, што яна можа прынесці славу Жэневе. З гэтае прычыны ён імкнуўся як мага пашыраць навуку ў горадзе, які пачаў жыць самастойным жыццём.

У 1551 годзе ён падараваў гораду сваю ўласную бібліятэ-

ку і паклаў гэтым пачатак нашай публічнай бібліятэцы. Банівäравы кнігі і складаюць частку рэдкіх, цудоўных выданняў XV стагоддзя, якія знаходзяцца ў нашых кнігасховах. У тым жа самым годзе ён адказаў рэспубліцы ўсю сваю маёмасць, але з умоваю, што яна скарыстае гэту маёмасць на ўтрыманне каледжа, які тады мелі на мэце заснаваць.

Больш верагодна, што Банівар памёр у 1570 годзе. Вызначыць дакладна дату ягонае смерці немагчыма, бо ў спісах нябожчыкаў ёсць прабел ад ліненя 1570 да 1571 года».

Байран напісаў гэту сваю паэму ў невялічкай гасцініцы ў вёсцы Ушы каля Лазаны, дзе ён быў затрыманы непагодай у чэрвені месяцы (27—28) 1821 г. Перад гэтым, разам з другам сваім — выдатным англійскім паэтам П. Б. Шэлі, 26 чэрвеня, ён агледзеў гістарычны замак Шыльён, дзе ад вартаўніка і пачуў апавяданне пра Банівара.

## БРОНЗАВЫ ВЕК

Калі Байран пасылаў у друк сваю палітычную сатыру «Бронзавы Век» (10 студзеня 1823 г.), напісаную ім у Генуі, ён у лісце да Лі Гента адзначаў, што гэта сатыра «мае на ўвазе мільённага чытача, бо ўся цалкам прысвечана палітыцы і г. д. і г. д. і агульнаму агляду сучаснасці». У тым жа лісце Байран рэкамендаваў даць да паэмы заўвагі, бо ў ёй, паводле ягоных слоў, шмат ваенных эпітэтаў, класічных і гістарычных намёкаў. Так зроблена ва ўсіх выданнях паэмы. Усе заўвагі даюцца тут на падставе матэрыялаў і тлумачэнняў, апублікаваных у англійскіх выданнях Байрана, энцыклапедыі Бракхауза і Эфрона і ў Вялікай Савецкай Энцыклапедыі.

### *Раздзел 2*

П і т і я г о п р а ц і ў н і к Ф о к с — палітычныя англійскія дзеячы. Піт быў вядомы як абаронца права калоній на самавызначэнне. Фокс узначальваў рэакцыйную групу. Паводле іроніі лёсу, яны пахаваны адзін каля аднаго, што і выклікала словы Байрана: «Яны ляглі ў зямлі — труна каля труны». Пра гэта ж раней пісаў Вальтэр Скот.

А ф о н і І д а. Афон — гара у Грэцыі паўночнай, на паўвыспе Агіён-Орас, а Іда — на поўдні, на выспе Крыт.

Клеапатра. У Брытанскім музеі захоўваецца мумія нейкай Клеапатры, якая пры жыцці Байрана ўважалася як мумія вядомай царыцы. Пасля смерці Байрана выявілася, што гэта не так, а што мумія належыць зусім невядомай у гісторыі егіпцянцы. Такі ж самы лёс і ў труны Аляксандра Македонскага, пра якую Байран згадвае крыху далей. У 1841 г. устанавілі, што ў труне (саркафагу) знаходзіцца не прах Аляксандра Македонскага, а егіпецкага цара Нектанеба I.

### Раздзел 3

Сезострыс — егіпецкі фараон, які запрог у сваю каляснiцу васьмярых заваяваных ім цароў.

### Раздзел 4

Калі Напалеон памёр на выспе св. Гэлены (5 мая 1821 г.), генерал Лоу, прыстаўлены для нагляду за ім, не дазволіў зрабіць ганаровы надпіс на надмагільнай пліце, а загадаў абмежавацца кароткім: «Генерал Банапарт» і паставіць дзве даты — нараджэння і смерці.

Калона Гальскай славы — Вандомская калона, якая пастаўлена ў Парыжы на азнаку перамогі ў бітве пры Аўстэрліцу.

Бертран Дзюгеклен (1320—1380) — загінуў пры асадзе крэпасці. Калі крэпасць была ўсё ж ткі заваявана, ключы ад яе прывезлі ў Сен-Дэі (каля Парыжа) і паклалі на Дзюгекленаву грабніцу.

«З барабанам Жыжкі у адно». Ян Жыжка (1360—1424), паміраючы пры асадзе аднаго з мараўскіх гарадоў, наказаў, каб з ягонае скуры зрабілі барабан і гукамі гэтага барабана палохалі ворагаў чэшскага народа.

### Раздзел 5

Перад бітвай у Егіпце, у ліпені 1798 года, Банапарт, выступаючы з прамовай перад салдатамі, сказаў: «Салдаты! З вяршынь вось гэтых пірамід сорак вякоў пазіраюць на вас!»

Сід — нацыянальны іспанскі герой, які праславіўся пры змаганні супроць арабскіх захопнікаў.

Французы заваёўвалі Мадрыд двойчы: у сакавіку і ў снежні 1808 г. Французы заваёўвалі Вену ў лістападзе 1805 і ў маі 1808 гг. Кажучы пра здраду Аўстрыі, Байран мае на ўвазе Венскі кангрэс 1814 г. і Венскі трактат 1815 г.

Іена. Пад Іенай Напалеон разбіў войска прынца Гогенлоэ, а пры Аўэрштаце французскі генерал Даву — войска прускага караля (1806 г.), пасля чаго Напалеон заняў Берлін.

Падзел Польшчы. Канчатковы падзел Польшчы адбыўся пасля бітвы пры мястэчку Мацэевічы 12 кастрычніка 1794 года, калі было разбіта польскае войска, на чале якога стаяў Касцюшка.

«Усе імперыі згараць...» Байран неаднойчы ў сваіх творах выказваў думку, што з часам усе імперыі будуць знішчаны, а на іх месцы ўзнікнуць рэспублікі. Але ў гэтым выпадку, у звязку з грандыёзным пажарам Масквы, яго словы набываюць сэнс прароцтва, на што найбольш яскрава звярнуў увагу савецкіх чытачоў К. А. Ціміразеў у сваім артыкуле «Пророчество Байрона о Москве», які быў напісаны ў 1919 годзе.

Раланд — адзін з дванаццаці легендарных паладынаў Карла Вялікага, загінуў у бойцы з сарацынамі ў Рансевальскім лагу. У яго быў цудоўны рог, гук якога было чуваць на вялікай адлегласці.

Люцын. Пры Люцыне ў лістападзе 1632 г. быў забіты шведскі кароль Густаў Адольф. Пры гэтым самым горадзе 2 мая 1813 г. Напалеон разбіў руска-прускую саюзную армію.

Пры Дрэздэне... 27 чэрвеня 1813 г. Напалеон яшчэ раз разбіў руска-прускую саюзную армію.

У бітве пры Лейпцыгу 18 кастрычніка 1813 г. саксонскае войска перайшло на старану саюзнікаў і Напалеон прайграў бітву.

Жозеф Банапарт, займаючы ўзвышшы Манмартра, загадаў генералу Мармону здаць Парыж саюзнікам 30 сакавіка 1814 г. З прычыны гэтага Байран, следам за некаторымі другімі, лічыў яго здраднікам.

Ты, выспачка! Маецца на ўвазе выспа на рацэ Эльбе, на якой Напалеон быў у сваім першым выгнанні. Уцёкшы адтуль і зноў захапіўшы ўладу, ён цараваў 100 дзён. Пасля гэтага, у бітве пры Ватэрлоо, ён канчаткова быў разбіты.

Вашынгтон. Байран захапляўся дзеячамі амерыканскай буржуазнай рэвалюцыі: Вашынгтонам, Бенджамінам Франклінам

і іншымі, бо іх дзейнасць і змаганне адпавядалі яго ідэалам, а менавіта — вызваленню народаў з-пад ярма тыранаў.

Балівар. Гэта ж самае датычыць і героя вызваленчага змагання народаў лацінскае Амерыкі Балівара.

Пізара, Кортэс — іспанскія заваёўнікі, якія захапілі Перу і Мексіку, прычым праславіліся нечуванымі зверствамі ў дачыненні да тубыльных народаў.

«Стаптаўшы ў прах закон людскі і свой...» У гэтых радках Байран як бы абагульняе ўсё, сказанае ў 3, 4 і 5 раздзелах гэтай паэмы пра Напалеона.

*Раздзел 6*

Анды і Афон. Анды — горы ў Паўднёвай Амерыцы. Афон — гара ў паўночнай Грэцыі. Байран пранікнёна гаворыць пра іх як пра сімвал агульналюдскага змагання працоўных за сваё вызваленне, якіх прытым вядзе «адзіны сцяг адзінай барацьбы».

Меч Гармодаў. Гармод і Арыстагітон — афінскія юнакі, якія забілі тырана Гіпарха ў III веку да нашай эры.

Цар рабоў. Байран лічыў рускага цара Аляксандра I ворагам усіх рэвалюцыйных рухаў, асабліва — ворагам вызвалення грэкаў з-пад турэцкага ярма. У гэтым раздзеле і ў далейшых ён прысвячае Аляксандру I нямала гнеўных радкоў.

*Раздзел 7*

Інкі — кіраўнікі плямён (уладары) Перу, якія кіравалі гэтай краінай да з'яўлення там іспанцаў. Незалежнасць Перу абвешчана ў 1821 г.

Пелагій — кароль Астурыі (VIII стагоддзе). У 718 годзе ён разбіў быў арабскіх правадыроў Сулеймана і Манузру.

Абенсерагі і зэгры — два арабскія плямёны ў Іспаніі, якія жылі ў раёне Грэнады да XV веку і варагавалі адно з адным.

Кароль-ханжа — кароль Фердынанд VII. Вярнуўшыся ў Мадрыд у сакавіку 1814 г., ён пры актыўным удзеле езуітаў распачаў урадавы тэрор.

Сцяг нумансійскі. Байран мае на ўвазе жыхароў горада Нумансіі, якія ў II веку да нашай эры на працягу доўгага часу змагаліся супроць рымскіх захопнікаў.

Фаларскі бык — медзяны бык, у якім паліў людзей, засуджаных на смерць, тыран сіцылійскага горада Акраганты — Фаларыд (IV век да нашай эры).

«Іспанія — дружней!» і «Сант-Яга!» — старадаўнія іспанскія ваенныя клічы.

Іспанскія партызаны, Сарагоская дзева, сарагоскія муры — усё гэта звязана са змаганнем іспанскага народа супроць французскіх захопнікаў у часе 1808—1813 гг.

## *Раздзел 8 і 9*

Кангрэс Веронскі — нарада кіраўнікоў Свяшчэннага Саюза: рускага і аўстрыйскага імператараў, караля прускага.

Самуіл — біблейскі прарок.

У раздзеле 9 Байран мае на ўвазе пышныя святкаванні, якія наладжваліся і праводзіліся ў Вероне з прычыны кангрэса і яго ўдзельнікаў. Ён асмейвае ўсё гэта, бо для паэта дарага не тое, што ў Верону папрыязджалі дэспаты, а тое, што ў гэтым горадзе (паводле падання) знаходзіцца труна і прах Джульеты Капулеці, гераіні шэкспіраўскага твора «Рамео і Джульета», што з Вероны паходзіў славуты паэт Катул, што тут быў на выгнанні Дант.

## *Раздзел 10*

Аматар вальсаў — рускі цар Аляксандр І. Увесь гэты раздзел прысвечаны характарыстыцы Аляксандра І.

Цёзка твой — Аляксандр Македонскі, са сваім няўдалым паходам у Скіфію, гэта значыцца на поўдзень сучаснай Украіны.

Продак твой на Пруце... Маецца на ўвазе цяжкае становішча, у якім апынулася руская армія на чале з Пятром Першым, з прычыны чаго Екацярына Першая падкупіла грашыма і брыльянтамі вялікага візіра турэцкага, пасля чаго ён падпісаў умову, пры дапамозе якой удалося выратаваць рускую армію.

Херас (Херас-дэ-ля-Франтэра) — горад у Іспаніі, каля якога арабы разбілі вестготаў на чале з іхнім каралём Радэрыхам.

Дыяген (IV век да нашай эры) — старадаўні грэчаскі філосаф, паходжаннем з горада Сінопа. Як пераказвае легенда, жыў у бочцы, хадзіў днём з ліхтаром, «шукаючы сапраўднага чалавека». У адказ на запытанне цара: «Якую табе даць узнагароду?» — папрасіў адысціся крыху ўбок, бо «Ты,— сказаў ён,— засланіў ад мяне сонца».

### *Раздзел 11*

Паходзячы са старой канстытуцыйнай краіны, Байран без вялікай пашаны ставіўся да французскага парламента, які быў тады для Францыі з'явай новай, без вялікіх традыцый.

Тулій — славуты рымскі прамоўца Тулій Цыцэрон.

### *Раздзел 12*

Увесь гэты раздзел прысвечаны французскаму каралю Людовіку XVIII, якога пасадзілі на французскі трон у маі 1814 г. Гэты Людовік перад тым некалькі год жыў у Англіі, у Гартвэле. Гэта быў тоўсты абжора, малярухомы. У той жа час ён не кепска ведаў паэзію. Высмейваючы ягонае абжорства, вынікі якога ўплывалі на палітыку, Байран згадвае тут італьянскіх карбанараў-рэвалюцыянераў («вугальшчыкаў»), якіх страшэнна баяліся ва Францыі, бо яны ў 1820 г. забілі герцага Берыйскага.

### *Раздзел 13*

«Naso suspendit adunco» («Чапляеш на свой крукасты нос»).— Так гаворыць Гарацый пра чалавека, які фанабэрыцца ў дачыненні да сваіх знаёмых. *(Заўвага Байрана.)*

Канінг. Англійскі міністр Кэстлеры зарэзаўся сцізорыкам 12 жніўня 1822 г. Замест яго быў прызначаны Канінг, які быў больш ліберальным.

### *Раздзел 14*

У гэтым раздзеле вялікі паэт са здзіўляючай для яго часу выразнасцю дае аналіз палітычнага і эканамічнага становішча тагачаснай Англіі, беспамылкова знайшоўшы вінаватых у народнай беднасці, выкрываючы бязлітасна падпальшчыкаў вайны, для якіх яна — свята, а мір — няшчасце.

## *Раздзел 15*

Сімплегады — скалы ў сучаснай канстантынопальскай пратоцы, якія, паводле Авідыя, мелі здольнасць набліжацца адна да другой і пры гэтым або закрываць пратоку, не дапушчаючы праходу караблёў, або сплюшчваць і крышыць іх ушчэнт.

Мідас — фрыгійскі цар, якому Апалон даў асліныя вушы за яго няправільны суд у спаборніцтве Апалона з Панам. Пасля гэтага Мідас выпрасіў у бога Дыяніса дар ператвараць у золата ўсё, да чаго ён дакранецца, але ледзь не памёр галоднай смерцю з гэтым дарам. Байран кпіць з фінансавай палітыкі свайго часу, кажучы, што цяпер Мідас быў бы ў лепшым становішчы, бо ён «толькі сніў бы пра золата», а фактычна меў бы адны папяровыя «грошы».

Ханаанскі мёд і млека — казкі пра «зямлю дакляраваную», дзе, як і ў нашых народных казках, будуць «малочныя рэкі і кісельныя берагі».

Банкіры-махляры. Канкрэтна Байран меў на ўвазе сям'ю банкіраў Ротшыльдаў. Так, яны ў 1821 г. пазычылі аўстрыйскаму імператару 370 мільёнаў гульдэнаў. У падзяку імператар даў гэным махлярам баронскія тытулы, а двух з іх назначыў генеральнымі консуламі ў Лондане і Парыжы. Гэтыя ж банкіры пазычалі грошы рускаму цару, неапалітанскаму каралю.

## *Раздзел 16*

У гэтым раздзеле Байран дае сваю ацэнку радцам манархаў на Веронскім кангрэсе. Пад хітрым грэкам ён разумее графа Капа д'Істрыа, які спачатку быў на рускай царскай службе, а пасля стаў прэзідэнтам у Грэцыі.

## *Раздзел 17*

Дачка аўстрыйскага імператара Луіза — другая жонка Напалеона. Пасля зняволення Напалеона, яе выдалі замуж за графа Нейперга, аднавокага. Пад «Пірам» маецца на ўвазе граф Велінгтон, які камандаваў аб'яднанымі арміямі пры Ватэрлоо супроць напалеонаўскіх армій. У далейшым Марыі-Луізе далі тытул герцагіні Пармскай.

А н д р а м а х а — супруга Гектара, Прыямавага сына (у часе Траянскай вайны).

*Раздзел 18*

Сэр Уільям Кэртыс быў членам парламента і лонданскім лорд-мэрам. Ён любіў з'яўляцца ў шатландскім нацыянальным гарнітуры, найбольш характэрнай часткай якога была спадніч-ка, пашытая з адмысловага матэрыялу, рысункам «у шклянач-кі», які завецца «тартанам».

«К л э й м о р!» — баявы кліч шатландцаў, у перакладзе азначае: «Меч!»

## КАЗКІ

Надрукаваныя ў гэтым раздзеле казкі ўзяты з народнай скарбніцы. Аўтар надаў ім вершаваную форму і суладзіў іх кампазіцыйна.

# ЗМЕСТ

## ПАЭМЫ, БАЛАДЫ



## КАЗКІ